

ВАЛЕР'ЯН ВЛАДЗІМІРАВІЧ КУЙБЫШЭЎ

# АД ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЎСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў)

ЦК ВКП (большэвікоў) з вялікім жалем паведамляе партыю, рабочы клас, усіх працоўных нашай краіны і ўсяго свету, што 25 студзеня 1935 года а 14 гадзіне 30 мін. памёр ад склероза сэрца член палітбюро ЦК ВКП(б), намеснік старшыні Соўнаркома СССР і Старшыня Камісіі Савецкага Кантроля пры Соўнаркоме СССР тав. ВАЛЕР'ЯН ВЛАДЗІМІРАВІЧ КУЙБЫШЭЎ.

Тав. КУЙБЫШЭЎ памёр на баявым пасту, прадаўжаючы вялікую дзяржаўную і партыйную напружаную работу аж да апошняга моманту свайго жыцця.

Тав. КУЙБЫШЭЎ быў узорам пролетарскага рэвалюцыянера, паслядоўнага ленінца, непрымірымага да ворагаў партыі і рабочага класа і самаадданага барацьбіта за справу комунізма.

Яго рэвалюцыйная дзейнасць пачынаецца ў перыяд першай рускай рэвалюцыі. За гады сваёй баявой большэвіцкай работы тав. КУЙБЫШЭЎ прашоў праз царскія турмы і ссылкі, як самаадданы баец ленінскай партыі.

У гады грамадзянскай вайны тав. КУЙБЫШЭЎ з'яўляецца адным з віднейшых палітычных кіраўнікоў Чырвонай арміі.

Буйнейшы арганізатар і кіраўнік нашага дзяржаўнага і гаспадарчага будаўніцтва, тав. КУЙБЫШЭЎ аддаваў усе свае сілы справе соцыялізма.

Бязмежная адданасць партыі, самаахвярная, нястомная работа на карысць працоўных Валер'яна Владзіміравіча КУЙБЫШЭВА будуць служыць прыкладам для мільёнаў пролетарыяў і працоўных у іх вялікай барацьбе за таржаство комунізма.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ
(большэвікоў)**

# ВАЛЕР'ЯН ВЛАДЗІМІРАВІЧ КУЙБЫШЭЎ

Наша партыя панесла вялікую ўтрату: 25 студзеня 1935 года раптоўна памёр ад склероза сэрца тав. ВАЛЕР'ЯН ВЛАДЗІМІРАВІЧ КУЙБЫШЭЎ.

Смерць вырвала з баявога штаба партыі аднаго з віднейшых кіраўнікоў, дасканалага таварыша, блізкага нам друга.

Валер'ян Владзіміравіч КУЙБЫШЭЎ з юнацкіх год змагаўся пад вялікім сцягам Леніна.

Ён упарта, не пакладаючы рук, працаваў і ў бальшэвіцкім падполлі, і на франтах грамадзянскай вайны, і на важнейшых участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Ужо ў 1905 годзе тав. КУЙБЫШЭЎ у Пецярбургу актыўна ўдзельнічае ў рэвалюцыі, як бальшэвік. Ён працуе затым у бальшэвіцкай арганізацыі Сібіру, як партыец-прафесіянал; у перапынках паміж неаднаразовымі ссылкамі і турэмнымі зняволеннямі ён вядзе кіруючую партыйную работу і ў бальшэвіцкай арганізацыі Піцера.

Лютаўская рэвалюцыя застае тав. КУЙБЫШЭВА на дарозе ў чарговую ссылку ў Туруханскі край.

Тав. КУЙБЫШЭЎ—арганізатар бальшэвікоў Самары і іх кіраўнік у час Окцябрскага перавароту.

Тав. КУЙБЫШЭЎ быў адным з віднейшых палітычных кіраўнікоў Чырвонай арміі ў баях супроць чэхаславакаў і калчакоўцаў, а затым на Туркестанскім фронце.

Нястомны, чоткі ў рабоце, бязмежна адданы справе пралетарскай рэвалюцыі—ён з'яўляўся ўзорам выдатнага бальшэвіцкага дзяржаўнага дзеяча.

Тав. КУЙБЫШЭЎ быў старшынёю рэарганізаванай па ўказаннях Леніна ЦКК—РСІ, ведучы паслядоўную непрымірымую барацьбу з усімі ўхіламі ад генеральнай лініі партыі.

Буйнейшы арганізатар і знаток гаспадаркі нашай краіны, тав. КУЙБЫШЭЎ узначальваў у свой час Вышэйшы Совет Народнай Гаспадаркі, кіруючы соцыялістычнай індустрыяй. Тав. КУЙБЫШЭЎ узначальваў затым Дзяржаўную Планавую Камісію, кіруючы складаннем народнагаспадарчых планаў 1-й і 2-й пяцігодак.

Багацейшы вопыт арганізатарскай і гаспадарчай работы тав. КУЙБЫШЭВА, яго шырокі дзяржаўны кругазор асабліва ярка праявіліся на пасту намесніка Старшыні Совета Народных Камісараў СССР.

Тав. КУЙБЫШЭЎ памёр на баявым пасту, працуючы не пакладаючы рук, з усіх сіл, да апошняй мінуты свайго жыцця.

Ён аддаў усё сваё жыццё, усяго сябе—справе рабочага класа, справе нашага гераічнага народу.

Прашчай, наш родны і блізкі Валер'ян!

**І. СТАЛІН**
**В. МОЛАТАЎ**
**К. ВАРАШЫЛАЎ**
**Л. КАГАНОВІЧ**
**М. КАЛІНІН**
**Г. ОРДЖАНІКІДЗЕ**
**А. АНДРЭЕЎ**
**С. КАСІОР**
**А. МІКАЯН**
**В. ЧУБАР**
**Г. ПЕТРОЎСКІ**
**П. ПОСТЫШЭЎ**
**Я. РУДЗУТАК**
**А. ЖДАНАЎ**

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 23—24

30-е СНЕЖНЯ 1934 г.



ЗМЕСТ

*Стар.*





Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара.—12; гарадскі—21044.





# Вышэй большэвіцкую пільнасць

Краіна Советаў к свайму VII з'езду прышла з велізарнымі перамогамі, якіх дабіўся ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва рабочы клас і працоўныя масы СССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і вялікага правадыра—тав. Сталіна.

Карэнным чынам змяніўся выгляд Совецкага саюза.

Тав. Молатаў на VII з'ездзе советаў, падводзячы ў сваім дакладзе вынікі. соцыялістычнага будаўніцтва, адзначыў: «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».

Соцыяльна-эканамічныя зрухі ў нашай краіне, ператварэнне «Расіі нэпаўскай» у «Расію соцыялістычную» знашлі свой адбітак як ў карэннай змене эканомікі нашай краіны, так і ў карэннай змене соцыяльнай структуры насельніцтва.

> «Соцыялізм зрабіў велізарны зрух наперад у нашай краіне, соцыялістычны ўклад стаў непадзельна пануючым ва ўсёй народнай гаспадарцы. Амаль 4/5 сялянства ўступіла ў калгасы. Значыць, не толькі рабочыя, але і сяляне ў сваёй масе ўступілі ў рады будаўнікоў соцыялізма і будуюць сваімі рукамі соцыялістычнае грамадства. У рэзультаце гэтаго непасрэдным соцыялістычным будаўніцтвам цяпер ужо занята пераважная большасць насельніцтва нашай краіны».

**Класавы склад насельніцтва ў 1913 г. (у межах СССР) і ў 1928—1934 гг.**

(Удзельная вага паасобных груп насельніцтва ў процантах да агульнага ліку).

| | 1913 г. | 1928 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|
| I. Пролетарыят (рабочыя, служачыя, ІТР і інш. пролетарскае насельніцтва) . . . . . . . | 16,7 | 17,3 | 28,1 |
| У тым ліку: | | | |
| а) індустрыяльны пролетарыят і служачыя (прамысловасць, транспарт, будаўніцтва, соцыяльна-культурныя ўстановы і дзяржапарат) . . . | 12,4 | 15,8 | 24,9 |
| б) Сельска-гаспадарчы пролетарыят . . . . | 4,3 | 1,5 | 3,2 |
| II. Калгаснікі і кааператаваныя саматужнікі і рамеснікі | не было | 2,9 | 45,9 |
| III. Сяляне-аднаасобнікі (без кулакоў), некааператаваныя працоўныя саматужнікі і рамеснікі . . . . | 65,1 | 72,9 | 22,5 |

| | 1913 г. | 1923 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|
| IV. Буржуазія (памешчыкі, буйная і дробная гарадская буржуазія, гандляры і кулакі) . . . . . | 15,9 | 4,5 | 0,1 |
| У тым ліку: кулакі . . . . . . . . | 12,3 | 3,7 | 0,09 |
| V. Іншае насельніцтва (вучні, армія, пенсіянеры і інш.) | 2,3 | 2,4 | 3,4 |
| Усяго насельніцтва . . . . | 100 | 100 | 100 |

Прыведзеныя тав. Молатавым даныя яскрава сведчаць аб тым, што непасрэдным соцыялістычным будаўніцтвам занята пераважная большасць нашай краіны, што з ростам індустрыялізацыі краіны значна вырас і пролетарыят, што сяляне ў сваёй большасці з'яўляюцца калгаснікамі, што разам з тым рэзка паменшылася і скарацілася ўдзельная вага буржуазна-эксплаататарскіх класаў, гэта значыць—капіталістычныя класы ў нашай краіне ліквідаваны і засталіся толькі іх рэшткі.

Усе гэтыя перамогі дасягнуты пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам вялікага і мудрага правадыра працоўных— т. Сталіна, які вядзе нашу краіну ад перамогі да перамогі. Высока трымаючы сцяг марксізма-ленінізма, т. Сталін вядзе нашу краіну па шляху пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Вядучы бязлітасную і непрымірымую барацьбу, выяўляючы і выкрываючы ўсякія ўхілы ад генеральнай лініі партыі, тав. Сталін з ленінскай празарлівасцю, большэвіцкай непрымірымасцю і настойлівасцю стаіць на варце ідэйнай чыстаты марксісцка-ленінскага вучэння, выяўляючы і выкрываючы ўсялякія спробы рэвізіі марксізма-ленінізма, рэвізіі генеральнай лініі партыі з боку ўсіх антыпартыйных груп і апартуністаў усіх масцей.

Побач з велізарнейшымі дасягненнямі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, вырасла і міжнароднае значэнне, узмацніўся міжнародны аўтарытэт і міжнародныя пазіцыі нашай краіны. Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і мудрага правадыра працоўных т. Сталіна Совецкі саюз вырас, як магутны пабornік і зачыншчык справы міру і безапаснасці.

Штогод множацца нашы дасягненні. 1934 год прашоў пад знакам новых буйнейшых перамог на фронце цяжкай прамысловасці. Чорная металургія датэрмінова, 16 снежня 1934 г., выканала свой гадавы план, даўшы краіне 10 млн. тон чугуна, павялічыўшы сваю прадукцыю на 48 проц.

Выбары ў Советы з'явіліся аглядам гіганцкай работы, праробленай за апошнія гады ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

На ўсіх абласных і рэспубліканскіх з'ездах Советаў ярка дэманстраваліся вялікія дасягненні ў соцыялістычным будаўніцтве, якіх дабілася наша краіна за апошнія гады.

У гэты дзіўны перыяд наша краіна літаральна не па днях, а па гадзінах расцвітае здароўем соцыялізма, насычаецца гаспадарчай магутнасцю, добрабытам, культурай.

БССР, як неадлучная частка вялікага Совецкага саюза, таксама дабілася выключных поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

У выніку прамой штодзеннай дапамогі ўсяго Совецкага саюза, у выніку большэвіцкага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыяналь-

най палітыкі, пры велізарнай дапамозе і кіраўніцтве з боку ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, Совецкая Беларусь ператварылася ў адну з перадавых квітнеючых рэспублік вялікага СССР.

Працоўныя Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з адным з лепшых саратнікаў тав. Сталіна—тав. Гікало—дасягнулі буйнейшых перамог. На неабдымных балотах выраслі калгасы і соўгасы, на месцы халуп і пустыроў выраслі новыя фабрыкі і заводы, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі. Выраслі магутныя ачагі навукі і культуры. Беларуская Акадэмія Навук, навучальныя ўстановы, навукова-даследчыя інстытуты, кіно-тэатры, клубы, хаты-чытальні, тысячы вышэйшых і сярэдніх школ—усё гэта ёсць яркі выраз трыумфа ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, трыумфа нацыянальнай па форме і социялістычнай па зместу культуры.

На самым рубяжы з капіталістычным Захадам, змагаючыся за таржаство социялізма, рашуча сакрушаючы буржуазных нацыяналістаў, вялікадзяржаўнікаў, ускрываючы падонкі класавага ворага і яго агентуры, Совецкая Беларусь пад сцягам пролетарскага інтэрнацыяналізма за гады рэволюцыі і гады разгорнутага социялістычнага будаўніцтва зрабілася непрыступнай крэпасцю социялізма, магутным социялістычным фарпостам СССР.

Буйнейшай перамогай социялізма з'яўляецца рашэнне лістападаўскага пленума ЦК аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты. Яно сведчыць аб тым, як далёка мы прасунуліся ўперад, якія велізарныя матар'яльныя фонды стварыліся ў нашай краіне. Рашэнне пленума ЦК аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты забяспечыць яшчэ большы росквіт усіх тых магчымасцей, якія заложаны ў социялістычнай эканоміцы. Краіна наша з кожным днём становіцца ўсё больш магутнай і багатай. Усюды кіпіць творчая работа. Рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя СССР будуюць светлае радаснае жыццё.

Гіганцкія зрухі ў эканоміцы нашай краіны, у суадносінах класавых сіл выклікаюць неабходнасць некаторых змен у нашай канстытуцыі. Рашэнне пленума ЦК ВКП(б) аб далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы з'яўляецца выключна важным мерапрыемствам, у якім асабліва ярка выражаюцца тыя поспехі, якіх дабілася партыя ў справе пабудовы социялізма ў нашай краіне.

Сусветна-гістарычныя перамогі социялізма ў СССР заваяваны партыяй пад кіраўніцтвам т. Сталіна ва ўпорнай барацьбе з контррэволюцыйнай тэорыяй трацкізма аб немагчымасці пабудовы социялізма ў адной краіне, у барацьбе з правым апартунізмам, які высоўваў кулацкі тэзіс пагасання класавай барацьбы, і ўрастання кулака ў социялізм, у барацьбе з усякімі разнавіднасцямі апартунізма і гнілым прымірэнцтвам да яго, у барацьбе з контррэволюцыйным буржуазным нацыяналізмам, у барацьбе з класавымі ворагамі і іх агентураю ўсіх колераў.

Але класавы вораг канчаткова не дабіты, яго агентура ўнутры партыі да канца не знішчана. Класавая барацьба прадаўжаецца.

Класавы вораг і яго агентура праяўляюць шалёнае супраціўленне, лютую злобу к нашай пролетарскай дзяржаве.

Тав. Сталін на студзеньскім пленуме 1933 г. гаварыў:

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці Совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак ламі-

раючых класаў. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый, эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэвалюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, не страшна, але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы жадаем пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобных афяр».

Недабітыя асколкі класавага ворага, паследышы трацкісцка-зіноўеўскай контррэвалюцыйнай групы, адчуваючы поўнае бяссілле затрымаць ход пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, манеўруючы, маскуючыся, двурушнічаючы, у звярыным шаленстве ідуць на ўсялякія подласці супроць нашай дзяржавы і партыі, на тэрарыстычныя акты супроць лепшых людзей нашай вялікай бацькаўшчыны.

Рукою класавага ворага забіт любімец ўсёй нашай партыі— т. Кіраў. Яго вырвалі з нашых радоў гнусныя падонкі зіноўеўскай антысовецкай контррэвалюцыйнай групы. Хто яны, гэтыя тройчы праклятыя і ганебныя забойцы з «ленінградскага цэнтра»? Яны прадстаўляюць сабою тых, хто гадамі выношваў у сваіх агідных і брудных душонках звярыную ненавісць к партыі і кіраўніцтву Цэнтральнага Камітэта. Гэтыя подлыя негадзяі, выхаваныя Зіноўевым і Каменевым, згубіўшы ўсялякую надзею на падтрыманне мас, адстойваючы старую трацкісцка-зіноўеўскую контррэвалюцыйную платформу, балбочучы аб немагчымасці пабудовы соцыялізма, аб «непасільнасці» тэмпаў індустрыялізацыі, аб непатрэбнасці соўгасаў і калгасаў, аплакваючы кулацтва, ліквідаванае ў асноўным як клас на аснове суцэльнай калектывізацыі, сталі на шлях тэрора супроць правадыроў нашай партыі і дзяржавы.

Не маючы ніякіх надзей звярнуць партыю і рабочы клас з дарогі пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, гэтыя подлыя контррэвалюцыйныя вырадкі пачалі марыць аб інтэрвенцыі, аб узброеным нападзе на СССР, спадзеючыся, што такім шляхам сарвецца выкананне планаў нашага соцыялістычнага будаўніцтва, што такім шляхам удасца звергнуць совецкую ўладу.

Гнусныя падонкі трацкісцка-зіноўеўскай антысовецкай групы ў сваёй контррэвалюцыйнай барацьбе ўстанавілі сувязь з міжнароднай контррэвалюцыяй, атрымлівалі ад яе буйныя грашовыя падачкі.

Няма ніякай розніцы паміж мэтамі і метадамі барацьбы контррэвалюцыйных падонкаў трацкісцка-зіноўеўскай антысовецкай групы і паміж мэтамі і метадамі адкрытых ворагаў народу—эмігранцкіх белагвардзейскіх, памешчыцка-капіталістычных арганізацый за граніцай.

Ідэйнымі натхняльнікамі, настаўнікамі і выхавальнікамі контррэвалюцыйнай банды, забіўшай тав. Кірава, былі Зіноўеў і Каменеў. Яны не толькі ідэйна натхнялі, але стварылі «маскоўскі цэнтр», праз які кіравалі дзейнасцю «ленінградскага цэнтра», учыніўшага забойства тав. Кірава.

Апублікаваныя ў друку дакументы—абвінаваўчае заключэнне пракуратуры СССР, рашэнне суда—цалкам і поўнасцю гэта пацвердзілі.

«Маскоўскі цэнтр», як гэта выяснілася з паказанняў саміх падсудных, быў «палітычным цэнтрам», кіраваўшым контррэвалюцыйнай работай зіноўеўскіх антысовецкіх груп у Маскве і Ленінградзе.

У гэты цэнтр уваходзілі—Зіноўеў, Еўдакімаў, Герцык, Бакаеў, Куклін, Каменеў, Шараў, Фёдараў і Гершанін. Вакол іх аб'ядналіся найбольш актыўныя члены былой антысовецкай зіноўеўскай групы. Падрыхтоўка забойства т. Кірава ў Ленінградзе, контррэволюцыйная работа белабандытаў і фашыстаў з «ленінградскага цэнтра» былі цесна звязаны з дзейнасцю антысовецкага контррэволюцыйнага «маскоўскага цэнтра».

Зіноўеў, Каменеў, Еўдакімаў і іх паплечнікі ў сваёй барацьбе супроць партыі і совецкай улады, супроць соцыялізма выродзіліся ў прамую закончаную белагвардзейшчыну. На працягу многіх год, асабліва на рашаючых этапах нашай рэволюцыі, яны супроць партыі Леніна—Сталіна вялі ўпартую барацьбу, поўную ашуканства, прадажніцтва і прамой здрады справе пролетарскай рэволюцыі.

У 1915 г., калі ішоў суд над дэпутатамі Дзяржаўнай думы і іншымі большэвікамі, захопленымі на падпольнай лістападаўскай канферэнцыі 1914 г., Каменеў, у процівагу Петроўскаму і іншым большэвікам, пастыдна здраджвае большэвізму, стараецца даказаць царскаму суду сваю салідарнасць з соцыял-патрыётам Іарданскім, сваю нязгоду з Цэнтральным Камітэтам партыі.

У сакавіку 1917 г. калі Лютаўская рэволюцыя дакацілася да сібірскага захалусця, Каменеў, выступаючы ў Ачынску на мітынгу з ліберальнай соцыял-патрыятычнай прамовай, хаўруснічае з ачынскімі купцамі і пасылае разам з імі прывітальную тэлеграму Міхаілу Раманаву.

Наступае рашаючы этап—барацьба за дыктатуру пролетарыята.

На красавіковай канферэнцыі 1917 г. Каменеў выступае з дакладам супроць Леніна, супроць яго геніяльных тэзісаў, супроць пераходу ад буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі к соцыялістычнай.

Як вядома, Зіноўеў і Каменеў—гэтыя двурушнікі і трусы—заваявалі сумную славу ў гісторыі нашай партыі, як штрэйкбрэхеры Окцябра. У першым «Лісце здалёку», напісаным зараз-жа пасля Лютаўскай рэволюцыі, Ленін гаварыў:

> «Першая рэволюцыя, народжаная сусветнай імперыялістычнай вайною, разразілася. Гэтая першая рэволюцыя напэўна не будзе апошняй...».

І далей:

> «Рабочыя, вы праявілі цуды пролетарскага народнага гераізма ў грамадзянскай вайне супроць царызма. Вы павінны праявіць цуды пролетарскай і агульнанароднай арганізацыі, каб падрыхтаваць сваю перамогу ў другім этапе рэволюцыі».

Такі геніяльны план Леніна, так Ленін сфармуляваў задачы падрыхтоўкі перамогі рабочага класа, пераход ад буржуазна-дэмакратычнай к соцыялістычнай рэволюцыі. Супроць гэтага геніяльнага ленінскага плана выступілі Зіноўеў і Каменеў. Яны адкрыта сталі на шлях суханаўшчыны, меншавізма. Яны паклёпніцкі сцвярджалі, што тактыка Леніна — Сталіна, тактыка заваёвы і выхавання мас у духу пераможнай соцыялістычнай рэволюцыі, тактыка ізаляцыі буржуазных і дробнабуржуазных партый і вызвалення мас з-пад іх уплыву ёсць тактыка расколу, тактыка пагібелі заваёў рэволюцыі, называлі гэтую тактыку авантурызмам. Замест ленінскай тактыкі яны прапанавалі адзіны фронт з меншавікамі, эсэрамі на глебе буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, яны прапанавалі застыць на бур-

жуазна-дэмакратычным яе этапе, сцвярджаючы, што Расія не даспела для соцыялістычнай рэволюцыі.

Гэтую тактыку Зіноўеў і Каменеў адстойвалі і на гістарычным паседжанні ЦК, галасуючы супроць паўстання. Не спыняючыся на гэтым, подлыя здраднікі і дэзертыры Окцябрскай рэволюцыі выступілі ў газеце «Новая жизнь», якая ішла рука ў руку з буржуазіяй, з заявай супроць Леніна, ЦК і ўсёй партыі, выдаўшы буржуазіі сакрэтнае рашэнне ЦК аб узброеным паўстанні.

Ленін з гэтага поваду пісаў:

> «Каменеў і Зіноўеў выдалі Радзянко і Керэнскаму рашэнне ЦК сваёй партыі аб узброеным паўстанні і аб скрыцці ад ворага падрыхтоўкі ўзброенага паўстання, выбары тэрміну для ўзброенага паўстання. Гэта факт. Ніякімі вывёртамі нельга абвергнуць гэтага факта. Двое членаў ЦК паклёпніцкай хлуснёю перад капіталістамі выдалі ім рашэнне рабочых. Адказ на гэта можа і павінен быць адзін: «неадкладнае рашэнне ЦК,— прызнаўшы поўны склад штрэйкбрэхерства ў выступленні Зіноўева і Каменева ў непартыйным друку,—абодвух выключыць з партыі».

У дні Окцябрскай рэволюцыі, калі рабочыя пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна штурмавалі цвярдыні буржуазна-памешчыцкай улады, Зіноўеў і Каменеў, як дэзертыры і прамыя здраднікі рэволюцыі, імкнуліся сарваць справу перамогі пролетарыята.

Пасля перамогі Окцябрскай рэволюцыі яны патрабавалі згоды ўсіх соцыялістычных партый, патрабавалі стварыць замест новага рэволюцыйнага ўрада, узначальваемага Леніным, так званую «адзіную соцыялістычную ўладу». Яны патрабавалі зняшчэння Леніна з пасады старшыні СНК і замены яго Аксенцьевым або Чэрновым. Гэта па сутнасці ёсць патрабаванне аддаць класавым ворагам толькі што заваяваныя пазіцыі. Партыя дала рашучы адпор гэтым малаверам, дэзертырам.

З асобаю сілай барацьба Зіноўева і Каменева супроць партыі і яе кіраўніцтва аднаўляецца ў 1925 г., калі на аснове поспехаў, атрыманых партыяй у аднаўленчы перыяд, перад партыяй ва ўсю шырыню стала задача, высунутая правадыром т. Сталіным, аб індустрыялізацыі нашай краіны. У гэты пераломны перыяд Зіноўеў і Каменеў становяцца на шлях садзейнічання капіталістычным класам унутры нашай краіны і сусветнаму капіталу, якія шляхам шкодніцкай работы ўнутры нашай краіны і шляхам эканамічнай блакады звонку імкнуліся перашкодзіць і сарваць план індустрыялізацыі СССР. Зіноўеў, Каменеў і іх антыпартыйная група сваёю антыпартыйнай барацьбой супроць партыі, супроць ленінскага ЦК супроць т. Сталіна аказвалі прамую дапамогу контррэволюцыйна-варожым сілам як унутры краіны, так і за межамі яе ў барацьбе супроць соцыялістычнага будаўніцтва, супроць улады Советаў і дыктатуры пролетарыята.

Класавыя ворагі рабілі ўсё магчымае для таго, каб сарваць справу соцыялістычнага будаўніцтва.

Патрэбна была выключная маналітнасць і цвёрдасць партыйных радоў, каб адбіць атакі класавых ворагаў на соцыялістычнае будаўніцтва. На гэтым буйным павароце зноў пачаўся паход Зіноўева і Каменева супроць партыі і дыктатуры пролетарыята.

Адшчапенцы Зіноўеў і Каменеў з той-жа лютай ярасцю, з якой

у 1917 г. атакавалі пролетарскую рэволюцыю, павялі барацьбу супроць будаўніцтва социялізма.

У красавіку 1925 г. Зіноўеў і Каменеў распаўсюджвалі паніку аб нашых бясконцых труднасцях, аб нашай тэхнічнай адсталасці, імкнучыся даказаць, што мы іх не пераможам, калі нас не выратуе міжнародная рэволюцыя.

14 канферэнцыя адвяргае іх антыпартыйныя погляды. Каменеў і Зіноўеў, галасуючы за рэзалюцыю канферэнцыі, ашукваюць партыю.

Зіноўеў і Каменеў ствараюць антыпартыйны фракцыйны цэнтр і мабілізуюць сілы ў Ленінградзе, каб к XIV з'езду партыі падрыхтаваць атаку супроць ЦК, супроць т. Сталіна. У гэтай раскольніцкай барацьбе супроць ЦК яны бяруць курс і на моладзь—на комсамол. Без ведама ЦК партыі і комсамола намячаюць склікаць у Ленінградзе Усерасійскую канферэнцыю моладзі. Аднак, гэты манеўр партыя выкрыла і перасекла яго ў самым пачатку.

На XIV з'ездзе партыі зіноўеўска-каменеўская апазіцыя выступае разгорнутай платформай барацьбы супроць ленінскага ЦК на чале з т. Сталіным, супроць генеральнай лініі партыі. З мэтай працягнуць свае антыленінскія ўстаноўкі Зіноўеў выступае з судакладам па палітычнай справаздачы ЦК, спрабуючы дабіцца змены партыйнага кіраўніцтва і павярнуць партыю з ленінскага шляху. У сваім дакладзе Зіноўеў адстойвае тэорыю немагчымасці пабудовы социялізма ў краіне дыктатуры пролетарыята, упадае ў паніку перад кулаком, выступае з сцверджаннем, што нашы социялістычныя прадпрыемствы з'яўляюцца дзяржкапіталістычнымі, патрабуе абвяшчэння свабоды груповак унутры партыі.

Тав. Сталін з выключнай ленінскай празарлівасцю і ленінскай непрымірымасцю выявіў і выкрыў антыпартыйны манеўр і антыпартыйную сутнасць судаклада Зіноўева, сутнасць антыпартыйнай барацьбы зіноўеўска-каменеўскай апазіцыі супроць генеральнай лініі партыі і яе ленінскага ЦК.

З'езд аднадушна асудзіў выступленне зіноўеўскай групы, як спробу рэвізіі асноў ленінізма.

Лідэры зіноўеўскай групы адкрыта перашлі на ідэйныя пазіцыі трацкізма і заключылі з імі блок. Вось як ацаніла 15 канферэнцыя ў сваёй рэзалюцыі сутнасць выступлення новай апазіцыі.

«Пераход новай апазіцыі на бок трацкізма вызначылі дзве галоўныя акалічнасці:

а) стомленасць, хістанне, чужды пролетарыяту ўпадачны настрой і паражэнцтва сярод старонпікаў новай апазіцыі перад тварам новых труднасцей у перажываемы пераломны перыяд. Прычым сучаснае хістанне і паражэнцтва Каменева і Зіноўева ўзніклі не выпадкова, а як паўтарэнне рэцыдываў тых хістанняў і ўпадачных настрояў, якія праявілі яны дзевяць год назад у Окцябры 1917 года.

б) поўнае паражэнне «новай апазіцыі» на XIV з'ездзе і ўзнікшае ў сувязі з гэтым імкненне дабіцца ва што-б там ні стала блока з трацкістамі для таго, каб аб'яднаннем двух груп, трацкістаў і «новай апазіцыі» узмясціць слабасць і адарванасць гэтых груп ад пролетарскіх мас, тым больш, што ідэйныя пазіцыі трацкізма зусім адпавядалі сучасным упадачным настроям «новай апазіцыі». Адсюль-жа вынікае тая неразборчывасць у

сродках і беспрынцыпнасць у палітыцы, якія леглі ў аснову існавання блока трацкістаў і да новай апазіцыі і без якіх яны не змаглі-б сабраць у адно разнастайныя антыпартыйныя плыні»

Пацярпеўшы паражэнне на XIV з'ездзе партыі, Зіноўеў і Каменеў пачалі збіраць новыя сілы для барацьбы супроць партыі. Аб'яднаўшыся з усімі разбітымі антыпартыйнымі групоўкамі, заключыўшы цесны саюз з Троцкім, узброіўшыся контррэволюцыйным сцягам трацкізма, яны пашлі ў паход супроць партыі адзіным фронтам. Платформа блока з Троцкім—гэта барацьба супроць ленінска-сталінскага вучэння, супроць магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, барацьба супроць ленінскага ЦК, супроць лепшага саратніка Леніна—правадыра партыі тав. Сталіна. Сабраўшы ўсе сілы, яны кінуліся на рабочыя сходы, спадзеючыся на падтрыманне рабочых мас. Аднак, і тут пацярпелі паражэнне, былі разгромлены.

І тады гэтыя негадзяі і здраднікі мяняюць метады сваёй барацьбы і ідуць на выпрабаваны імі шлях прамога ашуканства партыі. 16 кастрычніка 1926 г. яны падаюць заяву аб прызнанні лініі партыі, клянуцца ў вернасці ёй для таго, каб застацца ў партыі і прадаўжаць сваю гнусную барацьбу.

На XV з'ездзе партыі кіраўнікі трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі прадаўжаюць яшчэ больш здрадніцкі весці сваю антыпартыйную работу. Тав. Сталін з уласцівай яму ленінскай празарлівасцю, бальшэвіцкай непрымірымасцю зноў выявіў і выкрыў контррэволюцыйную сутнасць трацкісцка-зіноўеўскага блока, і з'езд партыі, даўшы ім рашучы адпор, пастанавіў выключыць з партыі ўсіх кіраўнікоў трацкісцка-зіноўеўскага блока.

Аднак, многія з іх, на чале з Каменевым і Зіноўевым, зноў паспяшылі з заявамі аб сваім разбраенні. І на гэты раз яны аказаліся гнуснымі ашуканцамі. Яны вельмі хутка самкнуліся з правымі рэнегатамі і здраднікамі партыі—групай Руціна-Слепкова, каб змагацца супроць партыі, супроць партыйнага кіраўніцтва, супроць т. Сталіна.

Скатваючыся ўсё больш на антысовецкі шлях барацьбы з партыяй, яны становяцца разам з Троцкім на чале антысовецкіх контррэволюцыйных элементаў у нашай краіне. Усе гэтыя контррэволюцыйныя элементы, як унутры, так і звонку краіны, ставяць стаўку на контррэволюцыйную работу трацкісцка-зіноўеўскага блока.

Ад штрэйкбрэхерства і здрадніцтва ў Октябрскія дні, ведучы безупынную контррэволюцыйную работу супроць партыі і совецкай дзяржавы, яны дакаціліся да фашысцкіх тэрарыстычных метадаў барацьбы, да арганізацыі забойства лепшага сына нашай партыі— тав. **Кірава.**

Гэтыя подлыя негадзяі, прыцягнутыя да адказнасці вымушаны былі прызнацца перад пролетарскім судом у тых злачынных дзеяннях, якія яны вялі супроць партыі, супроць пролетарскай дзяржавы.

Падсудны Еўдакімаў у сваім паказанні суду заявіў:

«Мы былі адарваны ад сапраўднага жыцця краіны і партыі, мы варыліся ў сваім саку, і нашы контррэволюцыйныя пераконанні ў нас умацоўваліся. Аслепленыя злобнымі адносінамі да кіраўніцтва партыі, мы не бачылі, што робіцца ў горадзе і на вёсцы, мы не бачылі велізарнейшых поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва. Агромныя гістарычныя працэсы ў нашай краіне, уплываючыя на міжнародны рабочы рух, праходзілі міма нас. Мы бралі труднасці, паўстаўаўшыя ў працэсе росту краіны, і

расцэньвалі іх, як ворагі, злорадуючыся з поваду няўдач і кідаючы абвінавачванне ў гэтых няўдачах па адрасу парткіраўніцтва».

Падсудны Фёдараў паказаў наступнае:

«Асноўная задача, якая ў той час стаяла перад зіноўеўскай арганізацыяй, заключалася ў тым, каб арганізаваным шляхам уйсці ў падполле, перабудаваць метады сваёй падпольнай работы, захаваць у партыі асноўныя кадры апазіцыі. Кадры захаваны былі тым, што была дана ўстаноўка падаваць ашуканскія двурушніцкія заявы ў партыю са згодай і падначаленнем рашэнням з'езда...».

«...Члены арганізацыі з'яўляліся расаднікамі самага гнуснага паклёпу «чутак» і плётак аб кіраўніцтве партыі...»

«... На працягу ўсёй дзейнасці зіноўеўскай арганізацыі ў яе радах культывавалася злоба і ненавісць да кіраўніцтва партыі, пры гэтым арганізацыя не спынялася перад тым, каб пусціць у ход паклёп, хлусню, ашуканства, сказіць факты, гэта значыць прымяніць усе гнуснейшыя сродкі, запазычаныя з арсенала фашызма...».

Трацкісцка-зіноўеўская контррэвалюцыйная група асноўным метадам зносін з партыяй выбрала двурушніцтва—з'ява зусім небывалая ў гісторыі нашай партыі. Гэта тактыка хлусні, правакацыі, здрадніцтва характэрна для правакатараў тыпу Маліноўскага, які свядома прэдаваў на смерць лепшых барацьбітоў пролетарыята.

Прыкрываючыся хлуслівымі заявамі, гадзюкаю ўпаўзалі гэтыя негадзяі ў партыю, каб тварыць сваю подлую справу, наносіць ёй удары. Плодам гэтай контррэволюцыйнай фашысцкай работы з'яўляўся стрэл 1 снежня.

Страляючы ў тав. Кірава, падонкі былой зіноўеўскай антысовецкай групы думалі ўнесці разлажэнне ў нашы рады. Але пралічыліся. Большэвікоў не запалохаеш. Партыя згуртавана і маналітна зараз, як ніколі. Партыя, як ніколі, звязана з найшырэйшымі масамі. Аб гэтым сведчыць абурэнне і гнеў, ахапіўшыя ўсіх працоўных нашай краіны з поваду забойства тав. Кірава.

Гнуснае забойства падонкамі былой зіноўеўскай антысовецкай групы т. Кірава, выкрыццё ленінградскага і маскоўскага контррэволюцыйных тэрарыстычных «цэнтраў», напамінаюць нам яшчэ раз аб тым, што класавы вораг недабіты, што яго агентура ў радах нашай партыі яшчэ да канца не знішчана. Затаіўшы глыбокую ненавісць супроць партыі і савецкай улады, маскуючыся і злобствуючы, класавы вораг і яго агентура імкнуцца нанесці ўдар нашаму пераможнаму прасоўванню ўперад.

Тав. Кагановіч у сваёй прамове на сходзе маскоўскага актыва гаварыў:

«Мы шпарка рухаемся ўперад. Краіна на вышыні ўздыму. Вораг імпэтна коціцца ўніз. Але, чым больш адлегласць паміж нашым уздымам і скатам ворага ўніз, тым больш злоба ў гэтых класавых ворагаў».

Стрэл у т. Кірава сведчыць аб тым, што рэшткі яшчэ недабітага класавага ворага і яго агентуры актывізуюцца.

Ва ўмовах БССР нацыяналістычныя трацкісцка-зіноўеўскія і іншыя контррэволюцыйныя элементы падымаюць сваю галаву, спрабуюць праводзіць сваю антысовецкую контррэволюцыйную работу.

Мы маем за апошні час цэлы рад вылазак паследышаў трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі:

Руды—былы актыўны ўдзельнік трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, у сваіх лекцыях у ВКСГШ, на заводзе «Большэвік», у БІМЗО працягваў трацкісцкія сцверджанні нібы:

> «Нацыянальнае пытанне наша партыя ў Окцябрскай рэволюцыі толькі дэкляравала, па сутнасці не вырашала...» «у перыяд ваеннага комунізма партыя расла за кошт дробна-буржуазных элементаў». «Толькі з 1923 года, гэта значыць, з перыяда разгортвання трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, па сутнасці партыя пачала вывучэнне гісторыі партыі, а да гэтага часу вывучэннем гісторыі партыі не займаліся».

Пад кіраўніцтвам Рудага ў ВКСГШ на працягу доўгага перыяда група студэнтаў прапагандавала трацкісцкую тэорыю немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

Гэтыя подлыя трацкісцкія выступленні, на-жаль, не заўсёды сустракалі своечасовы адпор. Хіба падобныя людзі маглі-б працаваць у якасці прапагандыстаў, калі-б партарганізацыі па гніла-ліберальнаму не аднесліся да іх?

У Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце група былых трацкістаў на працягу доўгага перыяда прапагандавала антыпартыйныя трацкісцкія ўстаноўкі.

Былы трацкіст дацэнт Серэмяжко ў сваіх лекцыях сцвярджаў, што «дыктатура пролетарыята—гэта адна з прадпасылак планавання, а не асноўны закон развіцця нашай экономікі».

Студэнт Палей пры прапрацоўцы рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК выступіў з трацкісцкай заявай:

> «Увесь сэнс і задача гэтага рашэння ЦК заключаецца ў тым, што яно прадугледжвае выкачванне сродкаў з вёскі—ад сялянства, бо дзяржаве патрэбны грошы».

Партком і партарганізацыя своечасова не ўскрылі гэтыя вылазкі і не далі ім рашучага адпору.

Падобныя выступленні мелі месца і ў іншых партарганізацыях. Выключна наглае трацкісцкае выступленне старшыні Дзяржплана Галендо мела месца на партыйным сходзе скурзавода «Большэвік». Дакладваючы аб рэзультатах лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), Галендо моўчкі абышоў барацьбу партыі з контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй.

Значэнне адмены картачнай сістэмы Галендо тлумачыў на трацкісцкі лад. Ён сказаў, што ўвядзенне картачнай сістэмы з'яўляецца нібы рэзультатам бяссілля партыі ў барацьбе супроць кулацкай стыхіі.

Калі ўспомніць, што Галендо ў 1928 г. быў актыўным староннікам трацкісцка-зіноўеўскага «хлебафуражнага баланса» і сцвярджаў разам з трацкістамі, што асноўная маса хлеба знаходзіцца ў руках кулака, дык стане ясным, што трацкісцкае выступленне Галендо не выпадкова.

Або возьмем другога неразэброенага трацкіста—**Фліора,** у мінулым актыўнага члена антыпартыйнай зіноўеўска-трацкісцкай контррэволюцыйнай групы, які актыўна змагаўся супроць генеральнай лініі партыі, за што ў свой час выключаўся з яе радоў. Да гэтага часу ён не зжыў антыпартыйных зіноўеўска-трацкісцкіх контррэволюцыйных поглядаў, што выразілася ў адмаўленні яго выступіць па прапанове партарганізацыі з дакладам аб рашэннях пленума ЦК ВКП(б), а таксама з крытыкай і выяўленнем свайго актыўнага ў мінулым удзелу ў антыпартыйнай зіноўеўска-трацкісцкай групе, чым фактычна паказаў, што ён і да гэтага часу падзяляе погляды гэтых контррэволюцыйных падонкаў. Бюро ЦК КП(б)Б, парткалегія КПК па БССР выключылі Галендо і Фліора з партыі.

Паданыя факты сведчаць аб тым, што класавы вораг і яго агентура—падонкі былой трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі—не спынілі барацьбы супроць партыі і працягваюць яе рознымі формамі, карыстаючыся часта прытупленнем класавай пільнасці ў паасобных арганізацыях.

Барацьба з рэшткамі трацкісцка-зіноўеўскай антысовецкай контррэволюцыйнай групы, з контррэволюцыйнымі нацдэмаўскімі, бундаўскімі элементамі не скончана.

Павышэнне класавай пільнасці комуністаў, рабочых і працоўных мас на ўсіх участках нашай работы—гаспадарчым, культурным, ідэйна-палітычным, мабілізацыя іх на далейшую барацьбу за пабудову соцыялістычнага грамадства, за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята, за ўмацаванне абароны нашай бацькаўшчыны—вось што неабходна зараз, каб да канца разбіць рэшткі класавага ворага і яго агентуры.

> «Моцная і магутная дыктатура пролетарыята—вось што нам трэба цяпер для таго, каб развеяць у прах апошнія рэшткі паміраючых класаў» **(Сталін).**

Перад намі стаяць выключна агромныя задачы.

Мы ўступілі ўжо ў трэці год 2 пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Цэнтральнай нашай задачай з'яўляецца мабілізацыя ўсіх сіл для выканання народнагаспадарчага плана 1935 года.

У галіне прамысловасці 1935 г. павінен прайсці пад знакам далейшага асваення новай тэхнікі, павышэння прадукцыйнасці працы, палепшання якасці прадукцыі, палепшання арганізацыі зарплаты, стварэння яшчэ больш шырокай арміі кадраў, аўладаўшых тэхнікай вытворчасці і т. д.

> «Клапатліва вырошчваць і кваліфікаваць людзей, правільна расставіць і арганізаваць іх на вытворчасці, арганізаваць зарплату так, каб яна ўмацавала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю—вось што нам патрэбна для таго, каб стварыць шматлікую армію вытворча-тэхнічных кадраў».

Гэтыя ўказанні тав. Сталіна (у гутарцы з металургамі) павінны быць у цэнтры ўсёй нашай работы і барацьбы за выкананне плана 3-га году другой пяцігодкі.

У галіне сельскай гаспадаркі, побач з далейшым разгортваннем калектывізацыі, далейшым арганізацыйна-гаспадарчым

умацаваннем калгасаў, стаяць агромныя задачы ў справе ўздыму ўсёй сельска-гаспадарчай вытворчасці.

«Не толькі ў адносінах жывёлагадоўлі, але таксама і ў адносінах зернавых, тэхнічных культур перад намі стаяць новыя, больш высокія задачы, чым у мінулыя гады. Наша сельская гаспадарка ўзброена цяпер сельска-гаспадарчымі машынамі, трактарамі, камбайнамі і аўтамабілямі, як ніколі раней, і мы павінны дабіцца іншых, больш высокіх, чым у мінулы перыяд, тэмпаў уздыму сельскай гаспадаркі» (**Молатаў**,. Даклад на VII з'ездзе Советаў СССР).

У гэтым дакладзе тав. Молатава перад сельскай гаспадаркай пастаўлены задачы: «павелічэнне валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі на 2,5 млрд. рублёў, г. зн. павелічэнне на 16,4 проц.» супроць мінулага года.

Выключнай важнасці задачы стаяць перад намі ў справе ўздыму жывёлагадоўлі. У 1935 г. жывёлагадоўля павінна зрабіць рашучы крок уперад. Пытанням жывёлагадоўлі мы павінны ўдзяліць асаблівую ўвагу.

Тав. Молатаў адзначыў:

«Цяпер самай важнай задачай сельскай гаспадаркі, акрамя ўздыму жывёлагадоўлі, трэба лічыць павышэнне ўраджайнасці зернавых і тэхнічных культур... Прышла пара рушыць па-сапраўднаму гэту справу ўперад, апіраючыся на вялікую сілу калгасаў і соўгасаў».

Справа гонару ўсіх партыйных, совецкіх, зямельных арганізацый, усіх калгасаў і соўгасаў—на аснове мабілізацыі шырокіх мас калгаснікаў і рабочых соўгасаў, па-бальшэвіцку змагацца за вырашэнне жывёлагадоўчай праблемы, за ўздым і развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі і выкананне тых задач, якія пастаўлены XVII партз'ездам, VII З'ездам Советаў СССР і XI З'ездам Советаў БССР перад сельскай гаспадаркай у другую пяцігодку.

У галіне культурнага будаўніцтва—паставіць у цэнтр увагі барацьбу за высокую якасць навучання ў школе, тэхнікуме, ВНУ—ва ўсіх навучальных установах. Значна ўзмацніць барацьбу за ідэйную чыстату навучання, супроць усялякіх спроб працягнуць у нашых навучальных установах контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія, нацыяналістычныя тэорыі. Партарганізацыі БССР асаблівую ўвагу павінны ўдзяліць пытанням унутрыпартыйнай работы, далейшай рашучай перабудовы нашай работы ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда.

На ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва 1935 г. павінен прайсці пад знакам новых перамог, пад знакам павышэння якасці ўсёй нашай работы.

1935 г. павінен быць і стане годам далейшага ўздыму і паляпшання матар'яльна-бытавога становішча рабочых і ўсіх працоўных нашай краіны.

У выніку соцыяльна-эканамічных зрухаў, што адбыліся ў нашай краіне, калі соцыялістычныя формы вытворчасці сталі непадзельна пануючымі, перад намі па-новаму паўстаюць пытанні аб спалучэнні асабістых інтарэсаў з грамадскімі інтарэсамі ў соцыялістычнай вытворчасці.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на VII З'ездзе Советаў СССР адзначыў:

«Цяпер, калі нэп стаў не новай, а старой эканамічнай палітыкай, а краіна наша стала соцыялістычнай па сваёй аснове і па рашаючай большасці свайго насельніцтва, пытанне аб правільным спалучэнні асабістага інтарэсу і грамадскай карысці ў вытворчасці з'яўляецца цэнтральным пытаннем у будаўніцтве соцыялізма».

Правільная расстаноўка людзей адпаведна з іх кваліфікацыяй і здольнасцямі, забяспечанне высокай прадукцыйнасці працы, рост кваліфікацыі паасобных работнікаў, правільная арганізацыя зарплаты, якая-б заахвочвала павышэнне кваліфікацыі, палепшанне культурна-бытавога абслугоўвання, больш чулы падыход да запатрабаванняў кожнага працоўнага, палепшанне дабрабыту і матар'яльнага становішча рабочых і ўсіх працоўных павінны быць у цэнтры ўвагі і ўсёй работы партыйных, профсаюзных, совецкіх і грамадскіх арганізацый.

У барацьбе за выкананне гэтых задач кожная партарганізацыя павінна памятаць аб неабходнасці павысіць класавую пільнасць, да канца разграміць рэшткі класавага ворага і яго агентуры.

«Пільнасць патрабуе не толькі памятаць аб ворагу. Пільнасць патрабуе, каб падзесяцярылі сваю барацьбу, каб мы падзесяцярылі сваю ідэйна-палітычную і арганізатарскую работу. Пільнасць патрабуе, каб мы ўсюды і заўжды разілі ворага, да канца выкарчоўвалі яго астаткі» **(Кагановіч).**

Павысіць класавую пільнасць—гэта значыць палепшыць якасць работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, старанна падбіраючы і правяраючы нашы кадры, узмацніць арганізатарскую і ідэйна-палітычную работу, палепшыць якасць партыйнай прапаганды, павысіць тэарэтычны ўзровень комуністаў, арганізаваць глыбокае вывучэнне гісторыі нашай партыі, яе барацьбы з усялякага роду ўхіламі і асабліва з трацкістамі, зіноўеўцамі, правым ухілам, права-лявацкім блокам і ўсялякімі контррэволюцыйнымі нацыяналістычнымі групоўкамі і ўхіламі ад генеральнай лініі партыі ў нацыянальнай палітыцы.

Толькі пры гэтай умове мы зможам сапраўды да канца разграміць рэшткі класавага ворага і яго агентуры, падонкі трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы.

На забойства лепшага сына нашай партыі—т. **Кірава**—партыя і ўсе працоўныя нашай вялікай краіны адказваюць узмацненнем работы па соцыялістычнаму будаўніцтву, бязлітасным разгромам класавых ворагаў і іх агентуры, яшчэ большым згуртаваннем вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта, вакол любімага правадыра партыі і сусветнага пролетарыята—**тав. Сталіна.**

---

М. А. Лeўкоў

# Папярэднія вынікі выбараў у Советы

Пад кіраўніцтвам партыі Советы БССР прышлі да перавыбараў са значнымі дасягненнямі. Яны разгарнулі вялікую масавую работу, згуртавалі вакол секцый і дэпутацкіх груп многатысячны актыў з лепшых ударнікаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі і, апіраючыся на гэты актыў, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, паспяхова змагаюцца за выкананне промфінпланаў, за рэалізацыю пастаноў партыі і ўрада аб развіцці гарадской гаспадаркі, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за развіццё культурнага будаўніцтва і ўздым матар'яльна-бытавога ўзроўню рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

БССР за перыяд ад X да XI з'езда Советаў дабілася агромных поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва. БССР—у мінулым прыгнечаная царызмам калонія з адсталай сельскай гаспадаркай і выключна слабай прамысловасцю—пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і пры штодзеннай брацкай дапамозе ўсяго Совецкага саюза, на аснове паслядоўнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, ліквідавала сваю эканамічную і культурную адсталасць і з краіны адсталай аграрнай ператварылася ў краіну індустрыяльна-аграрную, у краіну суцэльнай граматнасці.

З X да XI Усебеларускага з'езда Советаў, у БССР пабудаваны і ўступілі ў строй 17 буйных новых прадпрыемстваў: магілеўская фабрыка штучнага валакна, Гомсельмаш, віцебская трыкатажная ф-ка «КІМ», магілеўскі трубаліцейны завод, рэчыцкі экстрактны завод і т. д. і т. д. За гэты час карэнным чынам рэканструяваны старыя прадпрыемствы, па сутнасці перабудаваныя занова і абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі. Удзельная вага прадукцыі соцыялістычнай прамысловасці ў валавым даходзе ўсёй народнай гаспадаркі БССР узрасла з 35 проц. у 1930 г. да 65 проц. у 1934 годзе.

Колькасць рабочых, занятых у прамысловасці БССР, складае больш 108 тыс. чал., на будаўніцтве занята звыш 60 тыс. рабочых і ў сельскай гаспадарцы каля 120 тыс.

Гарады БССР перабудаваліся, культурна выраслі, карэнным чынам змяніўшы сваё старое аблічча.

Вялікія класавыя зрухі адбыліся ў вёсцы БССР. Замест соцень тысяч раздробленых індывідуальных сялянскіх гаспадарак створана больш дзесяці тысяч калгасаў і некалькі соцень соўгасаў. На палях БССР працуе больш двух тысяч трактароў і складаных сельскагаспадарчых машын. Каля трох чвертак усяго вясковага насельніцтва складаюць калгаснікі, як асноўная апора партыі і совецкай

улады на вёсцы, а тыя працоўныя аднаасобнікі, якія яшчэ засталіся па-за калгасамі, шпаркім тэмпам становяцца на шлях калектывізацыі.

«Старая вёска з яе царквой на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, папа, кулака на першым плане, з яе поўразваленымі хатамі сялян на заднім плане—пачынае знікаць. На яе месца выступае новая вёска з яе грамадска-гаспадарчымі пабудовамі, з яе клубамі, радыё, кіно, школамі, бібліятэкамі і яслямі, з яе трактарамі, камбайнамі, малатарнямі, аўтамабілямі. Зніклі старыя знатныя фігуры кулака-эксплаататара, ліхвяра-крывасмока, купца-спекулянта, бацюшкі-ўрадніка. Цяпер знатнымі людзьмі з'яўляюцца дзеячы калгасаў і соўгасаў, школ і клубаў, старшыя трактарысты ды камбайнеры, брыгадзіры па паляводству і жывёлагадоўлі, лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы калгасных палёў» **(Сталін).**

Поўнасцю ліквідавана няграматнасць, створана вялікая сетка беларускіх, рускіх, яўрэйскіх, польскіх, украінскіх і іншых школ. Дасягнуты агромныя поспехі ў справе навукі, літаратуры і мастацтва. Арганізаваны і працуюць 6.711 сталых дзіцячых ясляй і 131 кансультацыя. Значны рост устаноў па ахове здароўя працоўных і т. д.

Поспехі, дасягнутыя на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва, усяляюць гордасць у кожнага рабочага, у кожнага калгасніка і працоўнага Совецкай Беларусі за нашу вялікую дарагую радзіму—СССР, для росту і ўмацавання якой пад кіраўніцтвам партыі, пад сцягам Советаў аддае ўсе сілы рабочы клас, калгаснае сялянства і ўсе працоўныя.

* * *

Магутным вытворчым уздымам сустрэлі рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя Совецкай Беларусі перавыбары Советаў. Уключыўшыся ў вытворчы паход імя VII з'езда Советаў СССР і XI Усебеларускага з'езда, яны гэтым самым выражаюць беззаветную адданасць сваёй роднай і любімай партыі Леніна—Сталіна, свайму рабоча-сялянскаму ўраду, выражаюць на справе гатоўнасць змагацца за новыя далейшыя перамогі соцыялізма.

Удзельнікі гэтага паходу—рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы, байцы Чырвонай арміі, навуковыя працаўнікі, служачыя і навучаючыяся—усе яны лічаць гонарам не толькі выканаць свае абавязкі, але і перавыканаць, вырашыць узорна і датэрмінова пастаўленыя перад імі задачы і сёння працаваць лепш, чым учора.

Раёны і сельсоветы, прадпрыемствы і калгасы паспяхова рэалізавалі і рэалізуюць абавязкі, узятыя да з'ездаў Советаў: магілеўская шоўкавая фабрыка—ініцыятар вытворчага паходу імя з'ездаў Советаў БССР—выканала гадавы промфінплан 27-XI, выпусціўшы прадукцыі на 48,827 тыс. руб.; завод імя Варашылава ў Менску гадавы промфінплан выканаў 17-XI на 101,2 проц.; завод «Пролетарый» у Гомелі гадавы промфінплан выканаў 15-XI—на 100,3 проц.; віцебскі мясакамбінат — 11-XI; барысаўская запалкавая ф-ка «Пролетарская перамога»—24-XI; рэчыцкая запалкавая фабрыка «Х Окцябр» выканала гадавую праграму на 100 проц. 26-Х; бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат выканаў праграму на 102,2 проц.; осіповіцкі шклозавод «Окцябр» гадавы промфінплан выканаў за 11 мес. на 94,7 проц. і т. д. і т. д.

БССР у гэтым годзе як ніколі паспяхова справілася з асноўнымі задачамі па выкананню гаспадарча-палітычных кампаній: уборка зернавых у 1934 г. праведзена к 10 верасня—на 50 дзён раней мінулага года; сяўба яравых закончана 30 мая, раней чым у 1933 г. на 20 дзён. Хлебапастаўкі выкананы 5 верасня—на 4 мес. раней мінулага года, і т. д. Усё гэта стала магчымым толькі таму, што пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад сцягамі Советаў актыўнымі будаўнікамі нашай краіны з'яўляюцца тысячы і мільёны рабочых і працоўных сялян.

Раёны: Менскі, Сенненскі, Любаньскі, Віцебскі, Касцюковіцкі,Прапойскі, Аршанскі, Слуцкі і інш. своечасова выканалі ўсе гаспадарча-палітычныя задачы і занесены на чырвоную дошку гонару. Старобінскі раён процант калектывізацыі з 48 узняў да 82, хлебазакупкі выканаў на 100,8 проц., лён—на 104,3 проц., Чырвона-Слабодскі раён хлебапастаўкі выканаў на 100 проц., хлебазакупкі на 103,4 проц., ільназагатоўкі на 110 проц., маслапастаўкі на 108 проц.; Осіповіцкі раён хлебазакупкі выканаў на 106,1 проц., ільназагатоўкі на 118,2 проц., мясапастаўкі на 98 проц.; Чашніцкі раён хлебапастаўкі выканаў на 102 проц., ільназагатоўкі на 104,3 проц., маслапастаўкі на 85,4 проц., абавязацельствы па закупцы бульбы выкананы поўнасцю. Раён на першым месцы па выкананню плана мабілізацыі сродкаў.

У вытворчым паходзе імя VII з'езда Советаў Саюза ССР і XI з'езда Советаў БССР рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя згуртоўваюцца для таго, каб на справе ажыццявіць рашэнне XVII з'езда нашай партыі—ліквідаваць наяўныя прарывы ў гаспадарчым жыцці краіны, узняць прадукцыйнасць і якасць працы, павысіць адказнасць за грамадскую ўласнасць, змагацца з перажыткамі капіталізма і прыватна-ўласніцкай псіхалогіяй, атрыманай у спадчыну ад мінулага, змагацца за культурнае і багатае жыццё.

«Я лічу для сябе вялікім гонарам, што мая брыгада ўзяла на сябе абавязак—к з'езду Советаў выканаць гадавую праграму на 115 проц., не мець ніводнай паломкі варштата, поўнасцю ліквідаваць прастой, максімальна ўшчыльніць свой рабочы дзень»—так гаворыць малады рабочы, знатны чалавек бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната тав. **Несцераў.**

«Мы ў тэрмін і без страт убралі ўраджай, датэрмінова выканалі ўсе абавязкі перад дзяржавай, у тым ліку па лёну і пяньцы, паспяхова правялі асеннюю сяўбу і 170 цнт. лішкаў хлеба прадалі дзяржаве. Вось чаму ў нас сёлетнія выбары ў советы з'яўляюцца асаблівымі»—так адзначае выбары калгаснік **Марчанка**—знатны чалавек, выкаваны ў барацьбе за калгасы.

«Мне ўспамінаецца выгляд нашай вёскі пры царскай уладзе,—гаворыць далей тав. **Марчанка.**—Памятаю, як сяляне нашай вёскі круглы год батрачылі ў памешчыка і галадалі. Пра тое, што наша старая вёска была цёмнай і забітай, і гаварыць не прыходзіцца: на ўсю вёску можна было знайсці не больш 3—4 граматных, а цяпер толькі 3—4 няграматныя, ды і то старыя. Каля 15 чалавек з нашай вёскі навучаюцца ў вышэйшых навучальных установах. У мяне самога сын вучыцца ў Металургічным інстытуце,—значыць будзе інжынерам. Другі паступіў у Лясную акадэмію ў Ленінградзе, а трэці скончыў сямігодку. Не будзь совецкай улады, мае сыны, як і я, былі-б

цёмнымі, забітымі і вечнымі батракамі. Хто дапамог мне? Хто дапамог другому батраку—Васілю з нашай вёскі і ўсім беднякам стаць на ногі і жыць па-чалавечаму?—Совецкая ўлада і комуністычная партыя. Яны навучылі нас будаваць калгасы, яны вызвалілі нас ад кулацкай кабалы. Яны навучылі нас жыць»...

Рабочы **Несцераў** і калгаснік **Марчанка**—людзі новыя, выкаваныя ў агні рэволюцыі, у жорсткай барацьбе з класавым ворагам, выступаючым супроць дыктатуры пролетарыята, супроць калгасаў. **Несцераў** і **Марчанка**—актыўныя будаўнікі соцыялізма, якіх выхавала наша партыя і совецкая ўлада тысячамі і мільёнамі. Гэтыя будаўнікі соцыялізма, уключыўшыся ў вытворчы паход імя з'езда Советаў, мабілізаваліся для таго, каб сваім працоўным энтузіязмам унесці дадаткова і датэрмінова звыш праграмы свой уклад у будаўніцтва соцыялізма.

* * *

«Выбары ў Советы—масавая палітычная кампанія, найшырэйшы агляд перамог соцыялістычнага будаўніцтва. Выбары—магутная зброя арганізацыі мільённых мас рабочых, калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі на далейшую барацьбу за пабудову соцыялізма і ўмацаванне Советаў—органаў пролетарскай дыктатуры».

У адпаведнасці з гэтым указаннем ЦВК Саюза ССР праводзілася справаздачна-перавыбарчая кампанія Советаў у БССР.

82 проц. усіх выбаршчыкаў прыняло ўдзел у абгаварэнні справаздачных дакладаў Советаў, секцый Советаў, дэпутацкіх груп і дэпутатаў. Паводле даных з 832 сельсоветаў праведзена справаздачных сходаў 11.363. На гэтых сходах прэзідыумы сельсоветаў зрабілі 9.374 справаздачныя даклады, секцыі сельсоветаў—1989, дэпутацкія групы—1216, дэпутаты советаў—7555; з крытыкай дакладаў сельсоветаў, секцый, дэпутацкіх груп і паасобных дэпутатаў выступіла 63.018 чалавек, у тым ліку жанчын 16.419. Гэтыя лічбы ярка сведчаць аб тым, што ў абгаварэнні справаздач сельсоветаў удзельнічалі многатысячныя працоўныя масы выбаршчыкаў, прычым асабліва выдзяляецца актыўнасць жанчын як у яўцы на справаздачныя сходы, так і ў абгаварэнні справаздач Советаў.

Выбаршчыкі з усёй большэвіцкай рашучасцю крытыкавалі ўсе недахопы ў рабоце Советаў, іх секцый, дэпутацкіх груп і паасобных дэпутатаў.

У Аколаўскім с.-с., Плешчаніцкага раёна, моцна крытыкавалі сельсовет за бяздзейнасць у культурным будаўніцтве. Сельсовет не выканаў наказу дэпутатаў. Мінулы склад не пабудаваў дома соцкультуры, хата-чытальня не працуе.

На справаздачным сходзе ў калгасе «Праўда», Горнаўскага сельсовета, выбаршчыкі патрабавалі змяніць старшыню калгаса **Скакуна,** які сваёй бяздзейнасцю і безгаспадарнасцю разваліў калгас. Выступленні выбаршчыкаў і крытыка работы Советаў насіла выключна дзелавы характар. Сваімі дадаткамі да наказаў выбаршчыкі ставілі перад Советамі—завяршэнне суцэльнай калектывізацыі, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, палепшанне культурнага абслугоўвання калгаснікаў, пабудову школ, клубаў, кіно, лазень, пралень, і т. д.

Калгаснікі і калгасніцы Тварычаўскага нац. польскага совета даручылі Совету пракласці тратуары, азеляніць вёску, пабудаваць прыбіральні, правесці меліярацыю балот, пабудаваць культурную сажалку, набыць кіно-перасоўку.

У Теплінскім сельсовеце, Уздзенскага раёна, калгаснікі патрабавалі завяршыць суцэльную калектывізацыю, адчыніць новыя школы, абсталяваць ленкуткі ў калгасах.

У Касцюковіцкім сельсовеце, Гомельскага раёна, выбаршчыкі ўнеслі ў наказ новаму складу сельсовета прапанову электрыфікаваць калгасы. І т. д. і т. п. Асаблівую ўвагу звярталі выбаршчыкі на важнасць пабудовы пажарных дэпо і набыццё пажарнага інвентара ў калгасах.

* * *

Каб забяспечыць пагалоўны ўдзел працоўных мас у перавыбарах Советаў, у аснову арганізацыі выбарчых участкаў паложана было наблiжэнне выбарчых сходаў непасрэдна да выбаршчыкаў. Асноўнымі цэнтрамі арганізацыі выбарчых участкаў у вёсках, як правіла, з'яўляліся калгасы і соўгасы. Усяго па БССР арганізавана 12.600 сельскіх выбарчых участкаў і 1.639 гарадскіх. У кожным сельсовеце арганізаваны былі ад 9 да 15 участкаў з разліку не больш 200 выбаршчыкаў на кожны ўчастак.

Рост актыўнасці яўкі выбаршчыкаў на выбарчыя сходы за апошнія тры выбарчыя кампаніі па вёсцы характарызуецца наступнымі данымі: калі яўка выбаршчыкаў у перавыбарчую кампанію 1929 года складала 58,8 проц., а ў 1931 г. 66,3 проц., то ў 1934 г. яна складае 81,98 проц., у тым ліку жанчын у 1929 годзе 42,8 проц., у 1931 годзе 54,6 проц. і ў 1934 г.—77,66 проц.

У гарадах рост актыўнасці і яўкі выбаршчыкаў на выбарчыя сходы характарызуецца наступнымі данымі: у 1931 г. мужчын 77,4 проц. і жанчын 71,1 проц., у 1934 г. мужчын 92,3 проц. і жанчын 91 проц. Асабліва трэба адзначыць значны рост актыўнасці рабочых. У гэту выбарчую кампанію ўдзельнічала 96 проц. выбаршчыкаў рабочых.

Прыведзеныя лічбы сведчаць аб вялікай палітычнай свядомасці і актыўнасці, праяўленай выбаршчыкамі ў 1934 годзе. Аднак, хоць па БССР яўка выбаршчыкаў на выбарчыя сходы ў параўнанні з 1931 годам і павялічылася на 15 проц., усё-ж яўка ў 81,98 проц. недастаткова, улічваючы ўзрошую актыўнасць працоўных. Гэты недахоп трэба аднесці за лік выключна кепскай арганізацыйна-масавай работы паасобных раёнаў і советаў. Побач з такімі раёнамі, як Менскі, Сенненскі, Прапойскі, Оршанскі, Гомельскі, Крычаўскі і інш., якія арганізатарскай работай узначалілі актыўнасць мас і далі яўку да 89—92 проц. выбаршчыкаў, такія раёны, як Камарынскі, Асвейскі, Веткаўскі, Пухавіцкі, Буда-Кашалёўскі, Бабруйскі, Чачэрскі, Плешчаніцкі і інш., пусцілі справу перавыбараў Советаў на самацёк, даўшы недапушчальна нізкі процант: 71—73—75.

Слабая работа партарганізацый, РВК, Советаў і выбарчых камісій гэтых раёнаў па разгортванню оргмасавай і палітычнай работы сярод выбаршчыкаў, слабая ўвага пры арганізацыі справаздачна-перавыбарчых сходаў к такім пытанням, як яслі, арганізацыя памяшканняў, арганізацыя аховы маемасці калгасаў і калгаснікаў, слабая работа сярод жанчын, слабое прыцягненне аднаасобнікаў на справа-

здачна-перавыбарчыя сходы—вось прычына невыканання дырэктыў партыі і ўрада аб пагалоўным удзеле выбаршчыкаў на справаздачна-перавыбарчых сходах у тэтых раёнах.

У радзе месц былі факты грубага парушэння выбарчага заканадаўства і совецкай дэмакратыі, якія выразіліся: у забароне высоўваць дадатковыя кандыдатуры ў спіс, рэкамендаваны партгрупай (Прудкаўскі с.-с., Мазырскага раёна, Ланцуцкі с.-с., Капыльскага раёна); неўнясенне ў спіс цэлых груп і паасобных выбаршчыкаў.

У радзе сельсоветаў з-за недаацэнкі палітычнай важнасці падрыхтоўкі і саміх выбараў, апошнія праводзіліся фармальна, пры абсалютна нізкай яўцы выбаршчыкаў і невыкананні дырэктыў партыі і ўрада аб вылучэнні жанчын у Советы. Так, толькі па аднаму Рагачоўскаму раёну пастановай Цэнтральнай выбарчай камісіі адменены выбары цалкам у 7 советах, па Чачэрскаму раёну—у 3, па Старадарожскаму—2, Уваравіцкаму—1, Заслаўскаму—2 і т. д. Выбары па Янаўскаму с.-с., Осіповіцкага раёна, адмяняліся 2 разы, бо і паўторныя выбары па гэтаму совету былі праведзены без падрыхтоўчай работы пры нізкай яўцы выбаршчыкаў. У склад тэтага совета нават і пры паўторных выбарах была абрана толькі адна жанчына.

* * *

Справаздачна-перавыбарчая кампанія праходзіла пры абвостранай класавай барацьбе. Разбіты, але канчаткова не знішчаны класавы вораг, адчуваючы сваю немінучую пагібель, усялякімі спосабамі імкнуўся сарваць справаздачна-перавыбарчую кампанію. Класавы вораг чым толькі мог імкнуўся шкодзіць рабоце, накіроўваючы свой удар у першую чаргу супроць актыва сельсовета. Так, у Мастоцкім сельсовеце, Магілеўскага раёна, стрэлам быў ранен селькор; у Княжыцкім сельсовеце гэтага-ж раёна быў забіт актывіст. У калгасе «Ленінская праўда», Гарадоцкага раёна, ранен стрэлам вартаўнік калгаса; у Станькаўскім с.-с., Дзержынскага раёна, актывістка Грыцкевіч Тацяна выкрыла злачынства старшыні калгаса «Другая пяцігодка» **Залуцкага** і была ахаяна групай класава-варожых элементаў у тым, што яна нібыта жонка былога земскага начальніка і псіхічна хворая. Раённая выбарчая камісія, не праверыўшы факт, не разабраўшыся ў манеўрах класавага ворага, унесла актывістку **Грыцкевіч** у спіс пазбаўленых выбарчага права (памылка пасля была выпраўлена).

У Чырвона-Асавецкім с.-с., Быхаўскага раёна, у двух пунктах былі выпадкі ўключэння ў склад сельсовета кандыдатур з сваякоў бандытаў, яўных сабатажнікаў, але выбаршчыкі далі рашучы адпор. У Н.-Тошніцкім сельсовеце класавы вораг запалохваў кандыдатаў у склад сельсовета з тым, каб яны адмовіліся ад выбараў. З гэтаю-ж мэтаю 2—3—4 лістапада кожную ноч падпальваліся хаты членаў сельсовета. У вёсках Рудакова і Дворышча, Хойніцкага раёна, з-за падпалу двара былі сарваны справаздачныя сходы.

У Шклоўскім раёне кулак Дземідаў са сваім сынам напалі на старшыню сельсовета. Гэты-ж Дземідаў арганізаваў збіенне хатніка Іванова. У Княжыцкім сельсовеце таго-ж раёна ў час правядзення сельсоветам агульнага сходу па падрыхтоўцы да выбараў група класава-варожых элементаў праводзіла свой зачынены сход з мэтай зрыву выбарчых сходаў і гаспадарча-палітычных кампаній. У радзе

месц праяўлялі сваю варожую актыўнасць рэлгійныя групы сектантаў, евангелістаў і інш.

Усім гэтым праявам класава-варожых элементаў выбаршчыкі пад кіраўніцтвам партыйных і совецкіх арганізацый давалі бязлітасны адпор. Класаваму ворагу не ўдалося перашкодзіць пасляховаму правядзенню выбараў у Советы і падарваць магутнасць органаў пролетарскай дыктатуры. Наадварот, рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя цясней згуртаваліся вакол партыі і Советаў і на вылазкі класавага ворага адказвалі і адказваюць яшчэ больш узмоцненай класавай пільнасцю, яшчэ большым творчым энтузіязмам і гатоўнасцю змагацца за выкананне задач другой пяцігодкі, за пабудову соцыялізма ў нашай краіне.

Шырокія масы працоўных Совецкай Беларусі ў гэту выбарчую кампанію праявілі асаблівую палітычную свядомасць, як ніколі ўважліва аднесліся да выбараў у Советы сваіх лепшых прадстаўнікоў, правераных на рабоце і загартаваных у барацьбе з класавымі ворагамі. Тым самым яны на справе ўмацоўвалі органы пролетарскай дыктатуы, забяспечваючы пасляховую барацьбу за канчатковую ліквідацыю капіталістычных элементаў, за соцыялістычнае перавыхаванне мас і будаўніцтва соцыялізма.

Вось адзін з многіх прыкладаў адносін рабочых і калгаснікаў да перавыбараў у Советы. Тав. Анцыловіч—ударнік завода «Большэвік»—так вызначыў свае задачы:

> «Я буду галасаваць за тых, хто здолен змагацца за далейшыя перамогі нашага соцыялістычнага будаўніцтва, і можа змагацца за павышэнне культурнага ўзроўню працоўных Совецкага саюза. Я буду галасаваць за тых, хто на першы план выставіць умацаванне абароназдольнасці соцыялістычнай бацькаўшчыны, хто здолее ў штодзеннай рабоце клапаціцца аб інтарэсах сваіх выбаршчыкаў так, як аб сваіх уласных».

Лепшыя людзі краіны—ударнікі прадпрыемстваў і соцыялістычных палёў, ударнікі совецкіх і культурных устаноў, на справе паказаўшыя сваю адданасць партыі і совецкай уладзе, выбраны ў сельскія советы.

Усяго ў советы выбрана 44.394 дэпутаты, з іх мужчын—73,3 проц., аднаасобнікаў—9,9 проц., рабочых—5,3 проц. і служачых—8,6 проц.

Па партыйнасці: членаў і кандыдатаў партыі—13,1 проц., членаў і кандыдатаў комсамола—8,3 проц. і беспартыйных—78,6 проц.

З усёй колькасці дэпутатаў, выбраных у сельсоветы, прашло школу Чырвонай арміі 37,1 проц. Выбраныя першы раз складаюць 56,3 проц. усіх дэпутатаў.

У горсоветы (паводле звестак 31 горсовета) выбрана 6.277 дэпутатаў, з іх мужчын 71,8 проц. і жанчын 28,2 проц. Па соцыяльнаму становішчу: рабочых 50 проц., калгаснікаў 5,3 проц., служачых—23,4 проц., вайскоўцаў 10,3 проц. У лік астатніх 11 проц. уваходзяць вучні, саматужнікі і хатнія гаспадыні. Па партыйнасці: членаў і кандыдатаў партыі 47,6 проц., членаў і кандыдатаў ЛКСМБ 10,8 проц. і беспартыйных 42,6 проц.

У горсоветы выбрана дэпутатаў, прашоўшых школу Чырвонай арміі, 38,1 проц. Выбраныя ў першы раз у горсоветы складаюць 54,6 проц. усіх дэпутатаў.

У параўнанні з выбарамі 1931 года ў складзе сельсоветаў маем наступныя змены: павелічэнне калгаснікаў на 49 проц., змяншэнне аднаасобнікаў на 56 проц., павелічэнне членаў партыі на 2 проц. і комсамольцаў на 1,77 проц.; павелічэнне жанчын на 2,76 проц. Цэнтральнаю фігурай сельсовета стаў калгаснік.

Па горсоветах наступныя змены: павелічэнне рабочых на 7,5 проц., калгаснікаў на 5,3 проц., памяншэнне членаў і кандыдатаў партыі на 1,1 проц., павелічэнне членаў і кандыдатаў ЛКСМБ на 1,8 проц., павелічэнне жанчын на 2,8 проц. Цэнтральнаю фігурай горсовета стаў рабочы—ударнік. У складзе горсовета ўдарнікаў сярод рабочых ад вытворчасці 96,3 проц. і сярод калгаснікаў 77,4 проц.

Побач з агульным палепшаннем складу дэпутатаў выбары 1934 года далі якаснае палепшанне і ўзмацненне прэзідыумаў сельсоветаў: членаў партыі на 5 проц., комсамольцаў на 0,2 проц., калгаснікаў на 23,7 проц., змяншэнне аднаасобнікаў на 35,4 проц. і павелічэнне жанчын на 4,0 проц. Асабліва ўмацаваліся прэзідыумы сельсоветаў знатнымі людзьмі—ударнікамі.

Па горсоветах: колькасць членаў партыі ў складзе прэзідыумаў павялічылася на 3,3 проц., комсамольцаў паменшылася на 0,7 проц., рабочых паменшылася на 1,8 проц., калгаснікаў павялічылася на 4 проц. і жанчын на 0,7 проц.

У складзе старшынь сельсоветаў павялічылася колькасць членаў партыі з 73,5 да 87,8 проц., колькасць комсамольцаў знізілася з 6,2 проц. да 5,2 проц., колькасць беспартыйных зменшылася з 20,3 проц. да 7,0 проц.; колькасць жанчын павялічылася з 5,4 проц. да 9,9 проц. У мінулым складзе советаў было 22 проц. аднаасобнікаў старшынь сельсоветаў, цяпер няма ніводнага. Старшынь сельсоветаў калгаснікаў 37,5 проц. і служачых 48,4 проц. У першы раз абрана старшынямі с.-с. 18,68 проц.

У складзе старшынь горсоветаў павялічыўся лік членаў і кандыдатаў партыі з 96,6 проц. да 100 проц., комсамольцаў—з 3,4 проц. да 5,3 проц. Колькасць жанчын паменшылася з 13,8 проц. да 7 проц. Калі ў мінулыя перавыбары ў складзе старшынь горсоветаў зусім не было калгаснікаў (сялян аднаасобнікаў было 3,4 проц.), то цяпер калгаснікаў 7 проц., аднаасобнікаў зусім няма. Па соцыяльнаму становішчу старшынь горсоветаў з рабочых 61 проц., калгаснікаў 7 проц., служачых 32 проц. У першы раз абрана 16,1 проц.

Некалькі горш чым раней падобран склад сакратароў сельсоветаў: членаў і кандыдатаў партыі толькі 8,6 проц., комсамольцаў 22,9 проц., беспартыйных 68,5 проц. Абрана ў першы раз 25 проц.; рабочых 3,3 проц., калгаснікаў 57,7 проц., аднаасобнікаў 1,6 проц., служачых 37,4 проц.; мужчын 96,1 проц. і жанчын толькі 3,9 проц. Прашоўшых школу Чырвонай арміі 40,4 проц.

Пленумы Советаў на 56,3 проц. узмоцнены новымі, праверанымі на практычнай рабоце кадрамі, калгаснік стаў цэнтральнай фігурай ў сельсовеце, вырасла партыйна-комсамольскае ядро ў складзе Советаў, павялічылася колькасць членаў Советаў, прашоўшых школу Чырвонай арміі—усё гэта дае права зрабіць вывад, што нашы Советы ў рэзультаце перавыбараў сталі больш моцнымі, боездольнымі, што яны забяспечаць паспяховае выкананне дырэктыў партыі і ўрада ў ажыццяўленні задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясkласавага грамадства.

Прымаючы пад увагу, што склад пленумаў сельсоветаў на 56,3 проц. папоўніўся ўпершыню абранымі ў советы кадрамі, прэзідыумаў сельсоветаў—на 37 проц., старшынь сельсоветаў—на 18,6 проц. і сакратароў с.-с.—на 25 проц., перад раённымі партыйнымі і совецкімі арганізацыямі і ў першую чаргу перад РВК і яго аддзеламі стаіць адказная задача: замацаваць гэтыя кадры праз штодзеннае аператыўнае кіраўніцтва іх работай і практычную дапамогу ў арганізацыі вучобы.

Гэта тым больш неабходна, што нярэдка можна яшчэ сустрэць абыякавыя адносіны да падрыхтоўкі гэтых кадраў, павышэння іх культурна-палітычнага і практычнага ўзроўню. Некаторыя Советы і выканкомы, як паказалі выбары, яшчэ не пераканаліся ў тым, што

> «праблема кадраў з'яўляецца рашаючай праблемай соцыялістычнага будаўніцтва, бо вялікі пералом можа быць паспяхова завершаны пры ўмове, калі мы з усёю сілай большэвіцкага напору возьмемся за вырашэнне гэтай праблемы і вырашым яе» **(Сталін).**

* * *

Выбары ў Советы—школа большэвіцкага выхавання ўсіх рабочых, калгаснікаў і працоўных, а разам з тым добрая праверка і экзамен для нашых раённых партыйных, совецкіх і грамадскіх арганізацый: наколькі яны ўмеюць арганізоўваць масы на выкананне гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў партыі і ўрада на вёсцы.

Вынікі перавыбараў Советаў з усёй нагляднасцю паказваюць, што экзамен на ўменне арганізоўваць масы не ўсе раённыя і сельскія арганізацыі вытрымалі поўнасцю. Менскі, Оршанскі, Сеннenскі, Слуцкі, Старобінскі, Віцебскі, Чырвона-Слабодскі і іншыя раёны здолелі добра арганізаваць выбары і спалучыць правядзенне справаздачна-перавыбарчай кампаніі Советаў з выкананнем усіх гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў на вёсцы. Аднак Лельчыцкі, Дубровенскі, Чырвонапольскі, Чэрвеньскі, Петрыкаўскі, Старадарожскі, Чаускі, Мсціслаўскі, Кармянскі, Быхаўскі і іншыя раёны недаацэньваюць важнасць арганізатарскай работы. Партыйныя, совецкія і грамадскія арганізацыі раду раёнаў паказалі няўменне арганізаваць масы на паспяховае правядзенне перавыбараў, не скарысталі перавыбары советаў для таго, каб паставіць работу ў раёне на вышэйшую ступень, узняць энтузіязм мас на баявое выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных задач 1934 года. А здарыцца гэта магло толькі таму, што кіруюць у гэтых раёнах без вывучэння і арганізацыі справы, без адпаведнага падбору і расстаноўкі кадраў, без праверкі выканання дырэктыў. Як відаць, не ўсюды яшчэ добра зразумелі рашэнні і ўказанні тав. Сталіна аб тым, што «арганізацыйная работа вырашае ўсё».

Прыцягненне шырокіх працоўных мас да штодзеннага кіравання дзяржавай пастаўлена нездавальняюча ў Петрыкаўскім, Стaрадарожскім, Талачынскім раёнах. Масавыя органы советаў—секцыі і дэпутацкія групы—слаба або зусім не працуюць у значнай частцы советаў. Аддзелы РВК работай секцый не цікавяцца, не арганізоўваюць яе, не апіраюцца на секцыі советаў у сваёй рабоце.

У галіне шэфства і соцсумяшчэння, як паказалі выбары, зроблена зусім мала. Асабліва РВК не ўдзяляюць ім ніякай увагі. Недахопы

у разгортванні шэфства і соцсумяшчэння павінны быць неадкладна ліквідаваны.

«Трэба разгарнуць і якасна ўзняць апраўдаўшае сябе шэфства прадпрыемстваў над дзяржаўнымі ўстановамі і соцыялістычнае сумяшчэнне работы на вытворчасці з работай у дзяржаўных установах» (з рашэнняў XVII з'езда партыі).

Неабходна дабіцца, каб наладжваннем шэфства і больш шырокім укараненнем соцсумяшчэння займаліся не толькі оргаддзелы, інструктары совецкага будаўніцтва і профсаюзныя арганізацыі, а каб у гэту работу ўключыліся ўсе аддзелы советаў і выканкомаў, а таксама комсамольскія і гаспадарчыя арганізацыі.

Не ўдзяляецца сур'ёзная ўвага і скаргам. У час выбараў выявілася, што значная колькасць советаў і РВК недаацэньваюць усяго палітычнага значэння і нават ігнаруюць гэта пытанне. Неадкладна прыняць меры па скаргах і задаволіць законныя патрабаванні працоўных, г. зн. узняць вышэй аўтарытэт мясцовых органаў, цясней звязаць Советы і выканкомы з працоўнымі масамі, спрыяць больш актыўнаму ўдзелу іх у рабоце Советаў.

У час справаздачна-перавыбарчых сходаў выявіліся недапушчальныя, пагардлівыя адносіны паасобных сельсоветаў да наказаў выбаршчыкаў. Советы, секцыі, дэпутацкія групы і паасобныя дэпутаты советаў замест таго, каб дакладна сачыць за выкананнем наказаў выбаршчыкаў, забылі гэта патрабаванне, і наказы заставаліся не толькі нявыкананымі, але згубленымі.

Паасобныя раёны і асабліва сельсоветы к выбарам не ведалі сваіх кадраў. Класавы вораг дзе-ні-дзе стараўся гэта выкарыстаць, каб прасунуць у Советы сваіх людзей (Быхаўскі, Чэрвеньскі, Шклоўскі, Ельскі раёны). Гэтым імкненням класавага ворага далі пад кіраўніцтвам партыі рашучы адпор рабочыя і калгаснікі.

*
* *

На XVII з'ездзе партыі тав. Кагановіч падкрэсліў:

«Мы маем пэўнае палепшанне работы нашых советаў, як масавых арганізацый, нашы советы пашырылі свае секцыі, частка секцый гарадскіх і сельскіх советаў—гэта ўжо не проста сходы для размоў; секцыі маюць магутную матар'яльную базу, гарадская гаспадарка разгарнулася ў вялікіх памерах, масавая работа іх напоўнена матар'яльным зместам. Нашы секцыі советаў, дэпутацкія групы становяцца актыўнымі, кіруючымі ўдзельнікамі ва ўсёй будаўнічай рабоце. Гэта, вядома, не значыць, што ў советах і іх апаратах няма недахопаў. Уся пастаноўка пытанняў аб перабудове цалкам дапасавана і да іх».

Выбары ў Совет актывізавалі самыя шырокія масы рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных вакол работы Советаў. Задача Советаў, РВК і іх аддзелаў—уцягнуць у практычную работу ў Советах і іх масавых органах увесь актыў, які выявіўся ў час выбарчай кампаніі і замацаваць яго. Гэтага можна дабіцца толькі шляхам канкрэтнага штодзеннага кіраўніцтва цэнтральных арганізацый і РВК нова-абранымі советамі.

На справе неабходна правесці ў жыццё ўказанні Уладзіміра Ільіча:

«Далейшае развіццё совецкай арганізацыі дзяржавы павінна заключацца ў тым, каб кожны член совета абавязкова нёс па-

стаянную работу па кіраванню дзяржавай побач з удзелам у сходах советаў, а потым у тым, каб усё насельніцтва прыцягвалася паступова як да ўдзелу ў совецкай арганізацыі (пры ўмове падпарадкавання арганізацыям працоўных), так і да нясення службы дзяржаўнага кіравання».

Цэнтральным у выбарах на вёсцы было пытанне аб калгасах. У выступленнях на справаздачных сходах, у прапановах да наказаў, у абгаварэнні кандыдатур пры выбарах дэпутатаў у советы яно стаяла на першым месцы. Работу советаў, секцый, дэпутацкіх груп і паасобных дэпутатаў працоўныя масы ацэньвалі з пункту погляду таго, што яны зрабілі для ўзмацнення калгасаў, ці павярнуліся Советы тварам да калгасаў. Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, ператварэнне іх у большэвіцкія, завяршэнне калектывізацыі, няўхільнае і своечасовае выкананне ўсіх абавязкаў перад дзяржавай, барацьба за развіццё жывёлагадоўлі, павышэнне ўраджайнасці шляхам укаранення правільных севазваротаў, палепшанне апрацоўкі глебы, увядзенне сартовага насення і т. д.—усе гэтыя рашаючыя задачы работы Советаў на вёсцы павінны вырашацца на аснове далейшага ўзмацнення совецкай дысцыпліны, соцыялістычных адносін да працы і грамадскай уласнасці.

Задачы ў галіне развіцця мясцовай прамысловасці: павелічэнне выпрацоўкі тавараў шырокага спажывання, далейшы ўздым прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошту, палепшанне якасці прадукцыі, укараненне і ўзмацненне гаспадарчага разліку, палепшанне арганізацыі працы і зарплаты, выкараненне абязлічкі і ўраўнілаўкі.

У галіне гандлю—барацьба за чоткую работу кааперацыі, за павышэнне сеці крам, за добрае абслугоўванне спажыўца і большэвіцкае разгортванне совецкага гандлю.

Вялікая адказнасць ускладаецца на партыйныя, совецкія і асабліва на гандлюючыя арганізацыі ў справе разгортвання совецкага гандлю ў сувязі з рэалізацыяй рашэння лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б «Аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты».

З года ў год павышаюцца эканамічныя і культурна-бытавыя запатрабаванні мас рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

Важнейшая задача Советаў—як найлепш абслужыць іх, памятаючы, што

> «няма больш пачэснай задачы для большэвіка-рэволюцыянера, як справа дапамогі рабочаму, справа палепшання становішча рабочых» **(Кагановіч)**.

Наказы выбаршчыкаў сваім дэпутатам у гэтую выбарчую кампанію сугучны нашай вялікай эпосе. Яны ярка адлюстроўваюць гаспадарчы, культурны і палітычны рост рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных, паказваюць змены, што адбыліся ў свядомасці людзей, сведчаць аб нябачаных па сваёй разнастайнасці і ўсебаковасці запатрабаваннях.

Прапановы выбаршчыкаў павінны быць улічаны і пакладзены ў аснову работы Советаў. Работа Совета, секцыі, дэпутацкай групы і кожнага дэпутата павінна ацэньвацца па паўнаце і якасці выканання наказаў. А гэта магчыма толькі пры ўмове сістэматычнага і самага строгага кантроля, пастаяннай праверкі выканання дырэктыў.

Асаблівае значэнне мае наладжванне сувязі наркаматаў і цэнтральных ведамстваў з секцыямі советаў і аказанне ім дапамогі ў разгортванні работы. На жаль, яшчэ далёка не ўсе наркаматы зразумелі важнасць сувязі ў сваёй рабоце з масавымі арганізацыямі советаў—секцыямі і дэпутацкімі групамі, не ацанілі тых каласальных магчымасцей, якія тояць у сабе дэпутацкія групы, як застрэльшчыкі барацьбы за выкананне вытворчых планаў, і секцыі советаў, як агромная сіла, арганізуючая масы на барацьбу за праверку выканання рашэнняў партыі і ўрада, рашэнняў і распараджэнняў наркаматаў.

«Таму, калі мы гаворым аб перабудове работы наркаматаў, мы мыслім гэтую перабудову не толькі ў выглядзе ліквідацыі функцыяналкі, абязлічкі, увядзення дакладнай адказнасці, прад'яўлення павышаных патрабаванняў у сэнсе паглыбленага ведання тэхнікі справы і т. д., але і імкнемся к таму, каб у выніку перабудовы нашы наркаматы абавязкова ўзмацнілі сувязь з масавымі совецкімі арганізацыямі: секцыямі і дэпутацкімі групамі советаў» **(Енукідзе).**

Умацаванне дзяржаўнага апарата непарыўна звязваецца з неабходнасцю ўзмацнення партыйнага кіраўніцтва ў советах.

Партыйныя групы советаў і ўсе члены партыі павінны ў цэнтр сваёй увагі паставіць клопаты аб умацаванні советаў, аб палепшанні іх дзейнасці, змагаючыся за ўмацаванне совецкай дысцыпліны, за кантроль выканання, супроць бюракратызма і адставання арганізацыйнай работы ад ўзроўню палітычнага кіраўніцтва.

Рэалізацыя праграмы другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства і ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў наогул—не можа не выклікаць абвастрэння класавай барацьбы, ярасцнай атакі супроць партыі і рабочага класа ўсіх недабіткаў класавага ворага.

Гэтыя недабітыя рэшткі класавых ворагаў не грэбаюць ніякімі сродкамі, каб унесці замяшанне ў нашы рады, дэзарганізаваць нашу справу, падарваць магутнасць пролетарыята, перашкодзіць пераможнаму будаўніцтву соцыялізма.

«Таму нам трэба не аслабляць сваёй класавай пільнасці. Пільнасць патрабуе не толькі памятаць аб ворагу. Пільнасць патрабуе, каб мы падзесяцярылі сваю барацьбу, каб мы падзесяцярылі сваю ідэйна-палітычную і арганізатарскую работу. Пільнасць патрабуе, каб мы ўсюды і паўсямесна разілі ворага, да канца выкарчоўвалі яго рэшткі» **(Кагановіч).**

Павышэнне класавай рэволюцыйнай пільнасці і бязлітасная расправа з контррэволюцыйнымі дзеяннямі апошніх рэштак паміраючых класаў—адна з рашаючых умоў паспяховага выканання задач, пастаўленых партыяй перад Советамі ў другую пяцігодку.

Перавыбары советаў яшчэ больш згуртавалі працоўныя масы БССР вакол партыі і советаў. Задача советаў—выкарыстаць актыўнасць мас, арганізаваць вакол сябе новы актыў, уцягнуць яго ў практычную работу секцый і дэпутацкіх груп і пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна яшчэ настойлівей умацоўваць гаспадарчую і абаронную магутнасць краіны, няўстанна змагацца за далейшы росквіт усіх галін соцыялістычнай гаспадаркі, з усёй рашучасцю берагчы грамадскую ўласнасць і захоўваць рэволюцыйную законнасць.

Выбары Советаў прадэманстравалі найвялікшую адданасць працоўных мас партыі Леніна—Сталіна. Мільёны працоўных Беларусі далі сваім дэлегатам на з'езд наказ—няўхільна змагацца як у сваіх рашэннях, так і ва ўсёй практычнай рабоце за ажыццяўленне генеральнай лініі партыі Леніна—Сталіна, якая вядзе краіну ад перамогі к перамозе.

XI з'езд советаў Беларускай Советскай Социялістычнай Рэспублікі падвёў вынікі перамог і дэталёва абмеркаваў задачы чарговай работы. Гэтыя задачы вялікія. У нас яшчэ многа недаробак, многа работы ўперадзе. З'езд советаў намеціў канкрэтную дзелавую праграму ажыццяўлення вялікіх задач другой пяцігодкі, рэалізацыі гістарычных рашэнняў XVII партз'езда, рэалізацыі наказаў мільёнаў выбаршчыкаў—працоўных горада і вёскі.

XI з'езд советаў БССР з першых дзён сваёй работы прадэманстраваў адданасць працоўных Советскай Беларусі справе социялістычнага будаўніцтва, адданасць комуністычнай партыі і правадыру ўсіх працоўных т. Сталіну, адданасць далейшай барацьбе, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў на чале з тав. Сталіным за поўнае знішчэнне рэштак капіталістычных класаў і іх агентуры.

Мільёны працоўных БССР, як і працоўныя масы ўсяго Советскага саюза, выражаюць вялікае абурэнне і гнеў супроць подлых контррэволюцыйных паследышаў былой зіноўеўска-троцкісцкай апазіцыі, вырваўшых з нашых радоў аднаго з лепшых саратнікаў тав. Сталіна—Сергея Міронавіча Кірава.

Рэшткі былой зіноўеўска-троцкісцкай апазіцыі, арганізаваўшыся ў падпольныя контррэволюцыйна-тэрарыстычныя групы—маскоўскі і ленінградскі цэнтры—пад ідэйным і арганізацыйным кіраўніцтвам здраднікаў рабочага класа і ўсіх працоўных—Зіноўева, Каменева, Еўдакімава і інш.—сталі на контррэволюцыйна-фашысцкі шлях барацьбы супроць комуністычнай партыі і советскай улады, супроць кіраўнікоў і правадыроў партыі і советскай улады. У шалёнай ненавісці к пераможнаму ходу социялістычнага будаўніцтва яны шляхам тэрора імкнуліся змяніць палітыку партыі ў духу зіноўеўска-троцкісцкай платформы. Іх замыслы партыяй выкрыты. Удзельнікі і кіраўнікі падпольных контррэволюцыйна-белабандыцкіх цэнтраў панеслі заслужаную кару, і шырокія працоўныя масы Советскай Беларусі, як і ўсяго вялікага Советскага саюза, са здавальненнем сустрэлі рашэнні пролетарскага суда па справе ўдзельнікаў ленінградскага і маскоўскага контррэволюцыйных цэнтраў.

Аднак, выяўленнем і пакараннем гэтых здраднікаў, аб'яднаных у ленінградскім і маскоўскім падпольных контррэволюцыйных цэнтрах, барацьба з класавымі ворагамі не спыняецца, бо рэшткі контррэволюцыйных класаў і іх агентуры будуць працягваць сваю контррэволюцыйна-шкодніцкую работу. Выкрытыя ў апошні час у некаторых арганізацыях БССР контррэволюцыйна-троцкісцкія і антыпартыйныя вылазкі троцкістаў: былога старшыні Дзяржплана—Галендо, у кіраўніцтве Наркамзнешгандлю — Фліора, у вячэрнім комвузе—Разумоўскага, у вышэйшай сельска-гаспадарчай школе—Паўлюкевіча, троцкіста Рудага і інш.—яскрава сведчаць аб тым, што рэшткі адміраючых капіталістычных класаў, у перадсмяротных сударгах імкнуцца затармазіць справу социялістычнага будаўніцтва, што ажыццяўленне рашэння XVII партз'езда і выкананне

плана другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы. Усё гэта патрабуе яшчэ большага ўзмацнення класавай пільнасці партыйных арганізацый і ўсіх працоўных на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

XI з'езд советаў БССР у сваім рашэнні аб судовым працэсе па справе ўдзельнікаў раскрытага «маскоўскага цэнтра» контррэволюцыйнай фашысцкай белабандыцкай зіноўеўскай групы заклікае ўсіх працоўных Совецкай Беларусі ўзмацніць сваю рэволюцыйную пільнасць.

> «З'езд заклікае рабочых, чырвонаармейцаў, калгаснікаў, усіх працоўных соцыялістычнай Беларусі яшчэ больш узмацніць рэволюцыйную пільнасць у бязлітаснай барацьбе з класавым ворагам, яшчэ цясней згуртавацца вакол нашай роднай вялікай комуністычнай партыі, партыі Леніна—Сталіна, вакол любімага, мудрага нашага роднага Сталіна».

Да канца знішчыць контррэволюцыйнае ахвосце, рашуча выкараніць ворагаў рабочага класа, узняць рэволюцыйную пільнасць і непрымірымасць у барацьбе з класавым ворагам, падзесяцярыць энергію ва ўсёй нашай рабоце—гэтыя патрабаванні мільёнаў ўвасашчоны ў рашэннях з'езда Советаў. .

Пад сцягам партыі Леніна—Сталіна, згуртаваныя як ніколі вакол ленінскага Цэнтральнага Камітэта і вялікага правадыра рабочых і сялян тав. **Сталіна,** пролетарыі і калгаснікі Беларусі ідуць к новым, слаўным баям і перамогам.

**А. І. Дзьякаў**

# З гісторыі выбараў у Советы

## (1905—1917 гг.)

Па ўсёй соцыялістычнай краіне толькі што закончыліся перавыбары Советаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Перавыбары Советаў ярка прадэманстравалі перамогу соцыялізма ў нашай краіне, сілу і магутнасць соцыялістычнай радзімы, адданасць усіх працоўных справе соцыялізма і жалезную згуртаванасць іх вакол комуністычнай партыі і яе правадыра—вялікага **Сталіна.**

Нечуваных перамог дабілася Краіна Советаў за 17 год свайго існавання.

На аснове дыктатуры пролетарыята, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з былой адсталай Расіі ператварыўся ў краіну магутнай індустрыі, высокай тэхнікі, навукі, культуры. СССР вырас і ўмацаваўся як непераможная крэпасць соцыялізма.

Па аб'ёму прамысловай вытворчасці СССР за перыяд з 1930 г. па 1934 г. высунуўся з чацвертага на трэцяе месца ў свеце і на другое **месца** ў Еўропе.

> «Пры гэтым па аб'ёму прадукцыі машынабудаўніцтва Совецкі Саюз з трэцяга месца ў Еўропе і чацвертага ў свеце высунуўся на першае месца ў Еўропе і другое ў свеце; па выпрацоўцы электраэнергіі—з 9-га месца ў свеце і 5-га ў Еўропе на 2-ое месца ў Еўропе і 3-е месца ў свеце; па здабычы каменнага вугалю—з 4-га месца ў Еўропе на 3-е месца; па выплаўцы чыгуна—з 5-га месца ў свеце і 4-га ў Еўропе на 3-е месца ў свеце і 2-е ў Еўропе; па вытворчасці трактароў—з 3-га месца ў свеце і 2-га ў Еўропе на 2-е месца ў свеце і 1-е ў Еўропе і т. д.» (**Куйбышэў**. Даклад на 3 Маскоўскім абласным з'ездзе Советаў, «Правда» ад 12 студзеня 1935 г.).

Пераможна выканаўшы ў чатыры гады план вялікіх работ першай пяцігодкі, Краіна Советаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе геніяльнага правадыра т. Сталіна паспяхова выканала, а па раду галін і перавыканала велізарнейшыя заданні першых двух гадоў другога пяцігадовага плана. Мы не толькі стварылі сваю ўласную тэхнічную базу, але ўжо дасягнулі агромнейшых поспехаў у справе тэхнічнага пераўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Краіна Советаў ператварылася ў краіну самага перадавога буйнага соцыялістычнага земляробства. Мы завяршылі ў асноўным перавод

шматмільённых дробных распыленых сялянскіх гаспадарак на калгасны шлях, мы дасягнулі ўжо значных поспехаў у арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і падвядзенні пад сельскую гаспадарку магутнай тэхнічнай базы. На гэтай соцыялістычнай аснове ёсць ужо значныя поспехі ў справе барацьбы за ператварэнне ўсіх калгаснікаў у заможных. Рабочы клас, калгаснікі і ўсе працоўныя прышлі к VII Усесаюзнаму з'езду Советаў з нечуванымі, велізарнейшымі перамогамі.

Толькі што закончыў сваю работу XI Усебеларускі з'езд Советаў. З'езд з'явіўся магутнай дэманстрацыяй сілы пераможцаў, рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных, дабіўшыхся пад кіраўніцтвам КП(б)Б гіганцкіх поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. З краіны адсталай, цёмнай, некультурнай, няграматнай, з былой калоніі рускага самаўладства Беларусь, на аснове дыктатуры пролетарыята, на аснове ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і ўсямернай дапамогі Совецкага саюза, ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную соцыялістычную рэспубліку вялікага СССР, у краіну суцэльнай граматнасці і высокага росквіту соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме культуры.

Гэтыя агромныя перамогі дасягнуты ў бязлітаснай барацьбе з класавымі ворагамі і іх агентурай унутры партыі, у бязлітаснай барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, з правым апартунізмам, з контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам, рускім вялікадзяржаўным шавінізмам, шавінізмам яўрэйскім, польскім і інш.

Сакрушальнаю сілай партыі і ўсяго рабочага класа класавы вораг і яго агентура разбіты. Перамагла генеральная лінія партыі, лінія Леніна-Сталіна, перамог ленінізм.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе ВКП(б) гаварыў:

> «Перамагла палітыка індустрыялізацыі краіны. Яе рэзультаты для ўсіх цяпер відавочны. Чым можна пярэчыць супроць гэтага факта?
>
> Перамагла палітыка ліквідацыі кулацтва і суцэльнай калектывізацыі. Яе рэзультаты таксама відавочны для ўсіх. Чым можна пярэчыць супроць гэтага факта?
>
> Даказана на вопыце нашай краіны, што перамога соцыялізма ў адной, асобна ўзятай краіне—упаўне магчыма. Чым можна пярэчыць супроць гэтага факта?
>
> Відавочна, што ўсе гэтыя поспехі і, перш за ўсё, перамога пяцігодкі канчаткова дэмаралізавалі і разбілі ўпрах усе і ўсякія антыленінскія групоўкі.
>
> Трэба прызнаць, што партыя згуртавана цяпер у адно, як ніколі раней».

Аднак, астаткі класавых ворагаў з узмоцненай сілай прадаўжаюць весці сваю контррэволюцыйную работу.

Разбітае на галаву ахвосце лакеяў буржуазіі, трацкістаў і зіноўеўцаў ператварылася ў перадавы атрад фашысцкіх наймітаў, белабандытаў. У звярынай ненавісці і злосці супроць пераможнага руху соцыялізма подлае атрэп'е контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай групы ператварылася ў белагвардзейскіх бандытаў, паставіўшы сабе мэтай, шляхам індывідуальнага тэрора супроць правадыроў партыі і рабочага класа, дабіцца правядзення ў жыццё контррэволюцый-

най трацкісцка-зіноўеўскай платформы—рэстаўрацыі капіталізма. Яны з-за вугла забілі лепшага сына нашай соцыялістычнай радзімы, саратніка вялікага Сталіна—С. М. Кірава.

Бязлітасная барацьба супроць усіх ворагаў партыі і рабочага класа, яшчэ большае павышэнне пільнасці ўсіх працоўных да пропшукаў класавага ворага, выкрыццё і канчатковае зніштажэнне ўсіх яўных і скрытых ворагаў пролетарскай дыктатуры, павышэнне рэволюцыйнай пільнасці, палепшанне якасці большэвіцкай работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва—вось наша першачарговая задача.

Соцыялізм перамог і ў горадзе, і ў вёсцы. Працоўныя масы пад кіраўніцтвам ВКП(б) паспяхова ажыццяўляюць пастаўленыя 17 партканферэнцыяй і XVII з'ездам партыі задачы канчатковай ліквідацыі капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнага зніштажэння прычын, якія параджаюць класавае адрозненне і эксплаатацыю, пераадалення перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэння ўсіх працоўных краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Пад лозунгам далейшай гераічнай барацьбы за выкананне праграмы правадыра ўсіх працоўных т. Сталіна, данай ім у дакладзе на XVII з'ездзе партыі, прашлі перавыбары Советаў у 1934 годзе.

Дасягнутыя намі велізарнейшыя поспехі і агромнай важнасці задачы, якія мы ставім цяпер парад сабой, падрыхтоўваліся цяжкай і непахіснай барацьбой за заваёву і замацаванне дыктатуры пролетарыята, барацьбой, якую вяла партыя большэвікоў на чале з Леніным—Сталіным.

## I.

Совецкая выбарчая сістэма ўзнікла і развівалася на прынцыпова адметных ад буржуазнай сістэмы асновах і мае прынцыпова адметную ад яе сутнасць.

У жорсткіх класавых бойках за заваёву дыктатуры пролетарыята і яе замацаванне рабочы клас пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў стварыў сістэму выбараў у Советы. Паходжанне совецкай выбарчай сістэмы, непарыўна звязана з барацьбой пролетарыята за Советы, створаныя ўпершыню рэволюцыяй 1905 года ў Расіі. Багацейшы змест совецкай выбарчай сістэмы ўваходзіць сваімі карэннямі ў практыку выбараў Советаў 1905 і 1917 гг. Значыць, каб лепш зразумець сутнасць сістэмы выбараў у краіне пролетарскай дыктатуры, неабходна спыніцца на гістарычным вопыце выбараў у Советы, на практыцы выбараў на розных гістарычных этапах класавай барацьбы пролетарыята, абумовіўшай замацаванне і ператварэнне выбараў у стройную сістэму, выражаную ў асноўных законах пролетарскай дзяржавы.

Советы ўзніклі, як органы класавай барацьбы пролетарыята, як усеабдымныя масавыя арганізацыі працоўных, як органы паўстання, як зачаткавыя органы новай рэволюцыйнай улады, проціпаставіўшыя сябе ўладзе эксплаататараў. А гэта абумовіла сабой прынцыпова адметны характар выбараў у Советы ад выбараў у парламент—орган панавання буржуазіі.

Рэволюцыя 1905 г. у Расіі, будучы буржуазнай рэволюцыяй, накіраванай на звяржэнне самадзяржаўнага ладу і знішчэнне рэштак прыгонніцтва, «ломку старога сярэдневяковага землеўладання» **(Ленін)**,

«была разам з тым і пролетарскай, не толькі ў тым сэнсе, што пролетарыят быў кіруючай сілай, авангардам руху, але і ў тым сэнсе, што спецыфічна пролетарскі сродак барацьбы, іменна стачка, прадстаўляў галоўны сродак раскачвання мас і найбольш характэрную з'яву ў хвалепадобным нарастанні рашаючых падзей» (**Ленін**, т. XIX, стар. 345).

Руская буржуазія перад тварам рэволюцыйнага руху пролетарыята выступала як саюзнік самадзяржаўна-памешчыцкай контррэволюцыі. У страху перад пролетарыятам яна не толькі не ставіла сабе мэтай рэволюцыйнае звяржэнне манархіі, але ўсяляк уніжалася перад самадзяржаўем, зрошчваючыся з ім і яго падтрымліваючы.

Авангардам руху, яго кіруючай сілай з'яўляўся пролетарыят, узяўшы пад сваё кіраўніцтва шматлікія сялянскія масы. Пролетарыят, выступаючы як гегемон рэволюцыі, меў у якасці свайго авангарда, кіруючай і накіроўваючай сілы, партыю большэвікоў на чале з Леніным. Большэвіцкая партыя была той адзінай партыяй пролетарыята, якая, выкрываючы меншавікоў, эсэраў, трацкістаў і іншых прыслужнікаў буржуазіі, ведучы з імі непрымірымую барацьбу, змагалася за рэволюцыйны шлях развіцця Расіі, за поўнае, рэволюцыйным шляхам, знішчэнне феадальных парадкаў, за расчыстку шляху к пераходу ад гэтай рэволюцыі к рэволюцыі соцыялістычнай.

У рэволюцыі 1905 года «адсталая Расія пад уплывам раду зусім своеасаблівых гістарычных умоў першая паказала свету не толькі скачкаваты рост самадзейнасці прыгнечаных мас у час рэволюцыі (гэта бывала ва ўсіх вялікіх рэволюцыях), але і значэнне пролетарыята больш высокае, чым яго доля ў насельніцтве, спалучэнне эканамічнай і палітычнай стачкі з ператварэннем апошняй ва ўзброенае паўстанне, нараджэнне новай формы класавай барацьбы і масавай арганізацыі прыгнечаных класаў—Советаў» (**Ленін**, т. XXV, стар. 227).

Узнікненне Советаў было абумоўлена непасрэднай масавай рэволюцыйнай барацьбою пролетарыята, выцякала з насутных патрэбнасцей гэтай барацьбы. Задача непасрэднага штурму дваранска-памешчыцкага ладу, неабходнасць замацавання саюза рабочага класа з сялянствам, арганізацыі на месца манархічнай улады рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства,—усё гэта абумовіла гістарычную неабходнасць у гэтых новых арганізацыях—Советах.

Ленін пісаў:

«Совет вырас з патрэбнасцей **непасрэднай** масавай барацьбы, як орган яе. Гэта факт. Толькі гэты факт растлумачвае нам **своеасаблівую** ролю і сапраўднае значэнне Совета. Іменна на гэты факт указвае слова «баявы» у рэзалюцыі П. К.

Ствараць С. Р. Д. для анкет, для развіцця прафесіянальных саюзаў і інш. ніхто і не ўздумаў-бы. **Ствараць Советы, значыць ствараць органы непасрэднай масавай барацьбы пролетарыята.** Такія органы нельга ствараць у любы момант, тады як прафесіянальныя саюзы і палітычныя партыі неабходны **заўсёды і, безумоўна,** могуць і павінны быць ствараемы пры ўсякіх умовах» (**Ленін**, т. VII, стар. 332).

Ленін ускрыў сусветна-гістарычнае значэнне Советаў, іменна як органаў рэволюцыйнай улады і ўзброенага паўстання.

Большэвіцкая партыя на чале з Леніным, ведучы непрымірымую барацьбу з меншавікамі, з трацкістамі, адстойвала іменна такі шлях развіцця Советаў. Меншавікі, трацкісты, бундаўцы і іншыя абаронцы буржуазіі выступалі за супрацоўніцтва з буржуазіяй, супроць гегемоніі пролетарыята, супроць устанаўлення дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства. Выходзячы са сваіх меншавіцкіх поглядаў на карэнныя пытанні рэволюцыі, яны ўсяляк спрабавалі прынізіць ролю Советаў, звесці іх к органам самакіраўніцтва. Троцкі, асноўваючыся на сваёй «тэорыі» перманентнай рэволюцыі, не верыў у сілы пролетарыята, не верыў у сілу Советаў, як органаў пераможнай пролетарскай барацьбы. Зразумела, што супроць стварэння советаў паўсталі з усёй заядласцю ўсе буржуазна-нацыяналістычныя арганізацыі (Бунд і інш.).

Ускрываючы ўсе гэтыя варожыя тэорыі, ведучы барацьбу з імі, большэвікі, выходзячы з маркса-ленінскага аналіза сутнасці і шляхоў рэволюцыі, яе рухаючых сіл, форм і метадаў барацьбы, указвалі на тую сусветна-гістарычную ролю Советаў, якую яны прызваны адыграць.

Ленін пісаў:

«Гэтыя органы ствараліся выключна **рэволюцыйнымі** слаямі насельніцтва, яны ствараліся па-за ўсякіх законаў і норм, усяцэла рэволюцыйным шляхам, як прадукт самабытнай народнай творчасці, як праява самадзейнасці народу, які пазбавіўся ці пазбаўляецца старых паліцэйскіх путаў. Гэта былі, нарэшце, іменна органы **улады**, не гледзячы на ўсю іх зачаткавасць, стыхійнасць, неаформленасць, расплыўчатасць у складзе і ў функцыянаванні. Яны дзейнічалі, як улада, захватваючы, напр., друкарні (Пецербург), арыштоўваючы чыноў паліцыі, якія перашкаджалі рэволюцыйнаму народу ажыццяўляць свае правы... Яны дзейнічалі, як улада, звяртаючыся да ўсяго народу з заклікам не даваць грошай старому ўраду. Яны канфіскоўвалі грошы старога ўрада (чыгуначныя стачачныя камітэты на поўдні) і абарачалі іх на патрэбы новага, народнага ўрада,—так, гэта былі, бясспрэчна, зародкі новага, народнага, ці, калі хочаце, рэволюцыйнага ўрада. Па свайму соцыяльна-палітычнаму характару, гэта была, у зачатку, дыктатура рэволюцыйных элементаў народу» (**Ленін**, т. IX, выд. 2, стар. 116—117).

Як органы рэволюцыйнай улады, Советы арганізоўвалі атрады рабочых дружыннікаў, рабочую міліцыю для барацьбы з чорнаю сотняй, імі правяраліся і браліся на ўлік запасы харчоў у хлебагандляроў, устанаўляліся хлебныя цэны, прадаваць вышэй якіх забаранялася гандлярам. Сталічныя Советы займалі вядучае становішча ў адносінах к Советам правінцыі. Яны пасылалі сваіх прадстаўнікоў у правінцыяльныя Советы з мэтай устанаўлення з імі пастаяннай арганічнай сувязі. Пролетарскія Советы горада імкнуліся ўзяць пад свой уплыў паўстаўшыя масы сялянства. Сяляне бачылі ў асобе рабочых сваіх кіраўнікоў. Яны звярталіся к пролетарскім Советам, к рабочаму класу, як к авангарднай сіле рэволюцыі.

«Мае таварышы,—гаварыў прадстаўнік сялян Сумскага павета на паседжанні Пецербургскага совета 5-га лістапада,—упаўнава-

жылі мяне падзякаваць вас за тое, што вы першыя 9 студзеня выступілі на абарону праў рускага народу. Яны даручылі мне таксама запытаць вас, ці не знойдзеце вы магчымым далучыць к стачцы і сялян Сумскага павета... Я прашу вас прыняць пад увагу, што недзе ў глыбіні Расіі ёсць людзі, якія змагаюцца за тое-ж, што і вы, і ў момант рашучага выступлення паведаміць нас, і мы ўсе далучымся да вас» («Гісторыя Совета раб. дэп.», стр. 126).

Дзейнасць Совета праходзіла ўваччу мас, адкрыта, масы бачылі і адчувалі, што выращаюць справы іх прадстаўнікі, такія-ж як і яны рабочыя. У Совет звярталіся са ўсякага роду просьбамі і справамі, са скаргамі на здзекавыя ўмовы эксплаатацыі з боку фабрыкантаў, беспрацоўныя звярталіся за дапамогаю атрымаць работу, іншыя хадайнічалі аб разводах, пахаваннях і т. п. У асобе Совета масы бачылі свой орган улады, проціпастаўлены ўладзе прыгнятальнікаў. Усё гэта, а таксама сістэма арганізацыі і дзейнасці Советаў (прастата выращэння спраў, выбарнасць, змяняемасць дэпутатаў, падсправаздачнасць іх выбаршчыкам) надавала Совету магутную сілу. Ён выступае, як орган улады.

У жаху перад гэтым уплывам і сілай Совета контррэволюцыя істэрычна патрабавала ад манархіі рашучых мер. Рэакцыйнае «Новое время» Суворына пісала:

«Расія не павінуецца законнаму ўраду і павінуецца ўраду самазванаму ці ўраду выбранаму саюзам. Ён (Совет раб. дэп.— А.Д.) мог-бы называцца саюзным рускім урадам. Яго ўстановы існуюць ва ўсёй Расіі, ва ўсіх кутках. Ён не губляе сваёй сувязі ні пры якіх стачках, ні палітычных, ні пры паштова-тэлеграфных. У той час, калі законны ўрад застаецца без чыгунак, пошты і тэлеграфаў, саюзны ўрад усім гэтым карыстаецца. У той час, калі законны ўрад не ведае, што робіцца ў Расіі, саюзны ўрад усё ведае і ўсе распараджэнні свае публікуе. Калі законны ўрад рассылае сакрэтныя цыркуляры ці друкуе сакрэтныя дакументы, саюзны ўрад апублікоўвае іх у сваіх рэволюцыйных органах».

Так сігналізавала манархічная газета «Новое время» аб той ролі, якую занялі Советы рабочых дэпутатаў.

Советы ўзніклі, як масавыя арганізацыі рэволюцыйнага народу, яны апіраліся на сілу гэтай узнятай на рэволюцыю масы працоўных. Падтрыманне і давер'е мас к Советам вынікала з самой сутнасці гэтых рэволюцыйных масавых арганізацый, ажыццяўляючых сваю дзейнасць на віду ў масы, уцягваючых у сваю работу працоўных.

«Нічога скрытага, нічога тайнага, ніякіх рэгламентаў, ніякіх фармальнасцей. Ты—рабочы чалавек? Ты хочаш змагацца за вызваленне Расіі ад горсткі паліцэйскіх насільнікаў? Ты—наш таварыш. Выбірай свайго дэпутата. Зараз-жа, неадкладна, выбірай, як лічыш зручным,—мы ахвотна і радасна прымем яго у поўнаправныя члены нашага Совета Рабочых Дэпутатаў, Сялянскага камітэта, Совета салдацкіх дэпутатаў і інш. і т. п. Гэта—улада, адкрытая для ўсіх, якая робіць усё на віду у масы, даступная масе, выходзячая непасрэдна ад масы, прамы і непасрэдны орган народнай масы і яе волі. Такава была

новая ўлада, ці, вярней, яе зачаткі, бо перамога старой улады затаптала парасткі маладой расліны вельмі рана» (**Ленін**, т. IX, выд. 2, стар. 117—118).

Советы 1905 года з'яўляліся непасрэднымі органамі працоўных, імі выбіраліся, ім падпарадкваліся. Рабочыя фабрык, заводаў, салдаты вайсковых часцей, вучні на сваіх сходах выбіралі дэпутатаў у Совет. Выбіралі сваіх лепшых прадстаўнікоў, адданых справе рэволюцыі, здольных ісці на чале барацьбы за звяржэнне старога ладу. Выбаршчыкі—уся маса працоўных без розніцы полу, нацыянальнасці і т. п. Раз ты працоўны, ты выбіраеш і можаш быць выбраным. Выбары дэпутатаў і ўся дзейнасць Совета праходзіла ва ўмовах жорсткай барацьбы з манархіяй, ва ўмовах бязлітаснага праследвання і расправы з боку царскіх башыбузукаў, паліцэйскіх і казакаў. Выбаршчыкі і выбраныя ў Совет дэпутаты ў любы момант маглі аказацца і часта аказваліся афярай гэтай расправы.

Але гэта не толькі не спыняла барацьбы, а наадварот—надавала яшчэ большую сілу, згуртоўвала рады рабочага класа, выклікала яшчэ большую рашучасць і смеласць. Дэпутат Совета, за якім стаяла ўся рабочая маса, ішоў смела на выкананне даручанай яму справы, ішоў з усведамленнем свайго абавязку і той вялікай адказнасці перад выбаршчыкамі, якую яны на яго ўскладалі і якую ён павінен быў апраўдаць ва што-б там ні стала, хоць-бы прышлося загінуць на рэволюцыйным пасту.

Былы член Пецербургскага Совета 1905 года, выбраны рабочымі завода Озолінга, Алексей Піскароў, у сваіх успамінах піша:

> «Рабочыя дэпутаты пранікаліся выключнай дзелавітасцю і сур'ёзнасцю, рыхтаваліся да свайго роду геройскага ўчынку, на які пайшлі, згадзіўшыся быць дэпутатамі. Ні дэпутаты, ні выбаршчыкі ніколі не сумняваліся, што ў любы момант дэпутат можа аказацца афярай буйнай паліцэйскай расправы, узоры якой былі занадта блізкі і яркі ў памяці кожнага. Такое становішча не магло не ўзмацніць аўтарытэтнасці дэпутата і выкавала ў рабочай масе ўпершыню ясна адчуваемую дысцыпліну» (**П. Ф. Кудзелі і Шыдлоўскі**, 1905 г. «Успаміны членаў СПБ Совета Раб. Дэп.»—стар. 19—30).

Выбаршчыкі і дэпутаты—непасрэдныя ўдзельнікі рэволюцыі, яе байцы. Дэпутаты—гэта лепшыя прадстаўнікі працоўных, адбіраемыя і вылучаемыя самой рэволюцыяй, здольныя ісці наперад і весці за сабою другіх па рэволюцыйнаму шляху за пролетарскую справу. І хто аказваўся няздольным выканаць гэтую адказную ролю, не апраўдаў давер'я працоўных, той неадкладна адклікаўся з ліку дэпутатаў. У выбарах у Советы з самага пачатку не было і не магло быць нічога скрытага, ніякай падтасоўкі, ніякага ашуканства, подкупу—гэтых якасцей, уласцівых буржуазным выбарам. Выбаршчыкі ўжо ў 1905 годзе, іменна таму, што Советы, як арганізацыі працоўных, заклікана выконваць іх волю, давалі наказы дэпутатам, кантралявалі і правяралі іх работу, адзывалі тых дэпутатаў, якія не апраўдвалі іх давер'я. Рабочыя з захапляючым інтарэсам слухалі даклады сваіх дэпутатаў аб паседжаннях Совета, уносілі свае прапановы, выстаўлялі патрабаванні, давалі праз дэпутатаў указанні, як лепш выканаць Совету тую ці іншую задачу рэволюцыйнай барацьбы.

Нічым іншым, як імкненнем актыўна ўдзельнічаць праз свайго прадстаўніка ў той барацьбе, якую вядзе Совет, тлумачацца шматлікія факты запытанняў з боку рабочых сходаў у Совет аб тым, як працуе іх дэпутат. Напрыклад, рабочыя Пецербургскага порта запытвалі Совет, ці наведваюць іх дэпутаты ўсе паседжанні Совета і ці паведамлялі яны Совету аб зволеных з вытворчасці рабочых. Рабочыя фабрыкі Гаеўскага пісалі, што яны «ў інтарэсах рабочай справы знашлі патрэбным змяніць свайго дэпутата і выбралі новага». Цэлы рад іншых фабрык і заводаў перавыбіралі сваіх дэпутатаў. Дэпутаты рабілі справаздачы на паседжаннях Совета аб ходзе стачкі на заводах і інфармавалі Совет аб настроях рабочых, іх патрабаваннях і прапановах. Такім чынам праз дэпутата рабочыя былі звязаны з Советам і Совет з рабочымі.

> «На ўсіх заводах і ў прафесіянальных саюзах,—піша Б. Радзін,—рабочая маса ўважліва сачыла за дзейнасцю Совета. Яна сама кантралявала работу сваіх абраных. Яна рэгулярна збіралася на мітынгі для заслухвання справаздач аб паседжаннях свайго прадстаўнічага органа і нярэдка дыктавала сваю волю прыняццем рэзалюцый, патрабуючых тых ці іншых крокаў і т. д. Выбарчы сход быў апошняй арганізацыйнай базай Совета, і толькі дзякуючы пастаяннай сувязі з ім Совет так верна адлюстроўваў настрой пецербургскіх рабочых. Не гледзячы на тое, што фармальных імператыўных мандатаў не было, дэпутат адчуваў сябе заўсёды звязаным настроем і воляй сваіх выбаршчыкаў. Часта на паседжаннях прыходзілася слухаць ад дэпутатаў заявы: хоць я думаю вось так, але наш завод адносіцца к пытанням зусім інакш, а таму я, як выбраная асоба, павінен галасаваць, лічачыся з думкай сваіх давярыцеляў. Такім чынам, у вырашэнні пытанняў Совета прымаў удзел увесь пецербургскі пролетарыят» (**Б. Радзін.** «Першы Совет раб. Дэп.», СПБ. 1906 г., стар. 11—12).

Такім чынам, удзел працоўных мас у рабоце Советаў, пастаянная сувязь дэпутатаў з выбаршчыкамі, справаздачнасць і змяняемасць дэпутатаў, наказы дэпутатам і т. д.—усе гэтыя асноўныя прынцыпы савецкай выбарчай сістэмы, абумоўленыя самой сутнасцю і задачамі Советаў, былі пакладзены ў аснову выбараў Советаў у 1905 годзе. Іменна задачамі барацьбы, той роллю, якая ўскладалася на Советы, вызначаліся выбары па вытворчых адзінках. Выбіралі дэпутатаў на фабрыках, заводах, у вайсковых часцях і т. п. Калектыў рабочых ва ўмовах капіталізма быў аб'яднаны і звязаны на прадпрыемствах агульнымі ўмовамі вытворчасці і штодзеннай барацьбы з эксплаататарамі.

Советы ўзніклі як органы не паасобных груп працоўных, а як арганізацыі, абараняючыя інтарэсы прыгнечаных і эксплаатуемых супроць прыгнятальнікаў.

Пецербургскі Совет, па настаянню рабочых дэпутатаў, не дапусціў прадстаўніцтва анархістаў у Совеце, матывуючы тым, што анархісты «адмаўляюць палітычную барацьбу, як сродак вызвалення пролетарыята». Гэта мерапрыемства Совета сведчыць аб сіле ўплыву і поспеху кіраўніцтва бальшэвікоў, змагаўшыхся за Совет іменна як за баявую арганізацыю, а не як арганізацыю «нейтральную»,

«беспартыйную», яднаючую ўсе дэмакратычныя элементы, да чаго спрабавалі яе звесці меншавікі і Троцкі.

Ленін у сваім артыкуле «Социялізм і анархізм» з гэтага поваду пісаў:

«Мы лічым рашэнне Выканаўчага Камітэта ў вышэйшай ступені правільным крокам, які мае агромнае і прынцыповае і практычна-палітычнае значэнне. Вядома, калі-б разглядаць Совет Рабочых Дэпутатаў, як парламент рабочых ці як орган самакіраўніцтва пролетарыята, тады адмаўленне дапусціць анархістаў было-б няправільна...

Рашэнне Выканаўчага Камітэта здаецца нам упаўне правільным і ніколькі не пярэчачым задачам гэтай установы, яе характару і складу. Совет Рабочых Дэпутатаў не рабочы парламент і не орган пролетарскага самакіраўніцтва, наогул не орган самакіраўніцтва, а баявая арганізацыя для дасягнення пэўных мэт» (**Ленін,** т. VII, ч. I, стар. 38—39).

Гэтымі класавымі задачамі Совета, яго ролю і месцам у рэволюцыі абумоўлівалася недапушчэнне на паседжанне Пецербургскага совета прадстаўнікоў рэакцыйных газет, недапушчэнне паліцэйскіх чыноў, а таксама ўдаленне з паседжанняў Совета выкрытых рабочымі дэпутатамі правакатараў. На паседжанні Совета 15 кастрычніка сярод дэпутатаў ад фабрыкі Макевеля аказаўся нехта Фамін, на якога рабочыя ўказалі, як на правакатара, выдаўшага паліцыі рэволюцыянераў. І гэты ўскрыты правакатар пад выгукі—«Іуда», «здраднік» быў неадкладна выгнан з паседжання.

Гэтыя факты сведчаць аб тым значэнні Совета, якое яму адразу надалі рабочыя масы. Гэта—не «агульнанародны» парламент, а арганізацыя, выступіўшая адкрыта, як класавая, як арганізацыя працоўных. Удаленне контррэволюцыйных элементаў з Совета, недапушчэнне варожых працоўным асоб падкрэслівае тое, што адразу-ж пры ўзнікненні Советаў пролетарыят змагаўся за права выбараў і за права выбіраць у іх толькі працоўных. Сама назва—Совет рабочых дэпутатаў, Салдацкіх дэпутатаў, Сялянскіх дэпутатаў—не выдумка габінетных вынаходцаў, а прадукт творчасці самой масы, якая вызначала сутнасць Советаў, як класавых органаў эксплаатуемых і прыгнечаных мас.

У склад Пецербургскага Совета 1905 года ўваходзілі прадстаўнікі 147 фабрык і заводаў, 34 майстэрань і 16 профсаюзаў. Агульная колькасць дэпутатаў даходзіла да 592 чалавек. Па асобных галінах вытворчасці дэпутаты Совета размяркоўваліся наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Рабочых металістаў | 361 чал. |
| „ друку і папяровай вытворчасці | 52 „ |
| „ прадпрыемстваў па выпрацоўцы валакняных матэрый | 57 „ |
| „ прадпрыемстваў па апрацоўцы драўніны | 23 „ |
| „ гумовай і скуранай прамысловасці | 15 „ |
| „ табачнай прамысловасці | 13 „ |
| „ цукеркавых фабрык | 7 „ |
| „ асвятляльных прадпрыемстваў | 7 „ |
| „ хімічнай прамысловасці | 9 „ |

| | | |
|---|---|---|
| Рабочых вытворчасці выбуховых матэрый | 11 | чал. |
| „ шклянай прамысловасці | 3 | „ |
| „ швейнай прамысловасці | 2 | „ |
| „ гадзіннікавай і ювелірнай вытворчасці | 2 | „ |
| „ пуці і сродкаў зносін | 11 | „ |
| Служачых гандлёвых устаноў | 12 | „ |
| Канторскіх служачых | 7 | „ |

З гэтай разбіўкі дэпутатаў па прафесіях мы бачым, што склад Пецербургскага Совета 1905 года быў амаль выключна рабочым, прычым пераважалі рабочыя металісты—найбольш загартаваная, перадавая частка пролетарыята.

Советы 1905 года былі ўвасабленнем зачаткавай формы рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства. Советы аб'ядналі пролетарыят і рэволюцыйныя масы сялянства пры гегемоніі рабочага класа. Супроць саюза рабочага класа з сялянствам абрушваліся меншавікі, троцкісты. Не верачы ў сілы пролетарыята і яго здольнасць павесці за сабою сялянства, Троцкі разглядаў саюз рабочага класа з сялянствам як «палітычнае самаабмежаванне пролетарыята».

> «Палітычнае самаабмежаванне пролетарыята прапануюць дапоўніць аб'ектыўнай антысоцыялістычнай «гарантыяй» у выглядзе супрацоўніка-мужыка» **(Троцкі**, «1905 год» выд. 3, стар. 283).

Меншавік Троцкі не бачыў асноўных рухаючых сіл рэволюцыі, не бачыў геніяльна ўскрытых Леніным асаблівасцей новай эпохі, у якіх праходзіла рэволюцыя 1905 года ў Расіі, абумовіўшых ролю пролетарыята як гегемона.

Ленінскай рэволюцыйнай стратэгіі і тактыцы, накіраванай на звяржэнне пролетарыятам разам з усім сялянствам рускага самадзяржаўя і на пераход ад гэтай рэволюцыі к рэволюцыі соцыялістычнай, Троцкі процівапаставіў меншавіцкую «тэорыю» перманентнай рэволюцыі. Тое, што Троцкі адмаўляў рэволюцыйнасць сялянства, бачыў у ім наскрозь рэакцыйную сілу, не верыў у сілу пролетарыята і яго здольнасць павесці за сабою сялянства,—усё гэта было па сутнасці няверʼем у пераможны рух рэволюцыі, адмаўленнем ад рэволюцыі, падтрыманнем кадэтаў. Не выпадкова было і тое, што меншавіцкія лідэры і Троцкі паслалі ў Пецербургскую гарадскую думу, к айцам горада дэлегацыю з петыцыяй ад імя Пецербургскага Совета. Нядзіва таксама, што Троцкі, як і меншавікі, бачыў у Совеце «нейтральную» арганізацыю, куды могуць уваходзіць усе і якую ён процістаўляў партыі, адмаўляючы якую-б там ні было яе ролю.

Адмаўленне ролі партыі, адстойванне стыхійнасці рэволюцыйнага руху, адкрытае выступленне наконт неабходнасці затрымаць падрыхтоўку мас да рашучай схваткі з царызмам, ігнараванне няўхільнасці ўзброенага паўстання, разглядаючы ўзброенае паўстанне як тэхнічны момант і не абавязковы для рэволюцыі, адмаўленне ролі Совета, як органа ўзброенага паўстання, і пры гэтым пустазвонства і траскатня аб тым, што «пролетарыят узарве ў паветра існуючую ўладу»,—вось паводзіны Троцкага ў Пецербургскім совеце ў момант набліжэння рашучай барацьбы рэволюцыйных сіл з царскім самадзяржаўем.

Як-жа разглядаў ролю партыі і советаў Зіноўеў у 1905 г.? Советы, па яго думцы, арганізаваліся таму, што партыя не магла рабіць уплыў на рабочы клас, што яна не магла «ўключыць у рамкі сваёй арганізацыі ўсіх, стаўшых на барацьбу рабочых» (**Зіноўеў**, 1905 г., стар. 15).

Мы бачым тут закончаную меншавіцкую пазіцыю ў Зіноўева ў адносінах поглядаў на ролю партыі, ролю і месца Советаў. Зіноўеў у духу меншавіцкіх поглядаў на Советы і партыю адмаўляе сілу і здольнасць партыі ў кіраўніцтве рэволюцыйным рухам, разглядае партыю як арганізацыю, якая павінна растварыцца ў масах. Зіноўеў, як і меншавікі, стаіць на пункце погляду ліквідацыі партыі і перадачы кіраўніцтва рабочым рухам буржуазіі. І не выпадкова, што Зіноўевым быў потым высунут тэзіс—дыктатура партыі замест дыктатуры пролетарыята, тэзіс, які атаесамляе партыю і клас, вядзе да адрыву партыі ад шырокіх працоўных мас, да ліквідацыі дыктатуры пролетарыята.

Меншавіцкае нутро Зіноўева ў 1905 годзе вышла напаверх ў 1917 годзе, калі ён і Каменеў выступілі як адкрытыя абаронцы буржуазнага ладу, як адкрытыя штрэйкбрэхеры. Гэтае меншавіцкае нутро яшчэ ярчэй сказалася ва ўсёй далейшай іх барацьбе супроць партыі і будаўніцтва соцыялізма, прывёўшы іх у лагер контррэволюцыі і белагвардзейшчыны.

Скаціўшыся на меншавіцкія пазіцыі, Плеханаў спалохаўся рэволюцыі, якая набыла нябачаныя ў гісторыі размеры і формы барацьбы. Ацэнка советаў Плеханавым не адрознівалася ад той ацэнкі, якую давалі ім меншавікі. Толькі большэвіцкая партыя на чале з Леніным, на аснове правільнага аналіза сутнасці супярэчнасцей і змагаючыхся сіл, правільна вызначала шляхі рэволюцыі, яе мэты, задачы, рухаючыя сілы.

Пролетарыят, далучаючы да сябе сялянства, павінен да канца зніштожыць манархію і феадальныя парадкі. Але гэта рэволюцыя ёсць этап к вырашэнню новай вышэйшай задачы—пераход к соцыялістычнай рэволюцыі. Рэволюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пролетарыята і сялянства Ленін вызначыў як пераходную форму, мінулае якой—барацьба з самадзяржаўем і прыгонніцтвам, а будучае—«барацьба супроць прыватнай уласнасці, барацьба наёмнага рабочага з гаспадаром, барацьба за соцыялізм» (**Ленін**), перарастанне яе ў дыктатуру пролетарыята.

> «Як у 1905 г., так і ў 1915 г., Ленін аднолькава зыходзіў з таго, што рэволюцыя буржуазная павінна перарасці ў Расіі ў рэволюцыю соцыялістычную, што перамога буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў Расіі з'яўляецца першым этапам рускай рэволюцыі, неабходным для таго, каб перайсці безадкладна к другому яе этапу, к рэволюцыі соцыялістычнай» (**Сталін**. Стэнаграфічная справаздача 15-ай партканферэнцыі, стар. 732).

Рэволюцыю 1905 года Ленін (большэвікі) разглядаў іменна як першы этап на шляху да соцыялістычнай рэволюцыі. У барацьбе з меншавікамі, Плеханавым і Троцкім за звяржэнне царызма і ўстанаўленне рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства Ленін высоўваў і адстойваў распрацаваны ім план перарастання

У верасні 1905 года Ленін пісаў:

«Ад рэволюцыі дэмакратычнай мы зараз-жа пачнем пераходзіць і якраз у меру нашай сілы, сілы свядомага і арганізаванага пролетарыята, пачнем пераходзіць да соцыялістычнай рэволюцыі. Мы стаім за безупынную рэволюцыю. Мы не спынімся на поўдарозе» (**Ленін**, т. VI, **выд.** 1, стар. 418).

У злобе і ненавісці к ленінізму трацкісцкія кантрабандысты—Слуцкі, Валасевіч, Рыўлін, Югаў і інш.—імкнуліся фальсіфікаваць гісторыю большэвіцкай партыі. Па-трацкісцку паклёпнічаючы на партыю, гэтыя людзі з бруднымі душонкамі спрабавалі даказаць, што Ленін зразумеў неабходнасць перарастання толькі пасля вайны. Кантрабанда трацкісцкіх фальсіфікатараў не ўдалася, яна была выкрыта тав. **Сталіным.**

Царызму ўдалося перамагчы, але рэволюцыя 1905 года з'явілася «генеральнай рэпетыцыяй» рэволюцыі 1917 г.

Новыя арганізацыйныя формы руху, ахапіўшыя мільёны, новыя арганізацыйныя формы будучай пролетарскай улады высунула рэволюцыйная творчасць мас у 1905 г.

«Толькі дзякуючы Советам,—пісаў Ленін,—удалося ў Расіі тое, што не ўдавалася ні адной з еўрапейскіх рэволюцый: народ выставіў і даў апору сапраўднаму народнаму прадстаўніцтву» (т. XXII, стар. 98).

Выражэннем гэтага сапраўднага народнага прадстаўніцтва з'явілася практыка выбараў у Советы 1905 года. Яна замацоўвалася і развівалася пры новым узнікненні Советаў у 1917 годзе ў барацьбе за заваёву дыктатуры пролетарыята, у барацьбе за яе замацаванне пасля Окцябра.

Вопыт рэволюцыі 1905 года не прашоў бясследна. Рабочы клас Расіі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыіі выкарыстаў і развіў вопыт рэволюцыі 1905 года ва ўмовах новага, нязмерна больш высокага па размаху і сіле, этапа барацьбы ў 1917 годзе.

II.

Ускрываючы дыялектыку развіцця капіталізма ва ўмовах яго імперыялістычнай стадыі, выходзячы з аналіза заканамернасцей гістарычнага развіцця буржуазнага грамадства, Ленін вызначыў імперыялізм, як загніваючы, паміраючы капіталізм, як пярэдадзень соцыялізма. Абвастрыўшыяся супярэчнасці капіталізма і разгортванне класавай барацьбы пролетарыята з буржуазіяй на данай стадыі капіталізма набылі такую якасць, размеры і формы, што ў парадку дня стала пролетарская рэволюцыя.

Ленін адкрыў закон няроўнамернага развіцця капіталізма ў імперыялістычную эпоху і на аснове гэтага закона даказаў магчымасць прарыву пролетарыятам паасобных краін сусветнага фронта капіталізма, даказаў магчымасць перамогі соцыялізма ў некалькіх ці у адной, паасобна ўзятай, краіне.

У 1917 годзе Расія аказалася найбольш слабым звяном у ланцугу сусветнага фронта імперыялізма ў сілу таго, што яна заключала ў сабе вузел імперыялістычных супярэчнасцей, што ў ёй

«разгортвалася велізарнейшая народная рэволюцыя, на чале якой ішоў рэволюцыйны пролетарыят, які меў такога сур'ёзнага саюзніка, як шматмільённае сялянства, прыгнятаемае і эксплаатуемае памешчыкам» (**Сталін**, «Пытанні ленінізма», Партвыдавецтва, стар. 21).

Бязлітаснае прыгнечанне і эксплаатацыя рабочага класа, аграрнае пытанне, імперыялістычная вайна, абрушыўшая на рабочы клас і бядняцка-серадняцкія масы вёскі агромныя пакуты, гаспадарчая разруха—усё гэта набыло такі размах і вострасць, што патрабаванне вырашыць гэтыя пытанні паўстала з рашучаю сілай. Але ніводнай з гэтых супярэчнасцей не вырашыла і не магла вырашыць стаўшая на чале ўлады буржуазія. Яна не магла адабраць зямлю ў памешчыкаў і перадаць яе сялянству, бо гэтым нанесла-б удар не толькі прыватнай уласнасці памешчыка, але і капіталіста. Імперыялістычная вайна распачата была і вялася ў інтарэсах буржуазіі, а таму перасеўшыя на царскае крэсла Радзянкі, Мілюковы, Тэрэшчанкі і Гучковы здрадзілі-б свайму класу, калі-б адмовіліся прадаўжаць да пераможнага канца гэтую крывавую бойню.

Адразу пасля Лютаўскай рэволюцыі асабліва рэзка стала ўскрывацца супярэчнасць паміж інтарэсамі стаўшага на чале ўлады класа буржуазіі і задачамі, пастаўленымі ў парадку дня працоўнымі масамі горада і вёскі. Буржуазія не магла зрабіць ні кроку ўперад па шляху вырашэння гэтых задач. Яна імкнулася суняць рэволюцыйны рух узняўшыхся мільённых мас, затрымаць развіццё рэволюцыі, аднак не здолела гэтага зрабіць. Рэволюцыя ішла ўперад, патрабавала перадачы ўлады ў рукі новага класа, здольнага вывесці працоўныя масы з крывавай імперыялістычнай вайны, зніштожыць эксплаатацыю, арганізаваць і рушыць уперад, на новых соцыялістычных асновах, гаспадарчае развіццё краіны.

Галоўная рухаючая сіла Лютаўскай рэволюцыі—рабочы клас, які выступаў, як гегемон, як кіраўнік, які вёў за сабою працоўныя масы сялянства, скарыстоўваючы і развіваючы вопыт 1905 года, пачаў ствараць свае органы ўлады, свае баявыя арганізацыі—советы рабочых, салдацкіх, сялянскіх дэпутатаў. Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя ў Расіі паставіла такім чынам на чале ўлады, з аднаго боку, буржуазію, а з другога—стварыла рэволюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пролетарыята і сялянства ў асобе Советаў. На справе, такім чынам, аказаліся побач дзве ўлады, дзве дыктатуры. Але доўгае існаванне двух улад у дзяржаве немагчыма, адна з іх павінна быць зніштожана. І буржуазія прыкладала ўсе сілы, каб зніштожыць рэволюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пролетарыята і сялянства.

На баку Советаў была сіла рэволюцыйнага народу, зніштожыць якую буржуазія не мела магчымасці. Таму яна на першы час паставіла сваёй задачай скарыстаць Советы, як апору для свайго ўмацавання, пасля чаго звесці іх на нішто і ўрэшце ліквідаваць зусім. Спачатку гэты манеўр удаўся буржуазіі. Пры дапамозе меншавікоў і эсэраў яна падтрымана была Советамі, якія сталі на шлях згодніцтва з Часовым урадам і абароны яго. Крыніцы гэтага згодніцтва Ленін бачыў у той дробна-буржуазнай хвалі, якая спачатку захапіла рух мас.

Напярэдадні красавіковай канферэнцыі 1917 года Ленін пісаў:

«Гіганцкая дробна-буржуазная хваля затапіла ўсё, падавіла свядомы пролетарыят не толькі сваёй колькасцю, але і ідэйна, г. зн. заразіла, захапіла вельмі шырокія колы рабочых дробна-буржуазнымі поглядамі на палітыку.

Дробная буржуазія ў жыцці залежыць ад буржуазіі, жывучы сама па-гаспадарску, а не па-пролетарску (у сэнсе **месца** ў грамадскай **вытворчасці)**, і ў вобразе мыслей яна ідзе за буржуазіяй. Даверчыва-несвядомыя адносіны к капіталістам, горшым ворагам міру і соцыялізма,—вось што характарызуе сучасную палітыку **мас** у Расіі, вось што **вырасла** з рэволюцыйнай быстрынёй на соцыяльна-эканамічнай глебе найбольш дробна-буржуазнай з усіх еўрапейскіх краін. Вось **класавая** аснова **«згоды»** (падкрэсліваю, што маю на ўвазе не столькі фармальную згоду, колькі **фактычнае** падтрыманне, маўклівую згоду, даверчыва-несвядомую ўступку ўлады) паміж Часовым урадам і Советам Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў,—згоды, даўшай Гучковым тлусты кусок, сапраўдную ўладу, а Совету—абяцанкі, пашану (да пары, да часу), лісліўасць, фразы, запэўніванні, расшарканні Керэнскіх.

Недастатковая колькасць пролетарыята ў Расіі, недастатковая свядомасць і арганізаванасць яго—вось другі бок той-жа медалі» (т. XIV, ч. 1, выд. 1, стар. 41—42).

Рэволюцыйныя падзеі, якія разгортваліся з неймавернай хуткасцю, ускрывалі ў вачах працоўных класавую сутнасць Часовага ўрада і абаронцаў буржуазіі, меншавікоў і эсэраў. Чым далей, тым больш масы пераконваліся, што ад Часовага ўрада чакаць палепшання іх становішча нельга. Яны пранікаліся, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, усведамленнем неабходнасці звяржэння буржуазіі і перадачы ўсёй паўнаты ўлады ў рукі Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

Стварэнне кааліцыйнага ўрада з капіталістаў, эсэраўскіх і меншавіцкіх совецкіх лідэраў па сутнасці было пераходам ад скрытага супрацоўніцтва згоднікаў з буржуазіяй, к супрацоўніцтву адкрытаму. А гэта паскорыла зжыццё ілюзій у асяроддзі працоўных.

Паскораны поступ рэволюцыі згуртоўваў контррэволюцыю і вымушаў яе, каб утрымаць сваё панаванне, прымаць усё больш адкрыта надзвычайныя меры барацьбы супроць рэволюцыйнага народу. Такім чынам стваралася ўсё большае і большае бяздонне паміж меншавіцка-эсэраўскімі лідэрамі Советаў і масай рабочых і салдат, якая рэволюцыянізавалася пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Растлумачальная работа большэвікоў на фабрыках, заводах, у вайсковых часцях, у вёсцы і на фронце ўзнімала і выхоўвала масы для барацьбы. Рэволюцыйныя рабочыя, салдаты, бяднейшае сялянства згуртоўваліся навокал большэвіцкай партыі. Узмацнялася і пашыралася большэвізацыя Советаў. Карнілаўскае паўстанне было спробай буйнай буржуазіі падавіць пры дапамозе ваеннага дыктатара нарастаючую рэволюцыю. Але гэта паўстанне абумовіла круты паварот падзей, які паскорыў падрыхтоўку мас к таму, каб пачаць узброенае паўстанне і пераможна завяршыць яго ўстанаўленнем дыктатуры пролетарыята.

Мы спыніліся ў самых кароткіх рысах на асноўных момантах Лютаўскай рэволюцыі, асноўных этапах барацьбы класавых сіл, каб

пасля гэтага перайсці к аналізу практыкі выбараў Советаў, паказаць ролю выбараў у класавай барацьбе пролетарыята ў гэты перыяд.

Выбары не ёсць нешта такое, што развіваецца само сабою, па-за барацьбою класаў. Змагаючыяся класы заўсёды падпарадкваюць выбары задачам гэтай барацьбы. Партыя большэвікоў скарыстоўвала выбары для растлумачэння задач, якія стаяць перад пролетарыятам, для выкрыцця і ўдалення з Советаў адкрытых і маскуючыхся ворагаў працоўных. Згоднікі спрабавалі скарыстаць выбары ў мэтах удалення з Советаў большэвікоў і наогул рэволюцыйна настроеных элементаў і запоўніць Советы буржуазнымі і дробнабуржуазнымі элементамі.

Пяройдзем да характарыстыкі самых выбараў у перыяд ад Лютага да Октября.

Заводы і вайсковыя часці на мітынгах выбіралі дэпутатаў у Совет. Ужо 27 лютага 1917 года пачаў сваю работу Пецербургскі Совет, выбраны рабочымі і рэволюцыйнай арміяй. Як і ў 1905 г., выбары адбываліся шляхам прамога адкрытага галасавання на рабочых і армейскіх сходах. Выбаршчыкамі з'яўляліся ўсе працоўныя без розніцы полу і нацыянальнасці. У стварэнні Советаў выключна агромную кіруючую работу праводзіла большэвіцкая партыя.

> «Па вопыту рэволюцыі 1905 года,—пісалася ў «Известиях Иваново-Вознесенского Совета СР и СД» № 3,—рабочыя быстра зразумелі, што трэба арганізавацца, трэба браць уладу ў свае рукі. Вырашана было 2 сакавіка скончыць работы і выходзіць на гарадскую плошчу, к будынку гарадской управы. А 12 гадзіне дня плошча была напоўнена рабочымі, усе стаялі ў недаўменні, нібы пытаючыся: для чаго мы прышлі? Але вось, нарэшце, прышла са сцягам мясцовая соцыял-дэмакратычная група, якая адкрыла мітынг... Тут-жа ўносіліся прапановы аб абранні Совета рабочых дэпутатаў ад фабрык і заводаў, па 2 чалавекі ад фабрыкі» («Арганізацыя і будаўніцтва Советаў у 1917 г.», Зб. дакументаў, пад рэдак. П. О. Горына).

Нормы прадстаўніцтва ў розных гарадах былі розныя. У Петраградзе—па аднаму дэпутату ад кожнай тысячы выбаршчыкаў, але прадпрыемствы, якія не налічвалі 1000 чал., мелі права таксама пасылаць аднаго дэпутата. У Маскве прадпрыемствы пасылалі аднаго дэпутата пры наяўнасці 400—500 чал., тыя-ж прадпрыемствы, якія мелі звыш 500 чал., пасылалі аднаго дэпутата ад кожных 500 чал., але не звыш 3-х дэпутатаў ад аднаго прадпрыемства. Прадпрыемствы з меншай колькасцю, чым 500, павінны былі для выбараў аб'яднацца.

У Екацерынбургу прадпрыемствы з колькасцю ад 500 да 100 чал. пасылалі аднаго дэпутата. У Саратаве—адзін дэпутат ад 50—100 чал., два дэпутаты ад 100—300 чал., тры дэпутаты ад 300 і вышэй. У Пензе—адзін дэпутат ад 15—100 чал., а затым—адзін дэпутат на кожную сотню. У Варонежы—ад 50 да 300 чал.—адзін дэпутат, больш дробныя прадпрыемствы павінны былі аб'яднацца. Выбарчымі ўчасткамі, як правіла, з'яўляліся фабрыкі, заводы, вайсковыя часці, установы і т. п.

Меншавіцка-эсэраўскія правадыры, якія стаялі на чале Советаў, імкнуліся к таму, каб усяляк абмежаваць склад пролетарыяў у Советах за лік пашырэння норм прадстаўніцтва для непролетарскіх

элементаў. Так, напрыклад, імі была ўстаноўлена норма прадстаўніцтва: адзін дэпутат ад 1000 чал. рабочых і адзін дэпутат ад роты. Увядзенне непрапарцыянальных выбараў было накіравана таксама к таму, каб умаліць ролю буйнейшых фабрык і заводаў і павялічыць удзельную вагу дробных прадпрыемстваў.

Ліберы, Даны, Цэрэтэлі, Чэрновы разлагалі Советы, робячы іх прыдаткам Часовага ўрада, зводзячы іх ролю к абароне інтарэсаў буржуазіі.

Захаваць усё па-старому, абараніць капіталістычную і памешчыцкую ўласнасць, не дапусціць барацьбы рабочых і сялян супроць капіталістычнага рабства,—іменна гэтым задачам меншавікі і эсэры імкнуліся падпарадкаваць дзейнасць Советаў, для гэтых мэт яны спрабавалі скарыстаць выбары.

Рэволюцыйныя рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам большэвікоў імкнуліся к аб'яднанню барацьбы ва ўсерасійскім маштабе, аб'яднанню і згуртаванню сіл рэволюцыі супроць сіл контррэволюцыі. У гэтых адносінах пролетарыят буйнейшых прамысловых цэнтраў выступаў той авангарднаю сілаю, вакол якой аб'ядналіся сілы правінцыі. Іменна ў сувязі з гэтым ужо ў сакавіку і красавіку 1917 г. пад уплывам саміх рэволюцыйных мас пачалі арганізоўвацца губернскія і абласныя нарады і канферэнцыі Советаў, на якіх ствараліся пастаянныя губернскія і абласныя выканаўчыя органы Советаў. Губернскія і абласныя аб'яднанні з'явіліся этапам к усерасійскаму аб'яднанню.

Гэтыя імкненні к аб'яднанню Советаў меншавікі і эсэры спрабавалі скарыстаць для таго, каб падпарадкваць сваёй згодніцкай палітыцы ўсе Советы краіны, каб усе Советы ў цэнтры і на месцах прывязаць к буржуазнай калясніцы і з адзінага цэнтра накіроўваць іх дзейнасць па шляху абароны Часовага ўрада, па шляху іх перараджэння, разлажэння, а ўрэшце—ліквідацыі.

29 сакавіка (11 красавіка) у Петраградзе была склікана Ўсерасійская нарада Советаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, ці, як яе называлі, «Нарада прадстаўнікоў ад розных Советаў Р. і СД Расіі», якая, па думцы меншавікоў і эсэраў, павінна была палажыць канец «самапраўству» на месцах. Гэтую мэту згоднікаў выразна і ясна ізлажыў меншавік Багданаў у сваім дакладзе па арганізацыйнаму пытанню:

> «Перш за ўсё,—гаварыў гэты гучкоўскі сакратар у Ваенна-прамысловым камітэце,—перад намі, задаўшыміся мэтай арганізаваць сілы рэволюцыі, паўстае пытанне аб тым, каго мы збіраемся арганізаваць; гэта пытанне надзвычай важнае (галасы:— Мы ведаем). Калі некаторыя таварышы гэта дасканала ведаюць, то ў кожным разе для многіх тут прысутных, відавочна, прыдзецца гэта пытанне паставіць у цэнтры сваёй увагі. Перш за ўсё перад намі паўстае такое пытанне: што такое зараз, у даны момант, мы—Советы Р. і СД? Мы—органы дэмакратыі... Але ў склад рэволюцыйнай дэмакратыі, відавочна, увaходзяць не толькі рабочыя, і не толькі салдаты,—відавочна, к рэволюцыйнай дэмакратыі адносіцца і сялянства, відавочна, к той-жа дэмакратыі адносяцца і іншыя элементы дэмакратыі, не прадстаўленыя ў гэтых трох групах, і, значыць, наша формула, што мы з'яўляемся органамі рэволюцыйнай дэмакратыі,

павінна будзе, напэўна у працэсе нашай работы некалькі пашырыцца, прыцягваючы ў склад Советаў Р. і СД. і іншыя грамадскія і дэмакратычныя элементы... Рэволюцыю зрабілі не толькі дэмакратычныя элементы, рэволюцыю зрабілі ў дастатковай ступені і элементы цэнзавыя» (Архіў Окцябр. рэв., 1917 г.).

Вось меншавіцка-эсэраўская праграма ў адносінах к Советам. Уцягнуць у Советы «цэнзавыя элементы», якія, моў, таксама рабілі рэволюцыю, адцягнуць Советы ад палітыкі і класавай барацьбы, бо, па думцы меншавіка, яны як «органы дэмакратыі перш за ўсё органы някласавыя, органы някласавай палітыкі і класавай барацьбы» (з дакладу Багданава), звесці ролю Советаў к ролі іншых арганізацый падобна Саюзу настаўнікаў і т. п., напоўніць гэтую рэволюцыйную форму, створаную пролетарыятам у 1905 годзе, замацаваную і развітую ў 1917 годзе, буржуазным зместам,—вось што ставілі перад сабою «рэволюцыянеры ад буржуазіі», меншавікі і эсэры. Тут не лішне ўспомніць пецербургскага гарадскога галаву, буйнейшага капіталіста Шрэйдэра, які гаварыў, што ён таксама не супроць Советаў, але яны павінны складацца з паноў земскіх дэпутатаў.

Чхеідзе і Брэшко-Брэшкоўская, Лібер і Чэрноў, Дан і Плеханаў паціскалі адзін аднаму рукі, віталі адзін другога, заклікаючы масу на барацьбу «як супроць унутранага ворага, так і супроць ворага знешняга» (**Плеханаў**. З выступлення на Ўсерасійскай нарадзе Советаў).

Але крот рэволюцыі рыў глебу не ў тым кірунку і не так, як гэтага хацелася-б абаронцам капіталізма, меншавікам і эсэрам. Пад кіраўніцтвам большэвікоў, адзінай рэволюцыйнай партыі пролетарыята, згуртоўваліся і загартоўваліся сілы рэволюцыі. Ход барацьбы рэволюцыйных мас у гарадах, у вёсцы і на фронце ўсё больш і больш знімаў маскі са згодніцкіх правадыроў, ускрываў іх сапраўднае буржуазнае нутро. Красавіковая дэманстрацыя, наперакор згоднікам, з'явілася першым буйнейшым паказчыкам руху рэволюцыі ў шырыню і глыбіню.

Усерасійская нарада Советаў, не гледзячы на пераважанне ў ёй меншавіцка-эсэраўскіх дэлегатаў, адыграла агромную ролю ў гісторыі будаўніцтва Советаў. Яна афарміла аб'яднанне Советаў у агульнадзяржаўным маштабе, на ёй было вынесена рашэнне аб аб'яднанні Советаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, аб уключэнні ў склад Советаў прадстаўнікоў сялянства і аб скліканні першага Ўсерасійскага з'езда Советаў. Распрацаваны былі наступныя нормы прадстаўніцтва на з'езд. Советы ад 25 тыс. да 50 тыс. выбаршчыкаў пасылаюць аднаго дэпутата, ад 50 да 75 тыс.—тры дэп., ад 75 да 100 тыс.,—чатыры дэп., ад 100 тыс. да 150 тыс.—пяць дэп., ад 150 да 200 тыс.—шэсць дэп., звыш 200 тысяч—восем дэп.

Меншавікі і эсэры праз з'езд Советаў спрабавалі ўмацаваць рэзка пахіснуўшаеся к ім давер'е мас, умацаваць дробна-буржуазныя ілюзіі ў асяроддзі рабочых і сялян у адносінах к Часоваму ўраду. Да гэтага прымушала іх тое, што ўсё больш і больш узрастаў і ўмацоўваўся аўтарытэт і ўплыў большэвікоў. Супроць іх згоднікі парашылі абрушыцца з усёю сілай, робячы спробу скарыстаць у якасці маральнага падтрымання з'езд Советаў. Вось чаму падбор дэлегатаў на з'езд, недапушчэнне большэвіцкіх прадстаўнікоў (Кіеў і інш гарады) былі пастаўлены ў цэнтры ўвагі прапаганды згоднікаў.

Большэвіцкая партыя ставіла задачай заваёву большасці ў Советах. Яна высунула лозунг перавыбараў Советаў, і ў выніку павялічваўся большэвіцкі склад у Советах. Паскорваўся працэс рэволюцыянізавання мас, павялічвалася бяздонне паміж меншавіцка-эсэраўскімі правадырамі і рэволюцыйнымі масамі рабочых і салдат. Падабраная згодніцкая большасць на з'ездзе не адлюстроўвала сапраўднага настрою рабочага класа і салдат, выступаўшых пад кіраўніцтвам Леніна (большэвікоў) на барацьбу з Часовым урадам і яго абаронцамі—меншавікамі і эсэрамі.

Большэвікі на чале з Леніным скарысталі з'езд для выкрыцця згоднікаў і растлумачэння масам класавай сутнасці буржуазнай улады, ролі і задач Советаў і неабходнасці барацьбы за пераход улады ў рукі Советаў. Першы з'езд Советаў не даў тых рэзультатаў, якіх чакалі ад яго згоднікі. Наадварот, дваццацідзенныя паседжанні з'езда яшчэ больш ускрывалі меншавіцка-эсэраўскіх правадыроў.

Рух мас, які разгортваўся ў гарадах, на фронце, у вёсцы, адкрыта процістаўляючы сябе Часоваму ўраду, сведчыў аб нарастанні і згуртоўванні сіл рэволюцыі. У жаху перад ростам уплыву большэвіцкай партыі, які ярка выявіўся ў ліпеньскія дні, меншавіцка-эсэраўскія Советы перадалі ўсю паўнату ўлады ў рукі контррэволюцыі. І калі да ліпеньскіх падзей большэвікі, выстаўляючы лозунг «Уся ўлада Советам», не выключалі магчымасці мірнага пераходу ўлады к Советам, то ліпень карэнным чынам змяніў абстаноўку:

> «Іменна, да 4 ліпеня,—пісаў Ленін,—лозунг пераходу ўсёй улады к даным тагочасным Советам быў адзіна правільным. Тады гэта было магчыма мірна, без грамадзянскай вайны, бо тады не было яшчэ сістэматычнага гвалту над масай, над народам, уведзенага пасля 4 ліпеня. Тады гэта забяспечвала мірнае развіццё ўперад усёй рэволюцыі і, у прыватнасці, магчымасць мірнага зжывання барацьбы класаў і партый унутры Советаў.
>
> Пасля 4 ліпеня пераход улады к Советам стаў немагчымым без грамадзянскай вайны, бо ўлада перашла з 4—5 ліпеня да ваеннай, банапартысцкай клікі, падтрыманай кадэтамі і чорнасоценцамі. Адсюль вынікае тое, што ўсе марксісты, усе старонікі рэволюцыйнага пролетарыята, усе чэсныя рэволюцыйныя дэмакраты павінны цяпер выясніць рабочым і сялянам карэнную перамену становішча, якая абумоўлівае іншы шлях пераходу ўлады к пролетарыям і паўпролетарыям» (**Ленін**, т. XXI, стар. 82).

Контррэволюцыя, падтрымліваемая меншавікамі і эсэрамі, перашла ў адкрытае наступленне на рабочы клас, яна абрушыла на яго юнкероў, казакаў, арыштоўвала большэвікоў, раззбройвала і расстрэльвала рабочых і салдат, граміла друкарні, у якіх друкаваліся большэвіцкія газеты, закрывала большэвіцкія газеты.

Буржуазія, падтрымліваемая згоднікамі, патрабавала раззбраення народу, вывадy рэволюцыйных войск з Петраграда і арганізоўвала траўлю і праследванне большэвікоў і Леніна.

Але рабочы клас і бяднейшае сялянства ўсё цясней згуртоўваецца вакол большэвіцкай партыі, адкрыта выступаючы супроць Часовага ўрада, меншавікоў і эсэраў. Цэлы рад правінцыяльных Советаў вы-

носяць большэвіцкія рэзалюцыі. Напрыклад, Краништадскі Совет заявіў у сваім рашэнні аб непрызнанні ім Часовага ўрада. Іванава-Вазнесенскі Совет у сваёй рэзалюцыі ад 26 ліпеня пісаў:

«Заслухаўшы даклад аб падзеях 3—4 ліпеня і аб іх выніках, Совет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў горада Іванава-Вазнесенска пастанавіў: 1) прызнаць сучасны момант небяспечным для рэволюцыі і заклікаць усе сапраўды рэволюцыйныя социялістычныя сілы к згуртаванню і рашучай барацьбе з контррэволюцыяй; 2) заклеймiць ганьбай спосаб барацьбы з партыяй пролетарыята, з партыяй с.-д. большэвікоў; 3) патрабаваць аслабанення ўсіх арыштаваных яе членаў; 4) пасдаць сваё палкае прывітанне слаўнаму правадыру рэволюцыйнага пролетарыята—тав. Леніну» (Архіў Окцябр. рэв. с. 180).

У чыіх руках знаходзіцца ўлада і куды вядуць меншавікі і эсэры—гэтыя пытанні на аснове растлумачальнай работы большэвікоў і вопыту самай барацьбы становяцца ўсё больш і больш зразумелымі для рэволюцыйных мас.

Карнілаўшчына яшчэ больш паскорыла працэс большэвізацыі Советаў, якія пад кіраўніцтвам большэвікоў бралі ініцыятыву барацьбы з контррэволюцыяй у свае рукі. Советы са згодніцкіх органаў пры панаванні ў іх меншавікоў і эсэраў ператвараліся ў органы рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята, у органы паўстання і ўлады пролетарыята пры кіраўніцтве імі большэвіцкай партыі. Вось чаму на гэтым этапе большэвікі ізноў выставілі лозунг «Уся ўлада Советам».

«Лозунг «Уся ўлада Советам»,—пісаў тав. Сталін,—з пункту погляду яго ўнутранага развіцця прашоў дзве стадыі, першую (да ліпеньскага паражэння большэвікоў, у час двоеўладдства) і другую (пасля паражэння карнілаўскага паўстання).

На першай стадыі гэты лозунг азначаў разрыў блока меншавікоў і эсэраў з кадэтамі, утварэнне совецкага ўрада з меншавікоў і эсэраў (бо советы былі тады эсэра-меншавіцкімі), права свабоднай агітацыі для апазіцыі (г. зн. для большэвікоў), і свабодную барацьбу партый унутры Советаў у разліку, што шляхам такой барацьбы удасца большэвікам заваяваць Советы і змяніць склад совецкага ўрада ў парадку мірнага развіцця рэволюцыі. Гэты план не азначаў, вядома, дыктатуры пролетарыята. Але ён бясспрэчна палягчаў падрыхтоўку ўмоў, неабходных для забяспечання дыктатуры, бо ён, ставячы на чале ўлады меншавікоў і эсэраў і вымушаючы іх правесці на справе сваю антырэволюцыйную платформу, паскараў выкрыццё сапраўднай прыроды гэтых партый, паскараў іх ізаляцыю, іх адрыў ад мас. Ліпеньскае паражэнне большэвікоў перарвала аднак гэта развіццё, даўшы перавагу генеральска-кадэцкай контррэволюцыі і адкінуўшы эсэра-меншавікоў у абдымкі апошняй. Гэта акалічнасць прымусіла партыю зняць часова з чаргі лозунг «Уся ўлада Советам» з тым, каб зноў выставіць яго ва ўмовах новага ўздыму рэволюцыі.

Паражэнне карнілаўскага паўстання адкрыла другую стадыю. Лозунг «Уся ўлада Советам» зноў стаў на чарзе. Але цяпер гэты лозунг азначаў ужо не тое, што на першай стадыі. Яго змест змяніўся карэнным чынам. Цяпер гэты лозунг азна-

чаў поўны разрыў з імперыялізмам і пераход улады к большэвікам, бо Советы ў сваёй большасці былі ўжо большэвіцкімі. Цяпер гэты лозунг азначаў прамы падыход рэволюцыі к дыктатуры пролетарыята шляхам паўстання. Больш таго, цяпер гэты лозунг азначаў арганізацыю і дзяржаўнае афармленне дыктатуры пролетарыята» (**Сталін**, «Аб Окцябрскай рэволюцыі» Партвыдавецтва, стар. 96—97).

У цэлым радзе месц Советы пачалі ўжо захватваць уладу у свае рукі. Згоднікі, імкнучыся ва што-б там ні стала захаваць кіраўніцтва Советамі, усяляк супраціўляліся патрабаванням мас аб перавыбарах Советаў. Але, наперакор меншавікам і эсэрам, наперакор забаронам ВЦИК'а, масы пад уплывам большэвікоў пачалі знізу перавыбіраць Советы, удаляючы з іх згоднікаў.

Советы ўзніклі, як найвялікшая заваёва рабочага класа. Але, узнікшы як форма палітычнай арганізацыі пролетарыята, яны могуць быць у пэўны перыяд скарыстаны супроць рэволюцыі. Аб гэтым гаворыць вопыт барацьбы пролетарыята ў 1917 годзе ў Расіі і ў 1918 г. у Германіі.

Гэта наглядна паказаў тав. **Сталін у** сваей прамове «Аб рабоце ў вёсцы» на студзеньскім (1933 г.) пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б).

«Мы ведаем выпадкі, калі Советы Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў падтрымлівалі на пэўны перыяд контррэволюцыю супроць рэволюцыі. Так была справа ў нас, у СССР, напрыклад, у ліпені 1917 года, калі Советамі кіравалі меншавікі і эсэры і Советы прыкрывалі контррэволюцыю супроць рэволюцыі. Так была справа ў Германіі ў канцы 1918 года, калі Советамі кіравалі соцыял-дэмакраты і калі яны прыкрывалі контррэволюцыю супроць рэволюцыі. Значыць, справа не толькі ў Советах, як у форме арганізацыі, хоць сама гэтая форма прадстаўляе найвялікшую рэволюцыйную заваёву. Справа перш за ўсё у змесце работы Советаў, справа ў характары работы Советаў, справа ў тым, **хто** іменна кіруе Советамі,—рэволюцыянеры ці контррэволюцыянеры. Гэтым, уласна, і тлумачыцца той факт, што контррэволюцыянеры не заўсёды выказваюцца супроць Советаў. Вядома, напрыклад, што глава рускай контррэволюцыі Мілюкоў у час Кранштадскага паўстання выказваўся за Советы, але без комуністаў. «Советы без комуністаў»—вось які быў тады лозунг главы рускай контррэволюцыі Мілюкова. Контррэволюцыянеры зразумелі, што справа не толькі ў самых Советах, але перш за ўсё ў тым, хто будзе імі кіраваць».

Іменна пераход кіраўніцтва Советамі к большэвікам у 1917 годзе абумовіў новы этап у развіцці Советаў, абумовіў новы змест іх работы. З органаў згодніцтва яны ператварыліся ў сапраўдныя баявыя органы рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята. Большэвізуючаяся маса рабочых і салдат скарыстоўвала перавыбары Советаў для чысткі апошніх ад згодніцкіх, эсэраўскіх і меншавіцкіх элементаў і выдзялення ў склад Советаў большэвікоў і перадавых, адданых справе рэволюцыі, беспартыйных рабочых і салдат. Не гледзячы на вагаючуюся глебу пад нагамі, будучы выгнанымі з кіраўніцтва ў раённых Советах Петраграда і ў правінцыяльных Советах, меншавікі і эсэры ўсяляк спрабавалі захаваць за сабою кіраўніцтва Пецербургскім Советам і ўсерасійскім цэнтрам Советаў—ВЦИК'ам.

Меншавікі і эсэры ўсялякім чынам сабатавалі патрабаванне мас правесці перавыбары Советаў. Фракцыя большэвікоў на паседжанні Выканаўчага Камітэта Петраградскага Совета ўнесла 5 верасня 1917 года патрабаванне аб перавыбарах. Але меншавікі і эсэры галасавалі супроць. Аб гэтым у большэвіцкай газеце «Рабочий путь» у № 3 ад 5 верасня пісалася:

«Не гледзячы на заявы меншавікоў і эсэраў, якія не маглі не прызнаць, што склад Выканаўчага Камітэта не адпавядае складу агульнага сходу Совета; не гледзячы на тое, што ўсе яны прызналі, што апошняя пастанова (большэвіцкая) Совета, карэнным чынам змяняе палітыку Совета, і што таму сучасны склад Выканаўчага Камітэта і яго былых выбаршчыкаў разыходзіліся,—не гледзячы на ўсё гэта, меншавікі і эсэры ўсё-ж такі галасавалі супроць таго, каб пераабраць Выканаўчы Камітэт».

Але пад напорам рэволюцыйнай масы не ўдалося ўстаяць згодніцкім правадырам, аказаўшымся ў становішчы генералаў без арміі. І на вячэрнім паседжанні Совета 5 верасня меншавіцка-эсэраўскі прэзідыум павінен быў уйсці ў адстаўку.

Праведзеныя перавыбары Петраградскага Совета і раённых Советаў забяспечылі ў большасці большэвіцкі склад як у Совеце, так і ў Выканаўчым Камітэце. 12 верасня пад напорам мас прымушаны былі ўйсці меншавікі і эсэры з прэзідыума Маскоўскага Совета. Перавыбары Выканаўчага Камітэта Маскоўскага Совета, праведзеныя 19 верасня, далі наступныя рэзультаты: выбрана было большэвікоў—32, меншавікоў—16, эсэраў—9, аб'яднанцаў—3.

Большэвізацыя Советаў выводзіла іх з таго становішча, у якім яны апынуліся, дзякуючы меншавікам і эсэрам. Советы ў барацьбе з карнілаўшчынай пад кіраўніцтвам большэвікоў пературарыліся ў баявыя рэволюцыйныя штабы. У той час, як меншавіцкі ЦВК выносіў рэзалюцыі аб падтрыманні Часовага ўрада, у раённых советах Петраграда стварaліся рэволюцыйныя камітэты, утварылася Чырвоная гвардыя, баявыя дружыны, арганізоўвалася навучанне рабочых ваеннай справе, праводзілася спешная зборка новых гармат для фармавання з рабочых артчасцей.

«Па раёнах насельніцтва пачало арганізоўвацца ў рабочыя дружыны і прыступіла да рыцця акопаў, пабудовы бліндажоў і дротавых заграджэнняў» («Рабочий» № 8, 12 верасня).

Ужо 30 жніўня гарадскі райсовет патрабаваў у сваёй пастанове неадкладнага змяшчэння ўчастковых камісараў, як яўна недобранадзейных, перадачы ў рукі райсовета ўсёй узброенай сілы раёна. Петраградскі Совет 31 жніўня прыняў большэвіцкую рэзалюцыю аб стварэнні ўрада з прадстаўнікоў рэволюцыйнага пролетарыята і сялянства, увядзенні рабочага кантроля над вытворчасцю і размеркаваннем, абвяшчэнні тайных дагавароў несапраўднымі і прапановы ўсім народам міру, спыненні рэпрэсій супроць рабочага класа і яго арганізацыі, ачышчэнні арміі ад контррэволюцыйнага каманднага складу і аб неабходным скліканні Устаноўчага сходу. 5 верасня большэвіцкую рэзалюцыю прыняў большасцю галасоў супроць меншавікоў і эсэраў Маскоўскі Совет.

Такім чынам мы бачым, што Советы, аслабаняючыся ад засілля ў кіраўніцтве імі меншавікоў і эсэраў, выступаюць як баявыя арга-

нізацыі пролетарыята. Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі Советы выступаюць, як органы паўстання, як органы захвату ўлады. Арганізацыя Чырвонай гвардыі і ваенна-рэволюцыйных камітэтаў, арганізацыя справы навучання рабочых ваеннаму мастацтву, падрыхтоўка да ўзброенага звяржэння ўлады буржуазіі і ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята—вось задачы, якія праводзіліся праз Советы нашай партыяй на чале з Леніным і Сталіным, партыяй, якая рыхтавала Окцябрскі пераварот.

Партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным рыхтавала і вяла рэволюцыйныя масы на бой з капіталам, па шляху гвалтоўнага звяржэння ўлады буржуазіі і ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята. Кіраўніцтва геніяльных стратэгаў і правадыроў рэволюцыі—Леніна і Сталіна—забяспечыла Окцябрскую перамогу. Але гэтая перамога адбылася, дзякуючы таксама той бязлітаснай барацьбе, якую вяла партыя супроць Троцкага, Зіноўева і Каменева—гэтых буржуазных капітулянтаў, не верыўшых у сілу пролетарыята, адмаўляўшых магчымасць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, паўстаўшых супроць соцыялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята. Меншавік Троцкі ўлетку 1917 г. выдаў брашуру «Праграма міру», у якой пісаў, што «безнадзейна думаць,—так гаворыць і вопыт гісторыі і тэарэтычныя меркаванні,—што, напр., рэволюцыйная Расія магла-б устояць перад тварам кансерватыўнай Еўропы». Адмаўленне магчымасці перамогі рэволюцыі, адмаўленне магчымасці будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, а таму капітулянцтва перад буржуазіяй,—вось сцяг Троцкага, Зіноўева і Каменева.

Выходзячы з гэтых сваіх поглядаў, Каменеў на красавіковай канферэнцыі большэвікоў выступіў з судакладам супроць ленінскіх тэзісаў, у абарону буржуазнай рэволюцыі, супроць яе перарастання ў соцыялістычную рэволюцыю, за абарону буржуазнага ладу. Захаваць буржуазны лад, падтрымаць яго—такава пазіцыя гэтага буржуазнага абаронца, які яшчэ з Ачынску вітаў тэлеграмай новага цара Міхаіла Александравіча, выказваючы яму свае вернападданыя пачуцці.

Гэта не выпадкова рабілася Каменевым, бо ён яшчэ на царскім судзе, які адбыўся ў 1915 г. над пяццю дэпутатамі Думы і іншымі большэвікамі, захопленымі на канферэнцыі ўвосень 1914 г., выступае як здраднік і трус. У той час як т. Г. Петроўскі і іншыя большэвікі мужна і стойка выконвалі «свой доўг інтэрнацыянальных рэволюцыйных соцыял-дэмакратаў» **(Ленін)**, Каменеў салідарызаваўся з соцыял-патрыётам Іарданскім і ўсяляк імкнуўся даказаць царскаму суду сваю нязгоду з Цэнтральным Камітэтам партыі.

В. І. Ленін у сваім артыкуле «Што даказаў суд над Р.С.-Д.Р. фракцыяй» (сакавік 1915 г.) заклейміў ганьбай гэтыя здрадніцкія паводзіны на судзе Каменева.

У той час, калі Ленін і Сталін патрабавалі байкоту буржуазна-памешчыцкай дэмакратычнай нарады (прадпарламента), выстаўлялі лозунг разгону гэтай «Цэрэтэлеўскай Булыгінскай Думы» **(Ленін)**, абаронца буржуазіі Каменеў на гэтай дэмакратычнай нарадзе ўсклікаў:

> «Улада павінна быць не кааліцыйнай, . улада павінна перайсці ў рукі дэмакратыі, не к Советам рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а ў рукі той дэмакратыі, якая тут даволі поўна прад-

стаўлена. Улада павінна быць тут створана. Тут павінны быць намечаны і органы, перад якімі гэта ўлада павінна будзе адказваць» **(Каменеў.** Прамова на Дэмакратычнай нарадзе).

Так распінаўся вернападданы цара Міхаіла Александравіча—Каменеў—на гэтым зборышчы памешчыкаў і капіталістаў, меншавікоў і эсэраў, зборышчы, з'яўляўшымся мізэрнаю спробай буржуазіі і яе абаронцаў затрымаць магутны поступ рэволюцыі.

Здрадніцкая пазіцыя знашла сваё адлюстраванне ў актыўнай абароне Каменевым буржуазна-памешчыцкага прадпарламента, Устаноўчага сходу, і ў здрадніцкіх паводзінах Каменева і Зіноўева ў час падрыхтоўкі і правядзення партыяй на чале з Леніным і Сталіным узброенага паўстання, за што Ленін патрабаваў выключэння іх, як здраднікаў, з партыі.

Калі буржуазныя капітулянты, Зіноўеў і Каменеў, атрымалі адпор з боку ЦК партыі на чале з Леніным і Сталіным, яны праз меншавіцкі друк, выдаючы планы партыі ворагам рэволюцыі, выступілі з заклікам устрымацца ад паўстання.

«Каменеў і Зіноўеў,—пісаў Ленін,—выдалі Радзянко і Керэнскаму рашэнне ЦК сваёй партыі аб узброеным паўстанні і аб захаванні ад ворагаў падрыхтоўкі паўстання... Прызнаўшы поўны састаў штрэйкбрэхерства ў выступленні Зіноўева і Каменева ў непартыйным друку, ЦК выключае абодвух з партыі».

Троцкі-ж, якому партыя даверыла работу ў Петраградскім Совеце, не асмельваючыся адкрыта выступіць супроць паўстання, патрабаваў адкласці яго да З'езда Советаў. Прапанова Троцкага дазваляла праціўніку падрыхтавацца і абрушыцца на рэволюцыю да яе выступлення.

Разбіты партыяй большэвікоў і ходам рэволюцыі Троцкі, захоўваючы сваё меншавіцкае нутро, меншавіцкую прыроду, перад тварам пераможнага рэволюцыйнага руху, затрымаць які не маглі ніякія прапаведзі аб «перманентнай рэволюцыі», вымушан быў далучыцца к руху. Далучыліся, скажам, і левыя эсэры, якія потым, назаўтра, калі разгарнулася жорсткая і цяжкая, але пераможная барацьба за замацаванне социялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята, паўсталі разам з генераламі і белагвардзейцамі супроць совецкай улады, супроць дыктатуры пролетарыята. Меншавік Троцкі таксама паўстаў супроць партыі і совецкай улады, паўстаў як капітулянт перад буржуазнымі элементамі, скаціўшыся ў канцы канцоў у лагер белагвардзейшчыны; трацкізм ператварыўся ў перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі. Сваяцтва душ, аднолькавасць прыроды аб'яднала трацкістаў і зіноўеўцаў у барацьбе супроць партыі.

Барацьба супроць партыі, барацьба супроць будаўніцтва соцыялізма, адмаўленне будаўніцтва соцыялізма, барацьба за рэстаўрацыю капіталізма,—вось што лягло ў аснову контррэволюцыйнага блока.

Ад здрадніцтва ў Окцябры да спроб збіць партыю з ленінска-сталінскага шляху пераможнага будаўніцтва соцыялізма пасля Окцябра, да змоў і антысовецкіх выступленняў, да двурушніцтва і ашуканства, да становішча подлых, агідных наймітаў міжнароднага капітала, да падрыхтоўкі тэрора супроць правадыроў партыі, да злодзейскага, белабандыцкага забойства правадыра ленінградскіх большэвікоў **Сергея Міронавіча Кірава**—такі шлях разгромленых партыяй і пролетарыятам буржуазных адшчапенцаў.

У барацьбе з гэтымі адшчапенцамі, у барацьбе на два фронты партыя Леніна-Сталіна атрымлівала перамогу за перамогай у заваяванні дыктатуры пролетарыята, у яе замацаванні, у будаўніцтве соцыялізма.

Партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным у бязлітаснай барацьбе з эсэрамі, меншавікамі, трацкістамі, Зіноўевым і Каменевым рыхтавала Окцябр і яго пераможна ажыццявіла.

II з'езд Советаў замацаваў і аформіў перадачу ўлады ў рукі Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

Советы, якія паўсямесна большэвізаваліся, высоўвалі патрабаванні аб скліканні II з'езда Советаў. Эсэры і меншавікі, якія сядзелі ў ЦВК, адчуваючы хісткасць свайго становішча, паўсталі супроць, матывуючы тым, што нібы скліканне з'езда перашкаджае выбарам ва Ўстаноўчы сход. Але, бачачы пагрозу склікання з'езда праз іх галаву, па ініцыятыве саміх Советаў, ЦВК прымушан быў згадзіцца склікаць з'езд.

Адкрыўшыся 25 кастрычніка, II з'езд Советаў меў у сваім складзе 670 дэлегатаў, у тым ліку большэвікоў 390 чалавек. Большэвіцкі настрой з'езда апраўдаў апасенні эсэраў і меншавікоў. Не ўдалося згодніцкім правадырам скарыстаць выбары на з'езд для падтасоўкі сваіх кандыдатаў, як гэта ім удавалася пры скліканні I з'езда. Папярэджанне Советам напярэдадні II з'езда, выступаўшае ў выглядзе апошніх патуг меншавіцка-эсэраўскага ЦВК аб тым, што пераход улады ў рукі Советаў «можа мець глыбока сумныя вынікі для краіны і рэволюцыі» і што «вырашыць пытанне аб уладзе ў канчатковай форме зможа толькі Ўстаноўчы сход», не дапамагло меншавікам і эсэрам.

* * *

Якавы-ж вынікі барацьбы рабочага класа ў перыяд ад Лютага да Окцябра па пытаннях выбараў у Советы?

Рабочы клас пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі падпарадкаваў выбары сваім класавым задачам, барацьбе за заваёву і замацаванне дыктатуры пролетарыята. Зарадзіўшыяся ў 1905 г. арганізацыйныя формы выбараў у Советы пролетарыят, пад кіраўніцтвам большэвікоў, замацоўваў і развіваў ва ўмовах новага этапа класавай барацьбы.

Справаздачнасць дэпутатаў перад выбаршчыкамі, іх змяняемасць, адкліканне не апраўдаўшых давер'е масы, пастаянная сувязь і кантроль выбаршчыкаў над работай Советаў—вось тыя формы выбараў, за якія змагаўся пролетарыят пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

У 1917 годзе пры радзе Советаў былі створаны выбарчыя калегіі, на якія ўскладалася кіраўніцтва выбарамі. Былі распрацаваны больш ці менш падрабязныя выбарныя інструкцыі. У інструкцыі аб выбарах, зацверджанай Маскоўскім Советам, вызначаўся парадак перавыбараў Советаў, па якому $^{1}/_{4}$ усіх выбаршчыкаў данага прадпрыемства мела права патрабаваць перавыбараў. Фіксавалася, хто меў права выбіраць. Напрыклад, у выбарчай інструкцыі Харкаўскага Совета, зацверджанай 4 чэрвеня, гаварылася, што маюць права ўдзельнічаць у выбарах «усе рабочыя і салдаты з 18-гадовага ўзросту». Амаль паўсямесна быў устаноўлен інстытут кандыдатаў у члены Совета. Запісвалася ў інструкцыях таксама права адклікання дэпутатаў.

У той-жа інструкцыі Харкаўскага Совета было напісана:

«Адкліканне з Совета выбаршчыкаў павінна быць матывавана ў кожным паасобным выпадку, прычым пастанова аб адкліканні законна, калі за яе выказалася абсалютная большасць выбаршчыкаў».

Тое-ж самае мы чытаем у «Палажэнні аб выбарах у Екацерынбургскі Совет», зацверджаным 14 чэрвеня:

«Выбаршчыкі маюць права адклікаць сваіх дэпутатаў з Советаў па свайму погляду, калі яны знойдуць гэта патрэбным, і замяняць іх новаабранымі. Выбаршчыкі аб сваім жаданні пераабраць дэпутатаў, а таксама аб месцы і часе новых выбараў павінны паведаміць Выканаўчы Камітэт СР і СД не менш як за два дні да выбараў прадстаўленнем пратакола таго сходу, на якім было вырашана пытанне аб перавыбарах, прычым ранейшыя дэпутаты захоўваюць свае паўнамоцтвы да прызнання мандатнай камісіяй новых выбараў правільнымі». («Барацьба» № 12, Екацерынбург, 1 ліпеня, гл. «Арганізацыя і будаўніцтва Советаў у 1917 г.»).

Само сабою зразумела, што ўсе гэтыя мерапрыемствы аб справаздачнасці дэпутатаў, змяняемасці, адкліканні і т. д. праводзіліся пад напорам рэволюцыйных большэвізуючыхся мас рабочых і салдат, наперакор меншавікам і эсэрам.

У сувязі з тым, што меншавіцкая інструкцыя аб выбарах, зацверджаная раней Маскоўскім Советам, звязвала ініцыятыву мас, большэвікі на паседжанні Совета 9 кастрычніка прапанавалі праект новай інструкцыі, у якой давалася права кожнай фабрыцы, заводу, прафесіянальнаму саюзу, больнічнай касе, чыгуначнай арганізацыі перавыбіраць сваіх прадстаўнікоў у Совет, дазвалялася праводзіць выбарчыя сходы па зменах, выбіраць дэпутатамі і не членаў данай арганізацыі. Гэта інструкцыя была прынята большасцю Маскоўскага совета. Але меншавікі, эсэры адмовіліся ўдзельнічаць у яе галасаванні.

Такім чынам совецкая сістэма выбараў заваёўвалася пролетарыятам у барацьбе з ворагамі рэволюцыі. Яна развівалася, узбагачалася і замацоўвалася ў класавых баях пролетарыята з буржуазіяй і згоднікамі. Яна канчаткова замацавалася разам з перамогай дыктатуры пролетарыята.

* * *

Советы ўзніклі, як прадукт класавай барацьбы пролетарыята. Яны ўзніклі, як новая форма арганізацыі мас для рэволюцыйнай барацьбы. Але асаблівасцю гэтай новай формы было тое, што Советы пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ствараліся, як органы ўзброенага паўстання, як органы новай рэволюцыйнай улады. Узнікшы на другім, больш высокім этапе класавай барацьбы, у рэволюцыю 1917 года, Советы аб'ядналі рэволюцыйныя сілы змагаўшагася пролетарыята, а таксама арміі і сялянства. Яны ператварыліся ў паўсямесную форму рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята і ўсіх працоўных. І ў 1917 г. Ленін адкрыў сусветна-гістарычную ролю Советаў, як дзяржаўнай улады дыктатуры пролетарыята.

Тав. Сталін пісаў:

«Ленін ведаў яшчэ ў 1905 г., што паасобныя Советы з'яўляюцца зачаткам рэволюцыйнай улады ў перыяд звяржэння царызма. Але аб'яднаную ў дзяржаўным маштабе совецкую ўладу, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыята, ён яшчэ не ведаў тады. Рэспубліку Советаў, як дзяржаўную форму дыктатуры пролетарыята, Ленін адкрыў толькі ў 1917 г. і падрабязна распрацаваў пытанне аб гэтай новай форме палітычнай арганізацыі пераходнага грамадства ўлетку 1917 г., галоўным чынам у сваёй кнізе «Дзяржава і рэволюцыя» (**Сталін**, «Аб апазіцыі», стар. 520).

Прыроду пролетарскай улады, яе новы тып і сутнасць Ленін характарызаваў наступным чынам:

«Гэта ўлада—улада таго-ж тыпу, якою была Парыжская Комуна 1871 года. Асноўныя адзнакі гэтага тыпу: 1) крыніца ўлады—не закон, папярэдне абгавораны і праведзены парламентам, а прамы пачын народных мас знізу і на месцах, прамы «захват», скарыстоўваючы хадзячае выражэнне; 2) замена паліцыі і арміі, як аддзеленых ад народу і проціпастаўленых народу ўстаноў, прамым узбраеннем усяго народу; дзяржаўны парадак пры такой уладзе ахоўваюць самі ўзброеныя рабочыя і сяляне, сам узброены народ; 3) чыноўніцтва, бюракратыя або замяняюцца зноў-такі непасрэднай уладай самога народу, або па меншай меры ставяцца пад асобы кантроль, ператвараюцца не толькі ў абраных, але і змяняемых па першаму патрабаванню народу, зводзяцца на палажэнне простых упаўнаважаных; з прывілеяванага слою з высокай буржуазнай аплатай ператвараюцца ў рабочых асобага «роду зброі», аплачваемых не вышэй звычайнай платы добрага рабочага» (**Ленін**, т. XX, с. 94—95).

Першым гістарычным вопытам стварэння пролетарскай дзяржавы была Парыжская Комуна. Яна была дзяржавай рабочага класа. На вопыце Парыжскай Комуны пролетарыят адкрыў палітычную форму свайго панавання, пры якім толькі і мажліва яго перамога. Парыжская Комуна была заснавана на непасрэдным ўдзеле саміх мас у кіраванні, яна не была парламенцкай установай, а дзелавой, працуючай дзяржаўнай арганізацыяй, якая спалучала ў сабе заканадаўчую і выканаўчую ўладу, знішчыла прывілеі чыноўнікаў і ўстанавіла выбарнасць і змяняемасць службовых асоб па патрабаванню саміх мас. Але Парыжская Комуна была толькі зародкам гэтага новага тыпу пролетарскай дзяржавы. Сваё развіццё і завяршэнне гэты тып дзяржавы атрымаў у стварэнні пролетарыятам Расіі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі Совецкай дзяржавы.

«Калі Парыжская Комуна была зародкам, то Совецкая ўлада з'яўляецца яе развіццём і завяршэннем» (**Сталін**).

Совецкая ўлада з'яўляецца дзяржаўнай формай дыктатуры пролетарыята таму, што яна яднае і арганізуе ўсе працоўныя масы, таму што толькі советы з'яўляюцца ўсеабдымнай масавай арганізацыяй працоўных, якая забяспечвае пагалоўны ўдзел працоўных мас у кіраванні, праяўленне іх ініцыятывы, самадзейнасці, развіццё ўсіх здольнасцей працоўных і эксплаатуемых. Советы з'яўляюцца баявымі класавымі арганізацыямі, якія яднаюць пад кіраўніцтвам пролетарыята ўсю масу працоўных супроць эксплаататараў.

У артыкуле «Ці ўтрымаюць большэвікі дзяржаўную ўладу» Ленін яшчэ ў верасні 1917 года пісаў:

«Советы ёсць новы дзяржаўны апарат, які дае, па-першае, узброеную сілу рабочых і сялян, пры чым гэта сіла не адарвана ад народу, як сіла старой пастаяннай арміі, а цяснейшым чынам з ім звязана; у ваенных адносінах гэта сіла непараўнальна больш магутная, чым ранейшыя; у рэволюцыйных адносінах яна незамяніма нічым іншым. Па-другое, гэты апарат дае сувязь з масамі, з большасцю народу настолькі цесную, непарыўную, лёгка правяраемую і аднаўляемую, што нічога падобнага ў ранейшым дзяржаўным апараце няма і ў паміне. Па-трэцяе, гэты апарат у сілу выбарнасці і змяняемасці яго складу па волі народу, без бюракратычных фармальнасцей, з'яўляецца значна больш дэмакратычным, чым ранейшыя апараты. Па-чацвертае, ён дае моцную сувязь з самымі рознымі прафесіямі, палягчаючы тым разнастайнейшыя рэформы самага глыбокага характару без бюракратыі. Па-пятае, ён даў форму арганізацыі авангарда, гэта значыць самай свядомай, самай энергічнай, передавой часткі **прыгнечаных** класаў, рабочых і сялян, з'яўляючыся такім чынам апаратам, пры дапамозе якога авангард прыгнечаных класаў можа падымаць, выхаваць, навучаць і весці за сабой **усю гіганцкую масу** гэтых класаў, якая да гэтага часу стаяла зусім па-за палітычным жыццём, па-за гісторыяй. Па-шостае, ён дае мажлівасць спалучаць выгады парламентарызма з выгадамі непасрэднай і прамой дэмакратыі, г. зн. спалучаць у асобе выбарных прадстаўнікоў народу і заканадаўчую функцыю **і выкананне законаў.** У параўнанні з буржуазным парламентарызмам гэта такі крок уперад у развіцці дэмакратыі, які мае сусветна-гістарычнае значэнне...

Калі-б народная творчасць рэволюцыйных класаў не стварыла Советаў, то пролетарская рэволюцыя была-б у Расіі справай безнадзейнай, бо са старым апаратам пролетарыят, бясспрэчна, утрымаць улады не змог-бы, а новага апарата адразу стварыць нельга» (**Ленін**, том XIV, ч. II, с. 228—230, выд. I-е).

Іменна Советы, як дзяржаўная форма дыктатуры пролетарыята, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, з'явіліся магутнай зброяй у руках пролетарыята, забяспечыўшай перамогу над контррэволюцыяй у грамадзянскай вайне і ў пабудове соцыялізма. Узмацненне дыктатуры пролетарыята, поспехі соцыялістычнага будаўніцтва абумоўліваліся і абумоўліваюцца барацьбою партыі за ўзмацненне Советаў, як органаў дыктатуры пролетарыята, як праваднікоў генеральнай лініі партыі.

Пабудова бяскласавага соцыялістычнага грамадства не адбываецца і не можа адбыцца мірна, без абвостранай класавай барацьбы.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі падкрэсліў:

«Бяскласавае грамадства не можа прыйсці ў парадку, так сказаць, самацёку. Яго трэба заваяваць і пабудаваць намаганнямі ўсіх працоўных—шляхам узмацнення органаў дыктатуры пролетарыята, шляхам разгортвання класавай барацьбы, шляхам знішчэння класаў, шляхам ліквідацыі астаткаў капіталістычных класаў, у баях з ворагамі, як унутранымі, так і знешнімі» (**Сталін**, справаздачны даклад на XVII з'ездзе ВКП(б)).

Перавыбары Советаў 1934 г., якія прайшлі пры агромнай палітычнай актыўнасці і энтузіязме ўсіх працоўных Совецкай краіны і непахіснай адданасці справе дыктатуры пролетарыята і партыі большэвікоў, барацьбе за поўную пабудову соцыялізма, яшчэ з большай сілай узмацнілі Советы, як органы пролетарскай дыктатуры.

У артыкуле, прысвечаным перавыбарам Советаў, тав. М. І. Калінін пісаў:

«Працоўныя масы Саюза ССР гіганцкі выраслі культурна і палітычна, у народных слаях вырасла ўсведамленне дзяржаўнай дысцыпліны, дзяржаўнай адказнасці. Можна з ўпэўненасцю сказаць, што ні ў адной краіне няма такой цеснай сувязі з дзяржавай, такой арганічнай зацікаўленасці народных мас у агульнай палітыцы дзяржавы, як у нас. І гэта, натуральна, так і павінна быць. Пролетарская дзяржава, якая чэрпае сваю сілу з цеснага саюза рабочага класа з сялянствам, не можа не быць для іх блізкай, кроўнай, уласнай» («Известия» № 252 ад 27/X-34 г.).

Комуністычная партыя з'яўляецца тою магутнаю сілай, якая кіруе барацьбой рабочага класа, накіроўвае гэтую барацьбу па шляху звяржэння ўлады буржуазіі, устанаўлення дыктатуры пролетарыята і пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Не можа быць дыктатуры пролетарыята без кіраўніцтва комуністычнай партыі.

«Мы зыходзім з таго,—гаворыць тав. Сталін,—што партыя, комуністычная партыя, з'яўляецца асноўным інструментам дыктатуры пролетарыята, што кіраўніцтва адной партыі, якая не дзеліць і не можа дзяліць гэта кіраўніцтва з іншымі партыямі, з'яўляецца той асноўнай умовай, без якой нямысліма колькінебудзь трывалая і развітая дыктатура пролетарыята» («Аб апазіцыі», стар. 471).

Партыя большэвікоў заваявала велізарнейшы аўтарытэт і давер'е працоўных мас. Яна арганізоўвае, яднае працоўных, вядзе іх па соцыялістычнаму шляху. Перавыбары Советаў, якія прайшлі пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, узмацнілі яшчэ больш яе ролю, аўтарытэт і непахіснае давер'е і адданасць ёй шматмільённых мас працоўных.

Уся краіна, усе, як адзін, працоўныя СССР згуртаваліся навакол партыі і правадыра ўсіх працоўных тав. Сталіна. Гнеў, непахіснасць, бязлітаснасць у знішчэнні ўсіх ворагаў пролетарыята—вось адказ мільёнаў на подлае забойства **Сергея Міронавіча Кірава** гнуснымі падонкамі контррэволюцыйнай зіноўеўскай групы.

Класавы вораг яшчэ не знішчан. Ён шалёна супраціўляецца пераможнаму руху соцыялізма. Наша задача—яшчэ больш узмацніць пролетарскую класавую пільнасць, яшчэ больш узмацніць барацьбу па выкрыццю яўных і скрытых ворагаў пролетарскай дыктатуры і іх канчатковаму знішчэнню, барацьбу супроць разбітага контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага атрэп'я, супроць правага апартунізма, супроць контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма, як галоўнай небяспекі на сучасным этапе ў БССР, супроць яўрэйскага, польскага і інш. шавінізмаў.

Паспяховае ажыццяўленне задач другой пяцігодкі магчыма толькі ў рашучай барацьбе з астаткамі капіталізма, у рашучым па-

даўленні гінучых астаткаў капіталістычных класаў. Разбітыя, але яшчэ канчаткова не знішчаныя астаткі варожых пролетарыяту элементаў, прытаіўшыся, ціхаю сапай будуць узмацняць сваё сапраціўленне пераможнаму будаўніцтву социялізма. Вось чаму далейшае ўзмацненне дыктатуры пролетарыята, умацаванне магутнасці пролетарскай дзяржавы набывае сугубае значэнне.

«Сільная і магутная дыктатура пролетарыята—вось што нам трэба цяпер для таго, каб развеяць ўпрах апошнія астаткі паміраючых класаў і разбіць іх зладзейскія махінацыі» (**Сталін. Вынікі першай пяцігодкі**).

---

Д. Ю. Конік

# Вышэй якасць большэвіцкай прапаганды

Самы факт пастаноўкі і шырокае абгаварэнне пытання марксісцка-ленінскага выхавання на пленуме Менгаркома КП(б)Б з удзелам прапагандыстаў сведчыць яшчэ раз аб той вялікай увазе, якую галаўны атрад КП(б)Б—менская партарганізацыя—удзяляе справе ўзбраення комуністаў тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, справе пастаноўкі ідэйна-палітычнай работы на ўзровень вырашаемых намі задач.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі чотка вызначыў нашы задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы:

«1. Падняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню.
2. Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі.
3. Весці няўстанную прапаганду ленінізма ў радах партыі.
4. Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма.
5. Не замазваць, а крытыкаваць рашуча адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма.
6. Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

Барацьба за выкананне гэтых указанняў тав. Сталіна з'яўляецца праграмай работы кожнай партарганізацыі.

Рэалізуючы ўказанні тав. Сталіна, дырэктывы XVII з'езда партыі, КП(б)Б за апошні год дабілася значнага палепшання работы па марксісцка-ленінскаму выхаванню.

Нядаўна промаддзел ЦК КП(б)Б праводзіў нараду сакратароў парткомаў прамысловых прадпрыемстваў сумесна з інструктарамі партыйных камітэтаў прамысловых раёнаў. На гэтай нарадзе было цікавае выступленне інструктара Барысаўскага райкома партыі па пытанню вопыту іх работы з паасобнымі адстаючымі членамі партыі.

У гэтым выступленні было паказана як з адстаючага члена партыі можна зрабіць добрага, актыўнага і падрыхтаванага большэвіка. Ці правільна гэта мерапрыемства Барысаўскага райкома? Зусім правільна. Барысаўскі райком партыі канкрэтна падышоў к таму, каб падняць адстаючага члена партыі. Перабудова работы партыйнай арганізацыі і павінна заключацца якраз ў тым, каб перайсці ад агульнага кіраўніцтва нізавой партарганізацыяй да партыйнай дзелавой работы з канкрэтнымі людзьмі.

У гэтай справе нязмерна вяліка роля інструктара. На інструктара партыя ўсклала адказную задачу партыйнага кіраўніка канкрэтным звяном—нізавой партарганізацыяй. Кіраваць нізавой партыйнай арганізацыяй без інструктара ніяк нельга. Калі-б мы не мелі інструктара, які займаецца жывымі людзьмі нізавой партарганізацыі, мы не мелі-б магчымасці па-сапраўднаму арганізаваць партработу. Вось чаму інструктар—**цэнтральнае звяно** ў нашым партыйным апараце.

Важнейшае месца ў партыйнай рабоце займае партыйная вучоба. **Партработа без партвучобы**—пустая непартыйная справа. Бо асноўнае ў партыйнай рабоце—ідэйна і практычна ўзбройваць, загартоўваць, вучыць і вырошчваць членаў партыі. З гэтай задачай можна справіцца толькі пры ўмове добрай наладжанасці партыйнай вучобы, пры ўмове безупыннага росту самога інструктара, як кіраўніка пэўнай групы нізавых партарганізацый.

Нельга забываць, што нізавая партарганізацыя і ўся рабочая маса будзе ўважліва і з павагай слухаць і ўспрымаць інструктара толькі тады, калі назаўтра ён дасць больш, пакажа сябе лепш узброеным, чым сёння. А гэта магчыма толькі пры ўмове пастаяннага ўзбагачэння новымі ведамі, новымі фактамі і т. д. Той не інструктар, хто кожны дзень будзе паўтараць тое-ж самае.

Адсюль вывад—работа над сабой ёсць галоўнейшая задача інструктара, галоўнейшая задача сакратара парткома.

Гаррайкомы КП(б)Б, парткомы пярвічных партарганізацый палепшылі кіраўніцтва партыйнай прапагандай, здолелі значна лепш паставіць сёлета партыйную вучобу.

Асаблівасці гэтага года заключаюцца ў тым, што партыйныя камітэты падышлі да арганізацыі марксісцка-ленінскай вучобы больш уважліва, канкрэтна і адказна. Бюро гаррайкомаў КП(б)Б заслухоўваюць даклады паасобных парткомаў і прапагандыстаў. Рад парткомаў пярвічных партарганізацый заслухоўвае комуністаў па пытаннях іх вучобы, работы над сабой, росту іх узроўню.

Аднак, задаволіцца гэтымі рэзультатамі мы не можам.

Выключна агромныя задачы стаяць перад партыяй. Неймаверна ўскладніліся формы і метады нашай работы, формы класавай барацьбы. Кожны член і кандыдат партыі, кожны комсамолец павінен быць ў авангардзе барацьбы мас за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XVII партз'езда.

Вось чаму партыя з выключнай завостранасцю ставіць цяпер задачу—павысіць узровень узброенасці кожнага комуніста, палепшыць кіраўніцтва ідэйна-палітычнай работай. Кожны член і кандыдат партыі, кожны комсамолец і беспартыйны актывіст павінны безупынна ўпарта і напружана працаваць над сабою.

Тым часам работа ў галіне марксісцка-ленінскага выхавання ўсё яшчэ надта адстае ад пастаўленых перад намі агромнай важнасці задач.

У рашэннях лістападаўскага пленума ВКП(б) указана:

«Вялікія і складаныя практычныя задачы, якія стаяць перад партыяй і рабоча-сялянскай дзяржавай у сувязі з ажыццяўленнем гэтай пастановы (аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты.—**Д. К.**) патрабуюць ад усіх партыйных, совецкіх і прафесіянальных арганізацый належнай арганізава-

насці і ўліку мясцовых асаблівасцей у аперацыйнай рабоце і, разам з тым, рашучага адпору ўсім і ўсякім дэзарганізатарскім вылазкам класавага ворага.

Правядзенне гэтай пастановы ў жыццё павінна знайсці сваё адлюстраванне ў далейшым умацаванні саюза рабочых і сялян і ў пераможным прасоўванні наперад справы соцыялізма ў нашай краіне».

Практычнае ажыццяўленне гэтых рашэнняў, давядзенне іх да свядомасці шырокіх працоўных і калгасных мас—важнейшая задача ўсіх партарганізацый, членаў партыі, у тым ліку і прапагандыстаў. А трэба сказаць, што нашы прапагандысты, нашы партыйныя школы яшчэ не ўсюды арганізавалі глыбокае вывучэнне рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б.

На пленуме менскага гаркома КП(б)Б, пры абгаварэнні папярэдніх вынікаў разгортвання вучобы, выяснілася, што ў пастаноўцы марксісцка-ленінскай вучобы менская арганізацыя, не гледзячы на зрухі, мае яшчэ цэлы рад недахопаў: сям-там праяўляецца штампоўшчына і фармалізм, за лічбамі часам упускаецца жывы чалавек—член, кандыдат партыі.

Паасобныя парткомы, механічна размеркаваўшы сваіх членаў і кандыдатаў партыі па палітшколах і гуртках, лічаць сваю задачу на гэтым закончанай і часта не цікавяцца, як растуць комуністы ў гэтых школах і гуртках, ці задавальняе іх пастаноўка вучобы і т. д. Гэты бок справы ні ў якім разе нельга пакінуць без увагі, інакш выйдзе тое, што фармальна чалавек будзе вучыцца, а фактычна мець ведаў менш, чым мог-бы атрымаць. Аб гэтым гавораць самі комуністы.

Тт. **Ерашэвіч** і **Счасны** (электрастанцыя) заяўляюць:

— Школу наведваем рэгулярна, рыхтуемся к заняткам, але пастаноўка вучобы нас не здавальняе. Таму мы не расцём.

Тав. **Мысліўчык**—член партыі з 1932 г., нам. дырэктара трампарка—мае жаданне вучыцца, каб павысіць свой палітузровень. У яго някепская бібліятэка, у тым ліку поўны збор твораў Леніна. Тав. Мысліўчык гаворыць:

— Вучоба мяне не задавальняе, бо пачынаючы з 1927 г. мяне прымушаюць займацца ў гуртку па гісторыі партыі, тады як я жадаю вывучаць ленінізм.

Член партыі т. **Медзведскі** (начальнік электрастанцыі) гаворыць:

— Мне цяжка займацца самому. Неаднакроць я звяртаўся ў партком з просьбай прымацаваць больш падрыхтаванага тавырыша ў дапамогу вучобе, але партком не пашоў мне насустрач.

Як бачыце, партарганізацыі часам не здавальняюць зусім законных патрабаванняў комуністаў. Парткомы электрастанцыі і трампарка, як відаць, да гэтага часу не зразумелі сутнасці кіраўніцтва справай партыйнай прапаганды.

І цікава, што на электрастанцыі наведванне партшкол надзвычай нізкае. Кандыдацкую школу з 17 чалавек наведвае толькі 8. Гурток па ленінізму з 15 чалавек наведвае 8. 3-га лістапада прапрацоўваліся рашэнні лістападаўскага пленума, а на заняткі з 65 слухачоў з'явілася толькі 37.

Не лепш пастаўлена партыйная вучоба ў партарганізацыі трампарка, дзе, як выяснілася праверкай, яна па сутнасці зрываецца.

Заслугоўвае асобай увагі гісторыя работы двух партшкол, арганізаваных пры трампарку ў пачатку навучальнага года.

Кандыдацкая школа пачала работу 23 лістапада. На першыя заняткі з'явілася 8 чалавек з 22-х, другія заняткі не адбыліся: сабралася 15 слухачоў, а прапагандыст Аксельрод—студэнт ВКСГШ—не з'явіўся.

8 снежня школа таксама не займалася, бо якраз у гэты дзень арганізавалі агульны сход па прапрацоўцы рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК. 13 снежня заняткі зноў не адбыліся, бо з'явілася толькі 3 слухачы. Безадказнасць парткома ў гэтай справе дашла да таго, што слухачы кандыдацкай школы яшчэ не маюць падручніка Воліна, хоць кнігі атрыманы даўно і ляжаць у шафе.

Гурток па гісторыі партыі пачаў работу 28 верасня. Ужо другія заняткі—3 кастрычніка—былі сарваны, а з 16 лістапада гурток зусім спыніў работу, бо прапагандыста тав. Ларычкіна мабілізавалі на раён.

Невыпадкова, што палітычны ўзровень комуністаў трампарка надзвычайна нізкі. Шофер трампарка т. Баранаў—член комсамола, кандыдат партыі—газет не чытае і зусім спакойна адносіцца к таму, што не дастаўляецца выпісаная ім газета «Рабочий». У выніку т. Баранаў не ведае рашэнняў лістападаўскага пленума і не разбіраецца ў элементарных пытаннях. Ён гаворыць, што картачная сістэма на хлеб уведзена ў 1924—1925 г. і пры гэтым сумняваецца ці трэба было яе ўводзіць наогул.

Падобныя прыклады і факты, а іх нямала, ясна сведчаць аб тым, што рад партыйных камітэтаў Менска няўважліва адносяцца к партыйнай вучобе, а падчас ёю і зусім не кіруюць. З такімі безадказнымі адносінамі да ўказанняў XVII з'езда партыі трэба як найхутчэй пакончыць, каб сапраўды падняць тэарэтычны ўзровень комуністаў на належную вышыню. Менская партарганізацыя мае ўсе магчымасці ўзорна паставіць партвучобу і заняць на гэтым участку работы першае месца ў КП(б)Б.

* * *

Мы не можам абмежавацца аднымі толькі колькаснымі паказчыкамі ў падагульненні вынікаў нашай работы. Стварыць школы і гурткі гэта яшчэ не значыць арганізаваць высокаякасную вучобу.

У гэтай вялікай і адказнай рабоце галоўным крытэрыем павінна быць якасць прапаганды, якасныя рэзультаты вучобы.

Статут партыі патрабуе, каб кожны член партыі вучыўся, ідэйна ўзбройваўся, бо быць большэвіком—гэта значыць спалучаць глыбокае веданне тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна з практыкай барацьбы за будаўніцтва соцыялізма. Толькі ўзброены тэорыяй ленінізма комуніст здолен па-большэвіцку, паслядоўна і няўхільна ажыццяўляць рашэнні нашай вялікай партыі. Якасны бок узбраення большэвіка залежыць ад нас. Мы павінны паставіць яго ў такія ўмовы, каб ён мог расці палітычна. Гурток—гэта толькі форма, дзе абагульняецца вынік усёй папярэдняй работы. Работа над комуністам, над комсамольцам павінна праводзіцца і да заняткаў, і на сходах, і ў асабістай гутарцы, і на вытворчасці. Мы павінны ведаць, якую літаратуру чытае комуніст дома, чаго ў ёй не разумее, у чым патрабуе дапамогі.

Культпроп ЦК партыі не так даўно праверыў некалькі менскіх гурткоў павышанага тыпу і ўстанавіў, што рад таварышоў у палітычных

і тэарэтычных пытаннях разбіраюцца дрэнна, часта дапускаючы няправільныя, блытаныя разважанні.

Прывядзем прыклады:

У гуртку па ленінізму (зав. «Комунар») на пытанне што такое фінансавы капітал, адна частка слухачоў адказвала: «Фінансавы капітал ёсць такі капітал, які ляжыць у банку», другая:—«Фінансавы капітал—той капітал, які ўкладзен у прамысловасць» .

На пытанне, які перыяд знамянуе сабой узнікненне імперыялізма, частка адказала: «Імперыялізм узнік ў 1914 г.», другая частка: «Не ў 1914, а ў 1929 годзе».

Сутнасць эпохі імперыялізма, яе асаблівасці не змог растлумачыць ні адзін слухач, хоць у гуртку займаецца кіруючы партактыў.

Няўважлівая падрыхтоўка да заняткаў, няўменне правільна арганізаваць прапрацоўку матар'ялаў нярэдка прыводзіць к таму, што на палітзанятках многа блытаюць, нават па пытаннях, на якія ёсць вычарпальныя адказы.

Гурток па ленінізму (з-д «Варашылава») прапрацоўваў пастановы апошняга пленума ЦК ВКП(б). У парадку прапрацоўкі матар'ялаў выступілі ўдзельнікі заняткаў з такімі выказваннямі:

Тав. Айзман—член партыі, начальнік цэха:

— Рашэнне пленума ЦК ВКП(б) аб ліквідацыі картачнай сістэмы на хлеб падводзіць нас да адзяржаўлення калгасаў, ператварэння іх у прадпрыемствы паслядоўна соцыялістычнага тыпу.

Тав. Шэлкоў—член партыі, дырэктар завода, згаджаючыся з першаю часткай выказвання тав. Айзмана, адначасова «папраўляе»:

— Калгасы прадстаўляюць сабой прадпрыемствы паслядоўна соцыялістычнага тыпу, і шукаць нейкую розніцу будзе няправільна.

Тав. Розін—член партыі, старшыня ЗРК—пярэчыць супроць такой пастаноўкі:

— Ліквідацыя картачнай сістэмы, павышаючы ролю грошай, дае магчымасць паставіць пытанне аб тым, каб вылічэнне і выплату працадзён перавесці на грошы.

Падобная блытаніна недарэчна, бо па ўсіх гэтых пытаннях ёсць ясныя і выразныя рашэнні партыі, вычарпальныя выказванні тав. Сталіна. Гэтыя дакументы неабходна слухачам пачытаць, асабліва прамову тав. Сталіна на XVII партыйным з'ездзе.

Сур'ёзнейшую ўвагу трэба звярнуць на падрыхтоўку прапагандыстаў да заняткаў і на метады іх правядзення, у чым павінны значна дапамагчы пропсемінары. На жаль, пропсемінары часта не задавальняюць прапагандыстаў і наведваюцца імі дрэнна. У Менску мы маем агромную колькасць падрыхтаваных тэарэтычных кадраў, але яны недастаткова прыцягваюцца для работы з прапагандыстамі і незаўсёды сур'ёзна да яе падыходзяць.

Рыхтуючыся да заняткаў, прапагандысты павінны не толькі зразумець асноўную сутнасць тэмы, але старанна падабраць наглядныя дапаможнікі, мастацкую літаратуру, мясцовы практычны матар'ял і добра яго прапрацаваць.

Чаму, напрыклад, не выкарыстаць да тэмы па гісторыі партыі гістарычныя работы Пакроўскага, мастацкія творы Горкага і інш.?

Працуючы ў гуртку, прапагандыст павінен ведаць карту, эканамічнае становішча паасобных краін і т. д. Вывучаючы рэзалюцыі пленума, можна скарыстаць багаты матар'ял з вопыту барацьбы партыі за хлеб, падабраць работы Леніна і Сталіна аб хлебе.

Гэта будзе сапраўды глыбокае і сур'ёзнае вывучэнне рашэнняў пленума.

* * *

Да ўказанняў ЦК КП(б)Б аб неабходнасці належнага падбору прапагандыстаў партыйныя арганізацыі ў большасці падышлі фармальна, разумеючы іх пад кутом погляду колькаснага ўкамплектавання школ, не праверылі партыйна-палітычнага ўзроўню і большэвіцкай пільнасці прапагандыстаў, сярод якіх у рэзультаце аказаліся былыя ідэйна нераззброіўшыяся трацкісты, падонкі іншых апазіцый.

Возьмем факты.

19 лістапада 1934 г. начальнік рэдакцыйнага сектара ваеннага выдавецтва Разумоўскі на занятках Вячэрняга комвуза пры прапрацоўцы тэмы «Задачы другой пяцігодкі» выступіў з трацкісцкім паклёпам супроць нашай партыі, заявіўшы, што «матар'яльна-бытавое становішча рабочага класа СССР увесь час пагаршаецца, цэны на прадукты харчавання ўвесь час растуць». З гэтага паклёпу ён зрабіў контррэволюцыйны вывад, што «пастановы партыі знаходзяцца ў супярэчнасці з практычным жыццём».

Трацкісцкае выступленне Разумоўскага было падтрымана парторгам завода «Большэвік» Баранавым і кандыдатам партыі Буднікам (фабрыка імя Кагановіча).

Працуючы ў ваенным выдавецтве з лета 1934 г., Разумоўскі імкнуўся скалаціць там трацкісцкую групу.

Тав. Васілеўскі, настаўнік вячэрняга комвуза, дзе Разумоўскі вёў сваю трацкісцкую контррэволюцыйную прапаганду, своечасова не даў яму большэвіцкага адпору.

Гэты Разумоўскі механічна выбыў з партыі ў 1921 г. У 1926 г. ён у другі раз уступае ў партыю і ў 1930 г. за прымірэнчыя адносіны к трацкізму атрымлівае суровую вымову з папярэджаннем. За апошнія 9 месяцаў Разумоўскі пабываў дырэктарам соўгасаў Паўночнага Каўказа і Заходняй області і змяніў тры месцы работы ў Беларусі.

У ВКСГШ выкладчык Руды (раней прымыкаў да зіноўеўскай апазіцыі) сцвярджаў, што ў Окцябрскую рэволюцыю наша партыя толькі дэкляравала нацыянальнае пытанне, а па сутнасці яго не вырашыла, што «ў перыяд ваеннага комунізма партыя расла за кошт дробна-буржуазных элементаў».

Гэты-ж, з дазволу кажучы, «прапагандыст» у гуртку актыва завода «Большэвік» заяўляў, што «толькі з 1923 г.,—гэта значыць з перыяда разгортвання трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі,—па сутнасці пачалося вывучэнне гісторыі партыі, да таго часу вывучэннем сваёй гісторыі партыя не займалася». Разбіраючы пытанне саюза рабочага класа з працоўнымі масамі сялянства, Руды не раз падкрэсліваў, што «селяніна варта пабіць».

Гэтыя подлыя трацкісцкія выступленні, на жаль, не заўсёды сустракалі своечасовы адпор. Хіба падобныя людзі маглі-б працаваць у якасці прапагандыстаў, калі-б парторганізацыі па гніла-ліберальнаму

не аднесліся да іх? Контррэвалюцыйныя-ж трацкісцкія выказванні Рудага не выпадковы. Тым часам ні дырэкцыя комвуза, ні БІМЗО не праявілі большэвіцкую пільнасць да яго выкладання.

На канферэнцыі завочнікаў (Барысаў) выкладчык БІМЗО—Матвеенко,—сцвярджаў, што «ухіл ў філасофіі не азначае яшчэ ўхілу ў палітыцы», што «не ўсе рабочыя па адзнаках крыві могуць быць ударнікамі», што «ударнікі маюць лепшую кроў, чым няўдарнікі».

Прапагандыст чыгуначнага вузла Сермяжко, прапрацоўваючы тэму «Два светы—дзве сістэмы», зрабіў вывад, што «ў СССР ёсць эксплаатацыя»; пра сельскую гаспадарку заявіў: «Мы калектывізацыю завяршылі, і з беднякамі (аднаасобнікамі) больш няма чаго вазіцца». Сермяжко не толькі нельга давяраць прапаганду ленінізма, але самога яго трэба грунтоўна праверыць.

Указаныя факты ясна сведчаць аб тым, што ў нас няма яшчэ сістэматычнай праверкі прапагандысцкага складу і далёка недастаткова партыйная пільнасць пры падборы прапагандыстаў. Карыстаючыся гэтым, замаскаваныя ворагі з ліку трацкісцка-зіноўеўскага ахвосця пралезлі і ў склад прапагандыстаў, каб атручваць сваімі контррэвалюцыйнымі настроямі і перакананнямі слухачоў партшкол.

Адзін з важнейшых недахопаў партвучобы—слабая увага прапагандыстаў к метадам заняткаў. Прывяду толькі адзін факт.

Прапагандыст ВСПШ пры доме партактыва Кантаровіч вядзе заняткі выключна шаблонна, у выглядзе адказаў: «так», «не».

Разгледзім яго заняткі па тэме «Советы, як форма дыктатуры пролетарыята» (пытанні прапагандыста і адказы слухачоў падаюцца даслоўна):

— Дыктатура пролетарыята ці ёсць гэта проста змена габінета ці не?
— Вядома, не.
— Як разумеюць буржуазную дэмакратыю?
— Раз пануе буржуазія, не можа быць дэмакратызма.
— Якая сістэма забяспечвае поўную дэмакратыю?
— Дыктатура пролетарыята.
— Якая роля партыі ў сістэме дыктатуры пролетарыята?
— Кіруючая.

Ці трэба даказваць, што падобная «прапаганда» прыносіць шкоду, што такія прапагандысты не павінны быць дапушчаны да вучобы членаў партыі? Яны не садзейнічаюць павышэнню ведаў і толькі блытаюць комуністаў, з якімі займаюцца.

Падбор прапагандыстаў лектароў вырашае якасць вучобы, што не раз падкрэсліваў Владзімір Ільіч:

> «У кожнай школе самае важнае—ідэйна-палітычны напрамак лекцый. Чым вызначаецца гэты напрамак? Цалкам і выключна складам лектароў. Вы добра разумееце, таварышы, што ўсякі «кантроль», усякае «кіраўніцтва», усякія «праграмы», «статуты» і інш.—усё гэта пусты гук у адносінах да складу лектароў. Ніякі кантроль, ніякія праграмы абсалютна не маюць мажлівасці змяніць таго напрамку заняткаў, які вызначаецца складам лектароў».

Вучоба можа быць добра наладжана толькі тады, калі мы будзем ведаць, што ўяўляе сабою кожны прапагандыст, што ён чытае, што

ведае. Мы павінны сістэматычна працаваць з прапагандыстамі, правяраць іх работу, павышаць тэарэтычны ўзровень і адначасова патрабаваць ад іх высокай якасці работы. Мы павінны аб'явіць рашучую барацьбу супроць схематызма, схаластыкі, супроць халтуры ў партыйнай прапагандзе, супроць аказёньвання маркса-ленінска-сталінскага вучэння. Ні адзін факт апашлення і халтуры ў прапагандзе не павінен прайсці міма партыйнага камітэта.

Гарадскі камітэт партыі, парткомы пярвічных партарганізацый абавязаны сістэматычна правяраць якасць вучобы, якасць работы кожнага прапагандыста. Ні адзін прапагандыст не можа быць послан для работы ў партшколе без зацверджання гаркома партыі.

Прапаганда марксізма-ленінізма—ганаровая партыйная справа, і даверыць яе можам толькі таму, каго як след праверылі і ведаем.

Тав. Сталін на XVII партз'ездзе з выключнай яркасцю вызначыў задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы. За ажыццяўленне тэтых задач, за крыштальную чыстату марксісцка-ленінскай тэорыі—вось за што мы павінны змагацца, каб забяспечыць далейшы наш рост, далейшае прасоўванне наперад.

Мы павінны значна палепшыць завочнае навучанне, павысіць выкарыстанне радыё ў гэтай выключна важнай справе.

Радыё—важнейшая палітычная зброя ў справе прапаганды і марксісцка-ленінскага выхавання членаў партыі і беспартыйнага актыва, што не раз падкрэсліваў ЦК КП(б)Б. Аднак, нельга яшчэ сёння сказаць, што завочная партвучоба наладжана ў нас добра. Радыёаўдыторыі ў калгасах Дзержынскага, «К. Маркса», «2-ая конная», «Большэвік» і «1 мая» працуюць нездавальняюча.

Менскі гарком партыі не арганізоўваў праверкі выканання сваіх рашэнняў па пытанню радыёаўдыторый. Гэты ўчастак работы мы павінны падцягнуць.

* * *

Марксісцка-ленінскаму выхаванню комсамола наша партыя заўсёды надавала і зараз надае выключнае значэнне.

Комсамол—агромная армія моладзі, большасць якой не перанесла на сваёй спіне прыгнёт капіталізма, яго зверскую эксплаатацыю. Сёнешнему парастку комсамольцу ў гады Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі было 5—7 год, маладыя-ж комсамольцы нарадзіліся і выраслі ўжо ў паслярэволюцыйны перыяд, яны ведаюць аб пролетарскай рэволюцыі больш з кніг, чым з асабістага вопыту.

Гэта армія маладых людзей ідзе на змену сваім старым таварышам і патрабуе ад іх асобага падыходу пры вывучэнні мінулага, больш канкрэтных, яркіх, вобразных тлумачэнняў.

Кожны юнак і дзяўчына ў рэзультаце вывучэння гісторыі нашай барацьбы павінны добра ўявіць сабе мінулае жыццё рабочага і працоўнага селяніна, як высмоктваў з іх кроў і мозг эксплаатататар—фабрыкант і памешчык, як дапамагалі ім у гэтых здзеках жандар і гарадавы.

Тым часам трэба прызнаць, што к комсамольцу мы падыходзім з такімі-ж формамі і метадамі работы, як і к даросламу рабочаму. І калі ў сеці партыйнай асветы прапагандысцкая работа мае рад буйнейшых прабелаў і ляпсусаў, то яшчэ больш іх ў сеці комсамольскай

асветы, дзе прапагандысцкія сілы менш вопытныя і слабей падрыхтаваныя. І не дзіўна пасля гэтага, калі ў паасобных нізавых комсамольскіх арганізацыях ёсць выпадкі хваравітых з'яў, бо там амаль адсутнічае палітычна-масавая работа, на што мы абавязаны звярнуць выключную ўвагу.

Марксісцка-ленінская вучоба—вялікая школа выхавання комсамола, загартоўкі яго на вопыце гераічнай барацьбы нашай партыі і рабочага класа, выкоўвання з комсамольцаў стойкіх большэвікоў. Але не заўсёды комсамольская, ды і партыйная арганізацыя, уважліва падыходзяць да гэтай работы. У Менску вядуць непасрэдна прапагандысцкую работу ў школах і гуртках толькі двое са 100 сакратароў комсамола.

Владзімір Ільіч Ленін яшчэ на III з'ездзе РКСМ гаварыў, што комсамол па сутнасці будзе сапраўдным, непасрэдным будаўніком комуністычнага грамадства. Калі так гаварыў Ленін ў 1920 г., то тым больш гэта адносіцца к сучаснаму перыяду. Пастаўленая тады Леніным перад комсамолам задача аб неабходнасці вучыцца і вучыцца вырастае зараз ва ўсёй сваёй велічы і паўнаце.

Пра агромную сілу штодзеннага і цярплівага ажыццяўлення гэтай задачы тав. Кіраў, якога вырвалі з нашых ленінскіх радоў гнусныя агенты класавага ворага, подлыя пасонкі былой зіноўеўскай антыпартыйнай групы, гаварыў на комсамольскім актыве Ленінграда 28 кастрычніка 1934 года:

«Запэўніваю вас, таварышы, што калі мы з вамі сёння, у дзень нашага свята, дамо сапраўдную комсамольскую большэвіцкую клятву, каб кожны з нас, на якім-бы фронце ці ўчастку работы ні знаходзіўся, каб кожны з нас сапраўды праводзіў ў жыццё гэты лозунг «вучыцца», запэўніваю вас, што наша другая пяцігодка дасць нам больш рэзультатаў, больш дасягненняў, чым тыя, якія мы мелі ў перыяд першай пяцігодкі. Я ведаю, што ў радзе арганізацый і ў цэлым у комсамоле зараз вакол гэтага лозунга падымаецца вельмі вялікая хваля, і гэта, таварышы, абяцае нам у бліжэйшы час значныя рэзультаты, бо тады перыяд, які яшчэ застаецца ў гісторыі чалавецтва, перыяд сумеснага існавання двух сістэм, соцыялістычнай і капіталістычнай, бясспрэчна, будзе скарочан».

Палітычная вучоба комсамола павінна дапаўняцца сумай самых разнастайных масава-палітычных мерапрыемстваў сярод моладзі. Важнае месца павінна заняць растлумачэнне пастаноў лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), арганізацыя спецыяльных гутарак і чытак пастаноў і дакладаў пленума.

Вывучэнне старонак жыцця, работы і барацьбы бясстрашнага рэволюцыянера тав. Кірава, мае вялікае выхаваўчае значэнне не толькі для нашай моладзі, але і для ўсёй партыі, бо ў ім бачым лепшага прапагандыста і рэволюцыйнага трыбуна, крыштальнай чыстаты і непахіснай стойкасці партыйца, большэвіка-ленінца, аддаўшага ўсё сваё яркае і слаўнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма.

Забойцамі тав. Кірава аказаліся гнусныя агенты класавага ворага, прастытуяваныя мярзаўцы—зіноўеўская апазіцыя, якая мае сваю гісторыю, поўную чорных старонак, здрадніцкіх вылазак супроць партыі.

Нашу слаўную моладзь мы павінны штодзенна выхоўваць у духу найвялікшай ненавісці к ворагам рабочага класа і іх гнусным агентам.

Маладыя кадры комсамола павінны ведаць гісторыю барацьбы партыі за чыстату ленінскай лініі, яны павінны выхоўвацца ў духу адданасці партыі і найвялікшай класавай пільнасці. Мацнейшаю зброяй такога выхавання з'яўляецца марксісцка-ленінская вучоба. Партарганізацыі павінны дапамагчы нізавым комсамольскім арганізацыям, прымацоўваючы да іх лепшыя агітацыйна-прапагандысцкія сілы.

Ленінскі комсамол заўсёды быў, ёсць і будзе вярнейшым памочнікам нашай большэвіцкай партыі і яе правадыра тав. Сталіна ў барацьбе за канчатковую перамогу комунізма. І тым мацнейшым будзе гэты наш верны памочнік, чым лепш яму дапаможам у марксісцка-ленінскай вучобе.

* * *

Наша партыя, атрымаўшы агромнейшыя перамогі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, пераможна ажыццяўляе гістарычную задачу другой пяцігодкі—пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Выключна вялікае значэнне ў далейшай нашай барацьбе за завяршэнне справы соцыялізма ў нашай краіне маюць рашэнні лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б).

Гэтыя рашэнні—яркі паказчык нашых гіганцкіх поспехаў, дасягнутых пад кіраўніцтвам партыі на чале з тав. Сталіным, які цвёрда, упэўнена і няўхільна вядзе большэвіцкае наступленне па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва.

СССР стаў краінай магутнай індустрыі, краінай буйнейшай у свеце сельскай гаспадаркі толькі дзякуючы таму, што наша партыя з большэвіцкай паслядоўнасцю, прынцыповасцю і непрымірымасцю праводзіла генеральную лінію партыі.

Рашэнне лістападаўскага пленума ЦК аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты, а таксама аб ператварэнні палітаддзелаў у звычайныя партыйныя арганізацыі ёсць рэзультат перамогі генеральнай лініі нашай партыі і азначае новы гіганцкі крок у справе ўмацавання соцыялістычнага ладу, у справе далейшага палепшання матар'яльнага добрабыту працоўных горада і вёскі.

Гэтыя перамогі даліся не лёгка. Яны—рэзультат упорнейшай барацьбы партыі з трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй, з усякага роду хістаннямі і ўхіламі правых і «левых» апартуністаў, нацыянал-ухілістаў, капітулянтаў розных масцей і адценняў, абаронцаў ворагаў рабочага класа. Разграміўшы і разбіўшы класавых ворагаў і іх агентаў унутры партыі, мы забяспечылі нашы перамогі.

Тав. Сталін у дакладзе на XVII партз'ездзе сказаў:

> «Ворагаў партыі, апартуністаў усіх масцей, нацыянал-ухілістаў усякага роду—разбілі. Але астаткі іх ідэалогіі жывуць яшчэ ў галовах паасобных членаў партыі і нярэдка даюць аб сабе ведаць».

Падонкі зіноўеўскай групы дзейнічалі, як вядома, у адзіным фронце з белагвардзейскімі забойцамі. У іх агульныя погляды і агульныя шляхі контррэволюцыйнага падполля. Безумоўна, што і лёс іх будзе агульным. Наша пролетарская дыктатура раздушыць гэту гадзіну і да канца выкараніць усіх ворагаў рабочага класа, якія імкнуцца падняць галаву супроць нас.

Далейшая барацьба за перамогу соцыялізма патрабуе і абавязвае ўсіх нас максімальна павысіць класавую пільнасць і рэволюцыйную зоркасць. Мацнейшая зброя ў гэтай справе—вучэнне марксізма-ленінізма. Сергей Міронавіч Кіраў у сваёй прамове на пленуме Ленінградскага абкома і гаркома ВКП(б) 10 кастрычніка 1934 г. сказаў:

**«Марксізм-ленінізм—гэта сапраўды адзіная навука, якая вучыць працоўных перамагаць сваіх ворагаў».**

Класавы вораг для сваёй гнуснай падрыўной работы выкарыстоўвае ўсякі факт недастатковай нашай пільнасці.

Тав. Сталін на студзеньскім пленуме ЦК ВКП(б) 1933 г. гаварыў:

«Няма такой брыдоты і паклёпу, які-б нашы ворагі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якога не спрабавалі-б мабілізаваць адстаючыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў».

Гаворачы гэта, тав. Сталін прызываў нас к максімальнай рэволюцыйнай пільнасці, якая з'яўляецца асноўнай якасцю большэвіка. І зараз, як ніколі, мы павінны зарчэй глядзець, пільней бачыць і настарожлівей быць, каб яшчэ мацней змагацца за канчатковае знішчэнне апошніх рэштак класавых ворагаў.

Апублікаваныя пракуратурай Саюза ССР па справе Зіноўева, Еўдакімава, Герцыка, Бакаева, Кукліна, Каменева і інш. матар'ялы ясна сведчыць аб тым, што былая антысовецкая зіноўеўская група не спыняла ўвесь час сваёй падпольнай двурушніцкай контррэволюцыйнай работы, накіраванай на правядзенне ў жыццё контррэволюцыйных мэт у духу так званай зіноўеўска-трацкісцкай платформы. Кіраўнікі антысовецкай зіноўеўскай групы для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці арганізавалі ў г. Маскве так званы «маскоўскі цэнтр», які меў сістэматычную сувязь з падпольнай контррэволюцыйнай тэрарыстычнай ленінградскай групай, падрыхтаваўшай і ажыццявіўшай забойства **Сергея Міронавіча Кірава.**

На працягу ўсёй сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці зіноўеўская антысовецкая група гадавала злобу і ненавісць да кіраўніцтва партыі Леніна—Сталіна, ужываючы ўсе гнуснейшыя сродкі, запазычаныя з арсенала фашызма. Гнуснейшае двурушніцтва і падлейшае здрадніцтва было метадам контррэволюцыйнай дзейнасці зіноўеўска-трацкісцкай сволачы.

Абвінаваўчае заключэнне пракуратуры Саюза ССР па гэтай справе гаворыць:

«Адной з асноўных задач гэтай падпольнай контррэволюцыйнай групы на чале з «маскоўскім цэнтрам» з'яўлялася захаванне сваіх «кадраў», накапленне сіл і ўмацаванне сярод членаў групы пачуцця азлаблення і адкрытай ненавісці да кіраўнікоў партыі і совецкай улады.

Абвінавачаны Фёдараў, характарызуючы дзейнасць контррэволюцыйнай падпольнай зіноўеўскай групы, пацвердзіў, што—«асноўная задача, якая ў той час стаяла перад зіноўеўскай арга-

нізацыяй, заключалася ў тым, каб арганізаваным шляхам уйсці ў падполле, перабудаваць метады сваёй падпольнай работы, захаваўшы ў партыі асноўныя кадры апазіцыі. Кадры захаваны былі тым, што была дана ўстаноўка падаваць абманныя, двурушніцкія заявы ў партыю са згодаю і падначаленнем рашэнням з'езда»...

Падаючы фальшывыя, абманныя заявы, зіноўеўцы «упаўзалі на бруху» у партыю з каменем за пазухай, каб пры першым зручным выпадку запусціць гэты камень у галаву нашай партыі. Гэтым агідным вырадкам была арганічна праціўна будзнічная работа, якая для шырокіх мас працоўных нашай соцыялістычнай радзімы з'яўляецца справай славы, гонару і геройства. Зіноўеўскія выраджі ва ўсе гады рэволюцыі вялі шалёную барацьбу супроць нашай ленінскай партыі і яе сталінскага кіраўніцтва.

З дзікай ненавісцю адносяцца трацкісцка-зіноўеўскія падонкі к перамогам нашай партыі. Аб гэтым сведчаць і факты актывізацыі зіноўеўска-трацкісцкіх элементаў у БССР, асабліва контррэволюцыйныя вылазкі падонкаў трацкісцка-зіноўеўскай групы ў менскай арганізацыі.

Фліор—гэты нераззброіўшыся трацкіст—у мінулым з'яўляўся актыўным членам антыпартыйнай зіноўеўска-трацкісцкай контррэволюцыйнай апазіцыі і актыўна змагаўся супроць генеральнай лініі партыі, за што ў свой час выключаўся з яе радоў.

Фліор катэгарычна адмовіўся выступіць з дакладам па прапанове партарганізацыі аб рашэннях лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), а таксама з крытыкай і выкрыццём свайго актыўнага ў мінулым удзелу ў антыпартыйнай зіноўеўска-трацкісцкай групе. На гэту пастанову партарганізацыі Фліор дэманстрацыйна адказаў:

> «Сваёй прапановай вы выказваеце недавер'е да мяне, а калі так, то высылайце мяне разам з Зіноўевым і Каменевым».

З аднаго боку ўжо ясна відаць, што Фліор і дагэтуль падзяляе погляды зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі, што ён быў і застаўся ворагам партыі. А таму зусім правільна паступіла парткалегія КПК і Бюро ЦК КП(б)Б, выключыўшы Фліора з партыі і зняўшы яго з работы ўпаўнаважанага Наркамзамежгандлю СССР пры СНК БССР.

Галендо—былы старшыня Дзяржплана і намеснік старшыні Соўнаркома Беларусі. Менгарком даручыў Галендо зрабіць на партыйным сходзе менскага скуранага завода «Большэвік» даклад аб выніках лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б). Галендо—былы актыўны трацкіст, сааўтар вядомага трацкісцка-зіноўеўскага шкодніцкага «хлебна-фуражнага баланса»,—дакладваючы аб выніках лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), зусім моўчкі абышоў барацьбу партыі з контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй. Значэнне адмены картачнай сістэмы Галендо тлумачыў на трацкісцкі лад. Ён сцвярджаў, што ўвядзенне картачнай сістэмы з'явілася нібыта вынікам бяссілля партыі ў барацьбе супроць кулацкай стыхіі.

Калі ўспомніць, што Галендо ў 1925 годзе з'яўляўся актыўным прыхільнікам трацкісцка-зіноўеўскага шкодніцкага «хлебна-фуражнага баланса» і сцвярджаў разам з трацкістамі, што асноўная маса хлеба знаходзіцца ў руках кулака, то становіцца ясным, што трацкісцкае выступленне Галендо не выпадкова.

Партыйны сход завода «Большэвік» рэзка асудзіў выступленне Галендо і зусім правільна патрабаваў паставіць пытанне аб яго партыйнасці. Зараз Галендо выключан з партыі і зняў з работы.

Контррэвалюцыйныя вылазкі Галендо, Фліора, Рудага і інш. яшчэ і яшчэ раз гавораць аб настойлівай неабходнасці ва сто крат ўзмацніць рэволюцыйную пільнасць.

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе аб выніках лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) гаварыў:

> «Пільнасць патрабуе, каб мы падзесяцярылі сваю барацьбу, каб мы падзесяцярылі сваю ідэйна-палітычную і арганізатарскую работу. Пільнасць патрабуе, каб мы ўсцяж і ўсюды разілі ворага, да канца выкарчоўвалі яго рэшткі».

Парткомы абавязаны максімальна ўзмацніць пільнасць у падборы людзей, усебакова ведаць сваіх прапагандыстаў, якім партыя даручае ганаровую справу выхавання комуністаў і комсамольцаў, павышэння іх палітычнага ўзроўню. Трэба аднак сказаць, што да гэтай справы нядбайна адносяцца не толькі некаторыя парткомы вытворчых партарганізацый, але і часткі навучальных устаноў, асабліва мед'інстытута, соўпартшкол і некаторых іншых.

Партарганізацыі яшчэ слаба рэалізуюць указанні тав. Гікало аб лепшай пастаноўцы партыйна-масавай работы, якая павінна стаць у цэнтры ўсяго марксісцка-ленінскага выхавання. Чым лепш мы паставім партыйна-масавую работу, чым сур'ёзней і настойлівей будзем вучыцца марксізму-ленінізму, чым высокаякасней будзе арганізавана наша вучоба, тым хутчэй мы пераможам.

Гэта перамога забяспечваецца ў штодзеннай нашай барацьбе, узначаленай вялікім правадыром тав. Сталіным, які заўсёды падкрэслівае, што перамога нікэлі не прыходзіць сама сабой:

> «... Не ўбаюкваць трэба партыю, а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе, а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не разбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізаваць, а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі».

---

І. Х. Гершон

# Партыйную работу—на вышэйшую ступень *)

Прамысловасць Совецкай Беларусі закончыла 1934 таспадарчы год з паасобнымі поспехамі. Выканалі план ў цэлым такія галіны прамысловасці як машынабудаўнічая, тарфяная, скурана-абутковая, шкляная, харчовая, запалкавая, дрэваапрацоўчая, штучнага валакна. Выканан план па лесасплаву. Упершыню выканала план промкааперацыя, якая дала каля 200 млн. руб. прадукцыі. Прамысловасць саюзнага значэння выканала прамфінплан на 106 проц., у тым ліку: НКЦПром—на 107,5 проц., НКЛПром—на 102,5 проц., Наркамлес—на 97,4 проц., НКХарчпром—на 99 проц. Прамысловасць рэспубліканскага значэння выканала план на 94,3 проц., у тым ліку: НКЛПром—на 94,1 проц., НКУнутргандлю—на 101 проц., Белэнергатрэст—на 108 проц.

У сумарным выражэнні наша прамысловасць за 1934 г. дала прадукцыі на 686 млн. руб., што складае 111 проц. супроць 1933 г.

Рад гарадоў—Магілеў, Барысаў, Бабруйск, Орша, Дуброўна, Рэчыца—выканалі ў цэлым свой промфінплан. Партарганізацыі гэтых гарадоў дабіліся поспехаў у рэзультаце крапатлівай работы, уважлівага падыходу да патрэб кожнага прадпрыемства, кожнага рабочага, у рэзультаце нястомнага штодзеннага кіраўніцтва прамысловасцю з боку ЦК КП(б)Б і асабліва тав. Гікало.

На паасобных участках прамысловасці мы працавалі лепш, чым у 1933 г. і нават лепш, чым за ўсе мінулыя гады. Аднак, захапляцца гэтымі дасягненнямі, самасупакойвацца мы ні ў якім разе не можам, бо ёсць яшчэ рад участкаў, дзе работа ішла рыўкамі, метадам штурмаўшчыны, дзе займацца промфінпланам пачалі фактычна толькі пасля майскага пленума ЦК КП(б)Б, а ў рэзультаце Беларусь выканала гадавы план толькі на 97,5 проц.

Аналізуючы работу нашай прамысловасці за 1934 год, мы не можам базіравацца на параўнанні лічбаў выканання промфінплана з папярэднімі гадамі, бо гэта мала характарызуе нашу леташнюю работу, паколькі 1934 год характэрны выключным вытворчым уздымам прамысловасці па Саюзу. Складанейшыя і важнейшыя яе галіны, як, напрыклад, чорная металургія, выканалі свой план, а мы недавыканалі на 4 з лішнім проц. Хіба адсюль не ясна, што мы яшчэ працуем дрэнна, што наша арганізацыйна-партмасавая работа на радзе прадпрыемстваў пастаўлена зусім слаба.

---

*) З выступлення на нарадзе інструктароў і сакратароў парткамітэтаў па прамысловасці.

У 1935 годзе мы павінны і абавязаны працаваць лепш, маючы на ўвазе, што асноўная гарантыя нашых далейшых поспехаў—гэта рост творчай ініцыятывы і вытворчага ўздыму рабочых—будаўнікоў соцыялізма.

1935 год будзе годам барацьбы за культуру, за тэхніку, за чалавека, ауладаўшага тэхнікай.

У сувязі з гэтым варта яшчэ і яшчэ раз успомніць указанні т. Сталіна ў яго гутарцы з металургамі:

«Галоўнае—людзі, сутнасць справы ў людзях, у арганізацыі іх, у клопатах аб іх. Не голая тэхніка, а тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай. Толькі такое разуменне гэтага лозунга з'яўляецца правільным, і паколькі мы ўжо навучыліся цаніць яго, пара заявіць прама, што галоўнае заключаецца зараз у людзях, аўладаўшых тэхнікай. Але з гэтага вынікае наступнае, што калі раней аднабока рабілі націск на тэхніку, на машыну, то зараз націск трэба рабіць на людзей, аўладаўшых тэхнікай. Гэтага патрабуе наш лозунг аб тэхніцы. Трэба берагчы кожнага здольнага, разумеючага чалавека» **(Сталін).**

Кожнае слова т. Сталіна мае выключнае значэнне, бо ў іх выражана наша праграма барацьбы за соцыялізм, бо яны з'яўляюцца кіруючымі ў нашай ўнутрыпартыйнай і масавай рабоце. Словы нашага правадыра неабходна шырока папулярызаваць сярод рабочых і служачых, як баявую праграму дзеянняў для ўсіх работнікаў прамысловасці.

* * *

Выключнае месца ў выкананні гэтых баявых указанняў т. Сталіна займае наша арганізацыйна-партыйнамасавая работа: павышэнне авангарднай ролі кожнага комуніста, правільная расстаноўка партыйных сіл, удумчывае ідэйнае кіраўніцтва. Будзе абсалютна правільным сказаць і ў адносінах партыйных работнікаў, што яны павінны аўладаць тэхнікай партработы, памятаючы выдатныя словы т. Сталіна аб тым, што кіраўніцтва гэтай складанаю справай ёсць мастацтва, што трэба ўмець своечасова знайсці галоўнае ў нашай рабоце. Тым часам на радзе прадпрыемстваў не адчуваецца ведання тэхнікі большэвіцкай работы.

XVII з'езд нашай партыі паставіў задачы:

«а) узняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва;

б) дамагчыся таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечыла правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі».

Гэтыя задачы выконваюцца намі яшчэ зусім слаба.

Галоўнейшыя недахопы заключаюцца ў тым, што арганізацыйная структура перабудоўваецца вельмі марудна, а часам нават і няправільна. Важнейшаму пытанню—расстаноўцы партыйных сіл—не ўдзяляецца патрэбнай ўвагі. Пры нядрэнным кіраўніцтве гаспадарчай работай рад прадпрыемстваў забыў галоўнае—партработу.

Сакратары парткомаў, парторгі, партработнікі, як правіла, сталі добра разбірацца ў гаспадарчых пытаннях. Гэтыя веды трэба зама-

цоўваць і ў далейшым умнажаць. Але трэба, як вучыць нас тав. Кагановіч, з любоўю сапраўднага партарганізатара, як крапатліваму партыйнаму крату, улязаць ва ўсе дробязі партыйнай работы і з любоўю вывучаць становішча пярвічных партыйных арганізацый, дынаміку складу партарганізацыі, не перакладаючы практыку партработы на плечы радавых і другарадных работнікаў.

Задача парткомаў—не дубліраваць гаспадарнікаў, а даць ім магчымасць самастойна, гаспадарчым, адміністрацыйным парадкам, праводзіць ў жыццё дырэктывы партыі і ўрада. За партработнікамі застаецца палітычнае кіраўніцтва, арганізацыя мас на выкананне мерапрыемстваў партыі і совецкай улады. Гэта значна цяжэй, бо тут патрэбна крапатлівая, штодзенная работа. Вось чаму чуждыя партыйнаму апарату метады—дубліраванне гаспадарнікаў, бюракратызм у кіраўніцтве—мы знаходзім там, дзе няма партработы.

Арганізацыйная структура па сутнасці вырашае лёс работы, аднак у радзе выпадкаў у нас няма да яе належнай увагі.

У парадку падрыхтоўкі да нарады пры прамаддзеле ЦК КП(б)Б мы азнаёміліся з пастаноўкай работы на радзе прадпрыемстваў Беларусі. Характэрна, што ні ў габінетах сакратара парткома, гаркома, райкома, ні нават у агітгабінетах, мы не знайшлі ніводнай схемы пабудовы партарганізацыі. Няма тэтага на фабрыцы «Дзвіна», «Труд», у Магілеве, на Гомсельмашы. Нядзіва, што сакратары парткомаў не ведаюць як наладжана ў іх важнейшая галіна партыйнай работы—улік. У інструктароў гаркомаў не знойдзеш спісу парторгаў, іх палітычных дзелавых характарыстак, у той час як парторг—цэнтральная фігура партработы на прадпрыемстве.

Трэба прызнацца, што арганізацыйная структура не ўсюды як след прадумана, часам замест правільнай расстаноўкі партыйных сіл, сакратары парткомаў ствараюць штаты незаконных платных цэхавых парторгаў.

Такая фармальная перабудова не дапамагае павышэнню ўдзельнай вагі комуніста. Член партыі павінен быць не толькі перадавіком на прадпрыемстве, але абавязан дапамагчы партыі раз'ясняць яе дырэктывы, не адрываючыся ад рабочай масы, ад варштата. Гэтага не хочуць разумець нашы сакратары парткомаў. На буйных прадпрыемствах Масквы і Ленінграда, якія давялося нам наведаць, усе гутаркі з намі пачыналіся з таго, што сакратары парткомаў знаёмілі нас са схемай пабудовы партыйнай арганізацыі, паказвалі, якім чынам расстаўлены ў цэхах партыйныя сілы і асноўныя масы парторгаў.

* * *

Спецыяльным абследваннем, праведзеным работнікамі ЦК КП(б)Б, устаноўлена, што ніхто не сочыць за станам партыйнага уліку, за захаваннем партыйных дакументаў (спісаў, пратаколаў і т. д.). Возьмем, к прыкладу, завод «Чырвоная зорка». Сакратар парткома т. Марок чамусці перадаў уліковыя карткі на захаванне загадчыку гаспадаркі і зусім не ведае аб тым, дзе знаходзяцца пратаколы і рашэнні агульных сходаў, пратаколы і дырэктывы гаркома.

— Бачыце,—гаворыць т. Марок,—я зараз і партработнік і гаспадарнік. Ясна, што з двух спраў адна павінна пацярпець.

Гаспадарчае кіраўніцтва не магу аслабіць, ну і няхай церпіць партработа.

Вось чаму на заводзе няма ніякай партработы. Адзіны спачуваючы, т. Пархімовіч, выдзяляецца сярод усіх толькі тым, што заўжды бывае п'яны.

Або ўзяць абутковую фабрыку—прыём заказаў. Па просьбе інструктара промаддзела ЦК КП(б)Б сакратар парткома вылажыў кучу папер, сабраўшы іх з усіх сталоў, і сказаў: «Вось вам, калі ласка, партыйныя справы, і разбірайцеся самі».

Такіх фактаў і прыкладаў колькі хочаце. Калі прадумаць добра гэту справу, то што-ж у нас выходзіць? Прымаем рашэнні аб пільнасці, а па сутнасці аддаем ключы ад партыйных дакументаў у рукі невядомых нам асоб. Ці не дзіўна пасля гэтага, што ў нас крадуць партбілеты і ўліковыя карткі.

Пераглядаючы дзесяткі дзеннікаў інструктароў гаркомаў, мы не знашлі такога запісу, з якога было-б відаць, што інструктар займаўся праверкай партструктуры, пастаноўкі ўліку і т. д. А тым часам у прымацаваных партарганізацыях інструктар павінен паставіць справу так, каб ні адзін комуніст не выбыў з раёна, з прадпрыемства, не зняўшыся з партыйнага ўліку.

Чыстка КП(б)Б, спецыяльнае рашэнне ЦК ВКП(б) аб віцебскай партарганізацыі, рашэнне ЦК КП(б)Б моцна папярэдзілі аб тым, што ў нас кепска наладжан ўлік, што наогул «партгаспадарка» пастаўлена нездавальняюча. Выяўляюцца дзесяткі «мёртвых душ», неіснуючых комуністаў, якія даўно выехалі, не зняўшыся з уліку, страта партыйных дакументаў і т. д.

Такім чынам, у галіне тэхнікі партработы і партструктуры трэба многа працаваць, а галоўнае—ўзяцца за справу неадкладна.

* * *

У прамысловасці БССР занята 8.300 комуністаў, з іх кандыдатаў—каля 50 проц., спачуваючых—12 проц.

На прадпрыемствах Менска працуюць 2.044 комуністы, з іх—42 проц. кандыдатаў.

У Віцебску—48 проц. кандыдатаў партыі і 11 проц. спачуваючых.

У Гомелі—30 проц. кандыдатаў і 12 проц.—спачуваючых.

У Магілеве—37 проц. кандыдатаў і 11 проц. спачуваючых.

У Барысаве—49 проц. кандыдатаў і 16 проц. спачуваючых.

У Бабруйску—38 проц. кандыдатаў і 13 проц. спачуваючых.

На паасобных прадпрыемствах («КІМ», «Сцяг індустрыялізацыі» і інш.) процант кандыдатаў партыі яшчэ вышэй.

Як бачым, для КП(б)Б характэрна агромная колькасць кандыдатаў партыі. Адсюль трэба выходзіць пры вызначэнні характару партработы.

Якім-жа чынам гэта пытанне адлюстроўваецца ў партрабоце, як перабудаваліся і што сабою прадстаўляюць нашы парткамітэты пасля перабудовы?

Для характарыстыкі возьмем Добрушскую папяровую фабрыку. Гэта вялікае прадпрыемства мае каля 3.000 чалавек рабочых, да 100 чал. ІТР, да 200 чал. малодшага тэхнічнага персанала. У партыйнай арганізацыі 122 члена партыі, 45 кандыдатаў. Большая

колькасць комуністаў працуе за варштатам. Партпраслойка ў паасобных цэхах—ад 4 да 5 проц.

25 снежня партком абгаварваў выключнай важнасці пытанне—пастанову ЦК ВКП(б) аб папяровай прамысловасці. Якое-ж рашэнне вынесена па гэтай пастанове?—«Прыняць да ведама паведамленне Гейшына, што на падставе пастановы ЦК і СПА намечана сума мерапрыемстваў». І ўсё. Такім чынам парткамітэт фабрыкі «Добруш» адмахнуўся ад пастановы ЦК ВКП(б), якая мае сур'ёзнейшае значэнне для палепшання работы папяровай прамысловасці.

Пытанне аб ходзе рамонту і аб правядзенні кампаніі па праверцы дагавароў злучылі разам, вынесшы пастанову ў такім духу, што пытанні гэтыя важны палітычна і практычна, што фабком павінен забяспечыць календарны план, партарганізатар—шырокае кіраўніцтва, камітэт комсамола—удзел комсамольцаў, а таксама ўсё гэта апісаць у газеце.

23 кастрычніка партком фабрыкі ўпершыню разбіраў пытанне аб стане работы партарганізацыі саломена-цэлулоіднага завода (да-рэчы, гэта толькі цэх; чаму трэба іграць па маштабах—невядома). Гейшыну, Цэйтліну (старшыня фабкома) і Цэцэру даручылі распрацаваць рэзалюцыю, але і па сёння гэта даручэнне тройка не выканала. Пры такой пастаноўцы партработы няма нічога дзіўнага ў тым, што вылучаныя для правядзення палітгутарак, у тым ліку і Цэцэр—заг. цэлулоіднага завода, па сутнасці чалавек палітычна няграматны, не вераць у рэальнасць плана і ніколі яго не выконваюць.

«Паклапаціўся» партком і аб практычных мерапрыемствах для правядзення ў жыццё пастановы Гомельскага гаркома КП(б)Б аб рашэнні ЦК ВКП(б) па гомельскай партарганізацыі.

Партком прымае пастанову аб неабходнасці ўзняць пільнасць комуністаў, павысіць тэарэтычны ўзровень арганізацыі. Але так і засталося невядома каму што даручана, хто што павінен зрабіць. У канстатуючай частцы пастановы запісана: «Партыйная арганізацыя слаба згуртавана, ёсць буржуазная расхлябанасць. У партгрупе ОРС работа развалена. Сямейнасць. Недастаткова крытыкі і самакрытыкі». Не дзіўна, што пасля такога, з дазволу кажучы, кіраўніцтва партарганізацыя не выхоўваецца і ўся партыйна-масавая работа адстае.

За 6 месяцаў работы партком толькі раз паставіў індывідуальную справаздачу двух членаў партыі аб тым, як яны выконваюць свае абавязкі. Замест таго, каб кожнаму комуністу зразумець, чаго ад яго патрабуе партыя, прымаюцца агульныя рашэнні, якія потым нікім не правяраюцца. На адным сходзе парткома прынята было рашэнне аб пакаранні 11 членаў і кандыдатаў партыі, г. зн. 5 проц. партарганізацыі. Парткамітэт з гэтага абураючага факта не зрабіў для сябе ніякіх вывадаў аб стане кіраўніцтва гэтай арганізацыі, не завастрыў увагу на хваравітых момантах у практыцы яе работы.

На Добрушскай фабрыцы ніхто не дапамагае членам партыі разбірацца ў газетным матар'яле, зацікавіцца чыткай. Нават сярэдні комсастаў, як Панько Фёдар, Савушкін, Арцюхоў, Дубадзелаў, Цэцэр, Аграеў наогул не чытаюць газет. «Звязды» не купіш нават у ларку. Прапагандыст Хацькова 3 разы зрывала заняткі гуртка партасветы, адмаўляючыся тым, што не ведае беларускай мовы. Партком не палічыў патрэбным пакласці канец гэтаму яўнаму ігна-

раванню дырэктыў ЦК па нацыянальнаму пытанню, ні разу не завастраў яго перад партыйнай арганізацыяй.

У арганізацыі ёсць «маўчальнікі», ёсць і такія комуністы, як напрыклад, парторг змены «Б» энергацэха Трацкоўскі Павел, які адкрыта заявіў: «Пастанова ЦК аб адмене картачнай сістэмы на хлеб з'яўляецца аднабаковай, бо цэны на хлеб вялікія, а зарплата рабочым нізкая». І гэты парторг застаўся на сваёй рабоце. Партком давярае яму тлумачыць рашэнне партыі па гэтаму пытанню.

Сакратар парткома т. Малярэвіч быў папярэджан Цэнтральным Камітэтам у тым, што прадпрыемства ў яго цяжкое, засмечанае чуждым элементам. Малярэвіч павінен быў зразумець, што без крапатлівай партыйнай работы ён не выцягне прадпрыемства. Але ён ўдарыўся больш у гаспадарчую, упусціўшы асноўнае—партыйную работу.

Тав. Бас—сакратар парткома лесакамбіната імя т. Гікало, замест партыйнай работы, займаецца голай дэкларацыяй, не зрабіўшы для сябе ніякіх палітычных вывадаў з рашэння ЦК ВКП(б) аб гомельскай партарганізацыі. Адсюль—неканкрэтнасць у кіраўніцтве парторгамі, павярховы разгляд пытанняў, абывацельская добрадушнасць. Партком лічыць, што ўсё ў яго ў парадку, а тым часам з лесакамбіната ідзе цэлы рад трывожных сігналаў аб засмечанасці прадпрыемства кулацкімі элементамі, аб наяўнасці трацкісцка-зіноўеўскіх настрояў сярод паасобных членаў партыі.

Возьмем пару канкрэтных фактаў з работы гэтага парткома. Напрыклад, яго пастанову па пытанню аб невыкананні плана абозным цэхам. Адзначыўшы, што брыгада комуніста Барысенко адстае, а комсамольца Лесоўскага ідзе ўперад, партком папярэджвае Барысенко аб недапушчальнасці адставання і аб тым, што ў выпадку прадаўжэння адставання пры́ме рашучыя меры, абавязвае Міхейчыка забяспечыць цэх рабсілай, а Геніна—узмацніць работу насценгазеты. І ўсё. Хіба можна спадзявацца, што пасля такога рашэння брыгада зразумее, як паправіць справу, што брыгадзір Барысенко будзе адчуваць клопаты парткома?

Характэрна пастаноўка пытанняў на партыйных і цэхавых сходах.

«Слухалі: аб пажарнай ахове. Пастанавілі: комуністам трэба быць пільнымі».

«Слухалі: аб спазненні т. Куцана на работу. Пастанавілі: т. Мачульскаму адрэгаваць пастанову».

«Слухалі: аб перабудове профсаюзаў. Пастанавілі: дабіцца поўнага выканання промфінплана шляхам социялістычнага спаборніцтва і разгарнуць крытыку».

Парторг абознага цэха Сосман быў послан на ленінградскія прадпрыемствы для азнаямлення з пастаноўкай работы. Вопыт іх работы т. Сосман не пераносіць у свае цэхі, бо, як ён гаворыць, «Мяне заядае промфінплан». Акрамя промфінплана, ён нічога больш і не ведае.

Прафілакторый фабрыкі можа прапусціць 100 чал. адпачываючых. Калі ўмела паставіць яго работу, то мы будзем мець 100 агітатараў за партыю, якіх можна скарыстаць на партыйна-прапагандысцкай рабоце.

Ад партарганізацыі прадпрыемства, якое носіць імя т. Гікало, мы маем поўнае права патрабаваць самай узорнай работы, тым больш, што для гэтага ёсць усе магчымасці.

Партарганізацыя чырвонасцяжнага завода «Большэвік» мае свае большэвіцкія традыцыі.

На заводзе 92 члена партыі і 38 кандыдатаў. Непасрэдна за варштатам, у брыгадзе і цэху, працуе членаў партыі—64, кандыдатаў—31, што складае 73 проц. партарганізацыі.

Жывая ініцыятыўнасць, партыйная дзелавітасць радавых комуністаў добра характарызуюць рэзультаты перабудовы. Платных парторгаў няма зусім, усё праводзіцца ў парадку партыйнай нагрузкі. Парторгі пасьпяхова спраўляюцца са сваёй работай.

Паседжанні партыйнага камітэта, як правіла, праводзяцца не больш 2-х раз у месяц. На большасці паседжанняў бываюць усе парторгі і партактыў. За апошні час разглядаліся сугуба партыйныя пытанні: аб рабоце інстытута агітатараў, аб росце комсамола і рабоце з нова-ўступіўшымі, аб стане соцспаборніцтва на заводзе і ролі комуністаў у спаборніцтве; аб партвучобе, аб праверцы выканання папярэдніх рашэнняў парткома і агульных сходаў і т. д.

Партыйныя сходы адбываюцца пераважна ў цэхах. За апошні час партком перастаў даваць цэхавым парторгам стандартныя павесткі дня, яны самі пачалі думаць над імі. Падрыхтоўка да апошняга цэхавага партыйнага сходу, прызначанага на 7 студзеня, пачалася з 28 снежня. Парторг 1-га хромавага цэха т. Мілюкоўскі, выявіўшы, што ў цэху слаба пастаўлена вытворча-масавая работа, склікаў зачынены сход партарганізацыі па пытанню аб перадавой ролі комуністаў. Парторг 2-га хромавага цэха т. Запольскі правёў адчынены сход партарганізацыі цэха па пытанню тэхвучобы і работы ячэйкі ЗОТ. Партыйныя дні падрыхтоўваюцца за 8—10 дзён. Прычым, партыйныя групы ў цэхах загадзя абгаварваюць павестку, каб лепш падрыхтаваць членаў партыі да сходу.

На заводзе—23 партарганізатары. Партком іх перыядычна склікае, інструктуе і праводзіць работу па абмену вопытам. За 1934 год адбылося 16 інструкцыйных нарад парторгаў, на якіх разбіраліся пытанні: аб рабоце партпрымацаваных да піонератрадаў, аб уплаце партўзносаў, аб летніх формах партвучобы, аб рабоце са спачуваючымі, аб падрыхтоўцы партдзён, аб шэфстве над дзяржапаратам, аб правядзенні палітдзён і інш.

Партком практыкуе работу з паасобнымі групамі: парт'ядром у КСМ, комуністамі вядучых прафесій, пасіўнымі комуністамі. З імі распрацоўваецца рад важнейшых пытанняў.

Для работы са спачуваючымі ў цэхах і парткоме вылучаюцца спецыяльныя дні і ставяцца пытанні, якія цікавяць саміх спачуваючых. Акрамя таго, партком бывае на кватэрах у спачуваючых, гутарыць з імі, вывучае быт і жыццё кожнага паасобку.

Адзін з метадаў тэхнікі выхавання членаў партыі на заводзе—індывідуальны падыход, замест вымоў і партыйных спагнанняў, якія скрозь і ўсюды выносіліся раней на бюро камітэта. У рэзультаце ўзмацнілася партдысцыпліна, рэзка знізілася колькасць партспагнанняў. За мінулы год накладзена 4 партспагнанні, не лічачы асоб, выключаных за контррэволюцыйныя вылазкі (2 выпадкі). Умацаваннем партдысцыпліны партком дабіўся чоткага выканання партзаданняў і партнагрузак.

Такім чынам, работа партарганізацыі «Большэвік» адметна ініцыятыўнасцю, удумчывасцю, умелым выхаваннем актыва. Лепшым паказчыкам ідэйнага ўмацавання партарганізацыі з'яўляецца выкрыццё

трацкісцкай контррэволюцыйнай вылазкі Галендо на заводскім сходзе.

Партарганізацыя завода «Большэвік», як і рад іншых, ужо дабілася першых поспехаў у сваёй рабоце ў рэзультаце палепшання работы парторгаў, якія вырашаюць як падрыхтоўку, так і правядзенне ўсіх нашых мерапрыемстваў. Але нельга на гэтым супакоіцца. Неабходна нястомная штодзённая. крапатлівая барацьба за далейшае палепшанне партыйнай работы на ўсіх прадпрыемствах, у тым ліку і перадавых.

* * *

ЦК КП(б)Б па запросу Промаддзела атрымаў цэлы рад лістоў аб рабоце партыйных арганізатараў. Цікава азнаёміцца тут з некаторымі лістамі, характэрнымі для работы партыйных арганізацый.

Партарганізатар аднаго з цэхаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»—т. Клугман,—у якога ў цэху 32 члены партыі і 18 спачуваючых, піша:

> «Калі я пачынаў работу ў сваім цэху, дысцыпліна была вельмі кепская. Перада мною стаяла задача—наладзіць дысцыпліну. Стаў я прыходзіць на прадпрыемства заўчасна, да прыходу рабочых, і разам з начальнікам цэха прымаў меры, каб работа ішла без перабояў. Усіх недысцыплінаваных рабочых наведваў на даму, дзе высняў прычыны спазненняў і чым толькі мог дапамагаў. У выніку мая брыгада спазненняў не мае».

У т. Клугмана ўсё-ж такі партыйнай работы няма. Паасобныя парторгі імкнуцца «тэарэтычна» даказаць, што вытворчыя пытанні—тое-ж, што і партыйныя.

Вось што расказвае парторг т. Буракоў:

> «Мяне комуністы і асабліва брыгадзіры абавязваюць займацца вытворчымі пытаннямі, і сачыць за непаладкамі на прадпрыемстве. І я вымушан гэтым займацца, бо інакш не выканаю промфінплан. Вось калі вытворчае пытанне перарастае ў партыйнае. Заходжу аднойчы ў цэх, а работніцы не даюць прахоўду—няма кружак у буфеце. На два тыдні кінуў я сваю работу ў цэху і заняўся кружкамі. Урэшце свайго дабіўся. Цяпер наш буфет падобны нават на кафэ. Або узяць рамонт кватэр. Хіба не тое самае? Увесь час я сам сачыў за гэтай справай. Як бачыце, без вырашэння гэтых пытанняў не будзе выканан промфінплан. Вось вам і партыйная работа».

З першага погляду можа здацца, што т. Буракоў сапраўды праў. Але гэта не так. У яго выпалі два вуглы трыкутніка—прафком і адміністрацыя. Парторг падышоў да выканання гэтых задач як просты выканаўца. Замест таго, каб даць чоткія дырэктывы тым, хто павінен гэта зрабіць, ён сам усё робіць і думае, што вядзе партыйную работу. Хварэюць гэтым не толькі парторгі, але і многія нашы партыйныя, гаспадарчыя, профсаюзныя арганізацыі. Яны не нашчупалі яшчэ правільнага падыходу да вырашэння любога пытання з пункту погляду сваіх абавязкаў, не размежавалі функцый парторга, праформа і начальніка цэха.

Цэлы рад парторгаў працуюць зусім нядрэнна. Так, партарганізатар падрыхтоўчага цэха фабрыкі «Дзвіна» т. **Жукава** мае групу з 16 членаў, 8 кандыдатаў і 8 спачуваючых, пры 507 рабочых. Яна ў

першую чаргу, на ўсіх рашаючых участках, расставіла комуністаў. Сваімі чулымі адносінамі да паасобных членаў партыі т. Жукава дабілася актывізацыі нават ранейшых «маўчальнікаў». Напрыклад, т. Відмант за палітычную малаграматнасць і недысцыплінаванасць быў пераведзен пры чыстцы ў кандыдаты партыі. Відмант не наведваў партвучобы і партсходаў, а зараз вучыцца, выконвае партзаданні і з'яўляецца яшчэ брыгадзірам сталінскай брыгады, прэміяваным 750 руб.

Такіх парторгаў, як т. Жукава, на фабрыцы «Дзвіна»—не адзінкі. Але сустракаюцца і такія, якіх часта пераабіраюць, што сведчыць аб недастаткова ўдумчывым падборы і слабасці нашай работы з парторгамі.

Інструктары райкомаў і гаркомаў КП(б)Б часта не маюць дзелавых характарыстык аб рабоце сваіх парторгаў, таму і не ведаюць, наколькі своечасова і поўна можна забяспечыць наш уплыў у цэхах. Заслугоўвае адабрэння вопыт Бабруйскага гаркома ў правядзенні адзінага дня парторга, бо кожны інструктар сістэматычна сустракаецца са сваімі парторгамі. Аднак гэтага яшчэ недастаткова. Інструктар павінен сустракацца з парторгамі не толькі на спецыяльных днях, але і штодзенна, каб ведаць пра недахопы, ставіць перад імі вострыя, злободзенныя пытанні партыйнай работы. На гэтай астраце да партыйных пытанняў, партыйнай пільнасці, трэба выхоўваць партыйных арганізатараў. Прыклад гэтай пільнасці паказалі радавыя комуністы завода «Большэвік», даўшы рашучы адпор контррэволюцыйнай вылазцы трацкіста Галендо. Яны адразу выявілі, што яго выступленне разыходзіцца з лініяй партыі і выкрылі яго антыпартыйны трацкісцкі твар.

Тав. Кагановіч на нарадзе аддзела кіруючых парторганаў сказаў:

> «Што такое партдзень? Гэта значыць, што збіраюць людзей, цвет рабочага класа, і накіроўваюць усё лепшае, што ў іх ёсць—іх думкі, мыслі, прапановы—на вырашэнне пэўных пытанняў. Падрыхтоўка гэтага дня—святая справа. А між тым, у нас вельмі часта гэта падрыхтоўка праводзіцца неахайна і перадаваецца другарадным работнікам».

Нядаўна было спецыяльнае рашэнне ЦК ВКП(б) аб характары сходаў партактыва, якое бясспрэчна мае адносіны і да партсходаў. Комуністы павінны праводзіць на сходах часта некалькі гадзін. Для гэтай напружанай работы трэба забяспечыць памяшканне ўтульнасцю, пастарацца таксама, каб быў і буфет і т. п.

Пытанне аб дакладчыках на партсходах мае сур'ёзнейшае значэнне. Мы павінны дабіцца, каб дакладчыкі перад сваім выступленнем добра азнаёміліся з прадпрыемствам, паасобнымі цэхамі, прадукцыйнасцю іх працы з тым, каб агульны палітычны матэр'ял свайго даклада папоўніць жывымі прыкладамі і фактамі. Партком, у прыватнасці яго сакратар, павінен заслухаць паведамленне дакладчыка аб яго падрыхтаванасці да партсходу і вырашыць—даць ці не даць яму слова. Парторг абавязан падрыхтаваць свае партыйныя групы да актыўнага ўдзелу на сходзе. Толькі пры ўмове, калі ўсё будзе загадзя падрыхтавана, можна прызначыць партсход.

Наступнае пытанне—гэта наглядная агітацыя. На маскоўскіх і ленінградскіх прадпрыемствах практыкуецца выпуск к партдням спецыяльных агітлістовак, дзе востра падаюцца злободзенныя пы-

танні павесткі дня, не кажучы аб дыяграмах і іншых матар'ялах. Такім чынам, вырастае ўдзельная вага партсхода, як вышэйшага органа данай партарганізацыі. Партсходы не трэба змешваць з паліт-днём, праводзіць іх калі трэба зачыненымі, каб комуністы маглі прывыкнуць збірацца ў сваім асяроддзі для папярэдняга абгаварэння хвалюючых іх пытанняў, перш чым выйсці к агульнай масе рабочых.

Да таго часу, пакуль парткомы не зразумеюць, што ў змест іх работы павінен уваходзіць увесь комплекс партпытанняў, што працаваць яны павінны ў першую галаву з членамі і кандыдатамі партыі, пакуль парторгі не адчуюць, як кажуць, смаку ва ўнутрыпартыйнай рабоце,—да таго часу немінучы зрывы, адміністраванне, падмена совецкіх і гаспадарчых органаў, адрыў ад мас, а ўрэшце—скажэнне лініі партыі.

* * *

Лічбовыя матар'ялы, якія ёсць у нашым распараджэнні, сведчаць аб мізэрнай колькасці новапрынятых спачуваючых, аб слабасці работы з імі. Тлумачыцца гэта тым, што многія партарганізацыі не зразумелі агромнага палітычнага значэння рашэння партыі аб групах спачуваючых і падышлі да гэтай справы, як да чарговай кампаніі. Неабходна звярнуць увагу на арганізацыйны бок. У нас яшчэ не наладжан улік спачуваючых. Не звяртаецца ўвага на самую форму падачы заяў, на наяўнасць рэкамендацый, якія маюць выключнае значэнне, бо члены партыі адказваюць за тых, каго мы ў партыю прымаем.

Цэнтральны Камітэт дае канкрэтныя і ясныя ўказанні ў галіне арганізацыйнай структуры:

«а) Са спачуваючых падлягаюць прыёму толькі тыя лепшыя, правераныя кадры беспартыйных актывістаў, якія гатовы актыўна змагацца за рашэнні партыі.

б) Прыём у спачуваючыя праводзіць праз партарганізатара пры наяўнасці заявы і двух рэкамендацый, кароткай біяграфіі, абавязковай гутаркі парторга з кожным, хто падае заяву. Потым пытанне ставіцца на партсходзе з зацверджаннем парткомам.

в) Як правіла, група спачуваючых ствараецца пры парткоме, але па меры росту групы мэтазгодна ствараць іх пры цэхавых партарганізацыях для большай сувязі іх з цэхам.

г) Кіраванне групамі спачуваючых ускладаецца непасрэдна на парткомы і на іх сакратароў, якія праводзяць з імі спецыяльныя нарады па ўсіх хвалюючых іх пытаннях. Спачуваючыя атрымліваюць нагрузкі, як спачуваючыя, і абавязаны наведваць адчыненыя партыйныя сходы. Палітвучоба спачуваючых таксама абавязкова, бо без гэтага яны не могуць быць прыняты ў партыю».

Работа са спачуваючымі ў бліжэйшы час павінна быць узнята на належную палітычную вышыню.

* * *

Тав. Кагановіч даў указанні, як павінен працаваць інструктар. Упор павінен быць зроблен на партыйную работу. Інструктар абавязан не сам за ўсіх працаваць, а прыводзіць у рух увесь апарат, за-

бяспечваючы няўхільнае правядзенне ў жыццё дырэктыў ЦК партыі ва ўсіх звеннях апарата, ва ўсіх пярвічных партарганізацыях.

Інструктар павінен вучыцца таму, як знаходзіць у сваёй рабоце галоўнае звяно. Узяўшы вядучае прадпрыемства, не спускаць з вока і ўсе іншыя, інструктаваць мясцовыя партыйныя арганізацыі, шырока распаўсюджваць лепшы вопыт партработы, а таксама дэманстраваць перад партарганізацыямі і паасобныя адмоўныя факты, каб паказаць на іх, як не трэба працаваць.

Інструктар—гэта баявік. Ён абавязан біцца за рэалізацыю дырэктыў партыі, ставячы востра пытанне, з'яўляючыся рычагом не толькі праверкі выканання той ці іншай партдырэктывы, але і прасоўвання гэтай дырэктывы ва ўсе звенні пярвічных партарганізацый, на справе дапамагаючы ў рэалізацыі дырэктыў партыі і папярэджваючы памылкі.

На жаль, такога павароту ў партрабоце мы пакуль што не дабіліся. У Промаддзеле ЦК КП(б)Б ёсць рад матар'ялаў аб рабоце інструктароў, цікавыя інструктарскія дзеннікі. Аб чым яны гавораць? Аб тым, што паасобныя інструктары ператварыліся ў маленькія райкомы і цягнуць на сябе ў асноўным гаспадарчую работу.

Для прыкладу прывядзем урывак з дзенніка т. **Мерынай**—інструктара Віцебскага ГК КП(б)Б. Тут, як у люстэрку, можна бачыць, што паасобныя інструктары ператвараюцца ў падрайкомы:

«1 снежня—прысутнічала на паседжанні бюро райкома.

2 снежня—арганізавала на прадпрыемствах жалобныя мітынгі, у сувязі з забойствам т. Кірава.

3 снежня—праводзіла заняткі на курсах рэдактароў шматтыражак.

4 снежня—была на лесазаводзе, правяла перавыбары парторгаў у звязку з тым, што т. Рослаў—былы парторг—асуджан.

5 снежня—зноў на лесазаводзе правяла падрыхтоўку да партыйнага сходу; выявіла засмечанасць рабочых завода; дагаварылася з трыкутнікам завода аб звальненні аднаго рабочага, былога гарадавога.

6 снежня—па тэлефону арганізавала жалобныя пяціхвілінныя перарывы, у сувязі з пахаваннем т. Кірава. Увечары на фанерным заводзе рабіла даклад аб рэвалюцыйнай законнасці.

7 снежня—арганізавала пасылку комуністаў на работу ў хлебныя магазіны. Днём была на Тарным камбінаце. Даведалася, што на справаздачным сходзе горсовета былі нездаровыя выступленні члена партыі Голубева і беспартыйнага Жовненко. Склікала комуністаў, арганізавала камісію па праверцы гэтых фактаў, каб на бліжэйшым сходзе рабочых далажыць аб тым, што выяўлена.

8 снежня—выклікала да сябе адказных работнікаў леспрамгаса, сплаўканторы і абгаварыла з імі канкрэтныя мерапрыемствы па ўзмацненню лесавывазкі. Увечары рыхтавалася к дакладу на прадпрыемствах аб перабудове партработы па прамове т. Кагановіча.

9 снежня—гутарыла з сакратарамі парткомаў па пытанню прапрацоўкі прамовы т. Кагановіча. Днём зноў занялася лес-

прамгасам. Пад вечар, па даручэнню Башмачнікава, пачала абследванне партработы на фабрыцы «КІМ».

10 снежня—зноў леспрамгас і фабрыка «КІМ».

11 снежня—была на лесазаводзе № 13, гутарыла з т. Старажылавым, кандыдатам партыі, і Казакевічам—КСМ. Яшчэ ў кастрычніку я шчыльна займалася лёсам гэтых двух таварышоў. Яны абодва—маладыя спецыялісты, не знайшлі на заводзе неабходнага падтрымання, былі пастаўлены ў цяжкія матар'яльныя ўмовы, у рабоце не бачылі перспектыў к свайму далейшаму прасоўванню. Зараз т. Казакевіч зусім самастойны, кіруе скрыначным цэхам і вядзе вялікую комсамольскую работу. Старажылаў прасоўвання па рабоце не атрымаў; дагаварылася з трыкутнікам аб водпуску яго з завода. Праверыла кватэру, у якой яны жывуць,—прыгожы, светлы, добра абсталяваны пакой. Правяла паседжанне парткома па пытанню праверкі падрыхтоўкі заводскай сталовай і магазіна да шырокай продажы хлеба. Гэтае пытанне я перанесла на разгляд бюро гаркома.

12 снежня—удзельнічала на грамадскім праглядзе і абгаварэнні карціны «Чапаеў».

14 снежня—праводзіла гутарку з комуністамі механічнага цэха фанернага завода, гутарыла па душы, як хто жыве, што чытае, ці ходзіць у тэатр, кіно.

19 снежня—была ў майстэрні Белдзяржбуда, выявіла нездаровыя адносіны паміж парторгам Хейфецам і членам парткома Ітэксенам. Даручыла сакратару парткома Ханінай вылучыць камісію для праверкі работы майстэрні. Яна паведамляе, што работа з актывам па маёй групе пакуль што даволі вузкая.

Не больш аднаго разу ў месяц паспяваю гутарыць па душы з паасобнымі сакратарамі парткомаў і парторгамі. Сакратар гаркома партыі і яго намеснік вельмі рэдка збіраюць нас, інструктароў. Не пытаюцца, як і што мы робім на прадпрыемствах. Часам складаецца ўражанне паўнейшай свабоды,—прадастаўлен сам сабе, і рабі што хочаш. У гэтым ёсць свой станоўчы бок—шырокая дарога да ініцыятывы. Але, як сказаў т. Кагановіч,—«работнікаў трэба праціраць трапачкай, каб не заплеснявелі». Вось гэтай трапачкі нам не хапае. Галоўны недахоп маёй работы — слабы ахват усіх сваіх аб'ектаў; іх разнароднасць з'яўляецца труднасцю. Здараецца, што я па месяцу не бываю на паасобных прадпрыемствах».

Аб чым гаворыць гэты дзеннік? Аб тым, што т. Мерына хоча працаваць, а галоўнае—умее працаваць. Але, паколькі не ўсе гэта адчуваюць, яна працуе адна, падмяняе парткомы, а часам і райком. Таму не знойдзем у т. Мерынай такіх пытанняў, як партыйная сетка, тэхніка партработы. Недастаткова пастаўлен кантроль за выкананнем яе ўказанняў. Але ўсё-ж такі дзеннік т. Мерынай з'яўляецца прыкладным у тых адносінах, што яна вышуквае новыя формы работы, капаецца і даведваецца, што робіцца ў кожнага комуніста паасобку, указвае яму тое, што завецца «партыйнаю дарогай»—куды ісці і як ісці. У гэтым станоўчы бок яе работы.

Скарга т. Мерынай на адсутнасць дастатковай дапамогі гаркома—гэта, відавочна, агульная з'ява, за выключэннем Менскага гаркома. Трэба аддаць справядлівасць,—т. Рыскін кожны тыдзень збірае ін-

структароў, выслухоўвае іх прапановы і намячае бліжэйшыя мерапрыемствы. У менскім гаркоме ўжо ўвашоў у традыцыю дзень вучобы інструктара гаркома не толькі па палітычных пытаннях, але і па пытаннях практычнага характару. Гэты вопыт трэба пашырыць на ўсе гаррайкомы. Бо калі ў цэнтр увагі не паставіць ідэйную ўзброенасць інструктара, то ён не ўсвядоміць сваёй ролі ў апараце іператворыцца ў кантралёра, кансультанта, укладальніка запісак, сігналізатара.

Тав. Кагановіч, гаворачы аб задачах інструктароў, высунуў наступнае палажэнне:

«Інструктары павінны быць звязваючым звяном паміж пярвічнымі партарганізацыямі, гаркомамі і райкомамі. Інструктары павінны ўмець прыкаваць увагу кіраўнікоў партарганізацый да пастаўленых імі пытанняў. Прыкаваць увагу сакратароў і парткомаў да сапраўды вострых, важных пытанняў свайго ўчастка работы».

Інструктары павінны ўмець адстойваць неабходнасць пастаноўкі на абгаварэнне тых пытанняў, якія яны лічаць патрэбнымі. У цэнтры ўвагі інструктара павінна быць работа з паасобнымі комуністамі, яго ідэйная ўзброенасць, яго авангардная роля на вытворчасці і ў грамадска-палітычным жыцці, усе пытанні партыйнага жыцця, улік і тэхніка партработы, накладанне спагнанняў. Інструктар не павінен дапусціць топтання сакратароў парткомаў на адным месцы. Наладзілі адну частку работы,—трэба рушыць далей, не даць супакоіцца, адшукаць новыя формы і метады партыйнай масавай работы. Адным словам, задача інструктара—быць тым жывым механізмам, які павінен своечасова падштурхоўваць сакратароў парткомаў к далейшаму прасоўванню ўперад.

* * *

На майскім пленуме ЦК КП(б)Б пры абгаварэнні работы прамысловасці пастаўлена было пытанне аб палітдні. Цяпер палітднямі ахоплена большасць прадпрыемстваў Беларусі. Гэта форма работы ў асноўным сябе апраўдала. Палітдні далі магчымасць паасобным парткомам, якія раней не займаліся масавай крапатлівай работай, даведацца аб сутнасці таго, што робіцца ў іх на прадпрыемствах.

На Бабруйскім лесакамбінаце, к вялікаму здзіўленню парткома, рабочыя задавалі такія пытанні: Чаму няма для рабочых карыт для мыцця бялізны? Чаму няма скрынак для лістоў? Чаму два месяцы не мыюць матрацаў? Чаму дырэктар бюракратычна адносіцца да скаргаў рабочых? Партком, такім чынам, пераканаўся, што ён не ведае, што робіцца ў цэхах, што робіцца ў інтэрнатах, што робіцца на рабочых кватэрах. Гэты палітдзень паказаў парткомам слабыя ўчасткі іх работы.

Якія задачы стаяць перад намі ў галіне праведзення палітдня?

1. Рашэннем ЦК падкрэслена неабходнасць праводзіць штодзённа глыбокую партработу з тымі рабочымі, якія цікавяцца міжнароднымі пытаннямі. А галоўнае—кантроль за выкананнем тых указанняў, якія далі рабочыя ў час палітдня.

2. Трэба адмовіцца ад адзіных тэм палітдзён па ўсёй Беларусі і прыстасавацца да хворых пытанняў свайго прадпрыемства.

3. Справу падрыхтоўкі палітдня (памяшканне, дакладчыкі, буфет, чыстата і т. д.) павінны трымаць у сваіх руках сакратары парткомаў, якія за гэта адказваюць.

4. Дакладчыкі на палітднях павінны быць праверанымі. Трэба выконваць рашэнне ЦК аб тым, каб на сходзе актыва дакладчык інфармаваў, як ён правёў свой даклад на палітдні.

5. Адмовіцца ад вялікіх дакладаў, а разбіраць пытанне за пытаннем. У праціўным выпадку змазваецца сутнасць палітдня, бо ён ператвараецца ў даклад аб міжнародным становішчы. Нельга, аднак, сказаць, што такія даклады не патрэбны, але іх трэба ставіць не ў парадку арганізаванага збору пытанняў, а як звычайныя агульныя рабочыя сходы.

6. Да кожнага цэха, да кожнай групы павінны быць прымацаваны ўпаўнаважаныя парткома, якія ўлічваюць настрой груп, цэха і аб гэтым дакладваюць парткому.

Рашэнне ЦК дае парткому зусім ясныя і дакладныя ўказанні аб характары правядзення палітдзён ў далейшым.

Трэба звярнуць увагу на нядрэнны вопыт палітгутарак на даму. Аб такіх метадах рабочыя вельмі добра адзываюцца ў цэлым радзе лістоў. Разам з тым трэба ўлічваць, што гутаркі на даму павінны быць добра прадуманы і падрыхтаваны, бо пры няграматнасці партыйнага бяседчыка гутарка стварае настрой адмоўнага парадку.

Да пытанняў масавай работы неабходна дадаць яшчэ адзін момант—гэта абавязак партыйнай арганізацыі клапаціцца аб матар'яльным і культурным палепшанні становішча рабочых. На гэту справу, якая з'яўляецца карэнным пытаннем статуту нашай партыі, трэба мабілізаваць партарганізацыю. Пытаннямі рамонту кватэр, прыгараднай гаспадаркі, аблічвання рабочых і т. д. многія парткомы па сутнасці не займаюцца. Тым часам іх абавязак—дапамагчы нашым профработнікам знайсці вузел пры разборы любых пытанняў на прадпрыемстве.

Узяць хоць-бы такое выключнай важнасці пытанне, як аблічванне рабочых. Хто гэтай справай цікавіцца? Чаму ў ЦК паступае матар'ял, што на прадпрыемствах абкладаюцца культзборам і іншымі падаткамі, не гледзячы на існаванне дзяржмінімума, тыя рабочыя, якія не павінны плаціць?

На хлебазаводзе, напр., аблічылі 24 чал., утрымаўшы з іх па 3 рублі, замест 2 рублёў. На фабрыцы імя Кагановіча—тое самае. Заўкомы павінны займацца гэтымі пытаннямі.

ВЦСПС праводзіць усесаюзны конкурс заводскіх камітэтаў. Чаму гэта беларускія заводскія камітэты ў ім не ўдзельнічаюць? Хіба ў нас няма заўкомаў, якія маглі-б выйсці на ўсесаюзную арэну? Вядома, ёсць. Скажам, заўком фабрыкі «Окцябр», Магілеўская шоўкавая фабрыка, «Пролетарый», «Сцяг індустрыялізацыі» і т. д. Чаму-ж яны не паказваюць сваіх узораў работы? Прычына выключна ў тым, што партком гэтай справай не цікавіцца, забыўшы, відаць, аб рашэнні бюро ЦК, якім ускладзена адказнасць на партарганізацыю за штодзенную дапамогу ў рабоце профсаюзаў.

1935 год увойдзе ў гісторыю, як год барацьбы за якасць нашай работы.

Тав. Сталін у гутарцы з металургамі так вызначыў нашы задачы:

«Трэба клапатліва вырошчваць і кваліфікаваць людзей, правільна расставіць і арганізаваць іх на вытворчасці, арганізаваць

зарплату так, каб умацаваць рашаючыя звенні вытворчасці і рушыць людзей на вышэйшую кваліфікацыю. Вось што нам трэба для таго, каб стварыць армію вытворчасці тэхнічных кадраў».

«Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і якасна вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае дрэва, выхоўваць і дапамагаць расці, даць карысць, своечасова вылучаць, своечасова пераводзіць на другую работу».

Гэта значыць, што нам трэба выхаваць чалавека ўмелага, які любіць тэхніку. Для кожнага зразумела, што словы т. Сталіна адносяцца не толькі да металургаў, але і да нас усіх, да ўсіх відаў нашай прамысловасці.

Ва ўмовы аўладання тэхнікай, побач з іншымі, уваходзяць наступныя палажэнні:

а) культурны догляд за машынамі, культурнасць саміх машыністаў, а гэта значыць—чыстата рабочага месца;

б) школы вячэрнія, ранішнія, тэхнічныя;

в) кіно, тэатр, клуб;

г) кнігі, часопісы, газеты і т. д.

Усе гэтыя задачы так ясны і зразумелы, што аб іх не варта было-б многа гаварыць. Аднак, гэта частка работы далёка не наладжана на нашых прадпрыемствах. Праўда, рад прадпрыемстваў дабіліся пералому: фабрыка «Окцябр» (Менск), завод «Варашылава» (Менск), «Сцяг індустрыялізацыі» (Віцебск), Магілеўская шоўкавая фабрыка і т. д. Аднак, мы павінны больш за ўсё гаварыць пра адмоўныя бакі нашай работы, тым больш, што яны на многіх участках даюць сябе моцна адчуваць.

Хіба трэба гаварыць аб тым, што Добрушская папяровая фабрыка мае ўсе падставы быць культурнай? Улічыце яе ўмовы: пасёлак самастойны, выдатны клуб, выключныя прыродныя ўмовы, наяўнасць моцнага партыйнага і гаспадарчага кіраўніцтва.

Як бачым, Добруш можна ператварыць у сапраўды культурны куток. Што-ж мы там знашлі? Папалі мы на Добруш у мокрае надвор'е, таму фабрыка была як на востраве. Прабіраліся ад пасёлка з вялікай асцярожнасцю. Па тратуары можна было прайсці толькі адзін за адным, размінуцца трудна. У мясцовых работнікаў гэта акалічнасць не выклікае агарчэння, яны, відаць, прызвычаіліся да абстаноўкі гразі і некультурнасці.

Фабрычны шофер расказваў, што яму выгадней праехаць некалькі раз ад Добруша да горада, чым па гэтаму пасёлку, дзе самы цэнтр партыйнага і гаспадарчага кіраўніцтва, цэнтр размяшчэння самога прадпрыемства.

Адна работніца сказала, што ў іх адразу пасля работы многія ідуць спаць. Прычым клуб, пляцоўкі—усё гэта пакінута без ініцыятывы, няма каму паставіць культурную справу на належную вышыню.

Добрушскаму кіраўніцтву і ўсяму рабочаму калектыву трэба будзе моцна працаваць над пытаннямі культурнасці, утульнасці, узняць інтарэс рабочага да ўсякіх пачынанняў у гэтым кірунку парткома, заўкома.

На Добрушы вялікі калектыў ІТР, майстраў. А з імі хто работу вядзе? Зусім не выпадкова, што гэта група людзей грэзне ў балоце, абывацельшчыне, у склоках, падседжванні і т. д. Партарганізацыя

павінна ўзяць іх пад свой уплыў і кіраўніцтва, скарыстаць для арганізацыі культурнай работы ў клубе, на прадпрыемстве, сярод рабочай масы.

Добрушская фабрыка мае ўсе ўмовы вырасці ў культурны цэнтр вытворчасці. Абавязак партарганізацыі—побач з барацьбой за промфінплан, за палепшанне партработы, весці барацьбу і за культуру на прадпрыемстве.

На нашых прадпрыемствах агромная колькасць моладзі, а такія прадпрыемствы, як «КІМ», «Сцяг індустрыялізацыі», «Октябр» і т. д. у большасці маладзёжныя. Работа сярод моладзі мае спецыфічныя асаблівасці. Моладзь, у адзнаку ад пажылых рабочых, адметна сваімі асобымі запросамі, таму формы і метады работы сярод моладзі павінны насіць іншы характар.

Моладзь жыццярадасна. Яна патрабуе вяселля, у тым ліку і танцаў. Культурныя запатрабаванні скончыўшых 7-годку ці фабзавуч значна вышэй, чым пажылых рабочых.

Мы маем ужо кваліфікаваную пролетарскую моладзь, а разам з тым і сыры матар'ял—вясковы маладняк.

Зацікавіць усе гэтыя групы, знайсці кожнаму сваё месца—у гэтым і заключаецца складанасць кіраўніцтва, арганізацыі работы сярод моладзі.

Нядаўна трапілі мы на фабрыку «КІМ» у час абедзенага перапынку. Моладзь танцавала пад гармонік. Гэта, вядома, нядрэнна, але яшчэ не ўсё. Наведалі сход камсамольскага актыва. Народ сядзіць там нацягнута. Тав. Валковіч знашоў выхад: «Давайце перш заспяваем, а потым будзем гаварыць па душы». І гутарка прашла ажыўлена.

Але гэта ўсё урыўкі, а не сістэма.

Вось як вырашае праблему фабрыка «Светлана» у Ленінградзе—гэта ў асноўным маладзёжнае прадпрыемства. Вялікі процант моладзі з сярэдняй асветай і патрабуе асаблівага падыходу для далейшага свайго культурнага росту. У першую чаргу ўзяліся за клуб і зрабілі яго цэнтрам палітычнага выхавання рабочых мас, хоць і знаходзіцца ён не блізка ад прадпрыемства. У клубе арганізавалі рабочую кансерваторыю: клас раяля, скрыпкі і піяніно. Разгарнулі работу па развіццю здольнасцей у чытанні сярод рабочых. Маюць свой ТРАМ. Драмгуртох ставіць «Еўгенія Онегіна». Рыхтуючы паказ гэтай оперы, найперш правялі чытку і азнаямленне з яе гісторыяй. Ніколі так арганізавана не чыталі рабочыя «Еўгенія Онегіна», як на гэты раз.

Рабочая кансерваторыя даказала сваю працаздольнасць у аглядзе дараванняў. Яна арганізавала універсітэт выходнага дня і, побач з палітычнымі, правяла цыкл лекцый на тэму аб мастацтве, тэатры, кіно і т. п. На лекцыях заўсёды дэманстраваліся кінофільмы, ці давалася якая-небудзь пастаноўка. У клубе адчынілі спецыяльны клас танцаў. Працуе гурток па вывучэнню замежных моў, куды добраахвотна запісалася 500 чалавек. Сакратар парткома гаворыць, што калі вучоба пойдзе нармальна, а ў гэтым няма сумнення, то паспрабуюць арганізаваць рад лекцый на замежных мовах.

У БССР—дасканалая моладзь на прадпрыемствах, добрая камсамольская арганізацыя. Недарма камсамольцы з'яўляюцца зачыншчыкамі новых метадаў соцспаборніцтва. Вялікая колькасць зотаў-

цаў прыпадае іменна на комсамольцаў, на рабочую моладзь. З вялікай задаволенасцю мы адзначаем, што прадпрыемствы маладзёжнага тыпу не толькі не адстаюць, а нават ідуць перадавымі ў выкананні сваіх планаў.

Комсамол і рабочая моладзь—наш залаты фонд. Але трэба ўсё-ж такі прызнацца, што мы вядзем далёка недастатковую работу сярод моладзі, а часам і зусім не цікавімся ёю. Калі-б запытаць у сакратароў парткомаў, хто з іх наведваў паседжанні камітэта комсамола, хто цікавіўся піонерскім фізкультурным рухам, то такіх напэўна знашлося-б мала. Віцебскі комсамольскі актыў расказваў на сваёй нарадзе, што на паасобных участках справа ў іх не наладжана, каткі не арганізаваны, лыж мала. Часам робіцца сумна. Трэба нарэшце ўлічыць, што адных сходаў недастаткова для выхавання комсамола і рабочай моладзі.

Па прапанове т. Гікало ЦК Беларусі прыступае да праверкі выканання рашэнняў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб дапамозе комсамольскім арганізацыям. Комсамол чакае ад нас не камандвання, а штодзеннай дапамогі. У гэтым задача сакратароў партыйных камітэтаў.

* * *

Друк—выключна вострая зброя ў руках парткомаў, мабілізуючая рабочую грамадскасць вакол жыцця нашай партыі.

Як-жа спраўляецца друк з гэтай ганаровай работай?

Спынімся толькі на фабрычна-заводскіх газетах, якіх выходзіць 60 назваў тыражом у 122.000 экз.

Па тэматыцы яны часта нічым не адрозніваюцца, не адчуваецца у іх спецыфікі прадпрыемства. Толькі па назвах і можна іх адрозніць. Пішуць наогул, расцягла, нецікава. Не паказваюць жывога чалавека, не вучаць тэхніцы промфінплана. Чаму не ўзяць прыклад з нашага цэнтральнага органа—«Праўды», якая штодня дае куток выдатных людзей? Хіба гэта нельга зрабіць фабрычна-заводскай газеце? Такі куток мабілізоўвае, паказвае ўзоры работы новых знатных людзей нашай радзімы. Чаму лісты рабочых, якія па сутнасці з'яўляюцца асноўным матар'ялам фабрычна-заводскіх газет, змяшчаюцца на апошняй старонцы, у спецыяльным аддзеле—«Лісты ў рэдакцыю»? Гэта няправільна. Лісты рабочых у фабрычна-заводскім друку павінны займаць самае ганаровае месца. Абавязак рэдактара—выяўляць перад партыйным камітэтам хваравітыя пытанні, закранутыя ў лістах рабочых, высніць на што рабочы скардзіцца, хто ў гэтым вінаваты, бо газета не толькі фіксатар, а і арганізатар рабочых на перамаганне недахопаў.

Газеты ўзялі сабе за правіла не пісаць аб рабоце партарганізацыі, парткома, парторгаў, не кажучы ўжо аб прафоргу, аб характары партыйных і рабочых сходаў, рабоце заўкома. Хіба можна пасля гэтага сказаць, што парткомы правільна выкарыстоўваюць гэту магутную зброю ўздзеяння? Нават такія баявыя газеты, як «Сцяг індустрыялізацыі», якая дае спецыяльныя тэхнічныя старонкі, газета завода «Варашылава», не паказваюць работы партарганізацыі.

На прадпрыемствах Ленінграда вялікая ўвага ўдзяляецца афармленню газеты. Ні адна газета не выходзіць без клішэ. Рабочы

гэтым цікавіцца, яму хочацца прачытаць, аб кім там і якая ідзе гутарка.

Каб мабілізаваць грамадскасць вакол галоўных непаладак прадпрыемства, газеты практыкуюць вывешванне «стралы» у начальніка цэха, пакуль ён не выпраўляе адзначаных у газэце недахопаў.

Або узяць загалоўкі. У нас яны да трафарэтнасці простыя. Газета завода «Красный Путиловец» на першай старонцы друкуе аншлаг: «Рабочыя ідуць да нас з усімі іх патрэбамі», пад якім змешчаны лісты рабочых, паказана, на што яны скардзяцца. У нашых «Аддзелах лістоў» нічога падобнага не знойдзеш.

У артыкуле «Оргпытанні вырашаюць усё» рэдакцыя ідзе па слядах парторга Кірымава і паказвае яго работу. На заўтра друкуюцца водзывы партарганізатараў аб тым, ці добра працуе Кірымаў.

З адкрыццём тэатральнага сезона газета пад «шапкай»—«У тэатрах узнімаецца заслона» змяшчае іх рэпертуар, рэкамендуе куды ісці, дзе ёсць месцы для ўдарнікаў і т. д.

Артыкул «У нас і толькі ў нас добрая мастацка-выхаваўчая работа на самым заводзе» гаворыць аб арганізацыі гурткоў па мастацкаму выхаванню рабочых.

У дні прызыву газета пад загалоўкам «Каму мы давяраем вінтоўку» пералічае імёны тых, каго завод дае ў рады Чырвонай арміі.

Газета «Кіравец» прысвяціла спецыяльную старонку пад назвай «Нашы дзяўчаты» той рабоце, якая праводзіцца на заводзе з дзяўчатамі, паказала, што яны сабою прадстаўляюць.

Удзяляецца ўвага і пытанням бытавога парадку—пад аншлагам: «Важны момант у жыцці Васіля Жвіркова».

Няма магчымасці пералічыць усе загалоўкі ленінградскіх фабрычна-заводскіх газет. Але ясна адно. Рэдактары, а таксама і парткомы, многа думаюць над тым, як прыпаднесці матар'ял, як аформіць газету. Вакол газет—вялікі актыў: рабочыя-пісьменнікі, рабкоры, інжынеры. Усе яны жывуць сваёй газетай. Не дзіва, што рабочы з нецярплівасцю чакае кожны новы нумар, крытыкуе, ухваляе і піша свае думкі аб тым, што яго цікавіць, аб чым ён хацеў-бы прачытаць у далейшым.

Ці маем мы магчымасці пераняць гэты вопыт? Вядома, маем. І гэта зусім неабходна. Партыйныя камітэты павінны сур'ёзна ўзяцца за кіраўніцтва шматтыражкамі і фабрычна-заводскімі насценгазетамі. Не ў крыўду сказаць, наш цэнтральны друк, асабліва газета «Рабочий», за апошні час зусім не займаецца аглядам работы паасобных газет, узваліўшы ўвесь цяжар на часопіс «Большэвіцкі друк», які пры ўсім жаданні ніяк не можа справіцца з усімі гэтымі газетамі. Агромную дапамогу шматтыражкам менскіх прадпрыемстваў аказвае КІЖ і т. Чыжова.

Сакратары нашы павінны зразумець, што без правільнай пастаноўкі работы фабрычна-заводскіх газет выключна цяжка і проста нямысліма весці практычную арганізатарскую і адміністрацыйную работу, змагацца за выкананне промфінплана, павышэнне якасці прадукцыі, працоўнай дысцыпліны і т. д.

Работа заводскіх шматтыражак і насценгазет павінна быць у цэнтры ўвагі партыйных арганізацый і прафкома прадпрыемства.

* * *

Нашы палітычныя і гаспадарчыя поспехі агромны. Мы шпарка рухаемся ўперад. Краіна на высокім уздыме. Ворагі імкліва каціцца ўніз. Але чым больш адлегласць паміж нашым уздымам і скатам ворагаў уніз, тым больш яны дзікі ў сваёй бяссільнай злобе.

Класавая пільнасць патрабуе не толькі памятаць аб ворагах, але падзесяцярыць сваю ідэйна-палітычную арганізатарскую работу, каб скрозь і ўсюды разіць ворага, да канца выкарчоўваць яго рэшткі.

Цяжкі ўдар, панесены партыяй і працоўнымі з утратай т. Кірава, паказвае нам, што класавы вораг не склаў зброі. У бяссільным шаленстве ён хапаецца за тэрарыстычныя акты. Рэшткі былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі ў злобнай ненавісці к поспехам партыі і совецкага ўрада ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, страціўшы ўсякую надзею на падтрыманне з боку працоўных мас, сталі на контррэволюцыйны фашысцка-белабандыцкі шлях барацьбы супроць партыі і совецкай улады. Гэтыя падонкі грамадства, арганізаваўшы ў Маскве і Ленінградзе падпольныя контррэволюцыйна-тэрарыстычныя групы—маскоўскі і ленінградскі цэнтры пад ідэйным і арганізацыйным кіраўніцтвам Зіноўева, Каменева і інш., шляхам тэрору супроць правадыроў партыі і совецкай улады імкнуліся павярнуць палітыку партыі на зіноўеўска-трацкісцкую платформу. Здраднікі і ворагі рабочага класа і ўсіх працоўных панеслі сваю заслужаную кару.

КП(б)Б, як і ўся наша партыя, яшчэ цясней згуртавалася вакол свайго Цэнтральнага Камітэта на чале з т. Сталіным. Але, як уся партыя, так і мы, работнікі КП(б)Б, павінны зрабіць адпаведныя палітычныя і арганізацыйныя вывады ў нашай далейшай рабоце, тым больш, што паасобныя факты настрояў у паасобных праслойках і партарганізацыях сведчаць аб тым, што на некаторых участках наша пільнасць і партыйная баявітасць мела значнае аслабленне. Трэба асабліва ўлічыць, што на Беларусі, у рэзультаце яе былога дробна-буржуазнага акружэння, глыбокія карэнні пусціў бундызм, эсэраўшчына, нацдэмаўшчына, трацкізм, зіноўеўшчына і т. д. Было-б памылкова думаць, што ніякіх рэштак ад іх не засталося. Падзеі апошніх дзён сігналізуюць якраз аб тым, што на паасобных участках гэтыя рэшткі спрабуюць узняць сваю галаву.

На Оршанскім мясакамбінаце знашлася група былых людзей, якія салідарызаваліся з тэрарыстычным актам. Самае навучальнае ў тым, што гэты выпадак некалькі тыдняў заставаўся скрытым ад партарганізацыі.

Відаць не выпадкова з гэтага мясакамбіната, які працуе спецыяльна на экспарт, папала ў Англію туша туберкулёзнага мяса. Зроблена гэта не іначай як наўмысна, каб узняць супроць совецкага гандлю настроі Англіі. І хоць з англійскага паўпрэдства паведамілі аб гэтым факце, ён зноў такі прашоў міма парткома і рабочай грамадскасці мясакамбіната.

Некаторыя «вучоныя», былыя бундаўцы, сцвярджаюць, што КП(б)Б вырасла на аснове двух карэнняў: бундызму і ВКП(б). Такая трактоўка фактычна не толькі ідэалізуе Бунд, што партыя ўжо асудзіла, але легалізуе бундаўскія настроі ў КП(б)Б. Трацкісцка-контррэволюцыйныя вылазкі Рудага, Галендо, Разумоўскага і інш.,

групы ў Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце і т. д.—усё гэта сведчыць аб тым, што мы павінны быць асабліва пільнымі да ўсякіх адхіленняў ад генеральнай лініі партыі.

Паасобныя партыйныя арганізацыі ў адносінах былых трацкістаўзіноўеўцаў праявілі асаблівую пільнасць, правяралі іх, што мы ўпаўне ўхваляем, бо гэтыя былыя людзі, якія нясуць на сабе маральную адказнасць за забойства т. Кірава, не праяўляюць дастатковай актыўнасці іменна на даным этапе. Правільна зрабіла партарганізацыя Наркамунутргандлю, выключыўшы з партыі за адмаўленне выступаць на партыйным сходзе былога апазіцыянера былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі Фліора. Усе гэтыя людзі, іх шчырасць, актыўнасць павінны быць пад кантролем партыйных мас.

Трэба прызнацца, што партыйная пільнасць не на ўсіх участках яшчэ ў нас моцна. За павышэнне яе трэба ўзяцца неадкладна.

Другая задача—узняць тэарэтычны ўзровень членаў партыі. Тав. Сталін спецыяльна падкрэсліў, што тэарэтычная адсталасць паасобных членаў партыі параджае блытаніну ў пытаннях ленінізма. Адзін гаспадарнік на пытанне, якая розніца паміж правымі і левымі, адказаў: «Правыя гаварылі адно, а левыя процілеглае». А потым апраўдваўся: «Я гаспадарнік, а не агітатар. Даволі будзе і таго, што я ведаю». Такая палітычная няграматнасць нецярпіма. Вось чаму арганізацыя спецыяльнага інстытута для вучобы гаспадарчых і партыйных кадраў—неадкладная справа.

Трэцяя задача—мы павінны ведаць людзей. Выкарыстаць багацейшы матар'ял камісіі па чыстцы і праверыць, як выконваюцца яе рашэнні. Сакратар парткома цэментнага завода т. Кофман прызнаецца, што ён людзей не ведае і прыводзіць такі факт:

> «Адзін столяр, які даўно працаваў на заводзе, за лепшыя адносіны да палітвучобы быў вылучан групаводам і прэміяваны. На заўтра паведамляюць, што пасля кожных заняткаў ён выкарыстоўвае пройдзеную тэму, каб лаяць совецкую ўладу і комуністаў. Пры праверцы аказалася, што ён былы ўраднік».

Вось каго прэміюе і лічыць лепшым у партвучобе арганізацыя цэментнага завода! Адсюль трэба зрабіць вывад аб неабходнасці правільнай пастаноўкі партыйнай інфармацыі. Вывучаць людзей не толькі па іх выступленнях на сходах, але што кожны прадстаўляе дома, у гутарцы з таварышамі, у заводскай курыльні. Трэба ведаць усіх членаў партыі, а члены партыі павінны ведаць беспартыйных, з якімі яны разам працуюць у цэху, брыгадзе. Ведаць усіх парторгаў, не абмяжоўваючыся толькі адною формай—днём парторга. Ведаць начальнікаў цэхаў, ведаць увесь комсклад прадпрыемства,—вось наша чарговая задача.

У сувязі з гэтым ясна вырысоўваецца профіль патрэбнага нам партработніка. Партработнік не павінен займацца адміністраваннем, а быць масавіком, умець пераканаць у правільнасці лініі партыі. Ён павінен разумець, што папулярнасць сярод рабочых заваёўваецца не вынясеннем даўжэзных пастаноў па гаспадарчых пытаннях, а баявітасцю ў партрабоце, уменнем узняць ярасць мас супроць усіх ворагаў партыі, своечасова ставіць вострыя пытанні перад

партарганізацыяй, дапамагчы ў рабоце, а не даводзіць да вымоў, ці іншых партспагнанняў, своечасова пераставіць сілы. Вось у чым галоўнае.

На апошняй нарадзе т. Гікало зусім правільна ўпікнуў Промаддзел: «Бяда ў тым, што вы не патрабуеце адказнасці ад сакратароў парткомаў за пастаноўку партыйнай работы». Наша работа ў далейшым павінна быць запоўнена выключна партыйным зместам. Будзе правільным прымяніць рашэнне ЦК ВКП(б) аб змесце работы сходаў партактыва да нашых партыйных сходаў, каб комуністы маглі ўсебакова абгаварыць усе жывыя пытанні сваёй работы, развіваць партыйную пільнасць. Такавы задачы па ўзмацненню пільнасці і партыйнай баявітасці нашай арганізацыі.

Сваё першае выступленне ў БССР на XIV з'ездзе партыі т. Гікало прысвяціў пытанням партыйнага статута. Для цэлага раду работнікаў гэта было навізной. Але яны зрабілі неабходны вывад: партыйны статут—вядучы ва ўсёй нашай партыйнай рабоце.

З таго часу мы многага дабіліся ў большэвізацыі КП(б)Б, выхаванні сапраўдных большэвіцкіх кадраў. Гэта—наша буйнае дасягненне.

Пастаўленае т. Гікало пытанне аб партыйным статуце захавала сваю вострасць і на даным этапе, выходзячы з усяго комплекса нашых новых задач. Наш абавязак—у найкарацейшы час паставіць партыйную работу на той высокі ўзровень, якога зусім справядліва патрабуе ад нас т. **Гікало.**

З. З. Кавальчук

# Некаторыя вынікі перабудовы работы прафсаюзаў і далейшыя задачы

XVII з'езд нашай партыі ў сваіх рашэннях па арганізацыйнаму пытанню адзначыў:

> «Не гледзячы на дасягнутыя поспехі ў перабудове рычагоў пролетарскай дыктатуры, арганізацыйна-практычная работа ўсё яшчэ адстае ад запатрабаванняў палітычных дырэктыў і не задавальняе гіганцкі вырасшых запытанняў сучаснага перыяда, перыяда другой пяцігодкі».

Няма патрэбы даказваць, што гэта ўказанне з'езда партыі ў поўнай меры адносіцца і да прафсаюзаў, якія закліканы выконваць ганаровую ролю «школы комунізма», быць прывадным рэменем ад партыі к масам.

За апошнія гады, у адпаведнасці з новымі задачамі, прафсаюзы перабудоўваліся некалькі раз, ім нададзен рад новых функцый—былога Наркампрацы, Соцстраха, нізавых органаў РСІ на прадпрыемствах. Аднак, іх арганізацыйная і практычная работа ўсё яшчэ адстае ад новых задач, пастаўленых перад імі партыяй.

Рашэнні IV пленума ВЦСПС аб разбуйненні прафсаюзаў, прынятыя па ініцыятыве ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, з'яўляюцца далейшым буйным крокам у справе палепшання якасці работы, павышэння ў сістэме пролетарскай дыктатуры ролі прафсаюзаў, як самай масавай арганізацыі рабочага класа.

Гэтыя рашэнні накіраваны на выкараненне канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва; пераход ад агульнага к канкрэтнаму кіраўніцтву, заснаванаму на вывучэнні і веданні дэталей і тэхнікі справы, на жывой сувязі з шырокімі масамі і вытворчасцю; на ўзмацненне асабістай адказнасці кіраўнікоў і ліквідацыю абязлічкі і функцыяналкі ў пабудове профапарата; рашучае размежаванне функцый вытворчых саюзаў і міжсаюзных органаў; палепшанне падбору кадраў за кошт вылучэння новых арганізатараў знізу—з ударнікаў соцыялістычнага будаўніцтва, рашучае скарачэнне платнага апарата і шырокае прыцягненне да работы ў профапараце добраахвотнага актыва.

> «Палітычны і практычны сэнс разбуйнення саюзаў,—указваў у сваім дакладзе на IV пленуме ВЦСПС т. **Швернік**,—зводзіцца к таму, што прафсаюзы пасля разбуйнення, бліжэй падышоўшы да запытанняў рабочых, яшчэ лепш і канкрэтней будуць ведаць

вытворчасць, яшчэ больш уцягнуць найшырэйшыя масы рабочых у барацьбу за павышэнне прадукцыйнасці працы і аўладанне тэхнікай».

Рашэнні ЦК КП(б)Б аб рабоце профсаюзаў БССР і рашэнні пленума ВЦСПС павінны стаць для іх баявою праграмай дзеянняў на ўвесь бліжэйшы адрэзак часу.

Як-жа профсаюзы Беларусі ў сваёй штодзённай практычнай рабоце рэалізуюць гэтыя рашэнні, як перабудавалі яны сваю работу?

У рэзультаце разбуйнення, праведзенага на аснове рашэнняў IV пленума ВЦСПС, у Беларусі створана 76 саюзаў. Замест раней існаваўшых 29 цэнтральных праўленняў саюзаў створаны 33 цэнтральныя праўленні; 22 саюзы абслугоўваюцца ўпаўнаважанымі цэнтральных камітэтаў саюзаў; саюзы работнікаў сярэдняй і ніжэйшай школы і Медсанпрацы маюць у Менску свае ЦК, непасрэдна падначаленыя ВЦСПС. Устаноўлена таксама, што ЦК саюза фанера-запалкавай прамысловасці будзе знаходзіцца ў Менску і абслугоўваць гэты від вытворчасці ў маштабе ўсяго Совецкага саюза.

Каб стварыць для цэнтральных праўленняў саюзаў умовы, пры якіх яны маглі-б значна бліжэй падыйсці да вытворчасці і рабочых мас і больш дзейсна ўплываць на арганізацыю працы, на лепшую пастаноўку снабжэння, на рэгуляванне пытанняў заработнай платы і т. д., некаторыя ЦП саюзаў перанесены ў іншыя гарады—месца найбольшай канцэнтрацыі абслугоўваемых імі прадпрыемстваў. Так, ЦП саюза лесапільнай і дрэваапрацоўчай прамысловасці пераведзена ў Бабруйск; ільнянай і трыкатажнай—у Віцебск; упаўнаважаныя ЦК папяровай і шкляной прамысловасці—у Гомель.

Горпрофсоветы захаваны толькі ў буйнейшых цэнтрах: Віцебску, Гомелі, Магілеве, Бабруйску, Барысаве, Оршы, Полацку, Рэчыцы і Мазыры. У астатніх раёнах райпрофсоветы ліквідаваны і замест іх уведзен інстытут упаўнаважаных ЦСПСБ. Пры гэтым платныя ўпаўнаважаныя знаходзяцца толькі ў 41 раёне; у астатніх раёнах гэтую работу выконваюць па сумяшчэнню старшыні райкомаў больш магутных саюзаў.

У ЦСПСБ замест аддзелаў застаўся невялікі апарат з адказных выканаўцаў па асобных галінах работы і інструктароў, на якіх ускладзены галоўным чынам функцыі кантроля і праверкі выканання дырэктыў партыі і вышэйшых органаў адпаведнымі саюзамі.

Апарат у цэнтральных праўленнях укамплектован пераважна з інструктароў, прымацаваных да паасобных прадпрыемстваў і раёнаў. Гэтым дасягнута не толькі скарачэнне платнага апарата на 35 проц., што вызваліла значную суму профсаюзных сродкаў на палепшанне культурна-бытавога абслугоўвання членаў саюзаў, але і ўнесена большая чоткасць у рабоце, павышана адказнасць кожнага работніка за даручаную справу.

У сувязі з перабудовай, апраўдаўшыя сябе профработнікі перасунуты з меншай на большую па маштабу работу. Так, з ліку былых сакратароў і інструктарскага складу, вылучана старшынямі цэнтральных праўленняў саюзаў 8 чал., упаўнаважанымі ЦК саюзаў 16 чал. Значная група работнікаў цэнтральнага профапарата перасунута для ўмацавання нізавога звяна—у заўком, фабком, рабачком.

Разбуйненне ЦК і скарачэнне ліку членаў прэзідыума ЦП і соўпрофа, а таксама ліквідацыя райпрофсоветаў, устанаўленне інстытута ўпаўнаважаных ЦСПСБ у раёнах і ўпаўнаважаных ЦК па асобных

саюзах значна скараціла пасяджэнчую мітусню, садзейнічала выкараненню канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва. Зараз асноўная маса работнікаў апарата большую частку свайго часу праводзіць непасрэдна на прадпрыемствах, будоўлях, у МТС, соўгасах, практычна дапамагаючы нізавым работнікам. Паскорылася праходжанне пытанняў у апараце—большая частка іх вырашаецца ў аперацыйным парадку. У цэлым цэнтральныя праўленні сталі больш самастойнымі ў вырашэнні пытанняў, паступова знішчаецца шкодная апека функцыянальных аддзелаў Соўпрофа, якія ў радзе выпадкаў падмянялі цэнтральныя праўленні, сціралі іх твар.

Акрамя таго, профсаюзы, якія, паводле выражэння т. Кагановіча, заядаў эмпірызм у рабоце, пасля перабудовы пачынаюць канцэнтраваць сваю ўвагу вакол галоўнага, укараняючы ў работу больш прынцыповасці.

За апошні час імі праведзены такія важнейшыя мерапрыемствы, як удзел профсаюзных арганізацый у перавыбарах советаў, падрыхтоўка да зімы, масавая праверка калдагавароў і т. д.

Вельмі станоўчы рэзультат разбуйнення—больш поўны ахват профсаюзным абслугоўваннем усіх груп рабочых. У былым саюзе рабочых прамыслова-комунальнага жылбудаўніцтва вельмі слабую ўвагу ўдзялялі рабочым, занятым на жыллёвым і комунальным будаўніцтве, бо ўвага саюза канцэнтравалася на рашаючых аб'ектах будаўніцтва дзяржаўнага значэння. Пасля разбуйнення, з арганізацыяй асобага саюза рабочых жыллёва-комунальнага будаўніцтва, гэтыя групы адчулі, што пра іх сапраўды клапоцяцца. Тое-ж было і з палітасветработнікамі ў былым саюзе Працасветы, кіно-работнікамі—у былым саюзе працмастацтва і т. д. Рабочыя ільназаводаў, уваходзячых у саюз рабочых МТС, які раней яднаў рад галін вытворчасці, засталіся без дастатковага профсаюзнага абслугоўвання.

Перабудова павінна была высунуць, як цэнтральную фігуру апарата,—профсаюзнага інструктара.

На нарадзе заг. аддзеламі кіруючых парторганаў т. Кагановіч указаў:

> «Інструктары павінны быць байцамі за выкананне рашэнняў партыйных камітэтаў, яны павінны быць звязуючым звяном паміж пярвічнымі партарганізацыямі і райкомамі—гаркомамі».

Гэта ўказанне вызначае ролю не толькі інструктара ў партыйным апараце, але поўнасцю адносіцца і к профсаюзнаму інструктару. Трэба сказаць, што пасля перабудовы роля інструктара, як у Соўпрофе, так і ў цэнтральных праўленнях значна ўзрасла. Калі раней інструктар выконваў толькі паасобныя даручэнні сваіх аддзелаў, дык цяпер за кожным інструктарам замацован канкрэтны ўчастак работы, за які ён нясе поўную адказнасць непасрэдна перад прэзідыумам. Так, у Соўпрофе прамысловыя прадпрыемствы, транспарт, соўгасы, МТС замацаваны за паасобнымі інструктарамі. Таксама размеркаваны канкрэтныя ўчасткі работы між паасобнымі інструктарамі цэнтральных праўленняў саюзаў. Прымацаванне інструктароў праводзілася не механічна, а ў залежнасці ад канкрэтных умоў паасобных ЦП саюзаў. ЦП саюза МТС правёў прымацаванне па вытворчаму прынцыпу, г. зн. інструктары разбіты па ільнаводных, бульбяных і зернавых МТС. Саюз скуранікаў, яднаючы аднародныя па вытворчасці прадпрыемствы, размеркаваў інструктароў па тэрытарыяльнаму прызнаку—за прадпрыемствамі паасобных гарадоў.

Такое прымацаванне дало ўжо некаторыя станоўчыя рэзультаты. Нажаль, у рабоце інструктароў большасці ЦП усё яшчэ пераважае цякучка, не вылучаюцца галоўныя звенні.

> «Самі інструктары,—як заўважае т. Кагановіч,—не вызначылі сваёй ролі ў апараце, ці яны кантралёры, ці кансультанты, ці складальнікі запісак і сігналізатары».

Іменна гэтым хварэе яшчэ большасць інструктароў профсаюзнага апарата, за што поўную адказнасць нясуць кіраўнікі ЦП саюзаў, якія не накіроўваюць работу інструктароў, недастаткова выразна вызначаюць кола іх абавязкаў.

Вось яркі факт. ЦП саюза Дзяржгандлю камандыравала ў Чашніцкі і Лёзненскі раёны сваіх інструктароў т. т. Левіціна і Гамзовіча па пытанню правядзення ў жыццё рашэнняў партыі і ўрада аб разгортванні гандлю хлебам без картак. Замест таго, каб арганізаваць праверку падрыхтаванасці сваіх гаспадарчых органаў да разгортвання гандлю хлебам, мабілізаваць профсаюзныя масы вакол гэтага важнейшага мерапрыемства, гэтыя таварышы заняліся наймам рабочых для будаўніцтва магазінаў, расплатай з малярамі за афарбоўку памяшканняў і т. д., поўнасцю падмяніўшы такім чынам гаспадарчыя арганізацыі (Белхарчгандаль).

Важнейшае пытанне перабудовы—большае прыцягненне да работы ў профапарат добраахвотнага актыва з ліку перадавых рабочых-ударнікаў.

У вядомым артыкуле «Чарговыя задачы совецкай улады» Владзімір Ільіч Ленін пісаў:

> «Мэтай нашай з'яўляецца бясплатнае выкананне дзяржаўных абавязкаў кожным працоўным па адбыццю 8-гадзіннага «урока» вытворчай работы. Пераход да гэтага асабліва цяжкі, але толькі ў гэтым пераходзе залог канчатковага ўмацавання соцыялізма».

Трэба сказаць, што перабудова профсаюзаў значна гэтаму садзейнічала. На месца скарочаных «апаратчыкаў» у дапамогу ЦП прышлі дзесяткі добраахвотнікаў-актывістаў. Калі раней многія ЦП саюзаў вельмі мала цікавіліся прыцягненнем да работы добраахвотнікаў, дык за невялікі адрэзак часу пасля разбуйнення ЦП саюза комунальна-жыллёвага будаўніцтва завербавана 17 чалавек добраахвотнікаў, саюза скуранікаў—36 чал., Лесасплаву—25 чел., Дзяржгандлю—32 чал., Мукамольна-элеватарнай прамысловасці—8 чал., ЦП саюза МТС—8 чал., і т. д.

Гэтыя таварышы практычна ўдзельнічаюць у рабоце цэнтральных праўленняў і, як паказала практыка, нядрэнна выконваюць пасобныя іх заданні.

ЦП саюза МТС сіламі добраахвотнікаў правёў праверку выдаткавання прэміяльнага фонда, становішча сталовых, кухань і інтэрнатаў, ахвату профчленствам, запазычанасці па членскіх узносах і соцстраху. ЦП саюза скуранікаў праз добраахвотнікаў праверыў падрыхтаванасць прадпрыемстваў да зімы, ахват профчленствам і запазычанасць па членскіх узносах, ход праверкі выканання колдагавароў, жыллёвыя ўмовы пасобных рабочых, звыштэрміновыя работы на шчацiннай фабрыцы, своечасовасць зарплаты на шчацiннай і шчотачнай фабрыках, выкананне жактамі дагавароў па рамонту рабочых кватэр, прычыну неатрымання заводам імя Сталіна значкоў «ЗОТ», становішча тэхнікі безапаснасці ў машынным цэху віцебскага шчотачнага камбіната і т. д.

Пры апараце ЦСПСБ налічваецца 60 чал. добраахвотнікаў. Толькі за апошні час іх сіламі праведзены такія важнейшыя мерапрыемствы, як праверка абслугоўвання начных змен на прадпрыемствах, ахвату профсаюзным членствам, работы начных лячэбных устаноў па абслугоўванню застрахаваных, выканання пастановы ЦК і СНК аб недапушчэнні самавольнага павышэння зарплаты рабочым і служачым у сувязі з адменай картачнай сістэмы на хлеб, і цэлы рад іншых заданняў.

Паасобныя рабочыя-добраахвотнікі (т. т. Падольская і Іванова—фабрыка «Окцябр»; т. Гарэлік—абутковая фабрыка імя Кагановіча; т. Бараноўскі—ВЭО і дзесяткі іншых) праз удзел у рабоце профапарата зусім падрыхтаваны к прасоўванню на самастойную кіруючую работу.

Буйнейшы недахоп—гэта несістэматычная работа з добраахвотнікамі. Даручэнні часта даюцца без папярэдняга інструктажа, як падыйсці да таго, ці іншага новага пытання, добраахвотнікі не прыцягваюцца на паседжанні прэзідыумаў ЦП пры вырашэнні падрыхтаваных імі пытанняў.

Работу з добраахвотнікамі трэба паставіць сур'ёзна, арганізаваць сістэматычную падрыхтоўку, абкружыць іх увагай і клапатліва вырошчваць на практычнай рабоце. Кожны кіруючы работнік ЦП саюза, фабрычна-заводскага камітэта павінен памятаць, што пастаўленыя партыяй перад профсаюзамі вялікія і складаныя задачы можна выканаць толькі пры ўмове шырокага прыцягнення рабочых добраахвотнікаў-актывістаў. Тым часам паасобныя кіруючыя профработнікі недаацэньваюць усю важнасць гэтай работы.

З усёй сілай трэба падкрэсліць, што той, хто гэта пытанне лічыць другарадным, няважным, той нічога не зразумеў у перабудове работы профсаюзаў.

У гэтай сувязі нельга не закрануць і другога пытання. Работа і ЦП саюзаў, і ФЗМК базіруецца яшчэ на разбухлых штатах. Гэта трэба сказаць і пра клубы, пра рэдакцыі фабрычна-заводскіх шматтыражак і т. д. Такая работа не стымулюе развіцця самадзейнасці мас у клубах, а вядзе да бюракратызацыі профапарата і зусім немэтазгоднага расходвання профсаюзных сродкаў.

V пленум ВЦСПС прапанаваў пры складанні профбюджэта на 1935 г. максімальна скараціць платны апарат па ўсіх звеннях профсаюзных арганізацый. У прыватнасці, апараты ФЗМК, рэдакцый заводскіх шматтыражак, профсаюзных радыёвузлоў, адміністрацыйна-гаспадарчы апарат клубаў павінны быць скарочаны не менш, як на 35 проц., а з'эканомленыя сродкі накіраваны на ўзмацненне культурнай работы і матар'яльнай базы кас узаемадапамогі.

Неабходна рашуча пакончыць з безадказнымі адносінамі да расходвання профсаюзных сродкаў. Вялікую ролю ў гэтым павінны адыграць рэвізійныя камісіі ФЗМК. Фінансавая работа павінна стаць адною з важнейшых функцый профсаюзных органаў, каб забяспечыць лепшае культурна-матар'яльнае абслугоўванне членаў саюзаў.

Асабліва неабходна палепшыць усё яшчэ закінуты ўчастак—работу кас узаемадапамогі, умацаваць арганізацыйна, узмацніць іх фінансавую базу. Касы ўзаемадапамогі павінны адыграць агромную ролю ў справе матар'яльнай дапамогі рабочым, асабліва шматсямейным.

* * *

Шматграннасць і ўзросшыя задачы работы профсаюзаў патрабуюць, каб профработнікі сістэматычна павышалі сваю палітычную падрыхтоўку, дзелавую кваліфікацыю і агульную культурнасць.

Уступаючы ў гэтую зіму, профарганізацыі БССР значна шырэй, чым у мінулыя гады, разгарнулі перападрыхтоўку сваіх кадраў і падрыхтоўку новых.

Саюз хлебапячэння, рабочых цагельнай прамысловасці, работнікаў паштовай сувязі, рабочых будаўніцтва цяжкай прамысловасці, паліграфічнай прамысловасці ўжо разгарнулі работу курсаў нізавога профактыва, ахапіўшы імі старшынь заўкомаў, рабочай часткі РКК, грамадскіх інспектароў працы, страх. дэлегатаў. Адчыняюцца месячныя курсы для падрыхтоўкі ўдзельнікаў груп масавага кантроля заводаў «Мяснікова», «Кірава», «Молатава», «Большэвік».

Такія-ж формы перападрыхтоўкі нізавога профактыва арганізаваны міжсаюзнымі органамі ў Барысаве, Бабруйску, Віцебску, Гомелі і інш. гарадах. Саюз лесасплаву правёў у Гомелі месячныя курсы на 100 ч. старшынь рабачкомаў лесу і сплаўных участкаў. Ідзе масавая перападрыхтоўка работнікаў профсаюзных бібліятэк. У Гомелі працуюць 4-х месячныя курсы перападрыхтоўкі на 85 чал. профсаюзных бібліятэкараў. Арганізаваны таксама 3-х месячныя курсы цэхавых бібліятэкараў прадпрыемстваў без адрыву ад вытворчасці. У тым-жа Гомелі адчынены курсы цэхавых бібліятэкараў завода Ланцуцкага, Гомсельмаш і інш. прылягаючых да іх прадпрыемстваў на 30 чал. Арганізуюцца кароткатэрміновыя курсы бібліятэкараў перасовак для абслугоўвання раённых прадпрыемстваў.

Аналагічныя мерапрыемствы праводзяцца ў Віцебску, Менску, Магілеве, Бабруйску, Оршы, дзе курсамі ахоплена 195 чал.

Саюз тарфянікаў, які абслугоўвае ў асноўным сезонных рабочых, здолеў выкарыстаць асенне-зімовы перыяд для дыферэнцыяванай перападрыхтоўкі паасобных груп свайго нізавога актыва. Так, на торфзаводе «Татарка» былі праведзены 10-дзённыя курсы грамадскіх інспектароў працы ўсіх торфзаводаў БССР. Такія-ж курсы асобна арганізаваны для старшынь тарфкомаў і ўдзельнікаў груп масавага рабочага кантроля.

Няма патрэбы даказваць выключнае значэнне ўсіх гэтых мерапрыемстваў ва ўзброенні нізавога профактыва веданнем тэхнікі такіх складанейшых пытанняў профработы, як зарплата, ахова працы, соцстрах, кантроль за работай снабжэнчых і інш. арганізацый, абслугоўваючых патрэбы рабочых. Гэтыя першыя станоўчыя рэзультаты ў падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы профкадраў трэба замацаваць, далей развіць, павярнуць да іх увагу ўсіх профсаюзных арганізацый.

Асноўным звяном, якому на справе прыходзіцца ператвараць у жыццё агромныя задачы арганізацыі і выхавання мас рабочых, у прыватнасці новых рабочых, з'яўляецца пярвічная профсаюзная арганізацыя прадпрыемства на чале з фабзаўмясцкомам. Тут, урэшце, вырашаецца поспех кожнага канкрэтнага мерапрыемства. Тут павінен быць арганізован кантроль і барацьба супроць аблічвання ў заработнай плаце, супроць абмервання і абважвання ў магазінах, за палепшанне грамадскага харчавання і т. д. Тут павінна быць разгорнута барацьба за правільную арганізацыю зарплаты, пастаўлена работа інспекцыі працы і работа выплатнога пункта касы соцыяльнага страхавання, арганізавана культурнае абслугоўванне і здаровы

адпачынак совецкага рабочага. Іменна ў фабзаўмясцкоме б'ецца пульс усяго вытворчага матар'яльна-бытавога і культурнага жыцця кожнай профсаюзнай арганізацыі. Цяпер, у сувязі з перабудовай, ФЗМК маюць асаблівую патрэбу ў дапамозе. Ад ЦП, упаўнаважаных ЦК саюзаў мы павінны патрабаваць, каб яны ведалі, у якім стане знаходзіцца работа на прадпрыемствах, каб штодзенна дапамагалі фабзаўмясцкомам, устанавілі непасрэдную сувязь з рабочымі прадпрыемстваў. У гэтым—сэнс разбуйнення профсаюзаў.

Работа ФЗМК, профарганізатара вырашае поспех усёй профсаюзнай работы. Пры актыўным кантролі і дапамозе парткомаў і заводскіх партыйных арганізацый у цэлым рад ФЗМК паказалі станоўчыя прыклады работы.

Заўком завода «Большэвік» арганізаваў моцны актыў з 90 чал. профгруппартарганізатараў. Перабудова работы ідзе знізу—з брыгады, участка, агрэгата. Завод ахоплен суцэльным гаспадарчым разлікам, у цэнтры ўвагі кожнай брыгады, кожнага праформа пастаўлена барацьба за тэхпромфінплан, за суцэльны ахват профчленствам, за суцэльны ахват тэхнічнай вучобай. Завод перавыканаў мерапрыемствы па ахове працы і тэхніцы безапаснасці, датэрмінова асвоіў асігнаваныя на 1934 г. для гэтай мэты сродкі, арганізаваў конкурс на лепшую прапанову па тэхніцы безапаснасці. У групах масавага кантроля налічваецца больш 100 чал. Ва ўсесаюзным конкурсе заўком завода «Большэвік» за лепшую пастаноўку работы атрымаў ганаровую грамату ВЦСПС.

На заводзе «Варашылава» (Менск) 536 чал. кадравых рабочых ахоплена тэхнічнай вучобай, 250 рабочых з'яўляюцца значкістамі «ЗОТ», 312 здалі экзамен на «добра», 280 рабочых прыцягнуты да актыўнай дзяржаўнай работы: 11 дэпутатаў горсовета, 9 соцсумяшчальнікаў, 152 удзельнікі брыгад па шэфству над фінансавым апаратам і т. д. Заўком аказвае вялікую дапамогу падшэфнаму Грычанскаму сельсовету, які калектывізован на 90 проц. За ўзорную пастаноўку шэфства над школаю завод атрымаў 3-ю ўсесаюзную прэмію. Завод з'ўляецца перадавым у пастаноўцы ваенна-абароннай работы. Значная работа праведзена па падрыхтоўцы да зімы. 16-ці рабочым прадастаўлены новыя кватэры, адрамантавана 27 рабочых кватэр пры заводзе і 6 кватэр у жактаўскіх дамах. 226 рабочых мелі ў гэтым годзе індывідуальныя гароды. У сярэднім рабочы атрымаў з індывідуальнага гарода па 90-110 пуд. бульбы і т. д.

На Магілеўскай шоўкавай фабрыцы ўзорна пастаўлена тэхнічная вучоба. Здалі соцтэхэкзамен звыш 1.000 чал., з іх на выдатна і добра—654 чал. Працуюць спецыяльныя гурткі па падрыхтоўцы сваіх уласных інжынерна-тэхнічных работнікаў. Укаранена шэфства кваліфікаваных рабочых над новымі рабочымі. Гадавая эканомія ад рэалізаваных прапаноў дасягае 330.000 руб. Значная работа праведзена па ўкараненню культуры на вытворчасці і ў быту рабочых (азеляненне тэрыторыі фабрыкі і паасобных цэхаў, забрукаванне пасёлка, рамонт інтэрнатаў, правядзенне конкурса на лепшую кватэру). Рыхтуючыся да зімы, фабрыка адрамантавала 200 рабочых кватэр, 350 рабочых атрымалі будаўнічыя матар'ялы, 1.000 рабочых знялі больш, чым па 100 пудоў бульбы са сваіх гародаў. Фабрыка другі год трымае сцяг ЦК ЛКСМБ.

Уменне спалучаць клопат аб штодзенных патрэбах рабочых з вытворчымі задачамі, уменне «ісці» ад пытанняў зарплаты, аховы працы, соцстраха і т. д. да пытанняў вытворчасці, мабілізаваць масы

вакол палітычных лозунгаў, высоўваемых партыяй—усё гэта вызначыла поспехі гэтых і раду іншых прадпрыемстваў у справе датэрміновага выканання гадавых промфінпланаў і паставіла іх у лік перадавых з занясеннем у Чырвоную кнігу імя XI з'езда советаў БССР.

Побач з работай ФЗМК у цэлым, не меншае значэнне ў агульнай сістэме перабудовы профработы мае ўмацаванне асноўнай апоры ФЗМК—профарганізатара. Там, дзе профарганізацыі ўсвоілі ролю профарганізатара, апошні ператварыўся ў сапраўднага арганізатара мас на сваім участку.

Прафорг механічнага цэха завода імя Варашылава—т. Кісялёў сістэматычна правярае рабочых свайго цэха, як выконваюць брыгады вытворчыя заданні, праяўляе сапраўдную чуласць к патрэбам рабочых, з'яўляецца не толькі актыўным арганізатарам тэхнічнай вучобы ў цэху, але асабіста падрыхтаваў двух рабочых к тэхнічнаму экзамену, канкрэтнымі мерапрыемствамі змагаецца за ўшчыльненне рабочага дня.

На менскім хлебакамбінаце адною з адсталых была брыгада, абслугоўваемая прафоргам тав. **Мухо:** вялікі процант браку, нізкі стандарт, рабочыя месцы забруднены. Тав. Мухо наладзіў штодзенныя пяцімінутныя нарады, на якіх выяўляліся вінаватыя. У выніку брыгада выйшла ў перадавыя: брак даведзен да 0,04 проц., поўнасцю здан сан. і тэхмінімум. Тав. Портнік, які пры пасадцы і з'ёмцы ламаў хлеб, т. Пернікава, якая заўжды капалася ў брудзе, сталі прыкладнымі рабочымі.

Станоўчыя прыклады работы паказваюць таксама і нізавыя профзвенні сельска-гаспадарчых саюзаў. Рабачкомы Слуцкай, Віцебскай і іншых МТС, дзякуючы правільнай пастаноўцы профработы, здолелі мабілізаваць рабочых вакол чарговых гаспадарча-палітычных задач у вёсцы (перавыбары сельсоветаў, рамонт трактароў і т. д.).

Работа гэтых ФЗМК, рабачкомаў, прафоргаў прыведзена толькі як паасобныя прыклады і далёка не вычэрпвае ўсё станоўчае, што мы маем у профрабоце на радзе прадпрыемстваў, у соўгасах і МТС.

Падводзячы папярэднія вынікі перабудовы профсаюзаў, трэба адзначыць некаторыя галіны работы і найбольш важныя мерапрыемствы, вакол якіх канцэнтравалася ўвага ўсіх профсаюзаў БССР і ў якіх профсаюзы пад кіраўніцтвам партыі дабіліся пэўных рэзультатаў.

Возьмем пытанні зарплаты. Калі ў мінулым пры папушчэнні профсаюзных арганізацый былі дапушчаны агромныя перарасходы фондаў, грубейшыя скажэнні палітыкі заработнай платы, дык цяпер гэтыя ганебныя з'явы, у прыватнасці па прамысловасці, сталі больш рэдкімі, што знаходзіцца ў прамой сувязі з палепшаннем рэгуліявання самой сістэмы заработнай платы. Саюзы гародніх соўгасаў, тарфянікаў, кааперацыі ўжо не наогул займаюцца пытаннямі заработнай платы, а канкрэтна ведаюць усю іх практычную разнастайнасць.

Аднак, скажэнняў яшчэ шмат. Даволі ўзяць некаторыя факты. На менскай электрастанцыі гаспадарнікі, заводскі камітэт, а таксама партыйная арганізацыя не ўдзялялі ўвагі пытанням зарплаты, таму на працягу ўсяго 1934 г. квітнела ўраўнілаўка. У верасні рабочыя вядучых прафесій атрымлівалі: старшы машыніст турбіны—221 руб., дзяжурны ў галоўнага шчыта—259 руб., старшы качагар—296 руб., качагар—240 руб. Тым часам падсобныя рабочыя III разрада зара-

білі: зольшчык—375 руб., тарфавоз—235 руб., грузчык—211 руб. У аддзеле добрабыту менскага горсовета шофер Тіхановіч зарабіў у верасні—777 руб., шофер Вайтковіч—737 руб., грузчык Жыліц—498 руб., г. зн. больш інжынера сярэдняй кваліфікацыі па добрабыту. Далёка не зжыты яшчэ аблічванні рабочых. Менскі хлебакамбінат за работу 7 і 8 лістапада (у дні Окцябрскай рэволюцыі), замест падвойных расцэнак, даплаціў здзельшчыкам толькі тарыфную стаўку; рабочым 2-й змены, занятым з 4-ай гадзіны дня да 12-ай ночы, не выплачвалі ў падвойным размеры за 2 гадзіны начной работы. На менскай электрастанцыі, побач з аблічваннем рабочых, разбазарваліся фонды зарплаты.

У сувязі з рашэннем лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты пытанні заработнай платы набываюць асаблівае значэнне. Зараз праводзіцца масавая праверка калдагавароў 1934 г., у бліжэйшы час прадстаіць заключэнне новых калдагавароў. У ходзе гэтай работы неабходна да канца вытравіць ураўнілаўку ў зарплаце, скажэнні ў тарыфікацыі, выпадкі аблічвання рабочых—усё тое, што стрымлівае рост прадукцыйнасці працы і перашкаджае далейшаму палепшанню матар'яльна-бытавых умоў рабочых. Трэба больш дыферэнцыяваць аплату працы розных груп рабочых, рашуча вылучаючы рабочых вядучых прафесій, матар'яльна заахвочваючы асваенне тэхнікі і ўшчыльненне рабочага дня, значна шырэй прымяняючы заахвочвальныя формы аплаты працы, адначасова ведучы рашучую барацьбу з запазычанасцю, з перарасходам фондаў заработнай платы. Усе профсаюзныя арганізацыі, асабліва ФЗМК, павінны прыняць самы актыўны ўдзел у размеркаванні прыбавак да зарплаты рабочых і служачых у сувязі з устанаўленнем адзінай цаны на хлеб, прасачыць за тым, каб гэтая прыбаўка не ўключалася ў разлікі пры вылічэнні кватэрнай платы, уплаце паявых узносаў і т. д.

* * *

1934 год паказаў, што ў галіне соцыяльнага страхавання (бюджэт соцстраха па БССР у 1934 г. складаў 85 мільёнаў руб.) профсаюзы дасягнулі значных рэзультатаў і становяцца сапраўднымі гаспадарамі гэтай агромнага значэння справы. Лепш сталі паступаць страхавыя ўзносы, выяўляюцца скрытыя фонды заработнай платы, на якія раней не рабілася налічэнняў. Усё гэта забяспечыла перавыкананне бюджэта соцыяльнага страхавання (на І. Х-34 г.—101,4 проц.) і акуратнае выкананне сваіх фінансавых абавязкаў перад дзяржавай. Палепшылася справа выплаты дапамог па часовай непрацаздольнасці, узмацнілася барацьба як з сімуляцыяй, так і з захворваннямі.

Значна ўзрасла прапускаемасць застрахаваных праз прафілактычныя ўстановы. Праз дамы адпачынку ў 1934 г. профсаюзамі БССР прапушчана 37.449 чал., у 1933 г. прапушчана было 30.000 чал. Праз санаторыі за 10 месяцаў прапушчана 3.257 чал., праз курорты ўсесаюзнага значэння толькі за кошт соцстраха прапушчана 1.600 чал.

Але і ў галіне работы профсаюзаў па соцыяльнаму страхаванню шмат яшчэ істотных недахопаў. Асноўная фігура профапарата—інструктар, наведваючы прадпрыемствы, справамі соцстраха займаецца яўна недастаткова. Недастаткова вядзецца барацьба з захворваннямі, у рэзультаце чаго на некаторых прадпрыемствах перавышан ліміт па часовай непрацаздольнасці (паліграфічная прамысловасць,

машынабудаўніцтва, скураная і інш.). Па раду прадпрыемстваў (з-д «Чырвоны металіст», ф-ка «Лекерта» і інш.) нездавальняюча пастаўлена масавая работа, дрэнна арганізован рабочы таварыскі кантроль за нявыхадам на работу па бюлетэню.

Барацьба за правільную арганізацыю меддапамогі рабочым, кантроль і практычная дапамога органам аховы здароўя, жорсткая барацьба з павышанай захворваемасцю, арганізацыя масавасці ў кантролі за выдачай больнічных лісткоў і ўсёй справай часовай непрацаздольнасці, барацьба з прагульшчыкамі, сімулянтамі-дэзарганізатарамі вытворчасці—вось пытанні, над якімі павінны папрацаваць усе профсаюзныя звенні і нізавыя партарганізацыі заводаў, фабрык, чыгуначнага транспарта, соўгасаў, МТС і т. д.

Важнейшай умовай найбольш чоткай работы па абслугоўванню застрахаваных з'яўляецца поўнае выкананне фінансавага плана. Мабілізацыя сродкаў соцстраха, найбольш мэтазгоднае іх накіраванне—галоўнейшая задача соцыяльнага страхавання.

Асаблівую ўвагу профсаюзы павінны ўдзяліць быту рабочых і работніц, дыетычнаму лячэбнаму харчаванню, рабочаму адпачынку, палепшанню работы дзіцячых садоў і ясель.

Неабходна забяспечыць строгі дыферэнцыяваны падыход у абслугоўванні рабочых, даючы перавагу ўдарнікам—лепшым людзям вытворчасці.

Перабудова профсаюзаў палепшыла ахову працы. Некаторыя профарганізацыі (ЦП тарфянікаў, комунальна-жыллёвага будаўніцтва, БРК работнікаў зем. соўгасаў) шчыльна падышлі да гэтага пытання і дабіліся канкрэтных рэзультатаў.

Калі ў мінулым годзе асноўны паказчык—асваенне сродкаў на ахову працы—дасягаў на 1 снежня 60 проц., то сёлета дасягае 85—90 проц. у сярэднім. Рад прадпрыемстваў датэрмінова выканаў і нават перавыканаў мерапрыемствы па ахове працы, асвоіўшы ўсе адпушчаныя сродкі (з-д «Чырвоны металіст», швейная фабрыка імя Дзержынскага, запалкавая фабрыка «Пролетарская перамога», хлебазавод у Бабруйску, швейная фабрыка «Профінтэрн» і скурзавод Еўсцігнеева). Бабруйск па ўсіх прадпрыемствах заканчвае асваенне сродкаў на ахову працы за ўвесь 1934 г.

Значным дасягненнем з'яўляецца тое, што ў ахову працы ўцягваюцца шырокія масы лепшых ударнікаў прадпрыемстваў, соўгасаў і МТС. Грамадская інспектура раней існавала толькі дзе-ні-дзе, а зараз—на радзе прадпрыемстваў, у кожнай змене, цэху і нават у соўгасах МТС, ва ўчдорах, на торфазаводах і ў леспрамгасах. Можна назваць паасобных рабочых, якія актыўна змагаюцца за аздараўленне ўмоў працы (на прадпрыемствах: Назараў—фабрыка «Комунарка», Тэклін—швейная фабрыка «Комінтэрн» і інш.

Работа ў галіне аховы працы мае яшчэ істотныя недахопы. Некаторыя саюзы (работнікаў запалак і фанеры, скуранікаў, комунальнікаў) не вядуць сапраўднай барацьбы за поўнае правядзенне ў жыццё планавых мерапрыемстваў па ахове працы і тэхніцы безапаснасці. Пры агульным здавальняючым асваенні асігнаванняў на ахову працы ёсць яшчэ прадпрыемствы, якія ганебна правальваюць гэтую справу. Віцебскі шчотачны камбінат з адпушчаных яму ў 1934 г. на ахову працы 73.000 руб. скарыстаў толькі 25.000 руб., шклозавод «Ільіч» з 5.000 руб. скарыстаў толькі 1.500 руб., база Белутыля ў Віцебску з 25.000 руб. асвоіла толькі 11.000 руб., фанерны завод у

Капцэвічах з 15.000 руб. асвоіў толькі 3.500 р. Яшчэ не пакончана са скажэннямі і парушэннямі заканадаўства аб працы падлеткаў, жанчын, аб рабочым часе, адпачынку і т. д.

Указаныя недахопы вынікаюць галоўным чынам з неразумення некаторымі профработнікамі таго, што ў гэтым пытанні профсаюзы, побач з клопатамі аб палепшанні ўмоў працы сваіх членаў, выконваюць функцыі органаў дзяржаўнага нагляду. Адсюль—няпоўнае скарыстанне сваіх правоў, недастатковае адчуванне адказнасці за стан аховы працы на кожным прадпрыемстве, у кожным цэху, рабочым месцы і т. д. Рад саюзных арганізацый не стварыў яшчэ масавасці вакол гэтага пытання, якое цікавіць кожнага рабочага. Агромная армія грамадскіх інспектароў працы, створаная намі непасрэдна на вытворчасці, скарыстоўваецца яўна недастаткова.

Наша задача—ператварыць кожнае прадпрыемства, кожны соўгас, МТС, МТМ у сапраўдны ачаг культуры працы; рашуча ўзмацніць барацьбу з парушэннямі норм аховы працы і працоўнага заканадаўства, не пакідаючы ніводнага выпадку парушэння беспакараным; неадкладна абучыць усіх рабочых безапасным метадам работы і дабіцца, каб ні адзін складаны механізм, ні адна небяспечная і шкодная работа не абслугоўвалася рабочым, які-б не ведаў мінімуму тэхнікі безапаснасці.

Трэба наладзіць сістэматычнае кіраўніцтва грамадскай інспектурай працы, множыць яе рады, дабіцца, «каб у нас былі тут сотні тысяч людзей, якія змаглі-б па-сапраўднаму драцца за справу аховы працы» **(Швернік).**

Поспехі ў профрабоце, датэрміновае выкананне радам прадпрыемстваў сваіх промфінпланаў ёсць рэзультат шырокага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, якое, паводле вызначэння XVI з'езда партыі, з'яўляецца рашаючым, асноўным звяном у ажыўленні і палепшанні работы профсаюзаў і ўцягненні шырокіх працоўных мас у кіраванне вытворчасцю. Упорная работа профсаюзаў у гэтым напрамку дала значны рост радоў ударнікаў і ахвату соцспаборніцтвам.

Не гледзячы на агромны прыток новых рабочых на вытворчасць, не толькі вырасла колькасць ахопленых соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам (з 65,9 проц. на 1.IX—34 г. да 66,8 проц. на 1.XI 1934 г.), але, галоўным чынам, якасць самога спаборніцтва. Лік ударнікаў, якія выконваюць і перавыконваюць свае вытворчыя паказчыкі, вырас на 10,2 проц.

Аднак гэтыя дасягненні задаволіць нас безумоўна не могуць, бо яшчэ трэцяя частка рабочых не ахоплена соцметадамі работы. Задача профсаюзаў і заводскіх партарганізацый—весці няўтомную масава-выхаваўчую і арганізацыйную работу для ахвату ўсёй масы рабочых соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам.

* * *

Апошні год характарызуецца паваротам профсаюзных арганізацый да пытанняў задавальнення матар'яльна-бытавых патрэб рабочых. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК, профсаюзы дабіліся значнага павелічэння харчовай базы нашых прадпрыемстваў. Калі ў мінулым годзе рабочае снабжэнне мела ад прыгарадных гаспадарак звыш 40.000 тон бульбы і гародніны, дык у гэтым годзе—да 80.000 тон.

Больш 58.000 рабочых атрымалі вясною гэтага года індывідуальныя гароды, з якіх сабрана да 70.000 тон бульбы і гародніны.

У сувязі з культурна-бытавым паходам імя VII з'езда советаў, абвешчаным V пленумам ЦСПСБ, праведзена агромная работа па падрыхтоўцы да зімы. Па асноўных прамысловых гарадах і 25 сельскіх раёнах адрамантавана больш 12.000 рабочых кватэр, да 800 рабочых атрымалі новыя кватэры, больш 20.000 рабочых для рамонту кватэр атрымалі дапамогу грашыма і матар'яламі на агульную суму да поўмільёна руб. Агромная дапамога аказана парасятамі для гадоўлі, у будаўніцтве і рамонце склепаў для хавання ўраджаю з індывідуальных гародаў і т. п.

Займаючыся пытаннямі заработнай платы, соцстраха, аховы працы, матар'яльна-бытавых патрэб рабочых, профсаюзы, як масавая арганізацыя рабочага класа, не маглі стаяць у баку ад тых агульна-палітычных мерапрыемстваў, якімі займалася партыя і ўрад.

Актыўнейшы ўдзел прынялі профсаюзы ў правядзенні ўсебеларускіх злётаў значкістаў «ЗОТ» лёгкай прамысловасці ў Віцебску і цяжкай у Гомелі. Падрыхтоўка і правядзенне злётаў суправаджалася агромнай работай па разгортванню тэхнічнай вучобы на прадпрыемствах. Цікавы яе вынікі: на 1 лістапада 1933 г. тэхвучобай ахоплена было 5.500 чал., значкістаў былі адзінкі, на 1 лістапада 1934 г. тэхнічнай вучобай па прадпрыемствах БССР (уключаючы соўгасы) ахоплена 56.000 чал., здало соцтэхэкзамен 18.000 чал., значкістаў «ЗОТ» 7.500 чал.

Усебеларуская канферэнцыя значкістаў «ЗОТ» цяжкай прамысловасці паставіла перад усімі нашымі прадпрыемствамі адказную задачу; «Пёратварыць усе прадпрыемствы БССР к 1 мая 1935 года ў прадпрыемствы суцэльнай тэхнічнай граматнасці». Задача ганаровая, але і цяжкая. Каб яе вырашыць, патрэбна сапраўды большэвіцкая сумесная работа партыйных і профсаюзных арганізацый, гаспадарнікаў і комсамола.

Увага наша да жывых людзей, асабліва вядучых груп рабочых, павінна быць павышана ва многа раз. Да ўдарнікаў вытворчасці, аўладаўшых тэхнікай сваёй справы, нельга падыходзіць з тою-ж меркаю, як і да менш падрыхтаваных, адсталых рабочых.

У канцы 1934 г. правадыр нашай партыі т. Сталін у гутарцы з металургамі зрабіў яшчэ адно выдатнае ўказанне:

> «Нельга тэхніку адрываць ад людзей, якія прыводзяць тэхніку ў рух. Тэхніка без людзей мёртва. Лозунг «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё» мае на ўвазе не голую тэхніку, а тэхніку, на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай. Толькі такое разуменне гэтага лозунга з'яўляецца правільным. І паколькі мы ўжо навучыліся цаніць тэхніку, пара заявіць прама, што «галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай». Але з гэтага следуе, што калі раней аднабока ставілі націск на тэхніку, на машыны, то цяпер націск трэба ставіць на людзей, аўладаўшых тэхнікай. Гэтага патрабуе наш лозунг аб тэхніцы. Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва. Выхоўваць, дапамагаць расці, даць перспектыву, у час

выбудоўваць, у час пераводзіць на іншую работу, калі чалавек не спраўляецца са сваёй справай, не чакаючы таго, калі ён канчаткова праваліцца».

Гэта ўказанне правадыра нашай партыі і ўсяго рабочага класа патрабуе ад кожнай профсаюзнай арганізацыі, ад кожнага фабрычна-заводскага камітэта ў поўнай меры ўлічваць культурныя запатрабаванні і вытворчыя імкненні кожнага ўдарніка, дапамагаючы яму павышаць свае тэхнічныя веды і агульнакультурны ўзровень, праяўляць максімальны клопат аб кожным рабочым і работніцы.

Да мерапрыемстваў падобнага роду адносіцца праведзены ўсебеларускі конкурс на лепшую пастаноўку масавага вынаходніцтва. За час конкурса рады вынаходнікаў узраслі на 1.547 чал., арганізавана новых 358 рацыяналізатарскіх груп непасрэдна ў брыгадах; толькі па 23 прадпрыемствах за 3-ці квартал паступіла 1.240 прапаноў, з якіх ужо выканана 448 прапаноў з эфектыўнасцю ў 482.969 руб.

Асаблівай увагі заслугоўвае велізарная масава-палітычная і арганізатарская работа, праведзеная профсаюзамі ў сувязі з перавыбарчай кампаніяй советаў. У гэтай важнейшай агульна-палітычнай кампаніі профарганізацыі, у адзнаку ад мінулых год, не абмежаваліся толькі забяспечваннем яўкі выбаршчыкаў на сходы, але, пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый, здолелі ўвязаць падрыхтоўку і правядзенне перавыбараў з мабілізацыяй палітычнай і вытворчай актыўнасці рабочых мас на паспяховае завяршэнне народна-гаспадарчых планаў 1934 г. і арганізацыю большэвіцкай сустрэчы 3-га года другой пяцігодкі.

Вышэй мы адзначалі паасобныя недахопы ў перабудове работы профсаюзаў. Але адзначаным справа далёка не вычэрпваецца.

Хоць і значна палепшылася жывая сувязь ЦП і паасобных ЦК з прадпрыемствамі, аднак не знішчаны да канца канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва. Работа раду ЦП саюзаў хварэе неканкрэтнасцю. Узяць, к прыкладу, ЦП саюза комунальнікаў. Буйнейшы аб'ект яго абслугоўвання—мінская электрастанцыя. Вельмі часта наведвалі яе адказныя работнікі ЦП—Місюра і Жукаў, але займаліся агульнымі разважаннямі аб рабоце заўкома, не ўнікаючы і не правяраючы яе фактычны стан. І не дзіўна, што гэтыя «кіраўнікі» прагледзелі такія абураючыя факты, як растрата 21.000 руб. профсаюзных сродкаў (50 проц. усяго гадавога бюджэта заўкома), як механічнае выбыванне з саюза цэлымі «пачкамі» (300 чал.), як нічым непрыкрытая дробнабуржуазная ўраўнілаўка ў зарплаце (возчыкі атрымліваюць у 2—3 разы больш высокакваліфікаванага рабочага), як зрыў мерапрыемстваў па ахове працы (з 11.000 руб. скарыстана менш паловы) і, нарэшце, зрыў такога важнага палітычнага мерапрыемства, як перавыбары советаў.

Нажаль, прыклады падобнага «кіраўніцтва» не адзінкавы. Яны мелі месца і ў радзе іншых як саюзных, так і міжсаюзных арганізацый (саюз медсанпрацы, гомельскі горпрофсовет і інш.).

Размежаваннем функцый вытворчых саюзаў і міжсаюзных органаў, як упаміналася спачатку, мяркуецца перанесці ўсю аперацыйную работу ў галінныя саюзы. Тым часам прыгарадныя гаспадаркі, развіццё індывідуальнага рабочага гародніцтва і іншыя пытанні рабочага снабжэння, якім раней столькі ўвагі ўдзялялі міжсаюзныя органы, яшчэ не занялі належнага месца ў рабоце паасобных саюзаў. Набліжаецца веснавая сяўба. Кожная профарганізацыя, кожны проф-

работнік ужо цяпер павінны канкрэтна заняцца гэтымі пытаннямі па кожнаму паасобнаму прадпрыемству і каапгасу.

Адно з важнейшых арганізацыйных пытанняў—правільная работа новаўведзенага інстытута ўпаўнаважаных ЦК саюзаў і ўпаўнаважаных ЦСПСБ у раёнах. Гэтыя інстытуты заклікаены служыць звязваючым звяном і прадстаўляць свае арганізацыі на месцах. Аднак, па вельмі арыгінальнаму выражэнню т. Кагановіча, яны яшчэ не знашлі сваёй «палічкі», свайго месца ў рабоце.

Профсаюзам на прадпрыемствах прадастаўлены вельмі вялікія кантрольныя правы. Трэба толькі ўмець імі карыстацца, умець арганізоўваць масы, прыслухоўвацца да скаргаў і заяў рабочых. У гэтым напрамку профсаюзы БССР правялі значную работу. На большасці прадпрыемстваў створаны групы масавага рабочага кантроля, прымацаваныя да паасобных участкаў работы, што дало дзейсныя рэзультаты. Але і ў гэтай рабоце яшчэ нямала істотных недахопаў: ФЗМК і ЦП саюзаў недастаткова кіруюць групамі масавага рабочага кантроля, слаба, а іншы раз па-бюракратычнаму рэагуюць на выяўляемыя імі ненармальнасці.

Станоўчыя рэзультаты работы груп масавага рабочага кантроля трэба значна больш развіць, падбіраць у брыгады масавага рабочага кантроля людзей настойлівых, здольных выяўляць недахопы ў рабоце нашых гаспадарчых арганізацый і дабівацца іх знішчэння. Праведзены профсаюзамі разам з Камісіяй Савецкага Кантроля і газетай «Труд» рэйд праверкі, у сувязі з падрыхтоўкай да гандлю хлебам без картак, узняў шырокія масы рабочых на барацьбу з недахопамі ў рабоце прадпрыемстваў хлебапячэння і гандлюючай сеці, перашкаджаючымі ажыццяўленню рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б). Рэйд закончыўся. Задача зараз у тым, каб забяспечыць пастаянны дзейсны кантроль над работай гандлюючай сеці, замацаваць за кожным магазінам, ларком, пякарняй пастаянныя брыгады масавага рабочага кантроля, якія-б своечасова папярэджвалі, выяўлялі, знішчалі недахопы ў рабоце.

Перабудова мала закранула клуб, чырвоны куток, якія яшчэ не занялі належнага месца ў культурна-выхаваўчай рабоце профсаюзаў. Даволі ўказаць, што менскімі клубамі харчавікоў, металістаў і інш. адпаведныя ЦП саюзаў і заўкомы зусім не кіруюць і наогул мала аб іх клапоцяцца.

Падводзячы вынікі ўсяму сказанаму аб рабоце профсаюзаў БССР, неабходна з усёй сілаю падкрэсліць, што на бліжэйшы перыяд патрэбна чоткая, глыбока прадуманая работа кожнай профарганізацыі і ў першую чаргу ўменне сканцэнтраваць увагу на тым галоўным, асноўным, спецыфічным, што характэрна для **данага профсаюза, данага прадпрыемства.** У гэтым «гвозд» пытання, у гэтым мэта перабудовы. Другое—гэта самыя чулыя, самыя сур'ёзныя і ўважлівыя адносіны да кожнай скаргі рабочага. Кожная профарганізацыя павінна так пабудаваць сваю работу, каб рэалізаваць на справе ўказанне партыі:

> «Профработнікі павінны жыць адным жыццём з рабочымі, ведаць іх запатрабаванні і патрэбнасці, дапамагаць ім перамагаць труднасці, быць з масамі, на чале мас, адным словам, ажыццяўляць на справе сваю ролю «школы комунізма» і прыводнага рэмення к масам».

Найважнейшае ў рабоце профсаюзаў—гэта ўзмацненне класавай пільнасці. Забойства лепшага з лепшых большэвікоў-ленінцаў—тав. **КІРАВА**—падонкамі трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, стаўшымі на шлях тэрора і адкрытага змыкання з фашызмам, стварэнне рэшткамі былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі ў Маскве і Ленінградзе падпольных контррэволюцыйных цэнтраў на чале з Зіноўевым, Каменевым і іншымі для барацьбы з комуністычнаю партыяй і совецкім урадам, контррэволюцыйныя трацкісцкія вылазкі былых трацкістаў—Галендо, Разумоўскага, Паўлюкевіча, Фліора і інш.—у радзеарганізацый Беларусі—усё гэта патрабуе ад профсаюзных работнікаў, ад усіх рабочых і працоўных нашай краіны, ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый максімальнага ўзмацнення класавай пільнасці на кожным участку работы, той рэволюцыйнай пільнасці, якой патрабуе ад нас партыя і яе геніяльны правадыр, натхняльнік і арганізатар соцыялістычных перамог—тав. **Сталін.**

Разбуйніўшыся і перабудаваўшы сваю работу ў адпаведнасці з палітычнымі задачамі другой пяцігодкі, профсаюзы БССР, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, усёй сваёй штодзеннай большэвіцкай работай не толькі ліквідуюць буйнейшыя недахопы, якія яшчэ ёсць у іх рабоце, але і з гонарам выканаюць задачы, ускладзеныя на іх партыяй і рабочым класам.

---

А. І. Лур'е

# Аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты

Адмена картачнай сістэмы і арганізацыя свабоднай прадажы хлеба і некаторых іншых прадуктаў з'яўляецца соцыялістычным мерапрыемствам найвялікшага палітычнага і эканамічнага значэння. Яно магло быць праведзена толькі на аснове велізарных палітычных, эканамічных і арганізацыйных заваяванняў, якіх дабілася наша краіна пад кіраўніцтвам пераможнай комуністычнай партыі, у выніку ажыццяўлення плана першай і двух год другой пяцігодкі, у бязлітаснай барацьбе з усімі ворагамі рабочага класа.

Адмена картачнай сістэмы на хлеб непасрэдна закранае інтарэсы ўсіх рабочых, усяго шматмільённага працоўнага насельніцтва нашай краіны. Нядзіўна, што гэтае мерапрыемства партыі і ўрада выклікала надзвычайную ўвагу і актыўнасць рабочых, служачых, калгаснікаў. На шматлікіх сходах па прапрацоўцы рашэнняў лістападаўскага пленума задавалася дакладчыкам і прапагандыстам многа пытанняў аб характары данага мерапрыемства, аб зарплаце, аб цэнах, аб ролі кааперацыі, аб грамадскім харчаванні, аб грошах і т. п.

Адмену картачнай сістэмы класавы вораг стараўся выкарыстаць у сваіх контррэволюцыйных мэтах, сеючы варожыя чуткі, імкнучыся проціпаставіць інтарэсы паасобных слаёў і груп рабочых інтарэсам усяго соцыялістычнага будаўніцтва, накіраваць увагу рабочых і калгаснікаў на ўзмацненне дробнабуржуазных тэндэнцый ураўнілаўкі.

Кулак у калгасе Мсціслаўскага раёна заявіў: «Раз хлеба ўсюды будзе многа, значыць і працаваць у калгасе трэба менш»; у кіеўскім прыгарадным сяле поп агітаваў: «Бярыце хлеб сёння, бо заўтра не будзе»; у Чэркасах былі выпадкі скупкі хлеба спекулянтамі і т. п.

Першыя дні адкрытага гандлю хлебам і іншымі прадуктамі хутка рассеялі мыльныя паўхіры контррэволюцыйных чутак, раздутых мізэрнымі рэшткамі аджываючых варожых класаў. Не было чаргі. Планы расшырэння сеці магазінаў і крам, павелічэння вытворчай магутнасці нашых хлебазаводаў і пабудовы новых былі перавыкананы ўжо к 1 студзеня. Спажывец аказаўся актыўным і арганізаваным, выяўляючы гэтым рост давер'я пролетарскай дзяржаве, «упэўненасць насельніцтва ў тым, што ўрад праводзіць свае мерапрыемствы паслядоўна, да канца і ў інтарэсах працоўных» («Правда»). Аднак класавы вораг прадаўжае весці сваю работу. Трэба своечасова і бязлітасна выкрываць усе яго махінацыі, яго контррэволюцыйную работу супроць гэтага важнейшага мерапрыемства партыі і совецкай улады.

* * *

Асновай нашага эканамічнага развіцця з'яўляецца **дыктатура пролетарыята.** Арганізаваны ў дзяржаву рабочы клас нашай краіны, трымаючы ў сваіх руках асноўныя рычагі народнай гаспадаркі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, ажыццяўляе ў саюзе з працоўным сялянствам і ў бязлітаснай барацьбе з капіталістычнымі элементамі план пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадства. Контррэволюцыйныя трацкісты і зіноўеўцы, выходзячы са сваёй здрадніцкай «тэорыі» аб немагчымасці пабудовы социялізма ў адной краіне, адмаўлялі дыктатуру пролетарыята, як эканамічны закон нашага развіцця, паслядоўна социялістычны характар нашых дзяржаўных прадпрыемстваў. Ланцуг фальшывых контррэволюцыйных тэорыек і здрад у барацьбе з партыяй прывёў іх у лагер контррэволюцыйнай буржуазіі. Падонкі былой зіноўеўскай апазіцыі сталі на белабандыцкі фашысцкі шлях барацьбы з партыяй і совецкаю уладай.

Подлыя двурушнікі, штрэйкбрэхеры Зіноўеў, Каменеў і ім падобныя сталі стопроцантнымі здраднікамі і контррэволюцыянерамі, натхняльнікамі і кіраўнікамі белагвардзейска-фашысцкай тэрарыстычнай групы, здрадніцкі забіўшай аднаго з лепшых правадыроў партыі, слаўнага барацьбіта за комунізм—**С. М. Кірава.**

Дыктатура пролетарыята ў нашай краіне ўмацоўваецца, мы пераможна ідзем уперад. Але чым больш нашыя перамогі, тым больш лютуе класавы вораг, пераходзячы да ўсё больш рэзкіх форм класавай барацьбы.

> «Краіна на вышыні ўздыму. Вораг імпэтна коціцца ўніз. Але чым больш адлегласць паміж нашым уздымам і скатам ворагаў уніз, тым больш, бясcільней злоба ў гэтых класавых ворагаў» **(Кагановіч).**

На гэтай глебе актывізуюцца ў паасобных партыйных арганізацыях рэшткі контррэволюцыйнага трацкізма і зіноўеўшчыны, якія вужакай упаўзлі ў партыю, гадамі выношваючы ў сваіх нікчэмных, брудных душонках злобу і ненавісць к партыі і яе кіраўніцтву. КП(б)Б у бязлітаснай барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам і зіноўеўшчынай выкрыла за апошні час махровага контррэволюцыянера Галендо, аўтара кулацкага трацкісцкага «хлебафуражнага баланса», разведчыка класавага ворага, а таксама двурушніка Фліора. Выкручваючыся вужам, двурушнічаючы і ашукваючы партыю яны дапаўзлі да адказных совецкіх пастоў. Падзесяцяраючы сваю большэвіцкую пільнасць, партыя да канца знішчыць астаткі контррэволюцыйнага трацкізма і зіноўеўшчыны ў нашых радах.

Адмаўленне дыктатуры пролетарыята, як эканамічнага закона руху ў нашай краіне, тэорыя самацёку ў соцбудаўніцтве, тэорыя затухання класавай барацьбы прывялі ў свой час і правых апартуністаў да тэорыі роўнавагі сектароў у нашай гаспадарцы, да адмаўлення дваістасці нэпа, да тэорыі неабходнасці развязвання рыначнай стыхіі, увекавечвання дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі і ўрастання кулака ў социялізм, а ўрэшце—да прамога змыкання з буржуазнымі рэстаўратарамі, контррэволюцыйнымі шкоднікамі тыпу Кандрацьева, Чаянава, меншавіка Суханава.

Партыя праводзіла ленінска-сталінскі план пабудовы социялізма ў барацьбе з класавымі ворагамі і іх агентурай унутры партыі, з пра-

вымі апартуністамі, з «левымі», з контррэвалюцыйным трацкізмам і прымірэнцтвам да яго, з апартуністамі ўсіх колераў.

Ленінска-сталінскі план пабудовы соцыялізма—план соцыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны, соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе калгасаў і соўгасаў, змычкі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, разгорнутага совецкага гандлю і ліквідацыі капіталістычных элементаў у нашай краіне—ажыццяўляўся пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра—т. **Сталіна.**

План соцыялістычнай індустрыялізацыі азначаў неабходнасць дабіцца рашаючай ролі прамысловасці ва ўсёй народнай гаспадарцы, стварыць сваю ўласную **цяжкую прамысловасць.** Толькі цяжкая прамысловасць і яе сарцавіна—машынабудаўніцтва—здольна зрабіць соцыялістычную краіну непрыступнай крэпасцю, рэканструяваць на соцыялістычных асновах яе сельскую гаспадарку, рэканструяваць транспарт, умацаваць абароназдольнасць.

> «Паратункам для Расіі з'яўляецца не толькі добры ўраджай у сялянскай гаспадарцы—гэтага яшчэ мала,—і не толькі добры стан лёгкай прамысловасці, пастаўляючай сялянству прадметы спажывання,—гэтага таксама яшчэ мала,—нам неабходна таксама **цяжкая** індустрыя... Без выратавання цяжкай прамысловасці, без яе аднаўлення мы не зможам пабудаваць ніякай прамысловасці, а без яе мы наогул загінем, як самастойная краіна» (**Ленін,** т. XXVII, стар. 349).

Тав. Сталін не раз падкрэсліваў гэта на розных этапах нашага будаўніцтва, у барацьбе за тэмпы індустрыялізацыі, як з правымі апартуністамі, староннікамі аграрызацыі нашай краіны і «сітцавай» індустрыялізацыі, так і з трацкістамі-авантурыстамі, героямі левай фразы, прапаведнікамі «звыш-індустрыялізацыі», пражэкцерамі авантурыстычных звыштэмпаў, якія стваралі пагрозы разрыву змычкі саюза рабочых і сялян, што на справе прывяло-б к зрыву індустрыялізацыі, і нарэшце прама далучыліся да контррэволюцыйнай праграмы правых, патрабуючы звароту да канцэсійнай палітыкі, каб здаць у арэнду цэлы рад прамысловых прадпрыемстваў, як нерэнтабельных. Усё гэта з'яўляецца нічым іншым, як «праграмай агідных трусаў і капітулянтаў, контррэволюцыйнаю праграмай узнаўлення капіталізма ў СССР» (**Сталін,** XVI з'езд).

З года ў год бурным тэмпам расла наша цяжкая прамысловасць. Падводзячы вынікі першай пяцігодкі, тав. Сталін паставіў перад нашай партыяй рад новых задач: дапоўніць пафас новага будаўніцтва пафасам асваення, аўладаць новай тэхнікай і на базе развітой цяжкай прамысловасці павысіць тэмпы развіцця лёгкай.

Вынікі 1934 года паказваюць далейшыя перамогі цяжкай прамысловасці: чорная металургія 16 снежня выканала свой гадавы план ў 10 млн. тон чыгуна, чым павялічыла сваю гадавую прадукцыю на 48 проц.; вырасла выпрацоўка ў сярэднім на аднаго рабочага; з квартала ў квартал няўхільна зніжаўся сабекошт.

Абсалютны прырост прадукцыі за два гады другой пяцігодкі перавысіў прырост за ўсю першую пяцігодку.

Наша чорная металургія заняла першае месца ў Еўропе і другое ў свеце. Разам з высокаразвітай сучаснай тэхнікай мы стварылі і самае каштоўнае—кадры.

Праблема вырошчвання новай пролетарскай вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі была пастаўлена асабліва востра тав. Сталіным у яго вядомых шасці ўмовах перамогі і нядаўна перад металургамі:

> «Галоўнае цяпер—у людзях, аўладаўшых тэхнікай... Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва... Клапатліва вырошчваць і кваліфікаваць людзей, правільна расставіць · і арганізаваць іх на вытворчасці, арганізоўваць зарплату так, каб яна ўмацоўвала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю—вось што нам трэба для таго, каб стварыць шматлікую армію вытворча-тэхнічных кадраў» (**Сталін**, «Праўда» ад 1/I-35 г.).

Настаўнікі марксізма-ленінізма неаднакроць паўтаралі, што пабудаваць поўнае соцыялістычнае грамадства, грамадства без класаў, гэта значыць зніштожыць розніцу паміж рабочым і селянінам. А для гэтага неабходна ператварыць дробную сялянскую гаспадарку ў буйнае аграмаджанае земляробства.

> «Калі сялянская гаспадарка можа развівацца далей, неабходна цвёрда забяспечыць і далейшы пераход, а далейшы пераход немінуча заключаецца ў тым, каб найменш выгадная, дробная адасобленая сялянская гаспадарка, паступова яднаючыся, з'арганізоўвала-б аграмаджаную, буйную земляробчую гаспадарку. Так уяўлялі сабе ўсё гэта соцыялісты заўсёды, іменна так глядзіць і наша комуністычная партыя» (**Ленін**, т. XXVI, стар. 299).

Партыя ўлічвала і труднасці, звязаныя з такім пераходам, і не раз падкрэслівала, што трэба падвесці дробнага селяніна паступова, на аснове добраахвотнасці, да калектывізацыі, паказаць яму на практыцы **перавагу** буйнага земляробства, развіваць кааперацыйную грамадскасць у вёсцы, знайсці тую форму калектыўнага руху, якая найлепшым чынам спалучала-б асабістыя інтарэсы аднаасобніка з інтарэсамі грамадскай вытворчасці, аказваць пастаянную фінансавую і вытворчую дапамогу калектыўнаму земляробству.

Правыя апартуністы выступалі з тэорыяй урастання кулака ў соцыялізм, супроць ленінскага кааперацыйнага плана, проціпастаўлялі калгаснаму руху кааперацыйны, які яны разумелі толькі як рух збытавой і снабжэнчай кааперацыі. Яны лічылі, што можна пабудаваць соцыялізм праз збытавую і снабжэнчую кааперацыю, пакідаючы някранутай дробную, індывідуальную гаспадарку, заяўляючы, што калгасы «не з'яўляюцца сталбавою дарогай к соцыялізму».

Выкрываючы правых апартуністаў, тав. Сталін сказаў:

> «Процістаўляць калгасы кааперацыі—значыць здзеквацца над ленінізмам і распісацца ў сваім уласным невуцтве».
>
> «Праводзіць ленінскі кааперацыйны план—гэта значыць падымаць сялянства ад кааперацыі збытавой і снабжэнчай да кааперацыі вытворчай, да кааперацыі, так сказаць, калгаснай».

Трацкісты, зіноўеўцы, выходзячы са сваёй здрадніцкай палітыкі, выступалі супроць ленінскага кааперацыйнага плана пераводу сельскай гаспадаркі на соцыялістычны шлях. Выступаючы з тэорыяй немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, адмаўляючы магчымасць уцягнення асноўных мас сялянства ў справу соцыялі-

стычнага будаўніцтва, заяўляючы, што рабочы клас не ў сілах павесці за сабою сялянства ў справе перабудовы індывідуальных сялянскіх гаспадарак на калектыўныя рэйкі,—трацкісты-зіноўеўцы змагаліся супроць ажыццяўлення ленінскага кааперацыйнага плана.

Партыя пад кіраўніцтвам тав. Сталіна выявіла і выкрыла контррэвалюцыйную сутнасць тэорыі і ўстаноўкі трацкістаў, зіноўеўцаў і правых апартуністаў.

Партыя на XV з'ездзе высунула, як практычную задачу, лозунг арганізацыі масавага калгаснага руху. Працоўныя сялянскія масы пераканаліся ў правільнасці лозунга партыі і масай павярнулі на шлях калгасаў.

Партыя ўказала шлях вырашэння тых труднасцей, якія былі звязаны з адсталасцю дробнатаварнай сельскай гаспадаркі. Шлях гэты, як гаварыў тав. Сталін,—насаджэнне калгасаў і соўгасаў. К этапу вялікага пералому, павароту асноўных мас сялянства на шлях калектывізацыі партыя мела і адпаведныя прадпасылкі. Гэтыя прадпасылкі ў асноўным зводзяцца к наступнаму: развіццё цяжкай прамысловасці, здольнай дастаўляць машыны і трактары сельскай гаспадарцы, правільная палітыка партыі ў адносінах сялянства, развіццё кааперацыйнай грамадскасці, прывучаўшай сялян да калектыўнага вядзення справы, рашучая барацьба з кулаком, развіццё сеці калгасаў і соўгасаў, якія на практыцы паказалі сялянству перавагу буйнай вытворчасці.

Так стваралася магчымасць ажыццяўлення соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. На базе суцэльнай калектывізацыі партыя праводзіла і палітыку ліквідацыі кулацтва як класа. Праблема «хто каго» вырашана і ў горадзе і ў вёсцы; калгасны лад умацаваўся канчаткова.

Асноўнаю формай змычкі паміж горадам і вёскай з'яўляецца вытворчая змычка. Пролетарскі горад развівае сваю прамысловасць, перарабляе сельскую гаспадарку, снабжаючы яе машынамі, трактарамі, стварае для яе новую тэхнічную базу і на гэтай аснове перарабляе, перавыхоўвае дробнага таварнага вытворцу. Таму т. Сталін выкрываў як буржуазных рэстаўратараў правых апартуністаў, староннікаў свабоднага гандлю, якія ўяўлялі сабе змычку ў тым сэнсе, што дзяржава забяспечвае толькі спажывецкі попыт вёскі, узмацняючы тэмпы лёгкай прамысловасці.

> «Змычка патрэбна нам для таго, каб наблізіць сялянства да рабочага класа, перавыхаваць сялянства, перарабіць яго псіхалогію індывідуаліста, перапрацаваць яго ў духу калектывізма і падрыхтаваць, такім чынам, ліквідацыю, знішчэнне класаў на базе соцыялістычнага грамадства» (**Сталін.** «Аб выніках ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б), 1928 г.).

Але для таго, каб змычка паміж горадам і вёскай была моцнай і непарыўнай, неабходна арганізаваць сустрэчу тавараў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, дапоўніць змычку вытворчую змычкай таварнай, разгарнуць таваразварот паміж горадам і вёскай, разгарнуць **совецкі** гандаль і пры яго дапамозе як мага хутчэй, як мага лепш, як мага паўней задаволіць растучыя патрэбнасці рабочых і ўсіх працоўных.

> «Пара, нарэшце, зразумець, што тавары выпрацоўваюцца ў канчатковым выніку не для вытворчасці, а для спажывання» **(Сталін).**

Арганізаваўшы соцыялістычную вытворчасць, партыя безупынна павышае матар'яльныя і культурныя ўмовы жыцця працоўных, вядзе іх да новага заможнага жыцця.

Разгорнуты таваразварот, разгорнуты совецкі гандаль з'яўляецца важнейшай умовай ажыўлення ўсяго эканамічнага жыцця краіны, сродкам, стымулюючым далейшае развіццё і прамысловасці, і сельскай гаспадаркі, ствараючым найбольш спрыяючыя ўмовы для задавальнення ўзросшых патрэбнасцей рабочых і сялян. Совецкі гандаль адрозніваецца таксама ад гандлю на першай стадыі нэпа, калі дапускалася некаторае ажыўленне капіталізма, калі існавала пэўная свабода гандлю, абмежаваная рэгулюючай роллю дзяржавы.

Тав. Сталін пастаянна выкрываў як правых апартуністаў, якія не разумелі дваістасці нэпа, азначаўшага не поўную свабоду гандлю, не развязванне рыначнай стыхіі, а толькі свабодны гандаль **ў пэўных** межах пры рэгулюючай ролі дзяржавы, так і рэстаўратарскую, капітулянцкую тэорыю Троцкага, Зіноўева і Каменева, якія, выходзячы з контррэволюцыйнай «тэорыі» немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, ацэньвалі нэп толькі як адступленне.

> «На самай справе,—гаварыў т. Сталін,—нэп ёсць палітыка партыі, дапускаючая барацьбу соцыялістычных і капіталістычных элементаў і разлічаныя на перамогу соцыялістычных элементаў над элементамі капіталістычнымі... На самай справе мы наступаем ужо некалькі гадоў і наступаем з поспехам, развіваючы нашу індустрыю, развіваючы совецкі гандаль, выцясняючы прыватны капітал» («Да пытанняў ленінізма»).

Совецкі гандаль ёсць гандаль, які вядзе соцыялістычная дзяржава, соцыялістычная кааперацыя, мясцовая прамысловасць, калгасы, калгаснікі і аднаасобныя сяляне без капіталістаў, без спекулянтаў. Гэта—спосаб абмену, які адпавядае соцыялістычнаму спосабу вытворчасці, стаўшаму пануючым укладам у нашай гаспадарцы.

> «Гэта асобага роду гандаль, якога не ведала да гэтага часу гісторыя і які практыкуем толькі мы, большэвікі, ва ўмовах совецкага развіцця» (**Сталін**, «Вынікі першай пяцігодкі»).

Таму зусім няправільна разумець совецкі гандаль толькі як гандаль дзяржаўны; у яго ўключаецца і гандаль дзяржаўны, і кааперацыйны, і калгасны гандаль. Гутарка ідзе **аб спосабе** абмену, а не аб якой-небудзь галіне гандлю, або адным канале гандлю.

> «Неабходна, каб у гэтую справу (разгортванне таваразвароту—**А. Л.**) былі ўцягнуты і дзяржаўная гандлёвая сець, і кааперацыйная гандлёвая сець, і мясцовая прамысловасць, і калгасы, і аднаасобныя сяляне. Гэта і называецца ў нас разгорнутым **совецкім гандлем**, гандлем **без** капіталістаў, гандлем **без** спекулянтаў» (**Сталін**, Справаздача XVII з'езду).

Разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца не толькі формай абмену, якая найлепшым спосабам рэалізуе тавары, быстрэй прасоўвае іх да спажыўца, не дае ім застраваць у тавараправодзячай сеці, але мае і адваротны ўплыў на развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі, на развіццё прадукцыйных сіл, актыўна ўздзейнічае на вытворчасць, максімальна набліжаючы яе да запросаў спажыўца, стымулюе расшырэнне вытворчасці, садзейнічае правільнаму яе размяшчэнню, палепшанню якасці прадукцыі. Совецкі гандаль, паскараючы тавара-

зварот, скарачае выдаткі звароту і садзейнічае росту соцыялістычнага накаплення. Совецкі гандаль садзейнічае арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў, росту іх рэнтабельнасці, скарачэнню вытворчых выдаткаў, росту заможнасці калгаснікаў.

> «Таваразварот...—гэта не прадуктаабмен. Таваразварот—гэта купля і прадажа праз грошы. Разгарнуць таваразварот—гэта азначае, што грошы мы павінны выкарыстаць да дна... і будзем карыстацца для ўмацавання совецкай улады і ўмацавання соцыялізма» (**Жданаў**).

Прадуктаабмен азначае непасрэдны абмен прадукта на прадукт без грошай. Але для такога прадуктаабмену, а таксама для таго, каб знішчыць грошы, у нас яшчэ няма дастаткова тэхнічных і арганізацыйных заваяванняў, якіх мы можам дабіцца толькі на вышэйшай фазе комунізма, на аснове ідэальна развітага, ідэальна разгорнутага совецкага гандлю. Гаварыць цяпер аб магчымасці пераходу да прамога прадуктаабмену ёсць «лявацкая» балбатня, дон-кіхоцтва «левых» уродаў, якія часта змыкаюцца з бюракратычнымі староннікамі механічнага размеркавання і іграюць на руку ворагам соцыялізма.

Соцыялізм, які будуецца ў нашай краіне, азначае велізарнае развіццё прадукцыйных сіл прамысловасці і сельскай гаспадаркі, рост прадукцыі ўсёй народнай гаспадаркі, незвычайнае развіццё патрэбнасцей і попыту працоўных мас горада і вёскі і разгорнуты совецкі гандаль, разгорнуты таваразварот, які забяспечвае поўнакроўнае развіццё эканамічнага жыцця краіны. Адмена хлебных картак і арганізацыя адкрытай дзяржаўнай прадажы хлеба азначае яшчэ буйнейшы крок у справе разгортвання таваразвароту ў нашай краіне, яшчэ буйнейшы крок ва ўмацаванні соцыялізма ў нашай краіне, у справе ажыццяўлення ленінска-сталінскага плана пабудовы соцыялізма.

* * *

Картачная сістэма, сістэма нармавання і цэнтралізаванага снабжэння ўпершыню была ўведзена, калі не лічыць картачнай сістэмы эпохі французскай буржуазнай рэволюцыі, у час імперыялістычнай вайны некаторымі капіталістычнымі краінамі ў інтарэсах прадаўжэння імперыялістычнай бойні, забяспечання дадатковых звышпрыбыткаў кучцы фінансавых капіталістаў і юнкероў. Картачная сістэма ва ўмовах капіталізма азначала «арганізаваны голад», абмежаванне спажывання працоўных мас, у той час, як фінансавыя тузы, дваранчыкі-юнкеры даставалі ўсё, што жадалі. Картачная сістэма ў руках буржуазіі служыла сродкам узмацнення эксплаатацыі працоўных мас.

Заваяваўшы ўладу, экспрапрыяваўшы буржуазію і памешчыкаў, пролетарская дзяржава, акружаная з усіх бакоў ворагамі, упарта адбіваючыся на ўсіх фронтах, увяла картачную, пайковую сістэму ў інтарэсах працоўных мас. Ва ўмовах зруйнаванай вайною і палітыкай соцыял-здраднікаў, меншавікоў і эсэраў народнай гаспадаркі картачная сістэма мела сваёй задачай захаваць самую важную прадукцыйную сілу—рабочы клас, які ажыццяўляў сваю дыктатуру ў нечуваных цяжкіх умовах у адной краіне. У «асаджанай крэпасці» зусім зразумела

> «было жаданне забяспечыць усіх, магчыма больш парсўну пракарміць, падтрымаць, пакуль немагчыма было ўзяцца за аднаўленне вытворчасці. Цяпер (1921 г.—**А. Л.**) задача не тая: трэба ва што-б там ні стала аднавіць вытворчасць, дабіцца развіцця

прадукцыйных сіл» (**Ленін**, «Папраўкі да тэзісаў «ВСНХ», «Ленинский сборник», XX, стар. 103).

Зусім у іншых умовах, у іншай абстаноўцы, на іншай аснове і з іншымі задачамі адбывалася ўвядзенне картачнай сістэмы на хлеб і іншыя прадукты ў 1928-29 годзе. Таму буйнейшай памылкай, прамым скажэннем марксізма-ленінізма з'яўляюцца гутаркі аб картачнай сістэме наогул, без уліку канкрэтна-гістарычнай абстаноўкі яе ўвядзення, змешванне сістэмы снабжэння эпохі ваеннага комунізма і перыяда 1928—34 гг.

Нармаванне снабжэння ўведзена ў 1928—29 гг.—у перыяд быстрага росту тэмпаў індустрыялізацыі краіны, росту гарадоў, прамысловых раёнаў, росту рабочых, занятых у прамысловасці. Іменна дзякуючы росту гарадоў і прамысловасці, значна вырас і попыт на таварны хлеб, сказалася адсталасць сельскай гаспадаркі, соцыялістычная рэканструкцыя якой была пакуль што немагчыма, і яна яшчэ пэўны адрэзак часу заставалася раздробленай, індывідуальнай, дробнатаварнай, тэхнічна адсталай. Вырашэнне ўзнікшых у сувязі з гэтым хлебных затрудненняў партыя бачыла ў **соцыялістычнай** рэканструкцыі сельскай гаспадаркі шляхам насаджэння соўгасаў і калгасаў і яшчэ большага напружання тэмпаў індустрыялізацыі.

«Характэрная рыса цяперашняга становішча народнай гаспадаркі,—гаварыў тав. Сталін,—заключаецца ў тым, што мы маем перад сабою **празмернае** адставанне тэмпа развіцця зернавой гаспадаркі ад тэмпаў развіцця індустрыі, як факт, пры каласальным росце попыту на таварны хлеб з боку растучых гарадоў і прамысловых пунктаў. Пры гэтым задача заключаецца не ў тым, каб **знізіць** тэмп развіцця індустрыі да ўзроўню зернавой гаспадаркі (гэта пераблытала-б усе карты і павярнула-б развіццё назад), а ў тым, каб падагнаць развіццё зернавой гаспадаркі да тэмпа развіцця індустрыі і **падняць** тэмп развіцця зернавой гаспадаркі да ўзроўню, які-б забяспечваў шпаркае прасоўванне ўперад усёй народнай гаспадаркі, і прамысловасці і земляробства» (**Сталін.** «Аб індустрыялізацыі краіны і правым ухіле ў ВКП(б)»).

Для таго, каб наглядна паказаць становішча на хлебным фронце, тав. Сталін прывёў даследванне соцыяльнай структуры вытворчасці таварнага хлеба паводле даных статыстыка Немчынава.

Да вайны таварны хлеб (у проц. да ўсёй масы) давалі:

| | |
|---|---|
| памешчыкі | 21,6 |
| кулакі | 50 |
| серадлякі і беднякі | 28,4 |
| Таварнасць гаспадаркі была ў | |
| памешчыкаў | 47 |
| кулакоў | 34 |
| серадлякоў і беднякоў | 14,7 |
| У 1926-27 гг. таварны хлеб давалі: | |
| соўгасы і калгасы | 6,0 |
| кулакі | 20,0 |
| серадлякі і беднякі | 74,0 |
| а процант таварнасці гаспадаркі быў у | |
| соўгасаў і калгасаў | 47.2 |
| кулакоў | 20.0 |
| серадлякоў і беднякоў | 11,2 |

Адсюль вiдаць высокую таварнасць соўгасаў i калгасаў, надзвычай нiзкую таварнасць iндывiдуальнай сялянскай гаспадаркi, якая была ў Совецкім саюзе асноўным i рашаючым пастаўнiком хлеба. Зусiм зразумела, што вырашэнне зернавой праблемы ляжала на шляху калектывiзацыi i на яе аснове—механізацыі сельскай гаспадаркi.

Каб паказаць, як кардынальна змянілася становішча за гэтыя шэсць год, даволi прывесцi ўдзельную вагу соўгасна-калгаснага сектара i аднаасобнiкаў у загатоўленым хлебе (у проц.):

| | у 1929 г. | у 1934 г. |
|---|---|---|
| Соўгасы і калгасы | 14 | 92 |
| Аднаасобнікі | 86 | 8 |

Такiм чынам, асноўная прычына хлебных затрудненняў—адсталасць сельскай гаспадаркi, ў параўнанні з усё ўзрастаючай прамысловасцю, i яе нiзкая таварнасць пры росце патрэбнасцей на хлеб. Тым часам партыя павiнна была i ў далейшым праводзiць палiтыку iндустрыялiзацыi, каб забяспечыць пабудову фундамента соцыялiзма ў нашай краiне, забяспечыць соцрэканструкцыю сельскай гаспадаркi.

Картачная сiстэма ўведзена была з мэтай забяспечыць снабжэнне па цвёрдых дзяржаўных цэнах рабочых растучых гарадоў, новабудоўляў i вытворцаў сельска-гаспадарчай сыравiны, з мэтай пераважнага снабжэння важнейшых прамысловых цэнтраў, перадавых прадпрыемстваў, рабочых-ударнiкаў i такiм чынам забяспечыць высокiя тэмпы iндустрыялiзацыi краiны, не гледзячы на празмерную ў той час адсталасць сельскай гаспадаркi i яе нiзкую таварнасць. Картачная сiстэма была класавай мерай. Яна абмежавала спажыванне асноўных вострадэфiцытных тавараў непрацоўным насельнiцтвам.

> «Чаму мы ўвялi картачную сiстэму шэсць год таму назад? Таму, што мы хацелi забяспечыць ажыццяўленне палiтыкi быстрай iндустрыялiзацыi нашай краiны, забяспечыць прынятыя партыяй **тэмпы iндустрыялiзацыi**, забяспечыць, не гледзячы на крайнюю адсталасць нашай сельскай гаспадаркi таго часу» **(Молатаў)**.
>
> «Калi нам удалося вызвалiцца ад iмпарта бавоўны i значна расшырыць пасевы лёну i iншых тэхнiчных культур, то толькi таму, што мы шляхам атаварвання змаглi забяспечыць хлебам бавоўнаробаў, iльнаводаў i iншых вытворцаў тэхнiчных культур» **(Кагановiч)**.
>
> «Зусiм ясна, што без увядзення картак мы не толькi не забяспечылi-б краiну тэхнiчнымi культурамi, але не маглi-б пракармiць гарады, заводы i фабрыкi» **(Кагановiч)**.

Картачная сiстэма снабжэння была аднак часовай мерай, якая праводзiлася ў сувязi i разам з iншымi карэннымi мерапрыемствамi ў галiне вытворчасцi i гандлю, якiя павiнны былi падрыхтаваць умовы да яе адмены. Таму пры правядзеннi картачнай сiстэмы партыi прыходзiлася змагацца на два фронты: супроць трацкiстаў, якiя хацелi-б ператварыць часовую, выключную меру ў пастаянны курс партыi, разглядаючы ўвядзенне картачнай сiстэмы, як вынiк росту кулака на вёсцы, i супроць правых, якiя не разумелi неабходнасцi i карысцi данай меры на пэўным этапе, не разумелi яе класавага значэння i

процістаўлялі гэтай сістэме поўную свабоду гандлю, развязванне рыначнай стыхіі.

Адсюль становіцца ясным контррэвалюцыйны, трацкісцкі характар выступлення на сходзе завода «Большэвік» Галендо, які ўваскрасіў контррэвалюцыйны зіноўеўска-каменеўскі тэзіс аб засіллі кулацкай стыхіі ў нашай краіне, тлумачачы ўвядзенне картачнай сістэмы ў 1928 г., як «рэзультат бяссілля партыі ў барацьбе з кулаком». Рабочыя-большэвікі ўчуялі ў Галендо класавага ворага, двурушніка-здрадніка, выкрылі яго на месцы, і партыя выкінула контррэвалюцыянера-трацкіста са сваіх радоў.

Картачная сістэма, выканаўшы сваю дадатную ролю, з'яўляецца на даным этапе тормазам у разгортванні тавараабароту і палепшанні матар'яльнага становішча шырокіх працоўных мас.

Адмена картачнай сістэмы падрыхтоўвалася: па-першае, ростам калгасна-соўгаснага будаўніцтва, ростам масы таварнага і загатоўленага хлеба; па-другое, разгортваннем совецкага гандлю і палепшаннем работы гандлёвай сістэмы; па-трэцяе, палепшаннем харчовай базы прадпрыемстваў і ростам дэцэнтралізаваных загатовак.

Соцыялістычная індустрыялізацыя падвяла моцны тэхнічны фундамент пад калгасна-соўгасную сельскую гаспадарку. Калгасы яднаюць цяпер каля 4/5 сялянскіх гаспадарак і 90 проц. усіх пасеўных плошчаў. У БССР на 1 студзеня 1935 г. арганізавана 10923 калгасы, якія яднаюць 565514 гаспадарак, што складае 72,6 проц. з усёй колькасці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (Валковіч. «Совецкая Беларусь к XI з'езду Советаў», стар. 41).

> «Наяўныя к цяперашняму часу 240 тысяч калгасаў, 3500 МТС і 5 тыс. соўгасаў маюць цяпер у сваім распараджэнні 281 тыс. трактароў, 33 тыс. камбайнаў, 34 тыс. грузавых аўтамабіляў, 845 тыс. конных і трактарных сеялак, 129 тыс. складаных і поўскладаных малацілак, 2 млн. 85 тыс. розных уборачных машын зернавых і тэхнічных культур» (з рэзалюцыі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б)).

Такая высокая тэхнічная ўзброенасць побач з радам дасягненняў двухгадовай работы палітаддзелаў у галіне арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, дапамагаюць канкрэтнаму правядзенню ў жыццё лозунга т. Сталіна: «зрабіць калгасы большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможнымі».

Вырасла валавая і таварная прадукцыя хлеба. Дзяржава ў парадку паставак і закупак атрымала $1\frac{1}{2}$ млрд. пудоў хлеба замест 650 млн. пудоў у 1928 г. Па БССР на 1 снежня 1934 г. здана 296.973 тоны замест 105.695 тон у 1929-30 гг. Усё гэта дало магчымасць дзяржаве **поўнасцю аўладаць** хлебным рынкам і адкрыць шырокую прадажу хлеба.

> «Дзяржава цяпер распалагае дастаткова вялікай колькасцю хлеба для таго, каб поўнасцю і безумоўна забяспечыць снабжэнне насельніцтва без картачнай сістэмы, шляхам паўсямеснага разгортвання шырокага гандлю хлебам» (з рэзалюцыі лістападаўскага пленума).

Побач з ростам соўгасаў і калгасаў партыя ўвесь час вядзе барацьбу за разгортванне совецкага гандлю. Развіццё совецкага гандлю

выцясняе прыватны капітал. У 1928 г. па ўсяму Саюзу прыватны сектар у таваразвароце займаў 22,5 проц., у гандлёвай сеці—63 проц., па БССР роля прыватнага сектара была яшчэ больш: у таваразвароце—28,6 проц., у гандлёвай сеці—72,8 проц.

К 1934 г. роля прыватнага капітала зведзена да нуля. У 1930 г. тав. Сталін на XVI з'ездзе падвяргае крытыцы работу гандлёва-кааперацыйных арганізацый. Партыя ставіць ва ўсю шырыню пытанне аб разгортванні совецкага гандлю. З замарожваннем таваразвароту, з практыкай механічнага размеркавання, з бюракратызмам у гандлёва-кааперацыйным апараце і снабжэнчых арганізацыях, з поглядамі захудалых дваран і панскаю пагардай к гандлю і т. д. партыя вядзе рашучую барацьбу. Ланцуг рашэнняў партыі б'е ў адзін пункт. Адозва ЦК ВКП(б) і СНК СССР у маі 1931 г., кастрычніцкі пленум ЦК 1931 г., 17 партканферэнцыя, майскае рашэнне ЦК 1932 г. аб калгасным гандлі, кастрычніцкі пленум ЦК 1932 г., студзеньскі пленум ЦК і ЦКК 1933 г. і нарэшце справаздача т. Сталіна на XVII з'ездзе ў 1934 г.—усё гэта мабілізуе партыю на разгортванне совецкага гандлю.

Можна прасачыць некалькі асноўных звенняў у разгортванні совецкага гандлю.

Першае звяно—гэта эканамічнае спаборніцтва гандлёвых сістэм і ліквідацыя манапольнага становішча кааперацыі на рынку.

У 1934 г. значна больш палавіны ўсяго рознічнага звароту прыпадае на дзяржгандаль. Паводле даных ЦУНХУ (агляд т. Гатоўскага ў час. «Большевик» № 18) за 8 месяцаў 1934 г. доля кааперацыі ў гарадскім звароце роўна 36 проц., а ў сельскім—63 проц. Такім чынам, спажывецкая кааперацыя займае пераважаючае месца ў гандлёвай сістэме на вёсцы. Па БССР дзяржаўны гандаль даў рост супроць мінулага года на 351,2 проц. Доля спажывецкай кааперацыі знізілася ў гарадскім звароце. Гэтае спаборніцтва гандлёвых сістэм спрыяла таму, што спажывецкая кааперацыя палепшыла якасць сваёй работы і засвоіла арганізацыйную культуру. У 1934 г. кааперацыя разгарнула магутную сець універмагаў, раймагаў, культмагаў. У БССР арганізавана 65 раймагаў, 10 райкультмагаў, адкрыт узорны фруктовы магазін, адкрываецца рад спецыяльных універмагаў і т. д.

Ліквідацыя манапольнага становішча кааперацыі на рынку прынесла вялікую карысць самому кааперацыйнаму гандлю і зусім не выклікае паглынання яго дзяржгандлем. Кааперацыя, як грамадская, самадзейная форма арганізацыі, з'яўляецца адным з важнейшых каналаў совецкага гандлю.

Другое звяно ў разгортванні совецкага гандлю—гандаль калгасны, які павялічвае таварныя рэсурсы краіны і садзейнічае палепшанню снабжэння гарадскіх і прамысловых цэнтраў прадуктамі сельскай гаспадаркі.

Трэцяе звяно—адкрыты дзяржаўны камерцыйны гандаль.

Адкрыты дзяржгандаль стымулюе палепшанне гандлёвай работы, паступова расшыраючыся і зніжаючы рыначныя цэны, пойдзе на змену закрытаму гандлю.

Асобую ролю ў падрыхтоўцы пераходу да свабоднай прадажы хлеба адыграў камерцыйны гандаль хлебам, які пачаўся з сакавіка 1933 г. За 1933 г. прадана 788,4 тыс. тон хлеба, а за 1934 г.—1875,3 тыс. тон. К канцу 1934 г. камерцыйны гандаль хлеба ахапіў усе га-

рады з насельніцтвам звыш 50 тыс. чалавек і 71 проц. гарадоў з насельніцтвам ад 25 да 50 тыс. (**Вейцэр**, «Большевик» № 22).

«Магутная разгалінаваная сець дзяржаўнага адкрытага хлебнага гандлю, адыграўшая выключную дадатную ролю ў аздараўленні хлебнага рынку і зніжэнні базарных цэн, дала рост зваротаў за восем месяцаў 1934 г. у пяць раз параўнаўча з адпаведным перыядам 1933 г. пры наяўнасці значнага зніжэння сваіх цэн» («Большевик» 1934 г. № 18, стар. 76).

Адыграўшы вялікую дадатную ролю ў развіцці прадукцыйных сіл, картачная сістэма мела і адмоўныя бакі. Ахапіўшы 50 млн. чалавек, і ў парадку «атаварвання» 24 млн., яна патрабавала грамоздкага апарата і стварала крайнюю складанасць для спажыўца, а галоўнае тармазіла развіццё тавараабароту.

«Мы бачылі гэта і ведалі раней, але цярпелі, бо плюсы картачнай сістэмы перавышалі мінусы» (**Кагановіч**).

Па меры росту нашых хлебных рэсурсаў, па меры разгортвання савецкага гандлю, картачная сістэма на хлеб стала тормазам далейшага развіцця. Яна затрымлівала разгортванне тавараабароту, прыводзіла да механічнага размеркавання цэнтралізаваных прадуктаў, тармазіла барацьбу за якасць гандлю, за клопаты аб спажыўцу, спараджала спекуляцыю на аснове падвойных цэн, не садзейнічала барацьбе за правільную арганізацыю зарплаты, за ўкараненне гасразліку, за зніжэнне вытворчых расходаў і т. д.

«Пры такім становішчы картачная сістэма па хлебу і некаторых іншых прадуктах можа быць толькі тормазам у справе палепшання снабжэння і таму павінна быць адменена» (з рэзалюцыі лістападаўскага пленума).

Новыя шырокія задачы снабжэння, разгортванне тавараабароту, стварэнне заможнага жыцця рабочых, калгаснікаў не могуць цяпер укласціся ў пракрустава ложа картачнай сістэмы.

«Адзенне картачнай сістэмы, гэта адзенне нам цяпер стала вузкім. Нам патрэбна іншае адзенне—гэта шырокае развіццё савецкага тавараабароту» (**Жданаў**).

* * *

Адмена картачнай сістэмы на хлеб забяспечыць далейшае разгортванне савецкага гандлю, расшырэнне савецкага тавараабароту і разам з тым азначае далейшы крок наперад у ажыццяўленні савецкай палітыкі цэн і ўмацаванні савецкага рубля.

Савецкая цана ёсць сродак народна-гаспадарчага планавання, сродак гасразліку. Гэта плануемая і рэгулюемая цана служыць інструментам размеркавання і пераразмеркавання народнага даходу ў інтарэсах сацыялізма, выражэннем класавай палітыкі пролетарыята, разлічанай на перамогу сацыялістычных элементаў над элементамі капіталістычнымі, на знішчэнне класаў. Рынак ва ўмовах савецкага развіцця рэгулюецца дзяржавай, з'яўляецца арганізаваным рынкам.

«Палітыка цэн, з'яўляючыся вузлавым пунктам усёй гаспадарчай палітыкі савецкай дзяржавы, у канчатковым выніку вы-

значае: а) тэмп і перспектывы развіцця прамысловасці і ёмкасць рынку яе прадукцыі; б) тэмп развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці; в) тэмп сацыялістычнага накаплення; г) рамкі абмежавання прыватна-капіталістычнага накаплення; д) сілу пакупной здольнасці чырвонца, г. зн. усю валютную палітыку савецкай дзяржавы; е) рэальны ўзровень зарплаты рабочага і т. д.» (лютаўскі пленум ЦК ВКП(б), 1927 г.).

Савецкая дзяржава рэгулюе не толькі рознічную цану, але сваім планаваннем ахапляе **ўвесь працэс цэнаўтварэння**, усе элементы, утвараючыя цэны.

Калгасны рынак, дзе тавары прадаюцца па цэнах, якія «складаюцца на рынку», таксама арганізован савецкай дзяржавай. Калгасны гандаль уключаецца ў агульную сістэму **савецкага** гандлю. Савецкая дзяржава вядзе бязлітасную барацьбу з усімі спекулянтамі, перакупшчыкамі, якія імкнуцца да нажывы за кошт рабочых і сялян. Дзяржава рэгулюе цэны, якія складаюцца на рынку, выступаючы з арганізаваным попытам дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю, з мэтай зніжэння непамерна ўздутых цэн выпускае частку сваіх таварных запасаў, арганізуючы прадажу сельскагаспадарчых прадуктаў. Дзяржава, нарэшце, умацоўваючы калгасы, большэвізуючы іх, арганізуе самы калгасны гандаль і дабіваецца зніжэння цэн на гэтым рынку.

Савецкая палітыка цэн падпарадквана агульным задачам сацыялістычнага будаўніцтва, расшыранага сацыялістычнага ўзнаўлення, задачам павышэння матар'яльна-культурнага становішча рабочых і працоўных мас. Савецкая палітыка цэн служыць у руках партыі зброяй у барацьбе за павышэнне прадукцыйнасці працы ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, палепшанне якасці прадукцыі, зніжэнне сабекошту і палепшанне работы гандлёвых арганізацый, за зніжэнне цэн і павышэнне рэальнай зарплаты.

Ва ўмовах апошніх год мы мелі розныя прадажныя цэны на хлеб: празмерна нізкія нармаваныя цэны, камерцыйныя цэны і цэны калгаснага рынку. Такая сістэма спрыяла спекуляцыі на розных цэнах. Частка хлеба, атрыманага па картках, прадавалася па рыначных цэнах або непасрэдна абменьвалася на іншыя тавары.

Аднак, гэтая сістэма цэн была неабходна. Розныя цэны дзейнічалі часам побач у адной і той-жа гандлёвай сістэме. Такое суіснаванне цэн магчыма было дзякуючы дзяржаўнаму планаванню: кожнай сістэме цэн адпавядала спецыяльнае планавае прызначэнне тавараў (спецфонд, гарадскі фонд, сельскі фонд, камерцыйны фонд), або спецыяльная сфера гаспадаркі.

Важнейшай задачай было рэгуляванне і зніжэнне цэн калгаснага рынку. Агромнейшую ролю ў зніжэнні цэн на калгасным рынку павінен быў адыграць камерцыйны гандаль і камерцыйныя цэны.

«У мінулым годзе вясною, калі таварныя цэны сталі сільна падымацца не толькі на Украіне і ў іншых раёнах, але нават і ў Маскве, тав. Сталін даў выдатную ідэю, надзвычайную сілу ў нашы рукі, прапанаваўшы разгарнуць гандаль дзяржаўным хлебам і іншымі прадуктамі ў нашых магазінах, каб знізіць цэны на калгасным рынку шляхам даўлення прэса дзяржаўнай эканамічнай інтэрвенцыі» (з прамовы т. **Мікаяна** на XVII з'ездзе).

У 1933 г. і ў 1934 г. ідзе няўхільнае сістэматычнае зніжэнне базарных цэн пад націскам камерцыйнага гандлю. Так, цэны на муку жытнюю і пшанічную ў жніўні 1934 г. у параўнанні са жніўнем 1933 г. у Маскве знізіліся на 35 проц., у Іванаве нават на 56 проц.; у БССР цэны на жытнюю муку знізіліся на 28-30 проц., на масла кароўе—на 30-35 проц., сала свіное—на 20-25 проц. Працоўны спажывец выйграў ад зніжэння цэн за 1933 г. некалькі мільярдаў рублёў, а ў 1934 г. яшчэ больш.

Адначасова з гэтым адбывалася **зніжэнне камерцыйных** цэн на рад тавараў шырокага спажывання камерцыйнага фонда (мыла, ніткі, абутак), па сістэме саматужна-прамысловай кааперацыі і па раду харчовых тавараў (цукер, карамель, рыс), па хлебу ў камерцыйных крамах з адначасовым павышэннем цэн на нармаваны хлеб у 1933 г. з 12,5 да 25 кап. і ў 1934 г. з 25 да 50 кап. пры кампенсацыі павышэннем зарплаты найменш аплачваемым рабочым. Так паступова змяншалася розніца паміж камерцыйнымі і нармаванымі цэнамі, падрыхтоўвалася адмена картачнай сістэмы і **ўстанаўленне адзіных дзяржаўных паясных цэн** на хлеб на сярэднім узроўні паміж празмерна нізкімі нармаванымі і камерцыйнымі.

Устаноўленыя цяпер цэны забяспечваюць нам далейшы рост рэальнай зарплаты без рызыкі выклікаць ажыятаж і спекуляцыю. Яны акажуць рэгулюючы ўплыў на цэны зернавых прадуктаў на калгасным рынку, палегчаць барацьбу за перароблку калгасніка, за зжыццё ім астаткаў прыватна-ўласніцкай псіхалогіі, за стварэнне аграмаджаных калгасных фондаў хлеба, у абмен на якія яны атрымаюць сродкі вытворчасці ў дзяржавы для далейшага расшыранага ўзнаўлення калгаснай гаспадаркі.

Адзіныя дзяржаўныя цэны, паступова зніжаючыся, па меры росту таварных хлебных фондаў, пацягнуць за сабою ўніз і цэны на іншыя харчовыя прадукты, цэны на сыравіну, а значыць і на промтавары, будуць стымуляваць павышэнне прадукцыйнасці працы, знамянуючы новы гіганцкі рух уперад па шляху ажыццяўлення савецкай палітыкі цэн.

* * *

Ленін і Сталін неаднакроць указвалі на агромнае эканамічнае і палітычнае значэнне ўстойлівага рубля для нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Пролетарыят, захапіўшы ўладу, не можа знішчыць грошы адразу. Каб знішчыць грошы, патрэбны вялікія тэхнічныя і арганізацыйныя заваёвы, патрэбен «усенародны кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў», патрэбен ідэальна наладжаны ўлік якасці і колькасці працоўных затрат ва ўсёй народнай гаспадарцы, а гэтага ў нас няма не толькі ў эпоху, пераходную ад капіталізма к соцыялізму, але і на ўсёй першай фазе комунізма.

Тав. Сталін бязлітасна разграміў «левакоў», якія пазбаўлены элементарнага пачуцця жыцця і «не разумеюць, што грошы застануцца ў нас яшчэ доўга, аж да завяршэння першай стадыі комунізма—соцыялістычнай стадыі развіцця» (XVII з'езд).

Стоячы на пункце погляду ператварэння сялянства ў калонію, трацкісты ў 1921-22 гг. патрабавалі выкарыстаць да дна падаючыя папяровыя грошы, як дадатковы налог, давесці каштоўнасць грошай да нуля і... пусціцца ў цяністыя кусты безграшовай натуральнай гаспадаркі. Партыя бачыла ў гэтай «тэорыі» пагрозу саюзу рабочых

і сялян, выкрыла «лявацка»-трацкісцкую балбатню і прынялася крок за крокам разгортваць таваразварот, праводзіць грашовую рэформу, умацоўваць рубель, як аснову рэальнасці зарплаты і змычкі горада з вёскай. Адсюль не толькі прызнанне немагчымасці ліквідаваць грошы, але і падкрэсліванне асобай ролі совецкіх грошай, якая надае ім зусім іншы характар, чым у буржуазным грамадстве.

«Справа ў тым, стала быць, што, дзякуючы дыялектыцы нашага развіцця, функцыі і прызначэнне гэтых інструментаў буржуазіі мяняюцца прынцыпова, карэнным чынам, мяняюцца ў карысць соцыялізму, ва ўшчэрб капіталізму» (**Сталін**. «Стэнаграф. справаздача XIV з'езду», стар. 496).

«Яны не разумеюць, што грошы з'яўляюцца тым інструментам буржуазнай эканомікі, які ўзяла ў свае рукі совецкая ўлада і прыстасавала да інтарэсаў соцыялізма для таго, каб разгарнуць ва-ўсю совецкі гандаль і падрыхтаваць тым самым умовы для прамога прадуктаабмену» (**Сталін**, XVII з'езд).

Адсюль задача ўсямернага ўмацавання рубля, грошай, як сродку соцыялістычнага будаўніцтва, сродку планавага ўліку працы, гасразліку. Адсюль і асноўная функцыя совецкіх грошай, як сродку планавага кіраўніцтва,—«кантроль рублём». Адсюль усямерныя клопаты партыі і ўрада аб устойлівасці нашай валюты.

Чым забяспечваецца ўстойлівасць нашай валюты, моцнасць нашага рубля? Буржуазныя рэстаўратары, шкоднікі, фетышысты тыпу Юроўскага, эканамісты капіталістычных краін. лічаць, што ўстойлівасць валюты, у тым ліку і совецкай, вызначаецца толькі залатым запасам.

«Устойлівасць совецкай валюты вызначаецца перш за ўсё велізарнай колькасцю таварных мас у руках дзяржавы, пускаемых у таваразварот па ўстойлівых цэнах» (**Сталін**, «Вынікі першай пяцігодкі»).

Эканамісты капіталістычных краін, якія лічаць законы капіталізма вечнымі законамі і свой капіталістычны свет «лепшым з светаў», няздольны зразумець гэтай асаблівасці нашай валюты.

Адсюль зразумела, чаму адмена картак на хлеб умацоўвае ўстойлівасць нашай валюты. Па-першае, уліванне ў агульны паток таваразвароту хлеба—гэтай валюты валют—па адзіных дзяржаўных цэнах з'яўляецца лепшым забяспечаннем нашай валюты. Па-другое, шырокая прадажа хлеба садзейнічае разгортванню совецкага гандлю, уцягвае дадатковыя велізарныя масы тавараў у зварот і гэтым узмацняе патрэбнасць у новых сродках звароту. Па-трэцяе, адзіныя цэны ліквідуюць двайстасць цэн, якая перашкаджала ўмацаванню рубля. Па-чацвертае, звязанае з шырокай прадажай хлеба зніжэнне цэн павялічвае пакупную здольнасць нашага рубля. Адмена нармавання і зніжэнне цэн павышае рэальную заработную плату, узмацняе значэнне грашовай зарплаты.

«Пры картачнай сістэме грашовая заработная плата была толькі адным з відаў аплаты працы. Побач з ёю існавалі карткі з гарантаваным хлебным пайком, а таксама рознага роду натуральныя выдачы» («Правда» ад 10/1-35 года).

Цяпер грашовая зарплата з'яўляецца асноўным рэгулятарам, і яе павышэнне ператвараецца ў лепшы стымул павышэння прадукцыйнасці працы, палепшання якасці работы. Некаторыя элементы ўраўнілаўкі былі немінучы ва ўмовах картачнай сістэмы. Яе адмена ставіць пытанне арганізацыі зарплаты ў цэнтр увагі гаспадарнікаў, яшчэ больш павялічвае неабходнасць кантраляваць мераю працы меру спажывання. Такавы галоўнейшыя ўмовы ўмацавання нашага рубля, ствараемыя адменай хлебных картак.

Далейшае ўмацаванне совецкага рубля ў сувязі з адменай картачнай сістэмы

> «зробіць больш цвёрдымі нашы планы, павядзе да аздараўлення дзяржаўнай гаспадаркі, умацуе саюз рабочых і сялян, палегчыць далейшы ўздым народнай гаспадаркі і рост соцыялізма ў нашай краіне» **(Молатаў).**

* * *

З года ў год расце рознічны тавараварот нашай краіны. За апошнія чатыры гады рознічны тавараварот узрос у 2,2 разы.

> «У 1934 г. план таваразвароту выканан поўнасцю. У 1935 годзе мы павінны павялічыць рознічны тавараварот ў краіне да 80 млрд. рублёў, што складае 133,1 проц. к 1934 году» **(Куйбышэў,** з дакладу на III з'ездзе Советаў Маскоўскай області).

Тавараварот БССР у 1931 годзе раўняўся 655,3 млн. рублёў, у 1932 г. вырас на 46 проц., у 1933—на 68,5 проц., у 1934—на 116,7 проц.

Адмена картачнай сістэмы на хлеб дае новы штуршок развіццю таваразвароту і ставіць перад совецкім гандлем цэлы рад новых пытанняў, новых задач. Па-новаму ставіцца праблема планавання і рэгулявання совецкага гандлю. Плануючым органам неабходна правільна і аперацыйна манеўраваць гіганцкі ўзросшымі таварнымі масамі, каб яны бесперабойна цыркулявалі ад вытворчасці да спажыўца.

Планаванне адбываецца ў больш складаных умовах і таму патрабуе больш чоткасці, жорсткай дысцыпліны. Калі раней план завозу хлеба будаваўся на аснове падліку кантынгентаў і. норм снабжэння, размеркаванне праводзілася па «сярэдніх» паказчыках, то пры новых умовах гэта ўжо немагчыма. План павінен будавацца не толькі на аснове ўліку эканамічных асаблівасцей паасобных раёнаў, у паасобныя сезоны, але і хутка рэагаваць на ўсякія змены ў попыце, у становішчы запасаў і ва ўсёй рабоце гандлёвых арганізацый.

Неабходна вывучаць патокі пакупнікоў у магазінах у розныя гадзіны дня і характар іх попыту. Паасобныя магазіны прымацоўваюцца непасрэдна да хлебазаводаў і пякарань. Для магазінаў дакладна ўстанаўляюцца гатункі хлеба, якімі яны павінны гандляваць. Але ў рамках гэтага плана магазін мае права манеўраваць, улічваць попыт пакупнікоў, іх патокі ў розныя гадзіны дня. Такім чынам, планаванне не аслабляецца, але значна ўскладняецца, таму і праблема яго павінна быць пастаўлена па-новаму.

Шырокая прадажа хлеба і крупы яшчэ астрэй ставіць пытанне аб неабходнасці гандляваць культурна, па-совецку. Арганізацыйная культура павінна прасякнуць ва ўсе звенні гандлёвай сістэмы. Культурны гандаль патрабуе ад прадаўцоў і загадчыкаў, каб яны што-

дзенна клапаціліся аб якасці, гатунку, хаванні, упакоўцы, культурнай абстаноўцы, знадворным выглядзе свайго магазіна, крамы. Культурны гандаль патрабуе захавання правіл санітарнай гігіены і ўзмацнення санітарнага нагляду—чыстаты падлогі, рук, халатаў і т. п. Культурны гандаль азначае барацьбу з чаргою, з пагардлівымі адносінамі да пакупнікоў, з раскрадваннем і растратамі, з абмерваннем і абважваннем, з перавышэннем устаноўленых цэн.

У сувязі з гэтым перад гандлёвымі арганізацыямі стаіць задача—падрыхтаваць і павысіць кваліфікацыю гандлёвых кадраў.

> «Нам трэба сур'ёзна працаваць над падрыхтоўкай і добрай вывучкай кадраў гандлёвых работнікаў, бо некаторыя ў нас людзі забыліся як гандляваць і не ўмеюць культурна абслугоўваць пакупніка» (**Галадзед**, XI з'езд Советаў БССР).

Совецкі прадавец—дарадчык пакупніка. Ён павінен ведаць якасць хлеба, ведаць завод, дзе гэты хлеб выпякаецца, старанна вывучыць попыт і ўважліва адносіцца да патрабаванняў пакупніка, быць класава пільным і сачыць за тым, каб у магазінах не было перакупшчыкаў.

Неабходна змагацца з перажыткамі механічнага размеркавання і ачышчаць гандлёвы апарат ад класава-чуждых работнікаў, ад зладзеяў, раскрадвальнікаў грамадскай уласнасці. Вось чаму т. Сталін завастрыў увагу партыйных і совецкіх арганізацый на падбор гандлёвых работнікаў, на барацьбу з высокамернымі, пагардлівымі адносінамі раду комуністаў да гандлю і гандлёвых кадраў, на барацьбу з забабоннымі разважаннямі «захудалых дваран» пра гандаль. Трэба ўзмацніць работу прафесіянальных арганізацый, арганізаваць у сферы совецкага гандлю масавы рабочы кантроль і кантроль з боку секцый Советаў.

Адмена хлебных картак ставіць пытанне аб павышэнні ролі і значэння кааперацыі ў совецкім гандлі, палепшанні работы кааперацыйнай сістэмы. Класава-варожыя элементы пусцілі антысовецкія чуткі ў час разгортвання шырокай прадажы хлеба, нібы з адменай картак кааперацыя непатрэбна і кааперацыйныя паі трэба звярнуць пайнікам.

> «Трэба разгарнуць больш грамадскасці ў рабоце кааперацыі, больш кантролю мас і больш зацікаўленасці мас у рабоце сваёй кааперацыі» (**Галадзед**, XI з'езд Советаў БССР).

Адмена картачнай сістэмы паставіла перад совецкім гандлем рад важнейшых задач у галіне арганізацыі хлебапячэння, расшырэння і арганізацыі рознічнай гандлёвай сеткі, наладжвання сувязі паміж хлебазаводам і магазінамі, умацавання хлебнага транспарта, палепшання складскай гаспадаркі, павышэння ролі і палепшання работы грамадскага харчавання і рад задач, якія паспяхова, па-большэвіцку вырашаюцца цяпер у ходзе разгортвання совецкага гандлю.

Расце механізацыя хлебапячэння ў нашай краіне. Яшчэ ў 1929 г. удзельная вага механізаванага хлебапячэння складала ўсяго 21 проц., а зараз—79 проц. Па аб'ёму механізацыі хлебапячэння СССР займае першае месца ў свеце.

> «Хто хоча бачыць кавалак соцыялізма, няхай ідзе на хлебазавод» (**Кіраў**).

Магутнасць хлебапячэння ў параўнанні з 1931 годам вырасла амаль у 2 разы, яна дасягае 35 тысяч тон у суткі.

У сувязі з адменай картачнай сістэмы вытворчая магутнасць хлебазаводаў павінна была к 1. II. 35 года павялічыцца па пастанове Соўнаркома СССР на 10.750 тон. Але к сярэдзіне студзеня гэта заданне было перавыканана, і магутнасць хлебазаводаў дасягнула 14.236 тон. Па БССР пашыраецца магутнасць хлебапякарань у буйных гарадах на 62 тоны, у вёсцы на 100 тон, па лініі Наркамлеса—на 28 тон, тарфянай прамысловасці—на 20 тон. Арганізуюцца хлебапякарні пры буйных спіртовых заводах і ў вялікіх пунктах лесараспрацовак.

Шырокая прадажа хлеба патрабуе не толькі пашырэння хлебапячэння, але і палепшання якасці хлеба, асваення хлебазаводамі новых яго гатункаў. Вопыт першых тыдняў шырокай прадажы хлеба паказаў надзвычайную важнасць якасці і асартымента. Кепска выпечаны хлеб не купляўся і залежваўся на паліцах. Выявіўся вялікі попыт на белы хлеб-подавы, у той час як формавы хлеб з той-жа мукі часта заставаўся ў крамах.

Важнейшая задача совецкага гандлю—пашырэнне і арганізацыя гандлёвай сеці. Па пастанове СНК СССР рознічная гандлёвая сець павінна быць пашырана к 1. II. 35 г. на 10.300 крам і палатак. К другой палове студзеня гэта заданне было перавыканана: сетка павялічылася на 19.533 адзінкі. Па БССР сець гандлёвых крам павялічылася на 405 адзінак (намечана Соўнаркомам БССР—337). Адчыняюцца ўзорныя хлебабулачныя: па лініі дзяржгандлю—14, кааперацыі—10.

Акрамя пашырэння, важнейшай задачай з'яўляецца перагляд тэрытарыяльнага размяшчэння гандлёвай сеці, набліжэння крам да жылля рабочага, бо раней яны адкрываліся ў большасці непадалёк ад фабрык і заводаў.

Неабходна ўкараніць арганізацыйную культуру ў рознічную гандлёвую сець, падвесці пад яе матар'яльна-тэхнічную базу, насыціць асновамі сучаснай гандлёвай тэхнікі, правіламі санітарнай культуры, атмасферай паважання спажыўца.

На аснове вывучэння патоку пакупнікаў намеціць час адчынення і зачынення розных крам, правільна расставіць прадаўцоў і арганізаваць іх заработную плату, весці бязлітасную барацьбу з абмерваннем, абважваннем і перавышэннем устаноўленых цэн па гатунках.

Вопыт першых тыдняў арганізацыі шырокай прадажы хлеба, не гледзячы на вялікія дасягненні, паказаў рад арганізацыйных недахопаў у нашай гандлёвай сеці: непрыстасаванасць у радзе выпадкаў часу гандлю да абслугоўвання рабочых розных змен, штучнае стварэнне чаргі, дзякуючы няправільнай расстаноўкі прадаўцоў і невыкананне пастаноў урада аб нормах водпуску ў адны рукі, перавышэнне ўстаноўленых цэн для паасобных гатункаў хлеба і крупы.

Былі выпадкі і прамога парушэння правіл вольнай прадажы хлеба: хлеб адпускаўся па прад'яўленню кааперацыйных картак (Залатаноша, Белая царква), развозілі хлеб па ўстановах па колькасці супрацоўнікаў і т. д.

Класавы вораг пранікае праз кожную шчыліну арганізацыйных недахопаў, выкарыстоўвае кожную чаргу, кожную несвоечасовую дастаўку хлеба, каб на гэтым спекульнуць, затармазіць, падарваць ажыццяўленне важнейшых мерапрыемстваў партыі і ўрада.

Камісія Партыйнага Кантроля, Камісія Совецкага Кантроля, СНК БССР, адзначаючы ў спецыяльных пастановах усякую праяву пару-

шэння дырэктыў партыі аб цэнах, своевольнага павышэння зарплаты, прадажы крупы па павышаных цэнах і неадпаведнай якасці, моцна ўдарылі па іх і вінbackоўных прыцягвалі да суровай адказнасці.

Важнейшая задача совецкага гандлю ў сувязі з адменай хлебных картак—наладзіць непасрэдную сувязь паміж магазінам, хлебазаводам і пякарняй, знішчыць паміж імі прамежкавыя звенні. Загадчык магазіна і хлебазавод—прадавец і пакупнік хлеба. У гэтых адносінах надзвычай важна пастанова Наркамунутргандлю аб стварэнні на кожным хлебазаводзе пасады памочніка дырэктара па збыту, якому падпарадкаваны экспедыцыя, сталы заказаў і дыспетчарскі апарат, і задачай якога з'яўляецца сувязь з гандлёваю сеткай. Тэлефон у кожнай краме—сродак аперацыйнай сувязі—вельмі неабходны пры разгорнутым совецкім гандлі хлебам.

Агромнейшае значэнне для своечасовай дастаўкі хлеба ў магазіны мае добра арганізаваны транспарт, наяўнасць рэзерваў грузавых аўтамабіляў, адмаўленне ад ранейшай сістэмы завозу па раз і назаўсёды ўстаноўленаму графіку, санітарны стан хлебных фургонаў і т. п. Практыкуемыя на некаторых заводах Масквы вытворчыя нарады пекароў, возчыкаў і прадаўцоў—важнейшая ўмова ўмацавання сувязі магазіна з заводам, паспяховага разгортавання совецкага гандлю хлебам. Гэты вопыт трэба скарыстаць і ва ўмовах БССР.

Нарэшце, вялікае значэнне ў павышэнні матар'яльнага добрабыту мас адыгрывае грамадскае харчаванне, якім абслугоўваецца ў горадзе да 15,7 млн. чалавек, а ў вёсцы—да 2.050 тысяч.

> «Дрэнная часам якасць і недастатковая разнастайнасць прадуктаў, псаванне прадуктаў, адсутнасць ініцыятывы ў справе палепшання якасці абедаў і т. д. патрабуюць самай актыўнай барацьбы за хутчэйшае знішчэнне гэтых недахопаў» **(Куйбышэў**, з дакладу на III з'ездзе Советаў Маскоўскай абласці).

Такавы асноўныя праблемы, пастаўленыя перад совецкім гандлем у сувязі з адменай картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты. У бязлітаснай барацьбе з усімі ворагамі рабочага класа, з рэшткамі і перажыткамі механічнага размеркавання, з «нэпманскім духам» паасобных гандлёвых прадпрыемстваў, бязлітасна выкідваючы пралезшыя ў гандлёвы апарат класава-чуждыя элементы, у барацьбе за культуру совецкага гандлю мы даб'емся большэвіцкага правядзення ў жыццё пастаўленых другою пяцігодкай задач—падваення і патраення спажывання працоўных мас.

---

**Г. В. Стрэле.**

# Пытанні жывёлагадоўлі—у цэнтр увагі

*„Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такою-ж першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая. Няма чаго і даказваць, што савецкія людзі, браўшыя не адну сур'ёзную перашкоду на шляху да мэты, адолеюць і гэтую перашкоду".*

(*СТАЛІН. Справаздача на XVII з'ездзе партыі*).

Указанне т. Сталіна на XVII з'ездзе ВКП(б) аб тым, што «найбольш хваравіта перанесла рэарганізацыйны перыяд жывёлагадоўчая галіна сельскай гаспадаркі», цалкам адносіцца да БССР.

Калі прыняць 1928 г. за 100, то атрымаем такія суадносіны ў развіцці жывёлагадоўчага стада рэспублікі паводле даных чэрвеньскага ўліку (у проц.):

| | 1928 г. | 1930 г. | 1932 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Коні . . . . . . | 100,0 | 92,2 | 73,3 | 65,1 |
| 2. Буйная рагат. жывёла. | 100,0 | 81,0 | 69,1 | 72,7 |
| 3. Свінні . . . . . | 100,0 | 78,5 | 67,7 | 66,2 |
| 4. Авечкі . . . . . | 100,0 | 82,2 | 60,9 | 35,5 |

Аналіз прыведзеных даных паказвае, што, пачынаючы з першага года рэканструкцыйнага перыяда, стада БССР па ўсіх відах жывёлы рэзка зніжаецца аж да 1934 г. Асабліва рэзка скарацілася пагалоўе авечак, якіх у 1934 г. засталося толькі 35,5 проц. у адносінах да 1928 г. Велізарныя страты панесены таксама ў конегадоўлі і свінагадоўлі, найбольш устойлівай аказалася буйная рагатая жывёла.

Гэтыя-ж даныя паказваюць, што пагалоўе жывёлы найбольш зніжалася ў першыя гады рэканструкцыйнага перыяда і, наадва-

рот, у апошнія гады зніжэнне адбывалася ў меншых размерах, прычым па буйнай рагатай жывёле ў 1934 г. маем рост, а стада свіней застаецца амаль стабільным у параўнанні з 1932 г.

Жорсткая класавая барацьба, якая разгарнулася ў беларускай вёсцы вакол пытання калектывізацыі, шалёнае кулацкае супраціўленне соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, прамая шкодніцкая дзейнасць і ўзмоцненая агітацыя кулакоў і іх агентуры за забой прадукцыйнай жывёлы і ў першую чаргу маладняка, за знішчэнне коней, як асноўнага цягла ў сельскай гаспадарцы, нанеслі вялікія страты жывёлагадоўлі БССР у рэарганізацыйны перыяд.

Разам з гэтым неабходна памятаць, што страты рэарганізацыйнага перыяда маглі быць значна меншымі, калі-б партыйныя і совецкія арганізацыі і ў першую чаргу органы Наркамзема лепш кіравалі жывёлагадоўляй.

Трэба з усёй сілаю падкрэсліць, што Наркамзем БССР і яго навукова-даследчыя ўстановы не толькі дрэнна кіравалі жывёлагадоўляй, але нават у апараце самога Наркамзема ў 1931—32 гг. праводзілася шкодніцкая работа ў гэтай важнейшай галіне сельскай гаспадаркі.

XV з'езд КП(б)Б па дакладу т. Галадзеда «Аб калгасным і соўгасным будаўніцтве БССР» адзначыў:

«Недабітыя астаткі варожых класаў і шкоднікаў, змяніўшы метады і тактыку сваёй контррэволюцыйнай работы, праводзілі шкодніцкую работу і процідзейнічалі мерапрыемствам партыі і совецкай улады (1932 г.), арганізаваўшы контррэволюцыйныя, шкодніцкія гнёзды ў Наркамземе, у Трактарацэнтры, у сельскагаспадарчых ВНУ і навукова-даследчых інстытутах. Карыстаючыся стратай рэволюцыйнай пільнасці з боку раду комуністаў зямельных органаў, у тым ліку і з боку раду кіруючых зямельных работнікаў (Рачыцкі, Панматка, Матус і інш.), дзякуючы прамому здрадніцтву пралезшых у партыю ворагаў партыі (Масюкоў, Грузакоў і інш.), контррэволюцыйным нацыяналістам і шкоднікам удалося нанесці страты на радзе ўчасткаў сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўля, ветэрынарная справа, землеўпарадкванне, севазвароты, падрыхтоўка кадраў і т. д.)».

ЦК КП(б)Б выкрыў і бязлітасна разграміў гэтыя контррэволюцыйныя гнёзды ў зямельных органах. Узмацненне канкрэтнага штодзённага кіраўніцтва з боку ЦК КП(б)Б работай Наркамзема і яго сістэмы, умацаванне зямельных органаў, арганізацыя палітаддзелаў МТС і соўгасаў адыгралі рашаючую ролю ў ліквідацыі спадчыны шкоднікаў.

У 1934 г. больш арганізавана і паспяхова праведзена злучная кампанія па ўсіх сектарах і відах жывёлы (хоць рад раёнаў і ў 1934 г. плана злучак не выканаў), чым створана адна з важнейшых прадпасылак выканання плана развіцця стада ў 1935 г.; палепшылася работа ферм, асабліва па такому важнейшаму паказчыку, як скарачэнне адыходу маладняка; Беларуская ССР паспяхова выканала план сенакашэння і першы год не толькі выканала, але і значна перавыканала план сіласавання; значных зрухаў дабілася рэспубліка і па такому важнейшаму паказчыку, як захаванне маладняка.

Аднак гэта ні ў якім разе не сведчыць аб добрым агульным стане жывёлагадоўлі.

Трэба адкрыта і рашуча падкрэсліць, што агульны стан жывёлагадоўлі па БССР усё яшчэ застаецца яўна нездавальняючым, што пацвярджаецца табліцай параўнання стада ў БССР і СССР, згодна вынікам чэрвеньскага перапісу жывёлы (у тыс.):

| Віды жывёлы | 1933 г. | 1934 г. | 1934 г. у %% к 1933 г. па БССР | 1934 г. у %% к 1933 г. па СССР |
|---|---|---|---|---|
| Коні (усяго) . . . . . . | 783,0 | 710,0 | 90,8 | 94,2 |
| „ (рабочыя) . . . . . | 692,3 | 623,2 | 90,0 | 90,9 |
| Буйная рагатая жывёла (усяго) | 1565,5 | 1597,7 | 102,1 | 110,4 |
| „ „ „ (кароў) | 1041,2 | 949,0 | 91,1 | 100,0 |
| Свінні (усяго) . . . . . . | 1548,5 | 1518,0 | 98,0 | 143,9 |
| Авечак і коз (усяго) . . . | 1844,8 | 1231,0 | 66,7 | 103,4 |

Такім чынам, мы бачым, што па Совецкаму саюзу ў 1934 г. адбыўся рост стада ўсіх відаў, за выключэннем коней, прычым асабліва вялікі прырост далі свінні, тым часам, як па БССР пагалоўе змяншаецца, за выключэннем буйнай рагатай жывёлы, пры гэтым у перыяд 1933—34 гг. найбольш скараціўся лік авечак, коней і кароў.

Трэба адзначыць, што пры агульным нездавальняючым стане жывёлагадоўлі БССР, рад раёнаў дабіўся сур'ёзных поспехаў. У 1934 г. у параўнанні з 1933 г. пагалоўе буйнай рагатай жывёлы складае: Менскі раён—115,4 проц., Парыцкі—115,5 проц., Петрыкаўскі—114,0 проц., Слуцкі—119,3 проц., Заслаўскі—120,8 проц., Клічаўскі—116,9 проц.; свіней—Менскі 120,4 проц., Парыцкі—130,0 проц., Петрыкаўскі—121,7 проц., Заслаўскі—188,0 проц., Бярэзінскі—118,4 проц., Любаньскі—117,9 проц., і т. д.

Адначасова ў радзе раёнаў, нават сумежных з пералічанымі, прадаўжаецца далейшае буйнае скарачэнне стада; сюды, у першую чаргу, адносяцца Бешанковіцкі, Сенненскі, Прапойскі, Чачэрскі, Чэрыкаўскі, Веткаўскі, Крычаўскі, Клімавіцкі, Кармянскі, Чырвонапольскі, Тураўскі, Терахоўскі, Дубровенскі, Крупскі, Лельчыцкі, Сіроцінскі і іншыя. Для характарыстыкі гэтых раёнаў даволі сказаць, што стада авечак у 1934 г. у параўнанні з 1933 г. складае: Тураўскі раён—19,1 проц., Веткаўскі—24,1 проц., Чэрыкаўскі—34,5 проц., Чачэрскі—38,2 проц. і т. д.

У выніку абсалютна нездавальняючай работы значнай часткі раёнаў і несвоечасовага рэагавання Наркамзема, у Касцюковіцкім, Дубровенскім, Бешанковіцкім, Сенненскім, Клімавіцкім, Лагойскім, Чашніцкім і іншых раёнах увесну 1934 г. было дапушчана пад уплывам кулацкай агітацыі масавае знішчэнне жывёлы, асабліва маладняка. Аналагічная з'ява паўтарылася ўвосень 1934 г. у Чаускім, Мазырскім, Чэрыкаўскім і радзе іншых раёнаў.

У сувязі з гэтым геаграфія захавання і вырошчвання маладняка надзвычай няроўнамерна. Побач з такімі раёнамі, як Парыцкі, Камарынскі, Хойніцкі і іншыя, якія захавалі па калгасна-сялянскаму сектару звыш 60 цялят на 100 кароў, Бешанковіцкі, Сенненскі, Клімавіцкі, Лагойскі, Чашніцкі і інш. захавалі на 100 кароў менш 30 цялят.

Асноўная, рашаючая прычына нездавальняючага росту стада БССР заключаецца ў тым, што да апошняга часу органы Наркамзема, а таксама рад раённых і нізавых партыйных і совецкіх арганізацый гэтай важнейшай справай **штодзённа** не займаюцца, не ведаюць са-

праўднага стану кожнай фермы і калгаса, канкрэтна, па-дзелавому не кіруюць жывёлагадоўляй.

Характэрны гэтаму прыклад выявіўся ў Чаускім раёне пры абследванні яго работы спецыяльнай камісіяй ЦК КП(б)Б. Калі запыталі сакратара райкома партыі і старшыню РВК аб тым, як наладжана ў іх справа жывёлагадоўлі, то яны, абмежаваўшыся агульнымі разважаннямі, параілі звярнуцца да загадчыка райза т. Сваткоўскага. Сваткоўскі заявіў, што нічога не ведае, бо гэтым займаецца яго намеснік Пісараў. Пісараў адказаў, што больш пяці месяцаў ён з'яўляецца сталым упаўнаважаным па кампаніях і без заатэхніка Шулякоўскай патрэбнай інфармацыі аб жывёлагадоўлі і ў прыватнасці аб тым, як падрыхтаваны калгасы да зімоўкі, даць не можа—для гэтага неабходна выклікаць з раёна заатэхніка Шулякоўскую. Выкліканая Шулякоўская заявіла, што можа сказаць толькі пра калгасы, дзе яна была, а па раёну—не яе справа, бо яна ўчастковы заатэхнік.

На вялікі жаль, падобныя адносіны да жывёлагадоўлі ўсё яшчэ наглядаюцца не ў адным толькі Чаускім раёне.

* * *

*„Перамога калгаснага ладу ў вёсцы, забяспечыўшая паспяховае вырашэнне зернавой праблемы, стварыла спрыяючыя ўмовы для паскоранага развіцця жывёлагадоўлі ў соўгасах, калгасах і асабістай гаспадарцы калгаснікаў. Арганізаваныя ў апошнія гады буйныя жывёлагадоўчыя соўгасы і калгасныя таварныя фермы сталі асноўнай базай уздыму жывёлагадоўлі, палепшання якасці жывёлы і росту таварнай прадукцыі“.*

*(З пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б).*

За гады соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, пачынаючы з 1929 г., на аснове росту калектывізацыі і паспяховага ажыццяўлення плана соцыялістычнага будаўніцтва першай і двух гадоў другой пяцігодкі, значна ўзрасло стада жывёлы ў соўгасах і калгасах, аб чым яскрава сведчаць наступныя даныя (у тыс. галоў):

| Віды жывёлы | 1928 г. | 1930 г. | 1934 г. | Удзельная вага ў агульным стадзе ў 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| а) Соўгасы | | | | |
| 1. Коні . . . . . . . | 5,8 | 8,8 | 24,8 | 6,1 |
| 2. Буйная рагатая жывёла . | 13,6 | 38,7 | 75,6 | 5,2 |
| 3. Свінні . . . . . . | 2,5 | 17,6 | 161,8 | 11,7 |
| 4. Авечкі . . . . . . | 0,8 | 1,4 | 3,4 | 0,2 |
| б) Калгасы | | | | |
| 1. Коні . . . . . . . | 4,5 | 101,5 | 389,9 | 54,8 |
| 2. Буйная рагатая жывёла . | 12,9 | 161,5 | 513,2 | 32,1 |
| 3. Свінні . . . . . . . | 3,1 | 65,2 | 186,9 | 12,3 |
| 4. Авечкі . . . . . . | 6,8 | 93,7 | 134,8 | 11,0 |

Такім чынам, з 1928 па 1934 г. пагалоўе жывёлы соўгасаў па рэспублііцы ўзрасло: коней і авечак—у 4 разы, буйнай рагатай жывёлы—у 5 раз, а свіней—у 64 разы. Яшчэ быстрэй павялічвалася за гэтыя гады абагуленае стада калгасаў: коней—у 86 раз, буйнай рагатай жывёлы—у 41 раз, свіней—у 60 раз і авечак—у 19 раз.

У адпаведнасці з ростам пагалоўя жывёлы соцсектара павялічылася і ўдзельная вага яе ў агульным пагалоўі стада рэспублікі.

У 1934 г. у соцсектары БССР знаходзіцца больш паловы ўсяго пагалоўя коней, больш трэці буйнай рагатай жывёлы, амаль чвертка свіней і 12 проц. усяго пагалоўя авечак. Гэты рост пагалоўя соцсектара ёсць вынік агульных поспехаў Краіны Советаў у соцыялістычным будаўніцтве, перамогі калгаснага ладу ў вёсцы, пасляховага вырашэння зернавой праблемы, велізарнай дапамогі, якую аказвае Саюзны ўрад у будаўніцтве жывёлагадоўчых соўгасаў і калгасаў.

Калгаснае стада прадукцыйнай жывёлы, як правіла, сканцэнтравана на калгасных таварных фермах, рост сеткі якіх характарызуецца такімі лічбамі:

| Віды ферм | Колькасць ферм на 1-I—32 г. | На 1-I 1933 г. | На 1-VII 1934 г. | На 1-XII 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| М. Т. Ф. . . . . | 2294 | 3506 | 5428 | 7363 |
| С. Т. Ф. . . . . | 1564 | 2440 | 3416 | 4079 |
| О. Т. Ф. . . . . | — | — | 1742 | 3482 |

Такім чынам, калгаснымі фермамі, арганізацыя якіх па БССР распачата была толькі ў 1931 г. (аўцагадоўчых толькі ў 1933 г.), за 3 гады ахоплена пераважная частка калгасаў, прычым асабліва значны рост ферм вызначыўся за апошні час, што знаходзіцца ў прамой сувязі з выкананнем дырэктывы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), які падкрэсліў «рашаючую ролю калгасных таварных жывёлагадоўчых ферм у справе развіцця жывёлагадоўлі» і ўказаў, што «арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне існуючых калгасных таварных ферм і стварэнне новых ферм у кожным калгасе павінна стаць першачарговай задачай партыйных і совецкіх арганізацый».

Трэба адзначыць, што за час пасля чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), з 1.VII-34 г. па 1.XII-34 г., колькасць жывёлагадоўчых калгасных ферм узрасла на 4.298 адзінак.

Разам з гэтым неабходна падкрэсліць, што больш як дзве трэці калгасаў не маюць яшчэ аўцагадоўчых ферм, больш паловы не маюць свінагадоўчых і каля адной трэці—ферм буйнай рагатай жывёлы, не лічачы калгасаў, арганізаваных у IV квартале 1934 г. Таму стварэнне абагуленага стада буйнай рагатай жывёлы, свіней і авечак у кожным калгасе, на аснове арганізацыі як спецыялізаваных ферм (МТФ, СТФ, ОТФ), так і змешаных, праз усямернае ўзмацненне тэмпаў закупкі і кантрактацыі маладняка калгасамі ў калгаснікаў і аднаасобнікаў, пакупкі жывёлы ў соўгасах, а таксама шляхам захавання ўласнага прыплоду застаецца важнейшай задачай уздыму і развіцця жывёлагадоўлі.

Шырокай арганізацыйна-масавай работай па стварэнню новых ферм трэба забяспечыць, каб ужо к 1/IV 1935 г. не засталося ніводнага калгаса без жывёлагадоўчай фермы, рашуча зламаўшы кулацкае

супрацiўленне ўкараненню ў калгасы свiнагадоўлi i аўцагадоўлi. Трэба абавязкова забяспечыць, каб к канцу 1935 г. не засталося нiводнага калгаса без абагуленага стада свiней i авечак.

Для выканання гэтай задачы мы маем неабмежаваныя магчымасцi. Дзяржаўным планам развiцця жывёлагадоўлi прадугледжана закупiць у 1935 г. для жывёлагадоўчых калгасных ферм у калгаснiкаў i аднаасобнiкаў не менш 85.000 цялят i ў соўгасах 1.000 галоў буйнай рагатай жывёлы i 10.000 парасят. Дзяржавай для гэтай мэты адпушчана больш 3 млн. руб. сельска-гаспадарчага доўгатэрмiновага крэдыту.

Гэту дзяржаўную дапамогу патрэбна скарыстаць найбольш рацыянальна i поўна для ўсямернага развiцця жывёлагадоўчых калгасных таварных ферм.

Калi ў першыя гады масавай калектывiзацыi калгаснае стада ў асноўным узрастала за лiк абагульвання жывёлы i закупкi, то ў апошнi час фермы БССР маюць ужо сур'ёзныя зрухi ў справе вырошчвання ўласнага прыплоду. Возьмем даныя аб насычанасцi калгаснага стада маладняком на I/VII 1933 г. i 1934 г.:

| | Усяго буйнай рагат. жывёлы (на 100 кароў) | У т. л. цялят да 1 года на 100 кароў | Усяго свiней на 100 свiнаматак | У т. л. парасят да 4 м-цаў на 100 матак |
|---|---|---|---|---|
| 1933 г. . . | 257 | 74 | 343 | 178 |
| 1934 г. . . | 299 | 112 | 418 | 223 |

Гэтыя лiчбы сведчаць аб рэзкiм павелiчэннi маладняка буйнай рагатай жывёлы i свiней у калгасным стадзе за апошнi год, асаблiва цялят (112 цялят, разам з закупленымi, на 100 кароў).

Колькасць парасят на 100 матак таксама павялiчылася (178 у 1933 г. i 223 у 1934 г.). Аднак, абсалютная колькасць парасят на 100 матак усё-ж такi нязначная, што тлумачыцца невыкананнем плана злучак па СТКФ у 1933 г.

Павелiчэнне колькасцi маладняка знаходзiцца ў простай залежнасцi ад лепш праведзенай злучкi i скарачэння адыходу прыплоду.

У захаваннi маладняка адбылiся ў параўнаннi з 1933 г. наступныя змены:

| | За ўвесь 1933 год | 1934 г. (1-XII—34 г.) |
|---|---|---|
| 1. Нарадзiлася цялят (тыс. галоў), . | 110,6 | 173,6 |
| з iх пала ў %% да нарадзiўш. . | 14,6 | 10,8 |
| 2. Нарадзiлася парасят (тыс. гал.), . | 207,7 | 252,4 |
| з iх пала ў %% да нарадзiўш. i закупленых . . . . . | 36,8 | 16,8 |
| 3. Нарадзiлася ягнят (тыс. галоў), . | 7,3 | 52,6 |
| з iх пала ў %% да нарадзiўш. . | 11,5 | 10,4 |
| 4. Прыпадае апаросаў на 1 свiнаматку . . . . . . . | 0,78 | 0,91 |
| 5. Захавана парасят: | | |
| на 1 свiнаматку . . . . | 2,9 | 4,6 |
| на 1 апарос . . . . . . | 3,7 | 5,1 |

Як відаць, падзеж маладняка ўсё яшчэ нецярпіма высокі, аднак у параўнанні з мінулым годам значна зменшыўся, асабліва падзеж парасят; выхад парасят на свінаматку і на апарос у параўнанні з 1933 г. павялічыўся амаль удвая, хоць абсалютная колькасць дзелавога прыплоду ўсё яшчэ нізкая.

Па асобных раёнах і фермах процант адыходу маладняка хістаецца надзвычай моцна.

Вось некалькі прыкладаў:

| Раёны з найменшым проц. адыходу | | Раёны з найбольшым проц. адыходу | |
|---|---|---|---|
| I. МТФ (цяляты). | | | |
| Менскі | 7,5 | Чэрыкаўскі | 37,8 |
| Глускі | 6,3 | Чачэрскі | 29,9 |
| Тураўскі | 6,8 | Клімавіцкі | 27,7 |
| Суражскі | 7,1 | Касцюковіцкі | 25,0 |
| II. СТФ (парасяты). | | | |
| Оршанскі | 8,5 | Клічаўскі | 30,7 |
| Пухавіцкі | 6,2 | Чырвонапольскі | 26,5 |
| Лепельскі | 6,1 | Барысаўскі | 31,2 |
| Нараўлянскі | 8,0 | Дзержынскі | 29,6 |
| III. ОТФ (ягняты). | | | |
| Пухавіцкі | 3,1 | Рагачоўскі | 29,7 |
| Дрысенскі | 5,8 | Чачэрскі | 23,7 |
| Бабруйскі | 4,2 | Любаньскі | 25,4 |
| Лельчыцкі | 3,6 | Камарынскі | 22,2 |

Такі малюнак захавання прыплоду ў паасобных раёнах. Яшчэ больш хістаецца гэты процант па асобных фермах.

Для прыкладу, можна прывесці некалькі лепшых у захаванні маладняка гаспадарак:

Свінаферма калгаса «Ураджай», Буда-Кашалёўскага раёна,—нарадзілася 194 парасят, пала 4, або 2,1%, захоўваецца па 8,7 парасят на адну матку; СТФ «Большэвік», Парыцкага раёна,—нарадзілася 240 парасят, пала 3, або 1,25%; МТФ «Ударнік» Дзержынскага раёна з 78 нарадзіўшыхся цялят не было ніводнага выпадку падзежу; тое-ж і па МТФ «Звязда» данага раёна; калгас «6 умоў т. Сталіна», Оршанскага раёна, мае 3 фермы МТФ, СТФ і ОТФ, ва ўсіх фермах не было адыходу маладняка; МТФ «Фалько», Менскага раёна,—нарадзілася 111 цялят, пала 3, або 2,7%. І т. д. і т. д.

Прыкладныя фермы ёсць амаль у кожным раёне.

У той-жа час не выключэнне і такія фермы, як СТФ «Ударнік», Сенненскага раёна, у якой з нарадзіўшыхся 60 парасят пала 30 і прырэзана 8, а разам—адыходу 63 проц.; СТФ «Чырвоны араты» таго-ж раёна—нарадзілася 72 парасяты, пала 38, прырэзана 9, разам—65,3 проц. адыходу; СТФ «Дыктатура пролетарыята», Быхаўскага раёна,—нарадзілася 96, пала 69, або 72,0 проц. адыходу.

Такія адсталыя фермы, на жаль, таксама ёсць у кожным раёне.

Адсюль трэба зрабіць два вывады:

1. Частка ферм, колькасць якіх цяпер значна павялічылася, і можна лічыць іх дзесяткамі амаль у кожным раёне, звялі процант адыходу маладняка да самага нязначнага мінімума, а некаторыя і поўнасцю ліквідавалі. Практычнае жыццё разбіла гэтым самым кулацкую прышчэпаўскую тэорыю аб так званай «немінучай натуральнай норме адыходу». Сотні перадавых ферм, ліквідаваўшы абязлічку і ўвёўшы сапраўдную здзельшчыну аплаты працы ў адпаведнасці з указаннямі партыі, падабраўшы для догляду за жывёлай добрасумленныя кадры калгаснікаў, якія любяць калгасную жывёлагадоўлю,—даказалі на справе, што можна не толькі рашуча знізіць процант адыходу маладняка, але і амаль поўнасцю ліквідаваць падзеж.

2. Побач з лепшымі, перадавымі фермамі, у кожным раёне ёсць некалькі так званых прарыўных ферм, дзе адыход маладняка даходзіць да 50 проц. і больш, з-за чаго сярэдні процант адыходу па большасці раёнаў і па БССР у цэлым усё яшчэ надта вялікі.

У перыяд масавага ацёлу, апаросу і акоту ў кожным раёне неабходна паставіць зусім практычную канкрэтную задачу—выцягнуць гэтыя адстаючыя прарыўныя фермы ў рады перадавых, сканцэнтраваўшы на іх увагу, выявіць і ліквідаваць прычыны падзежу, устанавіць асобы нагляд за гэтымі фермамі райза, спецыялістаў, сельсаветаў. Нельга пры гэтым забываць, што ўказаныя мерапрыемствы неабходна намячаць і праводзіць не тады, як ужо маладняк загінуў, а цяпер, калі ферма рыхтуецца да апаросаў, ацёлаў і акотаў.

Асабліва вялікую ролю ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасных жывёлагадоўчых ферм адыгрывае правільная арганізацыя працы. Практыка работы 1934 г. паказала, што ў тых фермах, дзе правільна арганізавана праца, дзе ліквідавана ўраўнілаўка і падзёншчына, дзе працадні налічваліся ў залежнасці ад колькасці атрыманага маладняка і прадукцыі, захаванне маладняка і выхад таварнай прадукцыі былі найлепшымі.

На вялікі жаль, нават і да апошняга часу здзельшчына ўведзена ў нязначнай колькасці ферм. Асабліва дрэнна арганізавана праца на свінагадоўчых і аўцагадоўчых фермах. Таму асноўная задача зараз—правільна арганізаваць працу на ўсіх жывёлагадоўчых фермах, у адпаведнасці з устаноўленым палажэннем, канчаткова ліквідаваць цякучасць работнікаў, замацаваўшы іх на фермах па догляду за жывёлай не менш як на два гады. Каб ліквідаваць цякучасць рабочай сілы на фермах, неабходна побач з іншымі мерапрыемствамі няўхільна выконваць палажэнне Наркамзема Саюза аб тым, што калгаснікам і калгасніцам, якія прапрацавалі на ферме 2 гады, устаноўленыя расцэнкі павінны павышацца на 10 проц., а прапрацаваўшым 3 і больш год—на 15 проц.

Адначасова неабходна забяспечыць правядзенне ўказанняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб дадатковым павелічэнні і зніжэнні працадзён у размеры не звыш 15 проц. у залежнасці ад выпрацоўкі і якасці работы.

Выключна вяліка роля натуральнага прэміявання (цялятамі, парасятамі, ягнятамі). На жаль, яно праводзіцца толькі нязначнай колькасцю жывёлагадоўчых калгасных ферм, тым часам, як сотні і тысячы сапраўдных ударнікаў калгаснікаў і калгасніц заслугоўваюць надбавак на працадні і натуральнага прэміявання.

Праведзеныя ЦВК і Наркамземам БССР конкурсы на лепшы сельсовет па жывёлагадоўлі і лепшую жывёлагадоўчую ферму выявілі сотні перадавых ферм, даўшых большэвіцкія ўзоры работы, і тысячы сапраўдных ударнікаў калгаснікаў і калгасніц, стойкіх змагароў за развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Неабходна вопыт гэтых перадавых ферм, вопыт лепшых ударнікаў калгаснікаў і калгасніц шырока папулярызаваць з тым, каб метады іх работы, у парадку соцспаборніцтва, перанесці ва ўсе жывёлагадоўчыя фермы БССР.

Адначасова трэба рашучым чынам разбіць няправільную і па сутнасці кулацкую думку аб тым, што праца свінаркі, даяркі і пастуха з'яўляецца нечым пастыдным, недастойным перадавых калгаснікаў і калгасніц.

Трэба на справе даказаць і выхаваць усіх калгаснікаў і калгасніц у такім напрамку, што праца свінаркі, даяркі, конюха, аўчара і пастуха—адказнейшая ганаровая праца, якую можна даверыць толькі лепшым совецкім людзям, праверaным ударнікам і ўдарніцам.

Рашаючае значэнне ў вырашэнні жывёлагадоўчай праблемы маюць кадры. Жывёлагадоўчыя брыгады трэба ўмацоўваць лепшымі праверанымі кадрамі, ачысціўшы фермы ад рвачоў, лодыраў і класава-чуждых элементаў, забяспечыўшы падрыхтоўку кадраў масавай кваліфікацыі для ферм. Карэнным чынам трэба перабудаваць кіраўніцтва спецыялістамі жывёлагадоўлі, павысіць іх ролю на вытворчасці. Трэба берагчы, вырошчваць кожнага здольнага работніка, удзяліць максімальную ўвагу тэхвучобе, сістэматычна змагаючыся за павышэнне кваліфікацыі зоатэхнічных кадраў.

* * *

*„Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае Наркамзем і абласныя партыйныя арганізацыі звярнуць асаблівую ўвагу на ўсямернае ўзмацненне племяннай справы і развіццё племянных расаднікаў“ (з пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б).*

У комплексе мерапрыемстваў па развіццю соцыялістычнай жывёлагадоўлі асаблівае месца павінна заняць племянная справа. Племянная работа ў БССР па сутнасці пачала разгортвацца толькі ў апошні час. У выніку панска-памешчыцкіх зацей і кулацка-земскага крахаборства БССР атрымала ў спадчыну ад дарэволюцыйнага часу вельмі слабую насычанасць стада племянным матар'ялам, шматлікасць парод і раскіданасць іх па тэрыторыі БССР. Аб тым, наколькі закінута была племработа ў БССР шкоднікамі-прышчэпаўцамі, гаворыць хоць-бы той факт, што да апошняга часу нават не было ўліку племжывёлы. Тым часам, правільная арганізацыя племяннай работы—адна з асноўных прадпасылак павышэння прадукцыйнасці жывёлагадоўлі.

Асноўны шлях палепшання якасці жывёлы— гэта масавая метызацыя стада побач, вядома, з палепшаннем умоў утрымання і ў першую чаргу кармлення жывёлы.

Неабходнасць масавай метызацыі патрабуе вялікай колькасці племянных вытворнікаў, масавае вырошчванне якіх павінна быць арганізавана ў племянных фермах і племсоўгасах.

За апошнія гады ў БССР значна растуць племфермы і пагалоўе ў іх, што характарызуецца наступнай табліцай:

| Гады | 1. Племфермы б. р. ж. | | 2. Плем. свінафермы | | 3. Племаўцафермы | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькі ферм | У іх племкароў | Колькі ферм | У іх плем. св.-мат. | Колькі ферм | У іх плем. аўцаматак |
| 1932 . . . . | 23 | 751 | 26 | 346 | — | — |
| 1933 . . . . | 48 | 974 | 43 | 1065 | — | — |
| 1934 (на I-XII). | 67 | 1618 | 64 | 1439 | 25 | 579 |

Для камплектавання племянных ферм і арганізацыі новых, у 1934 г. ў БССР завезена значная колькасць племяннной жывёлы з іншых краёў і рэспублік Саюза, а таксама і з-за меж Саюза ССР. Буйнай рагатай жывёлы завезена 400 галоў, свіней 3.000 галоў і баранаў 1600 галоў. Акрамя таго, прыкладна, такая-ж колькасць племянной жывёлы для калгасных ферм у межах БССР нарыхтавана ў племянных соўгасах і племянных фермах.

Для палепшання пароднага складу конскага пагалоўя арганізавана дзяржаўная заводская стайня, якая мае 102 племянных вытворнікаў рысістага і цяжкага напрамку, а таксама 3 конезаводы з пагалоўем у 670 племянных коней.

Па лініі калгасаў арганізаваны 233 племянныя конефермы з пагалоўем 8.992 коней у тым ліку 5.287 матак.

У выкананне дырэктывы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б для масавага ўзнаўлення элітнага матар'ялу і сістэматычнай глыбокай селекцыйнай работы арганізован дзяржплемрасаднік чырвона-беларускай пароды буйнай рагатай жывёлы з раёнам дзейнасці ў межах Менскага і Дзержынскага адміністрацыйных раёнаў і дзяржплемрасаднік буйнай белай англійскай пароды свіней з раёнам дзейнасці ў межах Слуцкага, Капыльскага, Старобінскага і Пухавіцкага раёнаў. На вялікі жаль, гэтыя дзяржплемрасаднікі, якія маюць выключна вялікае значэнне ў палепшанні пароднасці жывёлы БССР, яшчэ не разгарнулі работы. Задача Наркамзема і мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый, на тэрыторыі якіх знаходзяцца гэтыя дзяржплемрасаднікі,—так паставіць жывёлагадоўчую справу ў раёнах дзейнасці племрасаднікаў, каб на працягу бліжэйшага года-двух яны ператварыліся ў паказальныя раёны па жывёлагадоўлі і сапраўдныя расаднікі племянной жывёлы для калгасаў БССР.

Праведзены ў IV квартале 1934 г. улік паказаў, што БССР мае даволі значны фонд племяннной жывёлы. Па няпоўных даных выяўлена 8.200 племянных коней, 46.620 племянных галоў буйнай рагатай жывёлы, 13.785 племянных свіней і 3.550 племянных авечак. Правільнае выкарыстанне выяўленага племяннога матар'ялу можа даць вялікі эфект у справе палепшання якасці пагалоўя БССР, неабходна толькі пасапраўднаму арганізаваць племянную работу. Выяўлены племянны матар'ял трэба ўзяць пад асобы нагляд і кантроль, забяспечыўшы на справе такі парадак, каб ніводная галава племянной жывёлы не была выбракавана без ведама і дазволу райза.

Асабліва пільны кантроль трэба ўстанавіць за скарыстаннем племянных вытворнікаў, забяспечыўшы іх рацыянальнае выкарыстанне ў час злучной кампаніі. Чакаемы прыплод ад племянных кароў, свіней і авечак і ад мясцовай палепшанай жывёлы ўсіх відаў, пакрытай племяннымі вытворнікамі, павінен быць узят на асобы ўлік з тым, каб ні адна галава племяннай або палепшанай жывёлы не пашла пад нож. Такая пастаноўка справы, а таксама пашырэнне сеткі племянных ферм, завоз племяннай жывёлы ў БССР і наладжванне работы дзяржплемрасаднікаў могуць забяспечыць карэнны пералом у справе якаснага палепшання племяннай жывёлагадоўлі БССР.

* * *

*„Асноўным мерапрыемствам па павелічэнню конскага пагалоўя лічыць безумоўнае выкананне соўгасамі, калгасамі, аднаасобнікамі і ўсімі гаспадарчымі арганізацыямі, якія маюць коней, плана вырошчвання конскага маладняка". (З пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)).*

Асобна трэба вылучыць пытанне аб стане конскага пагалоўя. Трэба прама прызнаць, што пастановы партыі і ўрада аб захаванні і развіцці конскага пагалоўя падаўляючай большасцю раёнаў БССР выконваюцца абсалютна нездавальняюча.

Па БССР не спыніўся і да апошняга часу працэс скарачэння коней. У 1934 г. у параўнанні з 1933 г. агульнае пагалоўе коней знізілася на 9,2 проц., у тым ліку рабочых коней—на 10 проц. Выключна дрэнна абстаіць справа з рамонтным маладняком. Калі ў 1928 г. на 100 галоў рабочых коней прыпадала 29,6 галоў маладняка да 3-х год, то ў 1934 годзе на 100 галоў рабочых коней прыпадае толькі 12,8 галоў маладняка ўзростам да 3-х год.

Праўда, ужо ў 1934 г. намеціўся некаторы зрух у вырошчванні конскага маладняка. Так, напрыклад, калі ў 1933 г. на 100 рабочых коней было 4,2 жарабят, то ў 1934 г. гэта лічба ўзрасла да 5,1. Таксама значна лепш праведзена ў 1934 г. злучная кампанія. Калі ў 1933 г. было пакрыта 95.700 кабыліц, то ў 1934 г. гэта лічба ўзрастае амаль у 2 разы і складае 182,5 тыс. кабыліц. Бясспрэчна, што лепшыя вынікі ў злучную кампанію 1934 г. у параўнанні з 1933 і папярэднімі гадамі даюць магчымасць у 1935 г. дабіцца карэннага пералому ў бок росту конскага пагалоўя.

Аднак, узнаўленне коней і да апошняга часу застаецца вельмі вострым пытаннем, якое патрабуе надзвычайна вялікай увагі партыйных, савецкіх і асабліва зямельных органаў.

Наколькі дрэнна пастаўлена захаванне і эксплаатацыя коней, відаць хоць-бы з таго, што, напрыклад, процант непрацаздольных коней дасягае к канцу 1934 г. пагражаючых размераў: у Смалявіцкім раёне 38, Камарынскім—29,5, Ельскім—25, Крупскім—16,2, Віцебскім—14,3, Гомельскім—14,1 і т. д.

Варварскія адносіны да каня і асабліва выкарыстання жаробных кабыл садзейнічалі масаваму абартаванню конематак у паасобных раёнах. Паводле няпоўных даных, у калгасах Капыльскага раёна абартавала 264 конематкі, Слуцкага—193, Стара-Дарожскага—100, Ма-

зырскага—126, Віцебскага—83. У калгасе «Памяць Леніна», Капыльскага раёна, з 21 жаробнай конематкі абартавала 19, або 90,4 проц.; у калгасе «Свабода» таго-ж раёна—з 20 жаробных абартавала 15, або 75 проц.; у калгасе «Прагрэс» таго-ж раёна абартавала 24 конематкі; па Слуцкаму раёну ў калгасе імя Будзёнага абартавала 26 і ў калгасе «Чырвоная ніва»—24 конематкі.

Слуцкая справа паказала, што класавы вораг надзвычай ўмела скарыстоўвае недастатковую класавую пільнасць, каб усімі мерамі шкодзіць на гэтым важнейшым участку соцыялістычнага будаўніцтва. Кадры загадчыкаў КТФ і канюхоў засмечаны ў радзе выпадкаў класава-варожымі элементамі. Праяўляецца зусім недапушчальная цякучасць. У калгасе «Ясная паляна», Старобінскага раёна, за 1934 г. зменена 5 загадчыкаў КТФ і 25 канюхоў; у калгасе «Асвета», Любаньскага раёна, зменена за год 5 загадчыкаў КТФ; у калгасах «XVII з'езд ВКП(б)», «Звязда» і «Максім Горкі», Драчоўскага сельсовета, Смалявіцкага раёна, коні бяруцца на работу па жрэб'ю; у калгасе «Іскра», Рагачоўскага раёна, класавы вораг, каб вывесці са строю каня, загнаў яму ў плячо іголку.

Асноўная задача ў галіне конегадоўлі—на справе палепшыць утрыманне і эксплаатацыю коней, павёўшы жорсткую барацьбу з фактамі драпежніцкіх адносін да каня, асабліва да жаробных конематак. Лепшы догляд і правільная эксплаатацыя жаробных кабыліц дапамогуць ліквідаваць аборты і забяспечыць максімальнае атрыманне маладняка ад злучаных у 1934 г. кабыліц. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на вырошчванне конскага маладняка, каб захаваць увесь чакаемы прыплод. Неабходна, у прыватнасці, для папаўнення конскага пагалоўя калгасаў разгарнуць работу па кантрактацыі і закупцы калгасамі ў аднаасобнікаў жарабят прыплоду 1935 г.

Разам з мерапрыемствамі па захаванню і ўзнаўленню конскага пагалоўя, трэба шырока разгарнуць работу па вырошчванню валоў на цягло, асабліва ў палескіх раёнах, якія маюць значны вопыт у выкарыстанні валоў, як цяглавай сілы. Аднак, гэта ні ў якім разе не выключае неабходнасці вырошчваць валоў і скарыстоўваць іх на цягло ва ўсіх раёнах і калгасах БССР, якія адчуваюць неабходнасць ў цяглавай сіле. Трэба рашуча спыніць кулацкую па сутнасці тэорыю аб немэтазгоднасці скарыстоўваць валоў на цягло.

* * *

*„Пленум ЦК ВКП(б) ставіць перад партыйнымі арганізацыямі, зямельнымі арганізацыямі і кіраўнікамі соўгасаў, МТС і калгасаў, як адну з важнейшых задач, палепшанне лугоў і паш і павышэнне ўраджайнасці“ (з пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)).*

У комплексе мерапрыемстваў, якія забяспечваюць рост прадукцыйнасці жывёлы, стварэнне ўстойлівай кармавой базы ў кожным калгасе і соўгасе з'яўляецца адной з першачарговых задач.

Не гледзячы на значны рост пасеўплошчаў і значную колькасць натуральных кармавых рэсурсаў, кармавое пытанне ў БССР застаецца напружаным.

Як відаць з матар'ялаў аперацыйнай справаздачнасці Наркамзема БССР, па фермах на кармавы перыяд 1933—34 гг. было вызначана для кожнай галавы жывёлы кармоў (у цэнтнерах):

| | На МТФ | СТФ | ОТФ |
|---|---|---|---|
| Грубых кармоў (сена, салома) . . | 16,5 | 1,9 | 4,1 |
| Сакавітых (з сілосам) . . . . . | 7,6 | 7,7 | 0,2 |
| Канцэнтратаў . . . . . . . . | 0,3 | 1,4 | — |

Гэта ў недастатковай колькасці забяспечвае грубымі кармамі, на 40—50% па МТФ і 60—65% па СТФ патрэбнасці сакавітымі і не больш 30—35% канцэнтратамі.

Недаацэнку кармавой базы відаць і з аналіза дынамікі пасеўплошчаў кармавых культур, якія за апошнія гады сістэматычна зніжаюцца пры агульным росце пасеўнай плошчы калгасна-сялянскага сектара:

| Паказчыкі | Шматгад. травы | Аднагад. травы | Падсеў канюшыны | Сілосныя | Каранеплоды |
|---|---|---|---|---|---|
| 1932 г. (плошча) . . . | 159,6 | 79,1 | 60,9 | 10,8 | 20,9 |
| Удзельная вага ў агульнай пасеўплошчы . . | 4,2% | 2,1% | 100% | 0,3% | 0,6% |
| 1933 г. (плошча) . . . | 123,4 | 48,8 | 46,7 | 9,1 | 16,2 |
| Удзельная вага . . . . | 3,5% | 1,4% | 76,6% | 0,3% | 0,5% |
| 1934 г. (плошча) . . . | 106,7 | 50,9 | 43,9 | 6,6 | 12,3 |
| Удзельная вага . . . . | 2,9% | 1,4% | 72,0% | 0,2% | 0,3% |

Прыведзеныя лічбы гавораць самі за сябе. На 1935 г. мяркуецца пасеяць аднагадовых траў не менш 145 тыс. га і падсеяць канюшыны не менш 140 тыс. га. Вырашэнне гэтай задачы залежыць у асноўным ад паспяховага выканання плана засыпкі насенных фондаў кармавых траў, па калгасах і соўгасах, ад поўнага выканання плана загатоўкі насення траў усімі раёнамі.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) і пленум ЦК КП(б)Б паставілі перад зямельнымі органамі, перад кіраўнікамі соўгасаў, МТС, калгасаў, перад партыйнымі арганізацыямі, як адну з важнейшых задач у галіне

ўмацавання кармавой базы—палепшанне сенажацей і выпасаў і павышэнне іх ўраджайнасці.

Каб ацаніць усю важнасць і значэнне гэтай дырэктывы партыі ва ўмовах БССР, неабходна ўнікнуць у наступныя лічбы, якія характарызуюць сенажаці і выпасы рэспублікі:

| Характар сенажацей і выпасаў | Плошча ў тыс. *га* | У %% да ітога |
|---|---|---|
| а) сенажаці: | | |
| Заліўныя . . . . . | 319,4 | 17,4 |
| Сухадольныя . . . . | 831,1 | 45,1 |
| Балотныя . . . . . | 687,9 | 37,3 |
| Штучныя (залужаныя) . . | 3,9 | 0,2 |
| Разам . | 1841,4 | 100 |
| З іх зарослых кустарнікам . | 430,5 | 23,4 |
| б) выпасы: | | |
| Сухадольныя . . . . . | 231,8 | 37,1 |
| Мокрыя нізінныя . . . | 202,3 | 32,4 |
| Балотныя . . . . . | 190,2 | 30,5 |
| Разам . | 624,3 | 100 |
| З іх зарослых кустарнікам . | 453,4 | 72,6 |

З табліцы відаць, што агромная колькасць сенажацей і выпасаў малапрадукцыйна, парасла кустарнікам і патрабуе значнага палепшання, каб рэзка павысіць ураджайнасць і палепшыць якасць сена і траў.Ператварэнне агромных масіваў малапрадукцыйных сенажацей і выпасаў у высокапрадукцыйныя праўядзеннем масавых мерапрыемстваў паверхневага і карэннага палепшання—неадкладная задача ў БССР.

Ў выніку недаацэнкі гэтых мерапрыемстваў планы палепшання сенажацей і выпасаў ў БССР з года ў год зрываюцца. У 1934 г. план карэннага палепшання 45 тыс. га сенажацей выканан на 47,1 проц. і план паверхневага палепшання 235 тыс. га сенажацей выканан толькі на 44,3 проц., прычым у радзе раёнаў гэта работа амаль зусім не праводзілася. Напрыклад, у 1934 г. Тэрахоўскі раён план палепшання сенажацей выканаў толькі на 3 проц., Веткаўскі—на 4,7 проц., Крупскі—на 9,1 проц. і т. д.

1935 г. павінен даць карэнны пералом у рабоце па палепшанню сенажацей і выпасаў. Зацверджаная СНК БССР праграма карэннага палепшання сенажацей і выпасаў па калгасна-сялянскаму сектару—інтэнсіўная асушка 15.000 га ворыва цаліны для залужэння 15.000 га, пасеў папярэдніх культур 6.000 га, залужэнне 3.000 га, раскарчоўка 29 тыс. га і паверхневае палепшанне сенажацей і выпасаў, адвод паверхневых вод 50.000 га, расчыстка хмызняка 75.000 га, зрэзка куп'я

15.000 га, угнаенне 30.000 га, падсеў траў 11.000 га —павінна быць выканана поўнасцю і безагаворачна.

Справу палепшання сенажацей і выпасаў трэба паставіць так, як мы праводзім вясеннюю сяўбу і ўборачную кампанію. Трэба забяспечыць давядзенне канкрэтных календарных планаў да кожнай гаспадаркі і ўстанавіць штодзенны кантроль і аперацыйнае кіраўніцтва гэтай важнейшай работай. Палепшаннем сенажацей і выпасаў мы адкрываем неабмежаваныя магчымасці для развіцця жывёлагадоўлі ў БССР.

Аналізуючы забяспечанасць калгаснай жывёлы кармамі ў стойлавы перыяд 1934—35 гг., неабходна адзначыць, што ў гэтым годзе загатоўка кармоў прашла значна лепш, чым у мінулым. План сенакашэння выканан па першаму ўкосу, а па другому перавыканан. План сіласавання таксама перавыканан. Замест 450.000 тон, вызначаных па плану Саюзным урадам, засіласавана 620.000 тон, або 130 проц.

Паспяховае выкананне плана сенакашэння і сіласавання, а таксама лепшы ўраджай зернавых кармавых культур і бульбы павінен забяспечыць у гэтым годзе сытую зімоўку для жывёлы.

Аднак, матар'ялы аперацыйнай справаздачнасці Наркамзема гавораць аб тым, што, не гледзячы на спрыяючыя ўмовы, забяспечанне жывёлы КТФ праходзіць яўна нездавальняюча. Так, на 1.XII-34 г. перадана ў процантах да патрэбнасці па МТФ, СТФ і ОТФ канцэнтратаў 43,2 проц., сакавітых 29,1 проц., і грубых кармоў 50,8 проц. Прычым, у радзе раёнаў, асабліва ў Суражскім, Чаускім, Шклоўскім, Клімавіцкім, Лельчыцкім. Хойніцкім, Бялыніцкім, Быхаўскім, Тэрахоўскім, Бабруйскім, Бешанковіцкім, Чашніцкім, Веткаўскім і інш., справе ўтварэння кармавых фондаў для жывёлы КТФ не ўдзяляецца абсалютна ніякай увагі.

Больш таго, фермам раду раёнаў нават не перададзены кармы (зярно і бульба) з аслабанёных дзяржавай ад паставак зярна і бульбы плошчаў. У 1934 г., адпаведна з пастановай чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), для стварэння кармавых фондаў у калгасах, якія маюць жывёлагадоўчыя таварныя фермы, па БССР аслабанёна ад паставак зярна і бульбы 80 тыс. га зернафуражных культур і 22 тыс. га бульбы.

Увесь валавы збор зернафуражных і бульбы, за выключэннем насення, ад аслабанёных плошчаў павінен перадавацца жывёлагадоўчым таварным фермам пад адказнасць загадчыка і выдаткоўвацца выключна для гэтых ферм.

Тым часам, значнай часткай калгасаў Касцюковіцкага, Мсціслаўскага, Клічаўскага і іншых раёнаў кармы з аслабанёных ад паставак зярна і бульбы плошчаў не перададзены фермам і выдаткоўваюцца на іншыя патрэбы. Калі да сказанага дадаць, што рад калгасаў безгаспадарна выдаткоўвае забраніяваныя кармавыя фонды, то зусім рэальнай становіцца пагроза, што, не гледзячы на спрыяючыя ўмовы 1934 г., некаторыя калгасы застануцца без кармоў.

Партыйныя, савецкія і ў першую чаргу зямельныя органы, не чакаючы ніводнага дня, абавязаны закончыць работу па стварэнню кармавых фондаў, асобна вылучыўшы пытанне аб перадачы ў кар-

мавы фонд валавога ўраджаю з аслабанёных ад паставак зярна і бульбы плошчаў. Адначасова з гэтым, трэба рашучым чынам спыніць безгаспадарнае скарыстанне кармоў, устанавіць па кожнаму калгасу нормы кармлення і календарны план, каб забяспечыць жывёлу кармамі на працягу ўсяго стойлавага перыяда.

* * *

*„Для забяспечання хутчэйшага ўздыму жывёлагадоўлі пленум ЦК ВКП(б) лічыць неабходным прымяніць, па прыкладу дзяржаўнага пасеўнага плана, метад дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі з устанаўленнем планавых заданняў па росту пагалоўя жывёлы ў соўгасах і таварных калгасных фермах, плана вырошчвання маладняка соўгасамі, калгасамі, калгаснікамі і аднаасобнікамі і плана вытворчасці кармоў з давядзеннем гэтых планаў да соўгасаў, калгасаў і сельсоветаў.*

*Выкананне дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый і служыць важнейшым сродкам мабілізацыі работнікаў соўгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў вакол задачы развіцця жывёлагадоўлі“ (з пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)).*

Канцэнтруючы асноўную ўвагу на развіцці жывёлагадоўлі соўгасаў і калгасных таварных ферм, трэба адначасова правесці работу па развіццю жывёлагадоўлі ў аднаасобным сектары, удзельная вага якога яшчэ вялікая.

Удзельная вага жывёлагадоўлі калгаснікаў і аднаасобнікаў займае яшчэ звыш 60 проц., па буйнай рагатай жывёле, 75 проц. па свіннях і 85 проц. па авечках. Захаванне і вырошчванне прыплоду ад гэтага стада мае асабліва вялікае значэнне для ўзнаўлення стада па рэспубліцы ў цэлым. Таму, побач з асноўнай задачай—умацаваннем існуючых і арганізацыяй новых ферм—партыя і совецкі ўрад патрабуюць ад партыйных і совецкіх арганізацый усямернай дапамогі калгаснікам і працоўным аднаасобнікам у развіцці іх індывідуальнай жывёлагадоўлі. У прыватнасці ЦК ВКП(б) і асабіста тав. **Сталіным** пастаўлена зусім канкрэтная задача—у бліжэйшыя два гады ліквідаваць бескароўнасць сярод калгаснікаў.

БССР мае магчымасці ўжо ў 1935 г. надзяліць усіх калгаснікаў, не маючых кароў, цёлкамі. Аднак, гэта важнейшая дырэктыва партыі і ўрада выконваецца ў нас дрэнна. З выяўленых 47.452 бескароўных калгаснікаў на 20.XII-34 г. надзелена цёлкамі толькі 31.121 гаспадарка.

Ліквідацыя бескароўнасці сярод калгаснікаў ў радзе раёнаў праводзіцца яўна нездавальняюча. СНК БССР і ЦК КП(б)Б вымушаны былі прымаць рад спецыяльных пастаноў. Мясцовыя партыйныя, совецкія і зямельныя органы раду раёнаў, замест энергічнай дапамогі бескароўным калгаснікам цёлкамі шляхам кантрактацыі і пакупкі іх у калгаснікаў і аднаасобнікаў, удзяляюць гэтай справе недастатковую ўвагу.

Каб надзяліць к канцу 1935 г. усіх бескароўных калгаснікаў цёлкамі, неабходна выканаць план кантрактацыі і пакупкі 16.000 цёлак к І.IV 1935 г. і к гэтаму-ж тэрміну перадаць бескароўным калгаснікам 10.000 цёлак з калгасных ферм.

Для развіцця індывідуальнай жывёлагадоўлі калгаснікаў соўгасы БССР у 1935 г. павінны прадаць ім 58.500 галоў парасят і 600 галоў цялят.

Для захавання і вырошчвання маладняка ў калгаснікаў і аднаасобнікаў трэба ўлічыць урокі зімы і вясны 1934 г. і, на аснове разгортвання шырокай арганізацыйна-масавай работы, забяспечыць, каб ніводнае цялё не пайшло пад нож. Устанаўленне адзінага, па прынцыпу пасеўнага, дзяржаўнага плана жывёлагадоўлі дае ў рукі партыйных, совецкіх і зямельных органаў магутны рычаг максімальнага развіцця жывёлагадоўлі як у соўгасах і калгасах, так і ў аднаасобнікаў і ў аднаасобным карыстанні калгаснікаў.

Дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі на 1935 год СНК БССР ужо зацверджан і даведзен да раёнаў. Задача раённых і нізавых партыйных і совецкіх арганізацый заключаецца цяпер у тым, каб давесці гэты план да кожнай гаспадаркі і забяспечыць яго безумоўнае выкананне на аснове разгортвання шырокай оргмасавай работы і ўстанаўлення штодзённага аперацыйнага кантролю.

БССР мае ўсе магчымасці не толькі перакрыць у бліжэйшыя гады страты ў жывёлагадоўлі, але і хутка рушыць уперад, каб выйсці ў рады перадавых рэспублік і краёў, ператварыцца ў краіну перадавой высокапрадукцыйнай соцыялістычнай жывёлагадоўлі на базе шырокага росту калгасных ферм і соўгаснай жывёлагадоўлі.

Агульныя поспехі БССР за першую і два гады другой пяцігодкі рост калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як класа на базе суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, поспехі ў арганізацыйна-гаспадарчым і палітычным умацаванні калгасаў, вырашэнне зернавой праблемы, паспяховае выкананне сельска-гаспадарчых кампаній 1933—34 гг., наяўнасць вялікай колькасці натуральных сенажацей і выпасаў, неабмежаваныя магчымасці пашырэння гэтых відаў угоддзяў за кошт асушкі і культывавання балот, спрыяючыя кліматычныя ўмовы для паспяховага культывавання каштоўнейшых кармавых раслін, а таксама значная шчыльнасць стада БССР у параўнанні з іншымі рэспублікамі, краямі і абласцямі Саюза ССР і рад іншых ўдзячных фактаў—усё гэта сведчыць аб рэальнасці выканання пастаўленай задачы ў бліжэйшы час

Задача партыйных, совецкіх, зямельных арганізацый, узмацніўшы рэволюцыйную пільнасць, рашуча ачысціўшы ўсе калгасы, соўгасы ад кулацкіх і класава-варожых элементаў,—з большэвіцкай настойлівасцю змагацца за ператварэнне ўсіх адзначаных магчымасцей у рэальную рэчаіснасць.

* * *

Уздым і развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі—адна з адказнейшых задач другой пяцігодкі, пастаўленых XVII партз'ездам і т. Сталіным перад зямельнымі органамі, перад партыйнымі і совецкімі арганізацыямі. Як выкананне ўсяго плана соцыялістычнага будаўніцтва ў другой пяцігодцы, так і ўздым і развіццё жывёлагадоўлі праходзяць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы.

Рэшткі адміраючых капіталістычных класаў і іх агентура, мяняючы формы і метады сваёй барацьбы, заўсёды імкнуцца падарваць справу соцыялістычнага будаўніцтва. Паасобныя групы класававарожых элементаў становяцца на контррэволюцыйна-фашысцкі белагвардзейскі шлях барацьбы з комуністычнай партыяй і совецкай уладай.

Забойства падонкамі былой зіноўеўска-троцкісцкай апазіцыі тав. Кірава, арганізацыя рэшткамі былой зіноўеўска-троцкісцкай апазіцыі ў Ленінградзе і Маскве для барацьбы з совецкай уладай і комуністычнай партыяй падпольных контррэволюцыйных тэрарыстычных «цэнтраў», удзельнікі якіх атрымалі ад пролетарскага суда сваю кару, актывізацыя былых зіноўеўцаў і троцкістаў у БССР, антыпартыйна-контррэволюцыйныя вылазкі былых троцкістаў — Галендо, Рудага, Фліора, Паўлюкевіча і інш., выкрыццё троцкісцка-контррэволюцыйнай групы ў Горацкім сельска-гаспадарчым інстытуце—усё гэта паказвае, што класавая барацьба не аслабляецца, а набывае больш абвостраныя формы, што ажыццяўленне плана другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—выклікае шалёную ненавісць і супраціўленне з боку рэштак адміраючага капіталістычнага класа і яго агентуры.

Усе партыйныя, совецкія, зямельныя арганізацыі, усе рабочыя, калгаснікі і працоўныя павінны максімальна павысіць рэволюцыйнакласавую пільнасць на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, на ўсіх участках нашай работы.

Уздым і развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі—адна з адказнейшых і неадкладных задач, на ажыццяўленне якой павінна быць мабілізавана ўся калгасная маса і рабочыя соўгасаў, усе партыйныя, совецкія і зямельныя арганізацыі. Гэту задачу Совецкая Беларусь, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) няўхільна ажыццяўляючы ўказанні правадыра нашай партыі т. Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало, безумоўна выканае з поспехам.

---

А. Залескі

# Правільна размеркаваць даходы ў калгасах— важнейшая задача

Уступаючы ў новы—1935 сельска-гаспадарчы год, калгасы разгарнулі падагуленне вынікаў сваёй гадавой работы і барацьбы за бальшэвіцкія калгасы, за заможнае і культурнае жыццё калгаснікаў. Небывалымі поспехамі адзначае калгасная Беларусь завяршэнне сельска-гаспадарчага года—другога года пяцігодкі пабудовы бяскласавага грамадства і наступленне трэцяга года.

Планы абавязковых паставак хлеба і бульбы выкананы ў 1934 годзе датэрмінова, планы загатовак ільнавалкна і ільнанасення блізкі к заканчэнню.

Упершыню за апошнія гады Совецкая Беларусь выканала поўнасцю і датэрмінова дзяржаўны план сіласавання і зяблівага ворыва. Азімая сяўба закончана на 15 дзён раней, чым у мінулым годзе, пры непараўнальна лепшых якасных паказчыках.

Датэрміновым выкананнем планаў паставак хлеба і бульбы і своечасовым правядзеннем астатніх сельска-гаспадарчых кампаній БССР заняла ганаровае месца ў радах перадавых рэспублік і абласцей нашага вялікага Совецкага саюза.

Своечасовым правядзеннем зяблівага ворыва, ранняй і добраякаснай асенняй сяўбою закладзен моцны фундамент для багатага ўраджаю, што яшчэ больш умацуе калгасы, павялічыць іх даходнасць, а таксама палепшыць добрабыт саміх калгаснікаў.

Завяршэнне сельска-гаспадарчага года характарызуецца нябачана вялікімі перамогамі соцыялізма на вёсцы. Калгасны лад канчаткова перамог. Учарайшыя беднякі і серадвякі, а сёнешнія калгаснікі, з'яўляюцца актыўнымі барацьбітамі за пабудову соцыялізма на вёсцы.

Завяршэнне багатага вялікімі перамогамі сельска-гаспадарчага года адзначана масавым прылівам працоўных аднаасобнікаў у калгасы. На канкрэтных прыкладах калгаснага жыцця, на выніках іх гадавой работы працоўныя аднаасобнікі яшчэ больш пераконваюцца ў тым, што калгасы для іх адзіна правільны шлях. За два апошнія кварталы 1934 года ў калгасы БССР уступіла каля 70 тыс. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Процант калектывізацыі к канцу года па БССР складае 72,6.

Вялікія поспехі, з якімі калгасы БССР канчаюць сельска-гаспадарчы год, ёсць вынік правільнай палітыкі нашай комуністычнай партыі, на чале з вялікім правадыром сусветнага пролетарыята т. Сталіным, накіраванай на паспяховае ажыццяўленне індустрыялі-

зацыі совецкай краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, на ліквідацыю рэштак капіталістычнага класа—кулацтва. Атрыманыя поспехі ёсць вынік большэвіцкага кіраўніцтва калгасамі ЦК КП(б)Б; вынік вялікай работы раённых партыйных арганізацый і палітаддзелаў па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў, ачыстцы іх ад класава-чуждых і кулацкіх элементаў, выхаванню калгасных кіруючых кадраў; вынік значнага палепшання кіраўніцтва зямельных, цэнтральных і мясцовых органаў калгаснай вытворчасцю.

З заканчэннем сельска-гаспадарчага года перад калгасамі стаіць найвялікшай палітычна-гаспадарчай важнасці задача—**правільна размеркаваць** даходы ў калгасах па працаднях і своечасова, без затрымкі выдаць калгаснікам на рукі ўсе прадукты, якія ім належаць па размеркаванню.

Правільнае размеркаванне даходаў у калгасах—справа агромнай палітычнай і гаспадарчай важнасці. Нельга дапусціць думкі аб тым, што размеркаванне даходаў у калгасах можа быць праведзена ў парадку самацёку, што гэта справа чыста тэхнічнага зместу, што гэта бухгалтэрская работа. Такая думка няправільна і нават яўна шкодная. Правільнае размеркаванне даходаў у калгасах мае глыбокі палітычны змест. На гэтым участку, як нідзе, у вострай форме праяўляюцца нязжытыя яшчэ дробнаўласніцкія тэндэнцыі працягнуць пад рознымі выглядамі кулацкую ўраўнілаўку. Кулацкія агенты—лодыр, прагульшчык і рвач—усімі сіламі імкнуцца сарваць размеркаванне даходаў, агітуючы супроць павышэння і паніжэння да 20 проц. працадзён брыгадам, у залежнасці ад якасці іх работы. Яны агітуюць за стварэнне раздутых грамадскіх фондаў натурай, каб к вясне размеркаваць гэтыя фонды па душах і ўрваць для сябе як найбольш, не працуючы. Кулацкія элементы сям-там знаходзяць яшчэ спрыяючую глебу для сваёй шкодніцкай разлагаючай работы, накіраванай супроць пераможнага калгаснага будаўніцтва.

Пры размеркаванні даходаў ярка адлюстроўваюцца такія важнейшыя моманты дзейнасці калгаса, як своечасовае і поўнае выкананне калгасам сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай у здачы па плану сельска-гаспадарчай прадукцыі; павелічэнне ўраджайнасці палёў і прадукцыйнасці жывёлагадоўлі на аснове прадугледжаных планам агра- і зоамерапрыемстваў; арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгаса, памылкі і недахопы кіраўніцтва; працоўны ўдзел кожнага паасобнага калгасніка ў рабоце і наколькі поўна і правільна выкарыстоўваў калгас усе працоўныя рэсурсы людской і коннай цягавай сілы.

На гэтыя пытанні размеркаванне даходаў дае зусім ясны адказ. Гэты адказ, як бачым, мае глыбокі палітычна-гаспадарчы змест і вызначае далейшыя адносіны калгаснікаў да свайго калгаса, погляд аднаасобніка на калгасную гаспадарку, работа якой праходзіла перад яго вачыма. Вось чаму ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі абавязаны забяспечыць кіраўніцтва гэтай важнейшай кампаніяй. Роля кожнага паасобнага комуніста, асабліва працуючага на вёсцы, роля комсамольца, члена сельсовета і актывіста ў кіраўніцтве размеркаваннем даходаў надзвычай вялікая і адказная.

Пры размеркаванні даходаў павінны быць улічаны памылкі і скажэнні, якія мелі месца ў радзе калгасаў Дзержынскага, Быхаўскага і іншых раёнаў. Гэтыя памылкі і скажэнні ў асноўным зводзіліся к таму, што насенныя і фуражныя фонды былі значна зменшаны су-

процьъ вызначанай пасеўплошчы, зніжан працант адлічэнняў у непадзельныя фонды, раздуты працадні, асабліва адміністрацыйна-кіруючаму складу, не праводзілася зніжэнне працадзён дрэнна працаваўшым і павышэнне добра працаваўшым брыгадам, якія поўнасцю выканалі свае планы і дабіліся высокіх ураджаяў на сваіх вытворчых участках, таксама недапушчальна зацягвалася выдача на рукі калгаснікам прадуктаў, якія належалі ім па размеркаванню. Усе гэтыя пытанні і скажэнні адмоўна ўплываюць на ўмацаванне калгасаў, на адносіны калгаснікаў да працы.

Да размеркавання даходаў могуць неадкладна прыступіць тыя калгасы, якія выканалі гадавыя планы пастаўак хлеба і бульбы, унеслі натураплату за работу МТС, вярнулі насенную і харчовую пазыкі, засыпалі насенныя, страхавыя і фуражныя фонды і вызначылі хлебныя фонды для прадажы дзяржаве.

У гэтым годзе былі ўсе ўмовы для таго, каб, выканаўшы зернапастаўкі, поўнасцю закончыць абмалот і хутчэй засыпаць насенныя і фуражныя фонды. Аднак гэта работа многімі калгасамі яшчэ не закончана, што затрымлівае размеркаванне даходаў. Паводле даных на 10 снежня, насенныя і страхавыя фонды ў калгасах далёка не поўнасцю засыпаны. Некаторыя раёны недапушчальна зацягнулі засыпку насенных і страхавых фондаў. Напрыклад, Хойніцкі раён план засыпкі насенфондаў выканаў толькі на 70,1 проц., Клічаўскі—на 59,5 проц., Талачынскі—на 77,1 проц. і т. д.

Зусім недапушчальна зацягнулі размеркаванне даходаў нават такія раёны, як Слуцкі, Менскі, Оршанскі, Сенненскі, якія ўжо поўнасцю выканалі свае абавязкі перад дзяржавай, засыпалі насенне, страхавыя і фуражныя фонды.

Усякая затрымка ў размеркаванні даходаў шкодна адбіваецца на арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў, на далейшай калектывізацыі. Партыйныя арганізацыі адказваюць за размеркаванне даходаў так сама, як і за выкананне зернапаставак і стварэнне насенных і кармавых фондаў. Раённыя партыйныя і сельсовецкія арганізацыі павінны канкрэтна дапамагчы кожнаму калгасу ў гэтай важнейшай і адказнейшай рабоце.

Правільнае складанне самога плана размеркавання—справа вялікая і адказная. У мінулым годзе, ды і сёлета часам ёсць выпадкі, калі планы складаюцца няправільна. Бывае, што за агульнымі лічбамі ў плане размеркавання даходаў скрыта шкодніцкая палітыка нявыкрытага, нявыгнанага яшчэ з калгаса кулака ці яго агента, які часам займае пасаду рахункавода або старшыні калгаса. У радзе месц выяўлены факты, калі ў фуражныя фонды не вылучылі зярна, зменшалі насенныя фонды, каб пабольш размеркаваць на працадні. Або складалі празмерна раздутыя фуражныя балансы, жадаючы гэтым паказаць, што ў калгасе нямнога застаецца для размеркавання, а таму немагчыма вызначыць хлебны фонд для прадажы дзяржаве. У сапраўднасці-ж гэта зярно меркавалі пад весну падзяліць між калгаснікамі.

Усе работнікі месц, асабліва-ж дырэктары МТС і загадчыкі райза, на якіх ускладзена непасрэдна кіраўніцтва, праверка і зацвярджанне планаў размеркавання, павінны ўважліва правяраць у планах кожную лічбу, каб яна адлюстроўвала палітыку нашай партыі, выражаную ў адпаведных пастановах па размеркаванню даходаў у калгасах. Дырэктары МТС і загадчыкі райза ні ў якім разе не павінны перадавяраць гэту работу тэхнічным работнікам свайго апарата.

Высокі ўраджай гэтага года тлумачыцца ў значнай меры тым, што многія калгасы, навучаныя мінулым горкім вопытам, удзялілі шмат увагі падрыхтоўцы насеннага матар'ялу. Пры размеркаванні даходаў гэта пытанне трэба асабліва завастрыць. Выходзячы з норм высеву, устаноўленых Наркамземам БССР, патрэбна адсыпаць насенны фонд па кожнай культуры. У выпадку недахопу або адсутнасці той ці іншай культуры, фонды павінны быць засыпаны за кошт іншых культур, якія калгас зможа абмяняць з другім калгасам на патрэбнае насенне. Паколькі планы пасеўных плошчаў на 1935 год да калгасаў яшчэ не даведзены, то, каб не затрымліваць засыпкі насенфондаў і размеркавання даходаў, да зацверджання іх трэба выходзіць з планаў сяўбы мінулага года, улічваючы безумоўна і плошчу, атрыманую з прыліваў новых калгаснікаў, а таксама і надбаўку 5-10 процантаў да нормы, устаноўленай НКЗ БССР, на магчымае павелічэнне плана сяўбы яравых у 1935 г. Каб быць застрахаваным на ўсякі выпадак, кожны калгас павінен абавязкова засыпаць страхавыя насенныя фонды ў размеры 10-15 проц. к насенфонду ў залежнасці ад эканамічнага становішча: мацнейшы калгас засыпае 15 проц., слабейшы—10 проц., страхфонд бульбы засыпаецца ў размеры 20 проц. к насенфонду.

Добраякаснае зярно значна павышае ўраджай. Насенныя фонды засыпаюцца адборным, адсартаваным на сартыроўцы і трыеры, нармальнай вільготнасці зярном.

За захаванне насенных фондаў павінны адказваць спецыяльна вылучаныя для гэтага людзі, якім зярно здаецца пад распіску па акту, дзе ўказваецца колькасць, сортнасць і якасць засыпанага зярна. Насенныя фонды неабходна захаваць ад кляшчоў, грызуноў і іншых шкоднікаў, бо сеяць недагледжаным пашкоджаным насеннем гэта значыць дапусціць не толькі страты ўраджаю, але і вялікае злачынства.

З практыкі мы ведаем, што рука класавага ворага—кулака—часта накіроўваецца к калгаснаму свірну, каб абакрасці ці спаліць яго і тым пазбавіць калгас асноўнай базы, падарваць яго магутнасць, унесці ў рады калгаснікаў замяшанне. Для вартавання свірнаў з насеннымі фондамі трэба выдзеліць надзейных і працаздольных калгаснікаў, дэталёва праінструктаваць іх, указаць абавязкі і безумоўна арганізаваць кантроль і праверку іх работы.

Пры засыпцы фондаў кіраўнікі некалькіх калгасаў Чэрвеньскага раёна змяншалі нормы высеву, каб потым больш пусціць у размеркаванне, таксама не засыпалі ўстаноўленых страхавых фондаў. Такія па сутнасці кулацкія тэндэнцыі павінны атрымаць рашучы адпор.

Увосень гэтага году быў значны прыліў у калгасы беднякоў і серадНякоў аднаасобнікаў. Прыліў гэты прадаўжаецца. Згодна статуту, кожны аднаасобнік, пры ўступленні ў калгас, павінен абагуліць сваё насенне ў насенныя і страхавыя фонды, выходзячы з плошчы зямлі, якою ён карыстаўся і якая з яго ўступленнем перадаецца ў калгас. Што-ж мы бачым на справе? Работнікі Быхаўскага, Рэчыцкага і іншых раёнаў, захопленыя поспехамі калектывізацыі, няўважліва падышлі да засыпкі новаўступаючымі насенных і страхавых фондаў.

Вядома, што раз насенне не абагулена, то ні аб якім замацаванні калгаснага прыліву не можа быць і гутаркі, прычым ствараецца нават пагроза аслаблення тых калгасаў, якія маюць значны прыліў. Каб замацаваць прыліў і забяспечыць засеў яравога кліна, неабходна

правесці вялікую работу па абагульванню насення новаўступаючых ў калгас.

Развіццё жывёлагадоўлі—важнейшая чарговая задача, пастаўленая партыяй. Да яе вырашэння павінна быць прыкавана ўся ўвага як цэнтральных, так і мясцовых работнікаў. Прычым, трэба памятаць пра асноўнае—кармавую базу. Пры размеркаванні даходаў з усёй уважлівасцю і сур'ёзнасцю трэба падыйсці да складання кармавых фондаў. Размеры фуражных фондаў у кожным калгасе павінны забяспечыць поўную гадавую патрэбнасць абагуленай рабочай і прадукцыйнай жывёлы, прычым трэба кіравацца арыентыровачнымі нормамі Наркамзема БССР, выходзячы безумоўна з наяўнасці кармоў у калгасе. Нормы ўстанаўляюцца загадчыкам райза, або дырэктарам МТС па кожнаму паасобнаму калгасу.

Рашучую барацьбу трэба весці і з практыкай механічнага падыходу да складання фуражнага фонду, як гэта было ў калгасах Кармянскага і іншых раёнаў, дзе зоатэхнікі райза вызначалі ў фуражныя фонды нават такія кармы, якіх у калгасе зусім не было. Пры складанні фуражных фондаў асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць засыпцы канцэнтратаў. Згодна пастанове Наркамзема БССР, калгасы сёлета абавязаны, акрамя засыпкі патрэбнай колькасці зярна ў фуражны фонд, выдзеліць дадаткова па аднаму цэнтнеру зярна на кожную жаробную матку для падкормкі ў падсосны перыяд. Гэта мерапрыемства накіравана на развіццё конегадоўлі і павінна ва ўсіх калгасах практычна праводзіцца ў жыццё.

Асаблівай увагі патрабуе стварэнне фуражных фондаў у новаарганізаваных калгасах. Ёсць рад фактаў (Быхаў, Рэчыца, Карма), калі калгаснікі новаарганізаваных калгасаў і новага прыліву ўносяць зусім недастатковую колькасць аб'ёмістых і канцэнтраваных кармоў для імі-ж абагуленых коней.

Перад кожным новым калгаснікам трэба рашуча ставіць пытанне аб поўным забяспечанні абагуленай ім конскай цягавай сілы як аб'ёмістымі, так і канцэнтраванымі кармамі, у праціўным выпадку, з-за недахопу кармоў, можа сарвацца своечасовая сяўба і ў самы рабочы час выбыць са строю конскае пагалоўе.

Для ажыццяўлення лозунга правадыра партыі т. Сталіна аб заможнасці калгаснікаў максімум увагі трэба звярнуць на развіццё жывёлагадоўлі саміх калгаснікаў, асабліва ўлічыўшы гэта пры размеркаванні даходаў. Пасля разліку з дзяржавай па планах паставак і засыпкі насенных і фуражных фондаў для абагуленай жывёлы трэба ўсе астатнія кармы размеркаваць па працаднях, прычым паміж тымі калгаснікамі, якія маюць жывёлу ці набываюць яе. Калгаснікам, якія не маюць і не набываюць жывёлы, кармы, вядомая рэч, выдавацца не могуць, і замест іх выдаюцца іншыя прадукты адпаведна кошту: малако, гародніна і бульба. Кармы, як і ўсе іншыя прадукты, павінны без усякай зацяжкі выдавацца калгаснікам па вазе і пад распіску.

Да складання планаў размеркавання павінны быць прыцягнуты шырокія калгасныя масы, каб унікнуць памылак і няправільнасцей у гэтай рабоце. Перад размеркаваннем даходаў неабходна арганізаваць узаемаправерку брыгад—як выканалі яны свае гадавыя заданні, арганізаваць матар'яльна-фінансавую праверку калгаса, правільнасці налічэння працадзён калгаснікам.

Да гэтай работы трэба прыцягнуць рэвізійныя камісіі калгасаў з групамі садзейнічання. Іх роля ў гэтай справе надзвычай адказная.

Матар'ялы з месц сведчаць аб тым, што рэўкамісіі калгасаў пры праверцы планаў размеркавання выявілі рад такіх фактаў, калі, скажам, старшыня калгаса або брыгадзір разбазарвалі працадні, запісваючы іх сваякам і родзічам, а то проста за гарэлку, і інш.

Неабходна мець на ўвазе, што шлях для ажыцяўлення лозунга партыі аб большэвіцкіх калгасах ляжыць і праз умацаванне вытворчай калгаснай брыгады. Правільнае размеркаванне даходаў па працаднях ў адпаведнасці з якасцю работы кожнага калгасніка—важнейшы сродак умацавання брыгады. Таму неабходна праводзіць у жыццё пастановы партыі і ўрада аб павышэнні і паніжэнні працадзён брыгадам у межах да 20 проц. Тым брыгадам, якія паспяхова правялі гаспадарчую кампанію, дабіліся ўраджаю вышэй сярэдняга па калгасу, патрэбна пры размеркаванні даходаў дадаткова налічваць працадні ў размеры да 20 проц. ад усёй колькасці імі выпрацаваных, за лік адначасовага зніжэння ў тых-жа размерах брыгадам, даўшым горшыя паказчыкі, і атрымаўшым са сваіх вытворчых участкаў ураджай ніжэй сярэдняга па калгасу. Цэлы рад калгасаў Дубровенскага раёна ігнаруе гэта ўказанне, накіраванае на ўмацаванне калгаснай брыгады і павышэнне прадукцыйнасці працы. Калгасы «Ударнік», імя Кагановіча, «Новае жыццё» і інш. дрэнна рыхтуюцца да веснавой сяўбы, брыгады рассыпаліся, брыгадзіры засталіся без справы. Зусім іншы малюнак мы бачым у калгасах «Першая конная», «Новы быт» і інш. Менскага раёна, якія пры размеркаванні даходаў кіраваліся ўказаннем аб павышэнні і паніжэнні працадзён брыгадам. Брыгады яшчэ больш умацаваліся і вядуць сапраўды большэвіцкую барацьбу за лепшую падрыхтоўку да вясны, каб забяспечыць яшчэ большы ўраджай і павысіць гэтым поўнацэннасць працадня.

Дыферэнцыяваная ацэнка работы брыгад сустракае вялікае супраціўленне класава-варожых і гультайскіх элементаў. Кулацкія агенты—лодыр, рвач, прагульшчык—стараюцца пад лозунгам роўнасці працягнуць ураўнілаўку пры размеркаванні, сарваць узмацненне брыгады, умацаванне калгаснай гаспадаркі. Усім такім кулацкім спробам трэба даваць рашучы адпор.

Правільнае размеркаванне даходаў з павышэннем і паніжэннем працадня брыгадзе—магутны сродак для таго, каб поўнасцю знішчыць лодырніцтва ў калгасах, павысіць прадукцыйнасць працы, умацаваць працоўную дысцыпліну, а гэта значыць умацаваць калгасы, развіць іх вытворчасць, узняць ураджайнасць калгасных палёў, павысіць прадукцыйнасць калгаснай жывёлагадоўлі і, само сабою зразумела, палепшыць добрабыт калгаснікаў за іх чэсную працу.

Таксама трэба памятаць аб тым, што паасобныя кіраўнікі калгасаў, пад уплывам рвацка-гультайскіх элементаў, а то і разам з імі, могуць пайсці на разбазарванне працадзён. Такая шкодніцкая практыка ідзе, як выяўлена, па шляху зніжэння норм выпрацоўкі і павышэння расцэнак па паасобных відах работ, налічэння вялікай колькасці працадзён адміністрацыйна-кіруючаму персаналу калгаса, а таксама калгаснікам за выкананне імі грамадскіх абавязкаў у калгасе ці сельсовеце, а то і проста незаконны запіс працадзён сваякам і іншым калгаснікам за гарэлку. Рэвізійныя камісіі калгасаў, райза і МТС павінны быць асабліва ўважлівы, каб адразу-ж выяўляць усякія спробы і імкненні разбазарвання і абясцэньвання працадзён і самым рашучым чынам іх перасякаць. На барацьбу за поўнацэнны працадзень, за чэсную працу павінна быць узнята ўся калгасная маса.

Рашаючае значэнне ў размеркаванні даходаў мае своечасовая і поўная выдача на рукі ўсім калгаснікам прадукцыі і грошай, якія належаць ім па плану. У мінулым годзе паасобныя калгасы правялі размеркаванне як быццам і своечасова, а разлічваліся з калгаснікамі на працягу ўсяго года, частка-ж і па сёння не разлічылася. Некаторыя кіраўнікі калгасаў, і нават раённых устаноў, лічаць, што іх работа заканчваецца на складанні самога плана размеркавання, і часта выходзіць так, што калгасніку прыходзіцца многа хадзіць, каб выпрасіць падводу для перавозкі прадуктаў, а атрымаўшы падводу, шукаць кладаўшчыка, каб той выдаў прадукты са свірна. Такая практыка часта прыводзіць да здзекаў над паасобнымі калгаснікамі, і з ёю трэба рашуча пакончыць. Выдача на рукі калгаснікам прадуктаў вянчае самое размеркаванне даходаў і павінна быць ператворана ў калгаснае свята, каб кожны калгаснік адчуваў яго.

Размеркаванне калгасных даходаў—магутны рычаг забяспечання далейшага прыліву. На агульныя сходы калгаснікаў, прысвечаныя размеркаванню даходаў, неабходна запрашаць суседзяў аднаасобнікаў, каб на выніках гаспадарчага года, на росце даходнасці калгаса яны пераканаліся ў перавазе калгаснага ладу.

Правільнае размеркаванне павінна забяспечыць яшчэ большае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў. Усёй калгаснай масе трэба растлумачыць, што добры ўраджай і яшчэ большыя даходы ў 1935 г. можна атрымаць за сваю працу толькі тады, калі калгас добра падрыхтуецца к веснавой сяўбе. Адсюль задача—захаваць у добрым выглядзе патрэбнае для пасеву насенне, адрамантаваць увесь інвентар, падрыхтаваць каня і правесці ўсе работы, звязаныя з веснавой сяўбою. Вынікі чэснай працы калгаснікаў, якія будуць выяўлены сёлета пры размеркаванні калгасных даходаў, яшчэ раз дакажуць усяму працоўнаму сялянству перавагі калгаснага ладу, яшчэ больш узмоцняць і ўзброяць усіх калгаснікаў на барацьбу за выкананне задач партыі і яе любімага правадыра т. Сталіна—задач пабудовы соцыялістычнага бяскласавага грамадства, ператварэння ўсіх калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможных.

Для ажыццяўлення гэтых задач патрэбна ўзмоцненая рэволюцыйная класавая пільнасць і бязлітасная барацьба з рэшткамі капіталістычных класаў і іх агентурай, якія ў шалёнай ненавісці к комуністычнай партыі і совецкай уладзе, не грэбаючы ніякімі сродкамі, імкнуцца затармазіць пераможны ход соцыялістычнага будаўніцтва.

Забойства з-за вугла падонкамі былой зіноўеўскай апазіцыі аднаго з лепшых кіраўнікоў комуністычнай партыі—тав. Кірава, выкрытыя і асуджаныя пролетарскім судом падпольныя контррэволюцыйна-тэрарыстычныя цэнтры, створаныя рэшткамі былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі ў Ленінградзе і Маскве на чале з Зіноўевым, Каменевым, Еўдакімавым і інш.; контррэволюцыйныя, антыпартыйныя вылазкі трацкістаў у радзе арганізацый БССР (Галендо, Фліора, Разумоўскага, Паўлюкевіча, Рудага і інш.) — усё гэта сведчыць аб абвастрэнні класавай барацьбы, аб шалёным супраціўленні адміраючых рэштак капіталістычных класаў.

Абавязак усіх партыйных, совецкіх арганізацый і ўсіх працоўных—яшчэ больш узмацніць рэволюцыйную пільнасць, яшчэ цясней згуртовацца вакол ленінскай партыі, вакол любімага правадыра ўсіх працоўных—т. **Сталіна**.

Ікар

# Аб Усходнім пакце

1934 год з'явіўся сёмым годам развіцця сусветнага эканамічнага крызіса і другім годам дэпрэсіі. Калі ў 1932—33 г. у развіцці сусветнага крызіса наступіў пералом к дэпрэсіі, буржуазны свет уздыхнуў з палёгкай. Вучоныя эканамісты ўжо спяшаліся паведаміць свету аб наступленні новай паласы росквіту. Мінулы год бязлітасна разбіў гэтыя надзеі. 1934 год паказаў, як праў быў тав. Сталін, гаворачы ў сваім дакладзе на XVII партыйным з'ездзе, што сучасная дэпрэсія прадстаўляе сабою дэпрэсію асобага роду, не адкрываючую ніякіх перспектыў сапраўднага ўздыму.

У паасобных краінах манапалістычнаму капіталу ўдалося шляхам самай рашучай палітыкі зніжэння зарплаты, зніжэння цэн на сельска-гаспадарчыя прадукты, аграблення сялянскіх мас і каланіяльных народаў і раду іншых фактараў дабіцца некаторага ажыўлення ў прамысловасці. Ліхаманкава разгортваючы ваенную прамысловасць, імперыялістычныя ўрады Германіі і Японіі здолелі таксама некалькі аднавіць становішча галін вытворчасці, звязаных з ваеннай прамысловасцю. Германскія і японскія фашысты трымаюць стаўку на імперыялістычную вайну; падрыхтоўка вайны і характарызуе асноўную мэтавую ўстаноўку гэтых краін.

Пры ўсім гэтым становішча сусветнай капіталістычнай гаспадаркі характарызуецца тым, што к канцу 1934 г. індэкс сусветнай прамысловай прадукцыі дасягнуў толькі 70 проц. дакрызіснага 1928 г. (1928 г.=100).

А па такіх рашаючых галінах вытворчасці, як чыгун, сталь і па здабычы вугалю капіталістычная гаспадарка не дасягнула нават узроўню 50 проц. (1928 г.=100). Сусветны знешні гандаль к пачатку 1935 г. стаіць на ўзроўні 37 проц. (1928 г.=100). Беспрацоўе ва ўсім капіталістычным свеце вылічаецца дзесяткамі мільёнаў. У Англіі беспрацоўных 2 млн., у Германіі, па афіцыяльных даных, колькасць беспрацоўных складае 3 млн., у Польшчы—звыш 1 мільёна, ва Францыі 400 тысяч чалавек, у Японіі—400 тыс. чалавек, у ЗША—12 млн.

Крызіс з'яўляецца асновай, якая вызначае далейшае паглыбленне капіталістычных супярэчнасцей. Свет перажывае зараз становішча, якое надзвычай напамінае абстаноўку 1914 года, напярэдадні імперыялістычнай вайны.

У Еўропе і на Далёкім Усходзе адкрыта выступаюць сілы, якія заклікаюць к новаму перадзелу свету, знішчэнню цяпер існуючых граніц, устанаўленню новых граніц, перакройцы карты зямнога шара.

На Далёкім Усходзе, у Японіі, выступаюць авантурыстычныя клікі імперыялістаў, якія дамагаюцца захвату Владзівастока, савецкага

Сахаліна, совецкай Камчаткі і ўсёй сібірскай тэрыторыі да Байкальскага возера.

Германскі фашызм змагаецца за пашырэнне граніц «Трэцяй імперыі» за кошт тэрыторыі іншых дзяржаў. Будучыя граніцы «Трэцяй імперыі» рысуюцца ў планах германскіх фашыстаў адсунутымі на захад і на ўсход, далёка ад цяперашніх германскіх пагранічных слупоў. Германскі фашызм дабіваецца паглынання Аўстрыі з тым, каб у далейшым захапіць і адышоўшую к Італіі пасля Версальскага дагавора частку паўднёвага Тіроля, захвату Данцыгскага калідора і Верхняй Сілезіі, расчлянення Чэхаславакіі і Румыніі, звароту назад адышоўшай пасля Версальскага мірнага дагавора к Францыі Эльзас-Латарынгіі. Асабліва месца ў планах германскага фашызма займаюць мяжуючыя з СССР дзяржавы, распаложаныя на беразе Балтыйскага мора—Латвія і Эстонія, а таксама Фінляндыя. Значны інтарэс для фашысцкіх захватнікаў прадстаўляе Літва і асабліва яе Мемельская правінцыя.

Але ўсім гэтым апетыты фашысцкай Германіі не вычэрпваюцца. Германскі імперыялізм меціць перш за ўсё на землі, якія ўваходзяць у склад СССР. У сваёй вядомай кнізе «Мая барацьба» правадыр фашысцкай Германіі Адольф Гітлер піша:

> «Мы—нацыянал-соцыялісты, зусім свядома ставім крыж на ўсёй нямецка-замежнай палітыцы даваеннага часу; мы хочам вярнуцца к таму пункту, на якім перарвалася наша старое развіццё 600 гадоў таму назад; мы хочам прыпыніць адвечнае імкненне на поўдзень і на захад Еўропы і акрэслена ўказваем пальцам у бок тэрыторый, распаложаных на Ўсходзе. Мы канчаткова рвем з каланіяльнай і гандлёвай палітыкай даваеннага часу і свядома пераходзім да палітыкі заваёў новых зямель у Еўропе. Калі мы гаворым аб заваёве новых зямель, мы, вядома, можам меціць на ўвазе ў першую чаргу толькі Расію і тыя ўскраінныя дзяржавы, якія ёй падпарадкаваны».

У 1933 годзе на міжнароднай канферэнцыі прадстаўнікоў усяго капіталістычнага свету, сабраўшыхся ў Лондане для абгаварэння праблем, звязаных з сусветным эканамічным крызісам, прадстаўнік германскага ўрада адкрыта выступіў з запатрабаваннем прадаставіць Германіі права для вольнай эксплаатацыі зямель, якія распаложаны на Ўсходзе Еўропы і знаходзяцца ў СССР. Пасля гэтага кіраўнікі германскага фашызма многа раз зварочваліся да ўлюбёнай сваёй тэмы, барацьбы з СССР. Гітлер, Герынг, Геббельс, пры ўсякім зручным і нязручным выпадку заклікаюць увесь капіталістычны свет падтрымаць фашысцкую Германію ў барацьбе супроць сусветнага комунізма. Яны гатовы паабяцаць Францыі, Англіі і іншым капіталістычным дзяржавам многія і ўсялякія ўступкі, абы толькі схіліць гэтыя дзяржавы на падтрымку германскіх узбраенняў, неабходных ім для сакрушэння ачага сусветнага комунізма. Фашысцкая Германія гатова падтрымаць любую авантурыстычную групу імперыялістаў, гатовую к нападу на СССР. Ваенныя падрыхтаванні японскага імперыялізма выклікаюць у Германіі велізарнейшую сімпатыю.

Але задачы, якія паставіў сабе германскі фашызм, занадта ўжо шырокія, каб іх можна было так лёгка вырашыць. Ваенная небяспека з боку Германіі вісіць над галавою і балтыйскіх дзяржаў і дзяржаў цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй Еўропы. Вайна глядзіць у твар Францыі.

У лістападзе 1933 г. Германія пакінула Лігу нацый і канферэнцыю па разбраенню. Адначасова Германія пачала дзікую гонку ўзбраенняў. Хоць Версальскі мірны дагавор забараняе Германіі вытворчасць ваеннага знаражэння, гармат, танкаў, ваенных самалётаў, германская ваенная прамысловасць у апошнія месяцы працуе да адказу. На дапамогу раней створаным пабудаваны новыя авіяцыйныя заводы. Цэлы рад прадпрыемстваў, якія выконвалі абсталяванне, прызначанае для абслугоўвання мірных запатрабаванняў прамысловасці, перашлі к выключнай вытворчасці цяжкай артылерыі, танкаў і іншых відаў узбраення. Перад фактам гэтага росту з боку Германіі ваеннай пагрозы і зразумелы інтарэс, які праяўляюць рад дзяржаў у Заходняй Еўропе, а таксама СССР у адносінах да Усходняга пакта.

У барацьбе за мір Совецкая дзяржава за 17 год свайго існавання заключыла са сваімі суседзямі, капіталістычнымі краінамі, на Захадзе і на блізкім Усходзе рад дагавароў або пактаў аб ненападзе. Такія дагавары СССР падпісаў з Фінляндыяй, Эстоніяй, Латвіяй, Польшчай, Турцыяй, Персіяй, Афганістанам, з Францыяй, Германіяй, Італіяй.

У дагаварах аб ненападзе знашла сваё выражэнне мірная палітыка СССР, якая выходзіла з факта суіснавання двух сістэм: соцыялістычнай і капіталістычнай. Кожны новы пакт аб ненападзе, заключаны Совецкай дзяржавай, з'яўляўся пацверджаннем росту магутнасці СССР, прызнаваемым капіталістычнымі краінамі, вымушанымі пад уплывам эканамічных поспехаў Совецкага саюза і росту яго абароннай магутнасці нармалізаваць свае адносіны з Рэспублікай, будуючай соцыялізм.

Побач з заключэннем паміж СССР і капіталістычнымі дзяржавамі цэлага раду дагавароў аб ненападзе, буйнейшай падзеяй міжнароднага жыцця ў 1934 г. з'явілася ўступленне СССР у Лігу нацый.

З моманту выхаду з Лігі нацый Японіі і Германіі—найбольш агрэсіўных старроннікаў новага перадзелу свету шляхам вайны—у Лізе нацый атрымалі перавагу тыя сілы капіталістычных дзяржаў, якія ў сучасны перыяд не жадаюць распачынаць вайны. Тым самым Ліга нацый стала некаторым «бугарком» на шляху развязвання вайны. Самы факт запрашэння СССР у Лігу нацый і працэдура ўступлення з'ўляліся нагляднай дэманстрацыяй перад тварам усяго свету, перад усімі працоўнымі ўзросшай магутнасці і каласальнага аўтарытэта СССР, як барацьбіта за мір.

СССР, уступіўшы ў Лігу нацый, адразу-ж высунуў пытанне аб больш эфектыўнай барацьбе за мір. Тав. Літвінаў на тым-жа паседжанні асамблеі Лігі нацый, на якім афармлялася працэдура ўступлення СССР, у сваёй прамове ўказаў:

> «...Перад намі цяпер стаіць задача папярэдзіць вайну больш эфектыўнымі сродкамі..., патрабуюцца больш істотныя гарантыі безапаснасці, чым дэкларацыі, рэзалюцыі і т. д.».

Высунуты праект Усходняга пакта па ініцыятыве СССР і Францыі з'ўляецца адным з мерапрыемстваў больш эфектыўнай барацьбы супроць ваеннай небяспекі, аб якім гаварыў т. Літвінаў.

Усходні пакт, паводле ідэі яго ініцыятараў, павінен ахапіць СССР, балтыйскія дзяржавы, Польшчу, Чэхаславакію, Германію і Францыю. Усе гэтыя дзяржавы, у інтарэсах лепшай барацьбы за захаванне міру, павінны даць абавязацельствы індывідуальна і ўзаемна захоўваць недатыкальнасць зараз існуючых граніц. Усе яны

павінны выступіць супроць усякага парушальніка міру, ці то будзе ўдзельнік пакта ці не. Усходнім пактам прадугледжваецца дапамога з боку ўсіх удзельнікаў пакта дзяржаве, якая падвергнецца ваеннаму нападу. Пры гэтым Францыя, згодна праекту Ўсходняга пакта, павінна гарантаваць недатыкальнасць заходніх граніц СССР, а Совецкі саюз, з свайго боку, далучаецца да Лакарнскага дагавора 1925 года і разам з Англіяй і Італіяй гарантуе сучасныя граніцы паміж Францыяй і Германіяй.

Усходні пакт не мае на ўвазе заключэнне ваеннага саюза адных дзяржаў, накіраванага супроць якой-небудзь другой дзяржавы. Усходні пакт разлічан на ўдзел у ім Германіі на агульных падставах з іншымі дзяржавамі, зацікаўленымі ў гэтым пакце. Таму ніяк нельга разглядаць Усходні пакт, як накіраваны супроць Германіі. Пакт хоча толькі папярэдзіць ваенную небяспеку як з боку Германіі, так і з любога іншага боку ў Еўропе, адкуль-бы гэтая небяспека ні пагражала.

Адносіны паасобных дзяржаў к пакту Ўсходняй Еўропы дазваляюць даканала меркаваць аб сапраўдных планах і намерах гэтых дзяржаў. Балтыйскія дзяржавы—Літва, Эстонія, Латвія,—заявілі аб сваіх спрыяльных адносінах да ідэі пакта. Гэтыя дзяржавы ўжо заключылі паміж сабою так званы «Балтыйскі пакт», яднаючы іх у пытаннях знешняй палітыкі. Гарантыя дзяржаўнай незалежнасці краін, распаложаных на беразе Балтыйскага мора, з боку такой дзяржавы як СССР, з'яўляецца велізарнейшым фактарам умацавання самастойнасці гэтых дзяржаў і, натуральна, павінна сустрэць з іх боку самае гарачае падтрыманне.

Поўнасцю падтрымлівае таксама праект Усходняга пакта Чэхаславакія, якая аддае сабе адказ у нетрываласці міру і хоча з дапамогаю такога пакта ўмацаваць мірнае становішча ў Еўропе.

Адмаўляюцца да гэтага часу ад далучэння к пакту Германія і Польшча.

Фашысцкая Германія заяўляе, што не бачыць для сябе асобай выгады ад далучэння к пакту. Яна, моў, не адчувае патрэбы ні ў гарантыі СССР яе граніц на захадзе, ні ў гарантыі Францыі яе граніц на ўсходзе. Германскі фашызм пярэчыць супроць шматбаковых дагавароў, аддаючы перавагу двухбаковым. Як быццам фашысцкай Германіі не зразумелы перавагі шматбаковага пакта, якія заключаюцца ў калектыўным выступленні ўсіх удзельнікаў такога дагавора за кожны бок, які прымкнуў да яго і падвергся нападу.

Але быць можа іменна таму, што фашысцкая Германія добра разумее перавагі шматбаковага пакта, яна так рашуча супроць яго выступае. Замест Усходняга пакта фашысцкая Германія прапануе Францыі заключыць ваенны саюз двух. Германскія фашысты гатовы прадаставіць месца ў гэтым саюзе таксама і Польшчы. Лёгка зразумець, якія мэты можа праследваць падобная камбінацыя. Антысовецкае астрыё занадта ясна выступае ўперад, каб трэба было яго раз'ясняць. Не цяжка бачыць таксама, што праекты германска-французскага зговару, высунутыя ў процівагу Ўсходняму пакту, прадстаўляюць лоўкі манеўр гітлераўскай Германіі, якая спрабуе адарваць Францыю ад СССР з тым, каб узмацніць становішча Германіі перад тварам ізаляванай Францыі.

У сваіх адозвах да французаў Гітлер і іншыя правадыры германскага фашызма заяўляюць, што пасля вырашэння Саарскага пытання, паміж Францыяй і Германіяй не застаецца ніякіх спрэчных праблем,

якія перашкодзілі-б гэтым абодвум дзяржавам аб'яднацца адна з другою. Гітлер просіць французаў паверыць, што тое, аб чым ён пісаў у сваёй кнізе «Мая барацьба», было напісана ім у 1924 г., калі ён быў абураны акупацыяй Рура французскімі войскамі. Ён гаворыць, што Германіі не патрэбны ніякія заваевы за кошт Францыі і тут-жа дадае, што інакш пытанне ставіцца на Ўсходзе. Ад заваёў на Ўсходзе ён і цяпер адмаўляецца не жадае.

Ці пойдуць палітычныя дзеячы буржуазнай Францыі насустрач гэтым адозвам Гітлера і ці будуць злоўлены на гэту вудачку? Французская буржуазія мае надта вялікі ўрок перагавораў з фашысцкай Германіяй, каб даць сябе так лёгка ашукаць. Калі-б германскі фашызм сапраўды шчыра дабіваўся міру з Францыяй, дык якія прычыны прымушалі-б яго так ліхаманкава ўзбройвацца? Калі-б фашысцкая Германія шчыра жадала міру з Францыяй, дык чаму яна так упарта адвяргае праект Усходняга пакта, які забяспечвае калектыўную гарантыю граніц і Францыі і Германіі?

Дальнавідная французская буржуазія не можа не бачыць сапраўднага сэнсу германскіх манеўраў. Французская рэспубліка, адарваная ад свайго саюзніка ў Цэнтральнай Еўропе, ад Чэхаславакіі і адарваная ад СССР, падвяргаецца смяротнай рызыцы быць атакаванай і разгромленай ваяўнічай фашысцкай Германіяй. Вось з чым прыходзіцца лічыцца нават самым кансерватыўным колам французскай буржуазіі.

Праўда, французскі фашызм у асобе розных арганізацый былых франтавікоў гатоў згаварыцца з германскім фашызмам. Французскія франтавікі зачасцілі ў госці да германскіх фашыстаў. З абодвух бакоў фашысты абменьваюцца прыемнай ласкавасцю, але калі і тых і другіх яднае агульная ненавісць к комунізму, дык іх раздзяляе непрымірымая супярэчнасць, выцякаючая з барацьбы гітлераўскай Германіі супроць Версальскага дагавора за новы перадзел свету, які аслабіў-бы становішча французскай рэспублікі, як вялікай дзяржавы. Вось чаму французскі друк не скрывае свайго погляду супроць заігрыванняў Гітлера і выкрывае яго заднія думкі.

У сувязі з прыёмам у Гітлера французскіх франтавікоў, парыжская газета «Эр нувэль» пісала:

> «Мы не выносім туманаў, мы патрабуем ясных і выразных пазіцый. Калі Гітлер сапраўды любіць Францыю так, як ён гэта расказвае, няхай ён дакажа гэтую любоў на справе, няхай узбраенні Германіі перастануць вісець пастаяннай пагрозай над нашай краінай, якая вымушана супроць яе бараніцца.
>
> Гітлер ушоў з трэскам з Жэневы, каб развязаць сабе рукі і мець магчымасць аднавіць, не гледзячы на ўсе дагавары, ранейшую ваяўнічую, ганарлівую і пагражаючую Германію. Дык няхай ён лепш устрымаецца зараз ад крывадушнага ізліяння».

Такі кансерватыўны рэакцыйны орган французскай буржуазіі як «Фігаро» піша з поваду прапаноў Гітлера:

> «Граючы ролю міралюбца, які хоча заключыць саюз з Францыяй і блюсці дагавор, Гітлер спадзяецца набыць прыхільнасць хістаючыхся, якіх адштурхвае ад яго палітыка тэрора і гвалту. Германія, перажываючая ўсё большыя труднасці, адчувае патрэбу ва ўмацаванні прэстыжа гітлераўскага ладу. Франка-германскае ўзгадненне было-б для гітлерызма нечуваным поспехам,

які паднявольны друк размаляваў-бы па-свойму. Абарачаючыся «тварам к Францыі», Германія спадзяецца, што дзякуючы франка-германскім прамым перагаворам, будуць аслаблены дыпламатычныя пазіцыі Францыі».

Кансерватыўны парыжскі «Журналь» пісаў у сувязі з гэтым:

«Калі-б агідлівасць к вайне магла папярэдзіць яе паўтарэнне, салідарнасць усіх быўшых франтавікоў даўно пертварыла-б усе прылады вайны ў пыл. На самой-жа справе народ, якому ніхто не пагражае, жадае ва што-б там ні стала ўзброіцца да зубоў—вось дзе за знешняй лаяльнасцю слоў праступае груба-палітычны манеўр».

Парыжская газета «Энтрансіжан» мяркуе:

«Германія можа даказаць сваю добрую волю толькі тым, што зойме месца за сталом Лігі нацый. Францыя не можа згаварыцца з Германіяй ні супроць Еўропы, ні нават па-за Еўропай».

А вядомы французскі журналіст Перцінакс у «Эко де Пары»—газеце, блізкай да французскага генеральнага штаба,— пісаў:

«Сапраўдная мэта заяў Гітлера—унесці разлад сярод суседзяў Германіі, дабіцца прыватных перагавораў з кожным з іх паасобку і тым самым папярэдзіць аб'яднанне міралюбівых народаў,—адзіную камбінацыю, здольную стрымаць Германію».

Цвярозая ацэнка кіруючымі французскімі коламі манеўраў Гітлера атрымала сваё выражэнне ў пратаколе, якім абмяняліся 5 снежня ў Жэневе народны камісар па замежных справах тав. Літвінаў і французскі міністр замежных спраў Лаваль. У гэтым пратаколе прадстаўнікі абодвух дзяржаў згадзіліся ўзаемна абавязацца ад імя сваіх урадаў прытрымлівацца наступнай пазіцыі:

«І. У сваіх зносінах з урадамі, запрошанымі ўдзельнічаць у пакце і асабліва з тымі з іх, якія да гэтага часу не выразілі сваёй прынцыповай згоды далучыцца да пакта, абодва ўрады абавязаліся не згаджацца на перагаворы, якія мелі-б мэтай заключэнне імі шматбаковых альбо двухбаковых узгадненняў, якія могуць нанесці страту падрыхтоўцы і заключэнню Ўсходняга пакта, або ўзгадненняў, з імі звязаных, або заключэння ўзгадненняў, супярэчлівых духу, якім кіруюцца абодва ўрады.

2. У гэтых мэтах кожны з двух урадаў будзе інфармавацца другім аб ўсякай прапанове, здольнай мець падобнае значэнне, якім-бы шляхам падобная прапанова зроблена ні была».

Совецка-французскі пратакол рассейвае туман, які фашысцкая Германія спрабавала напусціць неафіцыяльнымі перагаворамі сваіх спецыяльных пасланцоў—Рыббентропа і іншых, ездзіўшых у Парыж нашчупваць глебу для заключэння асобнага двухбаковага франка-германскага ўзгаднення. Гэты пратакол паказвае лішні раз, што Францыя зусім не жадае даць сябе ашукаць. Французы добра разумеюць рызыку, якую прадстаўляюць для іх перагаворы з Германіяй па-за сувяззю з іншымі дзяржавамі, зацікаўленымі ў захаванні міру.

Совецка-французскае збліжэнне, заснаванае на зацікаўленасці абодвух дзяржаў у захаванні міру і на аб'яднанні вакол барацьбы за мір усіх краін, ставячых сабе тую-ж самую мэту, знашло ў пратаколе сваё далейшае развіццё.

* * *

Здавалася-б, што ідэя Ўсходняга пакта павінна была іменна ў Польшчы сустрэць самае гарачае спачуванне.

Хіба Польшча можа быць спакойна за свае заходнія граніцы? Хіба пытанне аб звароце Германіі Данцыга і Верхняй Сілезіі не з'яўлялася галоўным пунктам знешне-палітычнай агітацыі германскіх фашыстаў у перыяд іх барацьбы за ўладу? Хіба не застаецца гэта патрабаванне важнейшым пунктам цяперашняй праграмы германскага нацыянал-соцыялізма?

Кіруючыя ў Польшчы колы адказваюць на гэтыя пытанні надта ўпэўнена.

У студзені 1934 г. Польшча падпісала з Германіяй узгадненне аб адмаўленні ад ваенных метадаў пры вырашэнні спрэчак, раздзяляючых абедзве дзяржавы; тэрмін дзеяння гэтага ўзгаднення—10 год. Польскія ўрадавыя сферы разлічваюць, што гэтым узгадненнем яны абезапасілі сябе на 10 год ад нападу Германіі. Невядома, чым кампенсавалі палякі фашысцкую Германію за гэта ўзгадненне (у друку з'яўляліся весткі аб розных сакрэтных дадатках да гэтага ўзгаднення), у кожным разе, са студзеня 1934 г. Польшча выступае ўсюды адзіным фронтам з Германіяй.

Да гэтага часу Польшча не дала сваёй згоды на ўдзел ва Ўсходнім пакце. Следам за Германіяй і Польшча вышуквае розныя матывы, якія перашкаджаюць ёй далучыцца да пакта. Матывы гэтыя наступныя: Польшча не хоча гарантаваць літоўскую граніцу, пакуль не будзе ўрэгулявана Віленскае пытанне, г. зн., пакуль літоўцы не прызнаюць законным захват Вільні, учынены генералам Жэлігоўскім у 1921 годзе. Польшча не хоча таксама гарантаваць граніц Чэхаславакіі. У апошнія месяцы з польскага боку ўсё настойлівей выступаюць прэтэнзіі к перагляду сучасных граніц Чэхаславакіі і к адтаржэнню ад яе на карысць Польшчы часткі тэрыторыі, якая дала магчымасць палякам мець агульную граніцу з Венгрыяй. І нарэшце, Польшча апасаецца, што дагавор, які яна заключыла з Германіяй, можа ўступіць у супярэчнасць з Усходнім пактам.

Па ўсіх гэтых пярэчаннях Польшчы ўжо дана поўнае задаваленне. Літва, паводле звестак літоўскага друку, згодна ўнесці ў праект Усходняга пакта агаворку, вызваляючую палякаў ад гарантый імі літоўскіх граніц. Такую-ж агаворку ў адносінах сваіх граніц гатова ўнесці ў пакт і Чэхаславакія. Літва і Чэхаславакія, паводле французскіх звестак, гатовы заявіць, што яны могуць абыйсціся без гарантый сваіх граніц з боку Польшчы.

Якая-ж супярэчнасць можа быць паміж польска-германскім узгадненнем і праектам Усходняга пакта? Калі польска-германскі дагавор трактуе толькі аб міры і ненападзе, дык ён-жа цалкам і поўнасцю перакрываецца праектам Усходняга пакта. І ўсё-ж Польшча ўпорствуе.

Вышукваючы новыя і новыя довады супроць Усходняга пакта, Польшча ў той-жа самы час усё больш рашуча выступае з падтрыманнем авантурыстычных рэвізіяністкіх планаў, накіраваных на перакройку паміж дзяржавамі граніц, устаноўленых існуючымі дагаварамі. Польшча падтрымлівала ў снежаньскай сэсіі Лігі нацый Венгрыю, выкрытую ў садзейнасці бандзе фашысцкіх тэрарыстаў, забіўшых у Марселі юга-слаўскага караля і французскага міністра замежных спраў Барту.

«Зігзагавая» палітыка Польшчы багата такімі нечаканасцямі, якія прыцягваюць да яе зараз усеагульную ўвагу. У Варшаве гэтую палітыку лічаць «незалежнай»: Польшча, моў, не хоча залежаць ні ад каго, хоча быць вольнай і ў адносінах з Францыяй, і ў адносінах з Германіяй, і ў адносінах з СССР. Таму, гавораць у Варшаве, Польшча і лічыць за лепшае весці незалежную палітыку ў адносінах кожнай з гэтых трох дзяржаў.

Цяжка толькі зразумець, чаму Польшча процістаўляе гэтай незалежнай палітыцы польскай дзяржавы ўдзел свой ва Ўсходнім пакце. Ні СССР, ні Францыя не маюць тэрытарыяльных спрэчак з Польскай рэспублікай, ні СССР, ні Францыя не пагражаюць недатыкальнасці польскай тэрыторыі.

Ці ёсць у Польшчы такая-ж упэўненасць у адносінах Германіі? Ці можа яна быць упэўненай у тым, што германскі фашызм адмовіцца ад ажыццяўлення асноўнага патрабавання сваёй знешне-палітычнай праграмы, калі толькі ўнутраная і міжнародная абстаноўка пакажацца яму для гэтага спрыяльнай? Адарваная ад Францыі, без падтрымання СССР, ці зможа Польшча процістаяць фашысцкай Германіі, якая ўзбройваецца з такою ліхаманкавай паспешнасцю? І наадварот, ці не атрымала-б Польшча найлепшую гарантыю сваіх граніц ва Ўсходнім пакце, які павінен аб'яднаць і Францыю, і СССР, і Германію, і Польшчу ў агульнай барацьбе за мір супроць усякага яго парушальніка?

Польшчы трэба добра задумацца над гэтымі пытаннямі, выбраць з кім ісці: або з СССР і Францыяй, якія арганізуюць народы Еўропы ў барацьбе за мір, або з тымі, хто хоча ўзарваць еўрапейскі мір і абрушыць на яго новую імперыялістычную вайну.

* * *

Перспектывы Ўсходняга пакта ў пэўнай меры залежаць таксама ад адносін да гэтага пакта іншых дзяржаў Еўропы, якія непасрэднага ўдзелу ў самім дагаворы не прымаюць. Вядома, што малыя дзяржавы Еўропы, зацікаўленыя ў захаванні міру, адносяцца к заключэнню пакта вельмі спачувальна. Румынія ў яснай форме выказала ўжо сваё адабрэнне праекту пакта. Дзяржавы Балканскага паўвострава таксама прызнаюць велізарнае значэнне пакта Ўсходняй Еўропы, як магутнага фактара захавання міру. Турцыя, Грэцыя і Югаславія, ужо заключыўшыя паміж сабою дагавор (Балканскі пакт) аб сумеснай барацьбе супроць ваеннай небяспекі, павінны падтрымаць прапанову аб заключэнні Ўсходняга пакта, якая ўмацоўвае мірнае ўзгадненне і аб'яднанне гэтых трох дзяржаў.

У Еўропе няма ніводнай дзяржавы, інтарэсы якой не былі-б закрануты Ўсходнім пактам. Італія і Англія ўжо раз заявілі праз сваіх прадстаўнікоў у Берліне і ў Варшаве, што яны падтрымліваюць прапанову аб падпісанні дагавора Ўсходняй Еўропы, як адпавядаючага інтарэсам барацьбы за мір. Такія адносіны фашысцкага ўрада ў Італіі і кансерватыўнага ўрада ў Англіі к пакту падказаны інтарэсамі гэтых дзяржаў.

Знешняя палітыка Італіі ў апошнія месяцы даволі крута змяніла свой кірунак. Італія выступала да апошніх месяцаў з падтрыманнем германскіх патрабаванняў перагляду мірных дагавароў. Разам з Германіяй Італія разлічвала дабівацца перадзелу калоній і перагляду граніц у сваіх інтарэсах. Але, калі драпежны твар герман-

скага нацыянал-соцыялізма паказаў свае клыкі таксама і італьянцам, Мусаліні змяніў фронт. Дамаганні Германіі, накіраваныя на захват Аўстрыі, забойства ў канцы ліпеня 1934 г. у Вене канцлера Дольфуса і спроба правесці далучэнне Аўстрыі да Германіі шляхам інсцэніроўкі ў Вене нацыянал-соцыялістычнага пераваропу, прымусілі задумацца і фашысцкую Італію. Апошняя больш за ўсё апасаецца, каб захват Аўстрыі нацыянал-соцыялістамі не паставіў-бы на яе паўночных граніцах ваяўнічую «Трэцюю імперыю» з яе цягай на Балканы і на блізкі Ўсход. Італія імкнецца зараз папярэдзіць гэту небяспеку шляхам узгаднення з Францыяй, і перад тварам агульна-ваеннай небяспекі, пагражаючай усёй Еўропе, а таксама і Апенінскаму поўвостраву, не можа пярэчыць супроць прапановы аб заключэнні пакта Ўсходняй Еўропы, які можа стаць асновай для еўрапейскага міру.

Што датычыць англійскіх цвёрдалобых, то яны, зразумела, ахвотна адвялі-б ваенную небяспеку, пагражаючую Еўропе, у бок СССР. Англійскі імперыялізм, вядома, не пярэчыў-бы супроць таго, каб германскі фашызм задаволіў сваю прагнасць да захватаў за кошт СССР. Ён ахвотна даў-бы магчымасць Гітлеру ўзбройвацца, калі-б толькі меў упэўненасць у тым, што германскія ўзбраенні будуць накіраваны толькі супроць большэвікоў. Такой упэўненасці ў англійскага імперыялізма няма і не можа быць. Паветраныя сілы фашысцкай Германіі прадстаўляюць велізарнейшую небяспеку для Англіі, як і для іншых краін Еўропы. Не гледзячы на свае міралюбівыя запэўніванні, германскі фашызм пагражае таксама і цэласці Брытанскай імперыі. Як напярэдадні імперыялістычнай вайны 1914 г. германскі ваенна-морскі флот, які будаваўся з шалёнай хуткасцю, ставіў сабе асноўнай задачай сакрушэнне морскай магутнасці Брытанскай імперыі, так і цяпер ліхаманкава ствараемы фашыстамі паветраны ваенны флот можа падвергнуць агромнейшай небяспецы Лондан, Брystоль і іншыя жыццёвыя цэнтры Вялікабрытаніі. Таму англійскія цвёрдалобыя зацікаўлены ва ўзгадненні з Францыяй для процістаўлення адзінага фронта фашысцкай Германіі; а адсюль выцякаюць і стрыманыя спагадлівыя адносіны да Ўсходняга пакта англійскага ўрада, які нават рэкамендаваў Берліну і Варшаве прыняць у ім удзел.

* * *

Усходні пакт пазбаўлен ўсякага астрыя, накіраванага супроць якой-небудзь дзяржавы. Усе мяркуемыя ўдзельнікі гэтага пакта роўнапраўна і ў роўнай меры могуць разлічваць на агульнае падтрыманне ў справе аховы сваіх граніц супроць ваенных авантурыстаў і падпальшчыкаў. СССР зацікаўлен у гэтым пакце, выступаючы ў сучасны момант на чале народаў, якія вядуць барацьбу за захаванне міру.

Французскі ўрад з'яўляецца староннікам гэтага пакта, як спрыяючага захаванню мірных адносін у Еўропе. І СССР і Францыя ў той-жа час імкнуцца да найлепшых адносін з Германіяй. Наркам замежных спраў тав. Літвінаў, ацэньваючы значэнне гэтага пакта, сказаў:

«Усходні пакт зрабіў-бы магчымым стварэнне і далейшае развіццё самых лепшых адносін паміж СССР, Францыяй і Германіяй, роўна як і іншымі ўдзельнікамі пакта, і ўнёс-бы тое

заспакаенне ў міжнароднае становішча, якога прагнуць народы Еўропы і Паўночнай Амерыкі».

Супроць пакта могуць выступаць толькі тыя, хто носіцца з планамі падрыхтоўкі новых войн і інтэрвенцыі.

Зразумела, чаму так рашуча выступае супроць Усходняга пакта японскі буржуазны друк, які бачыць у праекце Ўсходняга пакта пагрозу японскім інтарэсам. Японскі імперыялізм бачыць небяспеку для сваіх імперыялістычных планаў у кожным мерапрыемстве, накіраваным на захаванне і абарону міру.

Бліжэйшыя месяцы пакажуць ці ўдасца праціўнікам міру, падпальшчыкам вайны расстроіць план заключэння пакта. У кожным разе СССР павінен быць на варце. Клопат аб абароне соцыялістычнай радзімы, умацаванне магутнасці Чырвонай арміі застаецца задачай, якая вярнейшым чынам гарантуе рабочым і калгасным масам совецкіх рэспублік мірнае соцыялістычнае будаўніцтва.

---

# Кніжная паліца

**Ленін, В. І. Выбраныя творы.** У 2-х томах. Том І. Выд. Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б). Пераклад з рускай мовы на беларускую. Пад агульнай рэдакцыяй Д. Ю. Коніка і М. А. Леўкова. Менск, Партвыдавецтва 1934 г. С. 643. Ц. 4 руб. 50 кап.

У 1934 г. Інстытутам Маркса—Энгельса—Леніна быў выдан двухтомнік выбраных твораў Леніна. Зараз у перакладзе на беларускую мову вышаў першы том гэтага выдання. Матар'ял абодвух тамоў распаложан у храналагічным парадку і ахапляе ўсе найбольш істотныя і значныя работы Леніна.

Першы том ахапляе перыяд дзейнасці Леніна да Лютаўскай рэволюцыі. Акрамя раду артыкулаў, дакладаў, прамоў, рэзалюцый, афіцыяльных партыйных і савецкіх дакументаў, у І томе двухтомніка ўключаны наступныя буйныя работы Леніна: «Задачы рускіх соцыял-дэмакратаў», «Што рабіць?», «Дзве тактыкі», «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма».

«Што рабіць?» (1902 г.) з'яўляецца важнейшай работай Леніна, якая разгортвае арганізацыйныя прынцыпы пабудовы пролетарскай большэвіцкай партыі і яе задач і ў тэй-жа час падвяргае знішчальнай крытыцы эканамізм—апартуністычнае крыло ў рускай соцыял-дэмакратыі, якое з'яўляецца папярэднікам меншавізма.

Брашура «Дзве тактыкі» (1905 г.), ізлагаючы задачы пролетарыята ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1905 г., паказвае глыбокую розніцу паміж большэвізмам, які праводзіў палітыку рэволюцыйнага пролетарыята, і меншавізмам, які імкнуўся падначаліць інтарэсы рабочага класа запатрабаванням буржуазіі.

«Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма» (1906 г.), характарызуе асаблівасці імперыялізма, як апошняга этапа ў развіцці капіталістычнага грамадства, як пярэдадня соцыялістычнай рэволюцыі.

У І томе ў якасці ўводзін змешчаны чатыры работы тав. Сталіна, якія характарызуюць ролю і значэнне Леніна і ленінізма: «Па поваду смерці Леніна», «Ленін, як арганізатар і правадыр РКП», «Аб Леніне» і «З гутаркі з першай амерыканскай рабочай дэлегацыяй».

**Ленін, В. І. Збор твораў.** Т. IX. (1917). Пад рэд. П. Горына, В. Жаброўскага, А. Чарнушэвіча, П. Саевіча, Я. Раманчука, Л. Якаўлева. Менск, Партвыдавецтва 1933. С. 835, тыр. 15000 экз.

У даным томе сабраны галоўныя артыкулы і работы Леніна, напісаныя з моманту Лютаўскай рэволюцыі да Окцябрскай уключна. У гэтых матар'ялах з усёй яснасцю вызначан шлях развіцця рэволюцыі ў Расіі, шлях барацьбы рабочых і працоўных сялян за соцыялістычную рэволюцыю, за дыктатуру пролетарыята.

Тут змешчаны гістарычныя «Пісьмы здалёку», дзе ізложан канкрэтны разгорнуты план барацьбы партыі за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную». «Аб задачах пролетарыята ў нашай рэволюцыі»; «Аб двоеўладстве»; «Пісьмы аб тактыцы»; «Пагражаючая катастрофа і як з ёю змагацца»; «Ці ўтрымаюць большэвікі дзяржаўную ўладу»; «Да перагляду партыйнай праграмы»; «Парады староннягa»; «Дзяржава і рэволюцыя» ды іншыя актуальныя работы Леніна, якія з'яўляюцца ўзорам большэвіцкай тэорыі, тактыкі і кіраўніцтва масамі, падрыхтоўкі іх да ўзброенага паўстання, захвату ўлады і ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята.

Напісанае 1-га лістапада 1917 г. «Пісьмо Цэнтральнаму Камітэту РСДРП(б)» выкрывае апартунізм і штрэйкбрэхерства Зіноўева і Каменева, якія выдалі буржуазіі рашэнне ЦК аб паўстанні. Ленін называе Зіноўева і Каменева здраднікамі рэволюцыі, здраднікамі рабочага класа і патрабуе ў гэтым пісьме неадкладнага выключэння іх з партыі. Гэта штрэйкбрэхерская пазіцыя Каменева і Зіноўева была не выпадкова. На іншых этапах нашай рэволюцыі яны скатваліся ўсё далей і далей к меншавізму, трацкізму, усталі на антысовецкі, белагвардзейскі шлях барацьбы з партыяй, з'яўляючыся натхняльнікамі, настаўнікамі і кіраўнікамі белабандыцкай тэрарыстычнай арганізацыі, забіўшай тав. **Кірава.**

**Ленін, В. І. Аб кааперацыі.** Перакл. з руск. Пад агульнай рэд. Д. Коніка. Менск, ДВБ 1934 г. С. 104. Ц. 1 р. 10 к.

У зборніку сабраны найбольш важныя артыкулы, урыўкі з іх і прамовы Леніна аб кааперацыі. Тут чытач знойдзе асноўныя выказванні Леніна аб самых розных відах кааперацыі—спажывецкай, сельскагаспадарчай, крэдытнай, вытворчай—у розныя перыяды: ва ўмовах царскай Расіі, заходне-еўрапейскага капіталізма, ваеннага комунізма і новай эканамічнай палітыкі.

Зборнік падзелен на два буйныя раздзелы: «Кааперацыя пры капіталізме» і «Кааперацыя пры совецкай уладзе—сталбавая дарога к соцыялізму». Першы раздзел у сваю чаргу падзелен на два падраздзелы: «Барацьба з утапічным поглядам народнікаў на кааперацыю, як на шлях мірнага ўрастання ў соцыялізм» і «Барацьба за пролетарскую лінію ў пытанні аб кааператывах на Міжнародным соцыялістычным кангрэсе ў Капенгагене». Раздзел 2-гі мае падраздзелы: «Кааперацыя ў першыя месяцы пасля Окцябрскай рэволюцыі», «Кааперацыя ў перыяд ваеннага комунізма», і «Кааперацыя пры новай эканамічнай палітыцы».

Зборнік мае прадмову Н. Мешчаракова і спіс рэкамендацыйнай літаратуры аб кааперацыі.

**Сталін, І. Окцябрская рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў.** Менск. Партвыдавецтва, 1934 г. С. 27. Ц. 20 к.

«Окцябрская рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў»—прадмова тав. Сталіна да кнігі «На шляхах к Окцябру»—увашла ў класічную работу тав. Сталіна «Пытанні ленінізма»—гэты жалезны фонд марксізма-ленінізма, і з'яўляецца адным з асноўнейшых дакументаў барацьбы партыі пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна з контррэволюцыйным трацкізмам.

Тав. Сталін завастрае ўвагу на двух асноўных асаблівасцях Окцябрскай рэволюцыі: «Гэта, па-першае, той факт, што дыктатура

пролетарыята нарадзілася ў нас, як улада, узнікшая на аснове саюза пролетарыята і працоўных мас сялянства пры кіраўніцтве апошнімі з боку пролетарыята. Гэта, па-другое, той факт, што дыктатура пролетарыята ўсталявалася ў нас, як вынік перамогі соцыялізма ў адной краіне, капіталістычна мала развітай, пры захаванні капіталізма ў іншых краінах, капіталістычна больш развітых».

Артыкул да канца ўскрывае меншавіцкі характар тэорыі «перманентнай» рэволюцыі Троцкага і адмаўлення ім магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Крок за крокам разглядаючы пазіцыі і дзейнасць Троцкага, пачынаючы з 1905 г., тав. Сталін раскрывае здрадніцкую ролю Троцкага ў рэволюцыі. Далей тав. Сталін аналізуе асаблівасці тактыкі большэвікоў у перыяд падрыхтоўкі Окцябра і ролю Окцябрскай рэволюцыі, як пачатку і прадпасылкі сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Гэты класічны дакумент барацьбы партыі з контррэволюцыйным трацкізмам гучыць асабліва актуальна зараз, калі паследышы і падонкі антысовецкай, зіноўеўска-трацкісцкай групы пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле Зіноўева і Каменева—саратнікаў Троцкага—перашлі к фашысцкім метадам барацьбы супроць партыі і совецкай улады, к беламу тэрору, афяраю якога паў тав. Кіраў.

**Кароткая гісторыя ВКП(б).** Пад рэдакцыяй В. Кнорына. Перакл. з 2-га рускага выдання. Менск, Партвыдавецтва. 1934 г. С. 416. Ц. 2 руб. 75 кап.

Кніга састаўлена брыгадай гісторыкаў партыйнага інстытута чырвонай прафесуры ў складзе тт. Б. Панамарова, Н. Войцінскага, Ф. Андзерсона, Б. Кравіцкага, А. Кучкіна, А. Уразава. Яна з'яўляецца першым вопытам стварэння кароткага, папулярнага падручніка, які ў той-жа час стаіць на дастаткова высокім тэарэтычным узроўні. У адпаведнасці з гэтай задачай аўтары сканцэнтравалі галоўную ўвагу на асноўных вузлавых пытаннях гісторыі партыі, свядома апускаючы рад момантаў, або бегла закранаючы іх.

Кніга ахватвае гісторыю большэвіцкай партыі ад яе зараджэння да XVII з'езда. Увесь матар'ял падзяляецца на 16 глаў: 1. Рэволюцыйны рух у Расіі да ўзнікнення ВКП(б); 2. Гістарычная падрыхтоўка і зараджэнне большэвізма; 3. Перыяд «Іскры» і афармленне большэвізма; 4. Большэвізм у гады першай рэволюцыі (1905—7 гг.); 5. Партыя пасля снежаньскага паўстання; 6. Партыя большэвікоў у гады рэакцыі; 7. Партыя ў перыяд новага рэволюцыйнага ўздыму; 8. Партыя ў гады імперыялістычнай вайны; 9. Партыя ў барацьбе за Окцябр; 10. Партыя ў першы перыяд дыктатуры пролетарыята (Окцябр 1917 г.—чэрвень 1918 г.); 11. Партыя ў перыяд грамадзянскай вайны і ваеннага комунізма; 12. Партыя пры пераходзе к нэпу і ў аднаўленчы перыяд; 13. Партыя пры пераходзе к рэканструкцыйнаму перыяду; 14-15. Рэканструкцыйны перыяд; 16. Партыя ў барацьбе за другую пяцігодку.

Змешчан кароткі ўказальнік асноўных дат гісторыі партыі. У канцы кожнай главы ўказана адпаведная літаратура. У другое выданне ўнесены змены і дапаўненні. У тэксце 141 ілюстрацыя (партрэты, фотоздымкі, рэпрадукцыі з малюнкаў выдатных мастакоў, карты, дыяграмы). Кніга разлічана на членаў і кандыдатаў партыі і беспартыйны актыў, маючых веды ў аб'ёме пачатковай школы палітграматы.

**Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР імя Леніна.**

# Аб рабоце органаў Наркамата аховы здароўя БССР па народнай ахове здароўя ў БССР

## Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

Бюро ЦК лічыць, што, не гледзячы на некаторыя станоўчыя за апошні год паказчыкі ў галіне аховы здароўя—значнае павелічэнне размераў капіталаўкладанняў, расшырэнне сеці медпунктаў, будаўніцтва новых амбулаторый і больніц (Бабруйск, Магілеў, Жлобін, Віцебск), расшырэнне санітарнай сеці (10 санітарных станцый і 15 дэзпунктаў), павелічэнне ахопу дзяцей яслямі да 166 тысяч, павелічэнне колькасці здраўпунктаў у гарадах у параўнанні з 1933 г. на 10 проц., у МТС і соўгасах—на 47 проц. і т. д.,—работа органаў аховы здароўя на сёнешні дзень яшчэ рэзка адстае ад вырасшых патрабаванняў і тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і ні ў якой меры не адпавядае тым задачам, якія пастаўлены перад органамі Наркамата аховы здароўя партыяй і ўрадам, выходзячы з чаго бюро ЦК прызнае работу органаў аховы здароўя ў БССР нездавальняючай.

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што такое становішча з'явілася рэзультатам адсутнасці палітычнай завостранасці і рэволюцыйна-класавай пільнасці (справа аферыста Айзеншарфа) у медыка-санітарным абслугоўванні рабочых і калгаснікаў і адсутнасці сістэматычнай барацьбы па выкарчоўванню астаткаў меўшага месца ў мінулым шкодніцтва ў сістэме Наркамата аховы здароўя.

Партыйная арганізацыя і профсаюзныя органы сістэмы аховы здароўя праявілі поўную бяздзейнасць і палітычную блізарукасць у барацьбе за большэвіцкую перабудову работы органаў народнай аховы здароўя і за ажыццяўленне масавай работы (адсутнасць шэфства, соцнамеснікаў і т. д.).

ЦК таксама адзначае, што партыйнае і совецкае кіраўніцтва раду раёнаў яўна недаацэньваюць значэння справы аховы здароўя, не аказваюць неабходнай дапамогі і садзейнасці райздравам і не правяраюць работы органаў аховы здароўя.

Не гледзячы на наяўнасць усіх магчымасцей у 1934 г., органамі аховы здароўя да гэтага часу не прыняты меры да выдання папулярнай літаратуры па пытаннях аховы здароўя, барацьбы з эпідэмічнымі захворваннямі, укаранення санмінімума ў быт працоўных і т. д.

Праведзеная ЦК КП(б)Б праверка становішча работы па ахове здароўя (Гомель, Бабруйск, Сіроціна, Расоны, Дрыса, Лельчыцы і інш.) паказала, што кіраўніцтва Наркамата аховы здароўя

яшчэ не перабудавала работы органаў аховы здароўя на выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Усё гэта прывяло да сур'ёзных прарываў і недапушчальнага адставання аднаго з важнейшых участкаў соцыялістычнага будаўніцтва, аб чым своечасова і правільна сігналізавала газета «Правда».

У мэтах рашучага палепшання абслугоўвання рабочых і калгаснікаў, **Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Народнаму камісарыяту аховы здароўя рэарганізаваць структуру свайго апарата і работу яго паасобных звенняў у напрамку поўнага забяспечання адзінаначалля, жывога аперацыйнага кіраўніцтва і ўкаранення адказнасці кожнага звяна, а таксама кожнага ў паасобку работніка за даручаную яму справу, рашуча ўмацаваўшы свой апарат падрыхтаванымі і энергічнымі работнікамі.

2. Аддзелу культуры і прапаганды ленінізма ЦК сумесна з Наркаматам аховы здароўя (тав. Сурта) і саюзам медсанпрацы (тав. Сакалінскі) у дэкадны тэрмін пераглядзець склад гаррайздраўаддзелаў і прадставіць на зацверджанне бюро ЦК.

3. Прапанаваць ЦСПСБ, ЦП саюза медсанпрацы і Наркамату аховы здароўя распрацаваць і правесці ў жыццё канкрэтныя мерапрыемствы па ажыўленню масавай работы па сістэме Наркамата аховы здароўя, у прыватнасці распрацаваць мерапрыемствы па ўмацаванню сувязі органаў аховы здароўя з рабочымі калектывамі (шэфства прадпрыемстваў над медыцынскімі ўстановамі, соцнамеснікі, шэфства лекавых устаноў горада над вёскай, грамадска-санітарныя інспектары і т. д.).

4. Прапанаваць Народнаму камісарыяту фінансаў, цэнтральнаму праўленню саюза медсанпрацы і Народнаму камісарыяту аховы здароўя распрацаваць і да 1 лютага ўнесці на разгляд Соўнаркома канкрэтныя мерапрыемствы па палепшанню матар'яльна-бытавых умоў участковых медыцынскіх работнікаў.

5. За зусім нездавальняючае кіраўніцтва санітарнай і санітарна-эпідэмічнай справай зняць з работы намесніка народнага камісара аховы здароўя т. Олікера і прапанаваць Наркамату аховы здароўя (персанальна т. т. Сурта і Нейштату) звярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненне гэтай галіны работы.

6. За слабое кіраўніцтва работай па падбору кадраў і лекавай справай зняць з работы ў цэнтральным апараце Наркамата аховы здароўя тав. Нямірскага.

7. Абавязаць сакратароў гарадскіх і раённых камітэтаў партыі ўзмацніць кіраўніцтва органамі народнай аховы здароўя, заслухоўваць сістэматычна даклады іх кіраўнікоў на пасяджэннях партыйных камітэтаў, правяраць асабіста становішча лекавых устаноў, пастаноўку лекавай справы і т. д.

У прыватнасці бюро ЦК абавязвае асабіста сакратароў гаркомаў і райкомаў КП(б)Б прыняць усе меры да палепшання матар'яльна-бытавых умоў маладых урачоў, цяпер скончыўшых Менскі мед-інстытут і накіроўваемых на работу ў вёску, аказваючы ім максімальную дапамогу ў іх штодзеннай рабоце.

8. Улічваючы, што галоўнае цяпер «у людзях, аўладаўшых тэхнікай» (гутарка тав. Сталіна з металургамі), бюро ЦК КП(б)Б па-

нярэджвае Наркамат аховы здароўя, сакратароў гаррайкомаў КП(б)Б і старшынь горсоветаў і райвыканкомаў аб неабходнасці рашучага выкаранення дапускаўшыхся паасобнымі работнікамі фактаў грубых і нячулых адносін да спецыялістаў і абавязвае іх забяспечыць нармальныя ўмовы работы сумленным совецкім спецыялістам аховы здароўя, акружыўшы іх увагай і клопатамі.

ЦК папярэджвае ўсіх членаў партыі, працуючых у сістэме аховы здароўя, аб агромнай адказнасці, якая ляжыць на кожным з іх за справу рашучай перабудовы, як самой работы органаў аховы здароўя, так і партыйна-масавай работы ў органах аховы здароўя з тым, каб узмацніць партыйную пільнасць і зрабіць рашучы пералом у справе карэннага палепшання медыцынскага абслугоўвання шырокіх рабочых і калгасных мас.

---

# Аб падрыхтоўцы насення к веснавой пасеўнай кампаніі

### Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б

ЦК ВКП(б) сваёй тэлеграмай ад 30 снежня ўказаў на зусім нездавальняючы стан работы ў БССР па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы добраякаснага насення.

Гэта ўказанне ЦК ВКП(б) пацвярджаецца наяўнасцю ў цэлым радзе раёнаў сапраўды зусім недапушчальных адносін партсовецкіх арганізацый да справы засыпкі насення, яго ачысткі, хавання і абмену дрэннага па якасці на гатунковае і таварна-гатунковае. Так, раёны Мсціслаўскі, Лепельскі і іншыя па засыпцы насення зерневых культур маюць 65—70 проц., і яшчэ горш па ільну 38—40 проц. Раёны Талачынскі, Слуцкі і іншыя абмянялі к плану міжкалгаснага 13—20 проц. насення, у раёнах Заслаўскім, Крупскім, Бялыніцкім, Клічаўскім і іншых да гэтага часу не арганізаваны кантрольна-насенныя лабараторыі ў радзе калгасаў Плешчаніцкага і інш. раёнаў, насенне заражана кляшчом, дрэнна захоўваецца. У радзе месц адкрытая работа кулацкіх недабіткаў, накіраваная на зрыў забяспечання насеннем веснавой сяўбы, псаванне насення і т. д., не сустракае большэвіцкага адпору.

Усё гэта сведчыць аб тым, што партсовецкія арганізацыі раду раёнаў усё яшчэ не зразумелі, што насенне—яго неабходная колькасць і высокая якасць—з'яўляецца рашаючай умовай паспяховага правядзення сяўбы вясны 1935 года і большэвіцкага высокага ўраджаю, і не змаглі ўзяць у свае рукі кіраўніцтва і кантроль гэтым адказнейшым участкам падрыхтоўкі да вясны.

**СНК і ЦК КП(б)Б пастанаўляюць:**

1. Зацвердзіць пасланую ў развіццё тэлеграмы ЦК ВКП(б) і СНК СССР усім сакратарам РК КП(б)Б і старшыням РВК запіску па прамому проваду аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы насення да веснавой сяўбы.

2. Абавязаць РК, нач. палітаддзелаў і РВК пад персанальную адказнасць сакратароў РК і старшынь РВК і нач. палітаддзелаў закончыць поўнасцю засыпку насення к 10 студзеня г. г., адначасова правёўшы праверку фактычнай колькасці засыпанага насення. Устанавіць ў райза і МТС жывое аперацыйнае кіраўніцтва і штодзённую інфармацыю аб ходзе засыпкі, абмену і праверкі насення.

3. Абавязаць сакратароў РК КП(б)Б і старшынь РВК узяць пад свой непасрэдны нагляд работу па правядзенню абмену гатунковага насення паміж калгасамі, а таксама з рэсурсаў дзяржсортфонда, прыцягваючы да найстражэйшай адказнасці вінаватых у размеркаванні

гатунковага зярна па працаднях і скарыстанні на харчовыя фуражныя мэты.

Забараніць засыпку ў насенфонды насення ніжэй 90 проц. усхожасці.

4. Абавязаць Заготзярно закончыць перакідку прызначанага к абмену насення не пазней 15 студзеня. Устанавіць у апараце штодзенную інфармацыю аб ходзе перакідкі.

5. Улічыўшы недахопы і памылкі ў рабоце па абмену насення ў мінулым годзе, неадкладна разгарнуць абменныя аперацыі ў калгасах і соўгасах на таварна-гатунковае насенне са складаў і пунктаў Заготзярно.

Адказнасць за арганізацыю перакідкі насення з чыгуначных складаў і пунктаў Заготзярно ў калгасы і соўгасы ўскласці на НКЗ, соўгастрэсты, дырэктароў МТС і соўгасаў і заг. райза.

Абавязаць сакратароў РК, нач. палітаддзелаў МТС і соўгасаў устанавіць строгі кантроль за перакідкай насення ў калгасы і соўгасы

6. Устанавіць штодзенную інфармацыю з боку Заготзярно— тав. Нольдэ і Дзяржсортфонд—т. Мартэнсон, ЦК КП(б)Б аб ходзе абмену гатунковага і таварна-гатунковага зярна.

7. У рашаючыя раёны па абмену камандзіраваць на 10 дзён для ўстанаўлення сістэматычнага кантролю і дапамогі ў справе абменных аперацый членаў ЦК і інш. адказных работнікаў з рэспубліканскага актыва. Даручыць Сельгасаддзелу практычна аформіць пасылку гэтых таварышоў у раёны.

8. Даручыць Заготзярно тав. Нольдэ даць на месцы тэлеграфную інструкцыю па абмену насення, арганізаваўшы ў апараце штодзенную праверку і нагляд за ходам гэтай работы.

9. Абавязаць старшынь РВК і заг. райза праверыць, як выконваюцца на месцах указанні ЦК аб узяцці проб на якасць па кожнаму зернахавальніку, па кожнай партыі насення ў кожным калгасе і соўгасе

10. Абавязаць пракурора рэспублікі т. Кузьміна праверыць і прыцягнуць да адказнасці заг. райза і дырэктароў МТС тых раёнаў, дзе да гэтага часу не арганізаваны як належыць насенныя лабараторыі. Старшыням РВК у трохдзенны тэрмін забяспечыць лабараторыі памяшканнем і абсталяваннем.

Праверыць работу хат-лабараторый, аказваючы ўсямерную садзейнасць у разгортванні іх дзейнасці па праверцы якасці насення.

11. Абавязаць РВК і райза пад асабістую адказнасць старшынь РВК і заг. райза арганізаваць справу ачысткі насення і абеззаражвання яго ад шкоднікаў як у калгасах, так і сярод аднаасобных гаспадарак.

Для сартавання насення скарыстаць усе зернаачышчальныя машыны, сартоўкі, трыеры, якія ёсць у соўгасах, калгасах і розных арганізацыях, і устанавіць 2—3 зменную работу на іх. Устанавіць адказнасць дырэктароў МТС і старшынь калгасаў за поўнае скарыстанне і поўную нагрузку трыераў і сартовак. Неадкладна арганізаваць рамонт усіх няспраўных зернаачышчальных машын у раёне.

Абавязаць РВК устанавіць плату за карыстанне зернаачышчальнымі машынамі ў межах амартызацыі.

12. Пры праверцы засыпкі насенных фондаў асаблівую ўвагу звярнуць на ўмовы хавання насення, на прыстасаванасць памяшкан-

няў для хавання насення. Ні ў якім разе не дапускаць хавання разам з насеннымі фондамі фуражных і харчовых фондаў, а таксама розных староннія рэчаў. У выпадку хавання насення ў непрыстасаваных памяшканнях неадкладна прыстасаваць насенна-сховы, кіруючыся інструкцыяй НКЗБ па хаванню насенных фондаў.

13. Ва ўсіх складах калгасаў, соўгасаў, дзе будзе выяўлена заражэнне насення кляшчом, неадкладна праводзіць пералапачванне і правейванне насення і закончыць не пазней 10 студзеня.

14. Лічыць неабходным у перыяд з 15 па 25 студзеня правесці дэкаднік масавага міжкалгаснага агляду падрыхтоўкі насення да веснавой сяўбы. Даручыць НКЗ, Сельгасаддзелу ЦК распрацаваць парадак правядзення агляду і спусціць на месцы.

# Аб ходзе рамонту трактароў па соўгасах сістэмы Ўпаўнаркомсоўгасаў

### Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

ЦК лічыць зусім недапушчальным ход рамонту трактароў соўгасамі Наркомсоўгасаў. Тое, што на 10-XII усімі соўгасамі выканана толькі 27,2 проц. квартальнага плана, прычым паасобныя трэсты, як Магілеўскі свінагадоўчы, выканалі ўсяго 17,1 проц., Оршанскі—20 проц., а Віцебскі не прыступаў зусім да рамонту—ЦК расцэньвае, як простае няўменне з боку дырэктароў трэстаў арганізаваць справу рамонту, забяспечыўшы гэта неабходнымі грашовымі сродкамі, аперацыйна кіраваць рамонтам, устанавіўшы сур'ёзную адказнасць дырэктароў соўгасаў за зрыў заданняў партыі і ўрада па рамонту трактароў. Толькі гэтым можна тлумачыць, што дырэктары паасобных соўгасаў, як Лагаза, Вішнёўка Менскага трэста, або соўгаса «Чырвоны маяк», Жалезнякі Магілеўскага трэста і інш. не нясуць ніякай адказнасці за поўны зрыў рамонту трактароў у IV квартале.

**ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. За зрыў рамонту трактароў у IV квартале па соўгасах Віцебскага малпромтрэста т. **Юдзіну** абвясціць вымову і папярэдзіць т. т. Юдзіна, а таксама Стрыго, Вілейкіна і Сцепанава ў тым, што калі яны не забяспечаць у студзені месяцы выканання плана рамонту трактароў з пакрыццём прарыву IV квартала, яны будуць прыцягнуты да суровай партыйнай адказнасці.

2. За сабатаванне рашэння Бюро ЦК аб рамонце трактароў дырэктара соўгаса «Лагаза» Ярмаловіча з работы зняць і прасіць парткалегію КПК па БССР разгледзець справу аб яго партыйнасці.

3. Прапанаваць упаўнаркомсоўгасаў — т. **Жолудаву** высветліць прычыны зрыву рамонту трактароў у соўгасах: «Вішнёўка»—дырэктар т. Аўчыннікаў, «Рагінь»—дырэктар т. Папоўскі, «Палелюм»—дырэктар т. Селіванаў, «Негарэлае»—дырэктар т. Лук'янчык, «Лемніца»—дырэктар т. Анціпенка, «Крывое»—дырэктар т. Спаткай, «Чырвоны маяк»—дырэктар т. Казак, «Жалезнякі»—дырэктар т. Сарока і соўгас «Чырвоны бераг»—дырэктар т. Мажэйка і далажыць бюро на прадмет прыцягнення іх да адказнасці.

4. Абавязаць упаўнаркомсоўгасаў т. Жолудава неадкладна дабіцца перад НКСоўгасаў водпуску неабходнай колькасці бабіту і волава для планавага рамонту трактароў.

5. У сувязі з тым, што Оршанская МТМ не выконвае дагавораў з соўгасамі па праверцы і абточцы каленчатых валаў, а Гарадоцкая

Віцебская і Лепельская МТМ не прыступаюць да рамонту трактароў часткі соўгасаў Віцебскага малпромтрэста—абавязаць т. Бенека ў двухдзенны тэрмін высветліць сапраўднае становішча з рамонтам і даць указанні, забяспечваючыя своечасовую праверку і абточку каленчатых валаў на Оршанскай МТМ і рамонт трактароў соўгасаў на астатніх МТМ побач з некаторымі МТС ва ўстаноўлены тэрмін.

6. ЦК звяртае ўвагу начальнікаў палітаддзелаў і партарганізацый соўгасаў, што іх прамым абавязкам з'яўляецца ўсямернае ўзмацненне арганізацыйна-партыйнай работы па забяспечанню неадкладнага разгортвання рамонту трактароў і знішчэнне ўсіх прычын затрымкі з боку дырэкцыі соўгасаў пастаноўкі іх трактароў у рамонт і арганізацыі хуткага і якасна добрага рамонту.

---

Уп. Галоўлітбела № 3301
Тыраж 9195.
633.600 друк. зн. (11¾ арк.)
Здана ў набор 1/II—35 г.
Падпісана да друку 10/II—35 г.



Друкарня ім. Сталіна. Менск, Энгельса, 2. Зак. № 51.

## СПІС АРТЫКУЛАЎ
## ЧЛЕНАЎ І КАНДЫДАТАЎ ЦК ВКП(б), ЗМЕШЧАНЫХ
## У „БОЛЬШЭВІКУ БЕЛАРУСІ“ ЗА 1934 ГОД



## СПІС АРТЫКУЛАЎ
## ЧЛЕНАЎ І КАНДЫДАТАЎ ЦК КП(б)Б, ЗМЕШЧАНЫХ
## У „БОЛЬШЭВІКУ БЕЛАРУСІ“ ЗА 1934 г.

# СПІС АРТЫКУЛАЎ, ЗМЕШЧАНЫХ У „БОЛЬШЭВІКУ БЕЛАРУСІ“ ЗА 1934 ГОД

## XVII З'ЕЗД ВКП(б) І XV З'ЕЗД КП(б)Б



## ЛІПЕНЬСКІ І ЛІСТАПАДАЎСКІ ПЛЕНУМЫ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б



## ПЫТАННІ ОКЦЯБРСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ, ДЫКТАТУРЫ ПРОЛЕТАРЫЯТА І СОВЕТЫ

## ДЗЯРЖПРАМЫСЛОВАСЦЬ, ТРАНСПАРТ І АЎЛАДАННЕ НОВАИ ТЭХНІКАЙ

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## РЭЗАЛЮЦЫІ ПЛЕНУМАЎ І ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б

### ПАМЯЦІ СЕРГЕЯ МІРОНАВІЧА КІРАВА



### ПАМЯЦІ ВАЛЕР'ЯНА ВЛАДЗІМІРАВІЧА КУЙБЫШЭВА



### РОЗНАЕ




ЦАНА 50 кап.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „З...

Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, па...

часопіс

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ОРГАН ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў соўгасаў і транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад імі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раённых партыйных і савецкіх арганізацый, прадпрыемстваў, паасобных партарганізацый на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу соўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзеннай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва для кіраўнікоў партыйных, савецкіх, гаспадарчых і профсаюзных арганізацый, парткомаў і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ на 1935 год

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

| 24 НУМАРЫ У ГОД | На год Р. | На год К. | На 6 м-цаў Р. | На 6 м-цаў К. | На 1 м-ц Р. | На 1 м-ц К. | КОШТ АДНАГО НУМАРА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 60 | 4 | 80 | — | 80 | 40 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.